


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**9** (1043)

**ВЕРАСЕНЬ**

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2016

# ЗМЕСТ



Віктар ШНІП

# ЗА БЕЛАРУСЬ, ЯКАЯ СНІЛАСЯ КУПАЛУ

## СОНЦА ФРАНЦЫСКА СКАРЫНЫ
*(каля 1490 — каля 1551)*

з белых бялюткіх снягоў
як з пены тутэйшага мора
сонца ўзышло над Полацкам
і раптам чарнець пачало
як вугаль
як чорная кропка
у канцы сказа
як у канцы свету
свету дзе цябе не было
і ты нарадзіўся
і сонца зноў засвяцілася
як шлях у Заўтра
і стала светла
і ў Полацку
і ў Вялікім княстве
і маліліся людзі
і звінелі званы

---

***Шніп Віктар Анатольевіч*** *нарадзіўся 26 сакавіка 1960 года ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум (1979) і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1987). Працаваў у часопісе «Беларусь», у газеце «Наша слова». З 1995 па 2004 год быў намеснікам галоўнага рэдактара і галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Цяпер — галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар кніг паэзіі і прозы «Гронка святла» (1983), «Пошук радасці» (1987), «Шляхам ветру» (1990), «На рэштках Храма» (1994), «Выкраданне Еўропы» (1996), «Чырвоны ліхтар» (2000), «Воўчы вецер» (2001), «Інквізіцыя» (2002), «Выратаванне атрутай» (2003), «Беларускае мора» (2004), «Балада камянёў» (2006), «Страла кахання, любові крыж» (2008), «Проза і паэзія агню» (2010), «Пугачоўскі цырульнік» (2013), «Сабачыя гісторыі» (2013), «Тутэйшая туга» (2014), «Першы папяровы снег» (2014) і інш.*

*Лаўрэат прэміі імя Уладзіміра Маякоўскага (1987), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2007), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2008).*

паўтараючы тваё імя
Францыск Францыск Францыск
і ляцелі анёлы
і ляцелі пчолы
а ты глядзеў у неба
і бачыў роднае неба
у якім жыве Бог
які стварыў зямлю
і ўсё жывое на зямлі
па якой ты ідзеш з Полацка
несучы ў сэрцы сонца
якое было і будзе
і ў Вільні і ў Празе
і літары складуцца ў словы
і словы складуцца ў сказы
і будзе першая кніга
якую ты надрукуеш
і ты ідзеш па Еўропе
малады і прыгожы
як вой які абараняе
зямлю дзе магілы продкаў
дзе яму вераць дзе яго любяць
дзе яго заўсёды чакаюць
і ў кожным следзе тваім
застаецца святло жывое
якое не зарасце травой
і не засыплецца пылам
і ў цябе наперадзе Беларусь
пра якую ты не марыш
але якая абавязкова будзе
як свята пасля будняў
як дзень пасля ночы
як вясна пасля зімы
і сонца будзе тваё
і сёння і заўтра і заўсёды
як родная зямля пад нагамі
тых хто ідзе з дому
і тых хто вяртаецца
ведаючы тваё імя
як песню як малітву
як сонца

## БАЛАДА НІЛА ГІЛЕВІЧА
*(30.09.1931—29.03.2016)*

Ты з кватэры глядзіш праз вакно, нібы з неба,
Аб якое разбіўся матыль адзінокі,
Бо да сонца хацеў, што схавалі аблокі,
З якіх сыплецца дождж, як асенняе срэбра.
Не паспеў матылю даць жаданую волю
І цяпер ты ў журбе, як апошні ваяр.

Завяршаецца дзень, бы згасае пажар,
Што ў табе не згасаў і не згасне ніколі,
Як не знікне любоў у тых словах, якія
Ты сказаў, і пачулі іх зоры і край,
Дзе яшчэ цячэ Гайна, дзе кветкавы рай
І дзе людзі, як вершы твае трапяткія,
Самавіта жывуць і жыць будуць бясконца,
Бо дажджы і снягі праміуцца, і сонца
Зноў асвеціць зямлю, дзе бярозы шумяць,
Дзе крыніцы бруяцца і дзе сенажаць
Затапіла смуга, праз якую ідзеш
І Купалу з сабой, як прарока, вядзеш
У Краіну, якую стварў і любіў,
За якую сябе па крывінцы губіў,
Сэрцам верыў, што мы пройдзем выбраны шлях
Не на мокрых каленях, на моцных нагах,
Як ішлі нашы продкі, каб ішлі гэтак мы,
Не баяліся век ні сумы, ні турмы.
Ты глядзіш праз вакно, як праз вечнасць глядзіш,
З неба сыплецца дождж адзінокі, як крыж,
І ляціць матылёк, як святая душа,
За якую маліўся ты ў думках спярша,
А пасля ў сваіх вершах, што сталі табою
І навек застануцца тваёю душою,
Каб ішоў ты па роднай лагойскай зямлі
І ў слядах тваіх кветкі, як зоры, узышлі.
Ты глядзіш праз вакно, як праз роднае неба,
Аб якое разбіўся матыль адзінокі,
Бо да сонца хацеў, што схавалі аблокі,
З якіх сыплецца дождж, як вясенняе срэбра…

## БАЛАДА ГЕНАДЗЯ БУРАЎКІНА

*(28.08.1936—30.05.2014)*

Ізноў пачаўся дзень з малітвы за Айчыну,
Якая ёсць у нас, была і будзе вечна,
Дзе першы снег, нібыта маладая гліна,
А снег апошні, быццам попел недарэчны,
Што на траву зялёную з нябёс злятае
І ўміг знікае ў травах, дзе лятае тая
Пчала, якая, быццам кропка залатая,
З балады пра паэта, што не памірае,
Калі й памрэ, бо тут нам паміраць нянова
За Беларусь, якая снілася Купалу,
За вольнае, як Каліноўскі, наша Слова,
Што нашаю адвечнаю малітвай стала.
І ты паміж малітваю і калыханкай
Сябе распяў, каб Беларусь жыла, квітнела
І не была ніколі болей паланянкай,
Не раздзіралі груганы душу і цела
Людзей жывых зямной часінай нелюдзімай.

І каб больш роднае ўжо не ішло на злом,
Ты молішся прад Богам і яго святлом:
«Магутны Божа, захіні маю Радзіму
Мудрасцю,
Спакоем,
І цяплом…»

## БАЛАДА ВІКТАРА ТУРАВА
*(25.10.1936—31.10.1996)*

З экрана, нібыта з нябёсаў,
Сыходзіць балотны народ.
І нельга глядзець без слёзаў
На гэты біблейскі сыход.
І слёзы твае асвятляюць
Дарогу, якая вядзе
Туды, дзе ўжо не паміраюць,
Дзе ў вечнасці, нібы ў вадзе,
Жывуць і ўжо знаюць да скону,
Што гэта Еўропа — для нас.
І хай над крыжамі вароны
Лятаюць, як згублены час,
Дзе можна было ўжо адбыцца,
Даўно пра блуканні забыць,
Істужка, нібы бліскавіца,
Якую ўдалося злавіць,
Табе для Айчыны, народа,
А гэта вялікі народ,
Які ўчора выйшаў з балота,
Але не адрокся балот…

## У ЧАС ДРУГОГА ПАТОПУ

Паэты вечныя ідуць па свеце,
Іх за сабой самотны Сыс вядзе.
Яны ідуць праз ціш і вецер,
Ідуць, як па дарозе, па вадзе,
Што затапіла родныя прасторы
І змыла храмы, хаты і сады.
У іх вачах адлюстраваны зоры,
Нібыта рыфмы вершаў залатых.
Усе памерлі, а яны жывыя.
На іх, як бруднае рыззё, грахі.
За імі ноч, нібы ваўчыца, вые,
Не чуе толькі мёртвы і глухі.
Паэты вечныя шукаюць Бога,
Так, як шукалі пры жыцці віна,
Якое асвятляла ім дарогу
У свет, дзе ёсць Паэзія адна,

А больш нічога там няма й не будзе.
І ўжо, калі закончыцца бяда,
Зноў Богам створацца з Паэтаў людзі
І стане зноў Паэзіяй вада…

* * *

тралейбус не хоча лётаць
ён трымаецца за драты
а ты б паляцеў
але за цябе трымаюцца бацькі
хоць табе ўжо 20 гадоў
як 20 кропель валяр’янкі
каб не балела сэрца ў маці
якая не ведае
што ты кожную раніцу
у тралейбусе які трымаецца за драты
едзеш на завод «Крышталь»
дзе можна купацца ў віне і гарэлцы
дзе твае найлепшыя сябры
для якіх ты «вожык»
які вырасце і не будзе
пісаць оперу
а напіша «Чырвоны ліхтар»
і ў тваёй шклянцы віно
як чырвоная раніца
і ты вып’еш яе да дна
і забудзешся што ты
павінен хавацца ад савецкай улады
што хоча каб ты ваяваў у Афгане
і не трымаўся за жыццё чырвонае
як віно ў тваёй шклянцы
чырвонае як сцягі
чырвонае як снягі
і ляціць над горадам аўтобус
але гэта не твой аўтобус
бо ты ездзіш на тралейбусах
якія не хочуць лётаць

## ПАПЛАВЫ

сонца зрабілася белым
і над паплавамі плыве
быццам пятак ледзяны
што злеплены з туману
на поплаве дзе пасуцца коні
каля адзінокага дрэва
дзе будзе першы прыпынак восені
якая ўжо ідзе па поплаве
босая як мастачка Алена Кіш
каб гледзячы ў ручай

бачыць мора
з якога ўзыдзе сонца
і яно будзе чырвоным
як вялікі яблык
што ляжыць у траве
і яго ніхто не бачыць
акрамя цябе
бо ты паклаў яблык для Алены Кіш
ходзячы па восеньскіх паплавах

* * *

Марудная, як цень, вада марская
Сцякае з валасоў, нібы з пяску,
І ў беразе, дзе ты ляжыш, знікае,
І ў небе сонца, як на валаску,
Вісіць над морам, дзе бялее ветразь
І чорны човен стомлена плыве
Насустрач невядомасці і ветру
У кірунку тым, дзе Беларусь жыве…

* * *

У Вашым позірку вясна і неба
Жывуць, трымаючы ў сабе святло,
Што з золата анёльскага і срэбра
Саткана для таго, каб не было
Самоты ў свята, дзе ўладараць ружы —
Чырвоныя і белыя, як свет,
Дзе музыкі натхняючая сцюжа
У нашых душах пакідае след
І абуджае сэрцы для кахання,
З якога нарадзіліся і Вы,
Прыгожая, як роснае світанне
На дрогкіх промнях першае травы…

* * *

Жанчына голая, нібы папера.
Я вершы пацалункамі пішу.
Мне вочы выкалі, каб да Гамера
Я быў падобны, ды пакінь душу,
Што ветразем трапечацца на ветры,
Які мне сонца над зямлёй стушыў,
Дзе мне хапае, як паветра, веры
У тое, што нас Бог з табой стварыў,
Каб ты была бязгрэшнай, як папера,
Зноў на якой малітву напішу
І за цябе, й за беднага Гамера,
І за сваю наіўную душу…

*Да 100-годдзя беларускай міліцыі*

Мікалай ЧАРГІНЕЦ



# ВАМ — ЗАДАННЕ*

*Кніга першая*

## Старшы лейтэнант Купрэйчык

Зіма сорак чацвёртага года была суровай. Маразы, снежныя завеі ўскладнялі барацьбу, але Чырвоная Армія ўпэўнена гнала ворага на захад.

Купрэйчык рыхтаваў групу разведчыкаў да чарговага паходу ў варожы тыл, калі прынеслі пошту. Яму ўручылі два лісты. На адным ён адразу ж пазнаў роўны, акуратны почырк жонкі. Зірнуў на другі — почырк незнаёмы, а ўнізе зваротны адрас і прозвішча — Мухіна. «Дык гэта ж жонка Кузьмы Андрэевіча», — здагадаўся Аляксей, разгарнуў ліст і пачаў чытаць: «Дабрыдзень, Аляксей Васільевіч. Вы даруйце мне, што турбую. Але я ведаю, што вы вельмі сябравалі з маім мужам. У сваіх лістах ён мне часта расказваў пра вас. Прайшло ўжо нямала часу, як я атрымала паведамленне пра яго гібель, аднак паверыць у гэта не магу. У думках быццам бы ўсё ясна, але сэрца не прызнае гэтага. Мне часта здаецца, што адбылася нейкая памылка, і Кузьма жывы. Але ў той жа час я разумею, што, на жаль, гэта не памылка. Выбачце мне, але я вас прашу, напішыце, калі ласка, як загінуў мой муж».

Купрэйчыку стала горача. Ён расшпіліў верхні гузік гімнасцёркі і паспрабаваў прачытаць ліст жонкі. Але перад вачыма ўсплыў вобраз загінуўшага сябра, а памяць з няўмольнай жорсткасцю нагадала той дзень.

Праз некалькі хвілін пасля таго, як Кузьма Андрэевіч выйшаў з бліндажа, пачуліся аглушальныя ўзрывы варожых снарадаў.

Купрэйчык адразу ж падумаў пра капітана. Ён выскачыў з бліндажа і, не зважаючы на артналёт, кінуўся шукаць Мухіна. Кузьму Андрэевіча ён знайшоў метраў за трыццаць ад бліндажа. Ён ляжаў на сырой, рыхлай зямлі. Усё цела, галава былі зрашэчаны асколкамі.

Успаміны пра сябра былі гнятлівымі, і Купрэйчык на час забыўся пра Надзін ліст, які ён машынальна паклаў у кішэнь гімнасцёркі. Пастаянная трывога за жонку прымусіла дастаць ліст і пачаць чытаць. Разгарнуў і нецярпліва зірнуў на апошнія радкі. Убачыў словы «кахаю», «цалую», з палёгкай уздыхнуў. У Надзі пакуль усё ішло сваім парадкам, і, крыху супакоіўшыся, Купрэйчык пачаў рыхтавацца да паходу.

Сёння з ім пойдуць сямёра разведчыкаў. Сярод іх Сёмін, той самы, які быў асуджаны за тое, што ўзяў «мяшок аўса… ну і каня ў дадатак». Аляксей

---

* Часопісны варыянт. Заканчэнне. Пачатак у № 7—8 за 2016 г.

быў задаволены, што не памыліўся тады ў гэтым чалавеку. Рыгор аказаўся адважным, спрытным і вынослівым байцом.

Акрамя Сёміна, Купрэйчык адабраў Губчыка, Зайцава, Пакатава, Ражнога, Чобатава і Лугаўца. Усе вопытныя і надзейныя людзі.

Час яшчэ быў, і Аляксей узяўся пісаць лісты. Хутка адказаў Надзюшы, затым з цяжкім сэрцам узяўся за ліст жонцы Мухіна. Ліст атрымаўся вялікім. Аляксей напісаў пра сваё сяброўства з Кузьмой Андрэевічам і пра тое, як ён загінуў.

Аддаў лісты старшыне Ганчару, а сам, накінуўшы паўкажушак, выйшаў з бліндажа. На душы было трывожна. Успомніў бацькоў і блізкіх людзей. З газет і расповедаў палітработнікаў ведаў, што фашысты амаль цалкам разбурылі Мінск. Шмат яго жыхароў, хто не паспеў эвакуіравацца ці сысці ў партызаны, знаходзіліся ў канцлагерах ці былі забіты. У Мінску ў Аляксея былі сваякі — сям'я роднага дзядзькі Славіна Міхаіла Іванавіча, — пра якіх ён нічога не ведаў.

Задумаўшыся, Аляксей і не заўважыў, як хутка прайшоў час. Ён накіраваўся ў бліндаж. Група была гатовая. Старшы лейтэнант хутка надзеў белы маскіровачны халат, павесіў на шыю абкручаны бінтам аўтамат, праверыў, як прымацаваны пад курткай гранаты, запасны магазін да аўтамата, і ціха, звыкла сказаў:

— Пайшлі, браткі!

Неўзабаве яны ўжо былі ля пярэдняй траншэі, дзе іх чакалі двое апранутых у белыя маскхалаты сапёраў. Абодвух разведчыкі ведалі ў твар. Яны ўжо не першы раз суправаджалі іх у нейтральнай паласе. Прывіталіся. Купрэйчык весела спытаў:

— Не надакучыла вам з намі важдацца, па снезе поўзаць?

— А ў нас служба такая, — усміхнуўся пажылы сяржант.

Зайцаў, які стаяў бліжэй да сапёраў, працягнуў ім пачак папярос:

— Закурвайце, мужыкі.

Сяржант адразу ж узяў пачак, паспрабаваў разгледзець назву, але было цёмна. Тады ён дастаў дзве папяросы і, падзяліўшыся з таварышам, працягнуў пачак назад, спытаў:

— Трафейныя?

— Не, нашы. Але лічы, што трафейныя, мы іх з боем у інтэндантаў здабываем.

Зайцаў пачак цыгарэт у сапёра не ўзяў, велікадушна сказаў:

— Дару.

— Не адмовімся, — адказаў сяржант. Гэта ў яго прагучала як падзяка.

Купрэйчык пачакаў, пакуль перастане мігацець апошняя папяроса, загадаў:

— Наперад.

Першымі, уціскаючыся ў снег, папаўзлі сапёры. За імі павольна адзін за адным рушылі разведчыкі.

Вось яны наблізіліся да драцяной агароджы. Сяржант лёг на спіну і асцярожна ўзяў ніжні дрот аберуч, дачакаўся, пакуль маладзейшы таварыш перакусіў яго нажніцамі, паціху развёў канцы па баках і ўчапіў іх за цэлы дрот. Затым сапёры тое ж самае прарабілі з другой ніткай, і праход быў гатовы.

Сяржант лёгка пацiснуў крыху вышэй локця руку Купрэйчыка, і сапёры адзін за адным папаўзлі назад.

Далей разведчыкам трэба было рухацца адным. Адлегласць невялікая — усяго метраў дваццаць — і варожая траншэя. Стрымліваючы дыханне, разведчыкі пачалі набліжацца да яе. Неўзабаве на фоне белага снегу замаячыла постаць вартавога, дакладней, толькі яго спіна. Вартавы, каб не змерзнуць і размяць ногі, хадзіў у траншэі, аддаляючыся ўлева ад разведчыкаў. Калі напя-

рэдадні днём Купрэйчык вывучаў абарону праціўніка, то ён адразу ж звярнуў увагу, што вартавы ад бліндажа ўвесь час сыходзіць налева. Таму старшы лейтэнант і вырашыў праскочыць праз траншэю побач з бліндажом у той момант, калі вартавы будзе аддаляцца ад яго.

І вось ляжаць разведчыкі за сем-восем метраў ад бруствера, насцярожана гледзячы на вартавога. А ён, як на ліха, спыніўся. «Вось жа няўклюда! — лаяў яго Купрэйчык. — Лянота табе прайсціся, топчашся, як мядзведзь, на месцы!» Раптам немец, высунуўшыся напалову з траншэі, пачаў напружана глядзець у іх бок. «Няўжо ўчуў?» — думаў старшы лейтэнант, а сам на ўсякі выпадак асцярожна зняў з рэменя гранату. Але вартавы заняў звычайнае становішча ў траншэі і праз хвіліну пайшоў ад бліндажа. Купрэйчык махнуў рукой: «Наперад!» — і першым пачаў набліжацца да траншэі. Ля бруствера яшчэ раз уважліва паглядзеў у спіну вартавому — ці не павернецца. Не, той працягваў аддаляцца. Яму да павароту ў зваротны бок трэба зрабіць яшчэ крокаў дзесяць. «Паспеем», — вырашыў камандзір і, падняўшыся, пераскочыў траншэю. Прабегшы пяць-шэсць крокаў, разведчыкі заляглі. Зараз трэба паволі адпаўзаць ад траншэі. Яны разумелі, што цяпер, калі вецер дзьме ў бок немца, той можа пачуць нават лёгкі шум. Таму рухаліся вельмі асцярожна, напружана паглядаючы на вартавога, які ўжо набліжаўся да бліндажа. Для разведчыкаў было галоўным, каб ён не заўважыў на снезе іх слядоў. Але той дайшоў да бліндажа і павярнуў назад. Усе ўздыхнулі з палёгкай і па сігнале камандзіра рушылі далей.

Прайшла гадзіна, і яны апынуліся ў невялікім гайку. Тут можна было ісці не прыгінаючыся, даць целу трохі расслабіцца. Неўзабаве зрабілі кароткі прыпынак, падчас якога Купрэйчык вызначыў далейшы маршрут. Карыстаючыся тым, што завея ўзмацнілася, рухаліся далей даволі хутка. Ад ямкі да ямкі, ад кусціка да кусціка. Да світанку былі ўжо там, дзе трэба. Уладкаваліся і замаскіраваліся ў невялікім гаі. Перакусілі і залеглі адпачываць. Наперадзе быў хоць і кароткі, зімовы, але цэлы дзень, на працягу якога трэба было вывучыць становішча, а наступнай ноччу пачаць дзейнічаць.

Завея скончылася ранкам, і, калі канчаткова развіднела, разведчыкі ўбачылі, што штаб размясціўся даволі зручна. Яркае сонца асвятляла дыхтоўныя бліндажы, пратаптаныя і ўтрамбаваныя сярод снежных гурбаў сотнямі ног сцяжынкі.

Сярод афіцэраў, якія хадзілі ад бліндажа да бліндажа, панавала нейкая святочная прыўзнятасць. Начышчаныя, адпрасаваныя, самаўпэўненыя, яны адчувалі сябе за паўтара дзясятка кіламетраў ад лініі фронту ў поўнай бяспецы. У цэнтры знаходзіліся чатыры вялікія бліндажы, туды больш за ўсё і заходзілі афіцэры. Але пракрасціся ў любы з гэтых бліндажоў было немагчыма. Ля кожнага стаіць аўтаматчык, а вось дабрацца да тых, што паўколам ахоплівалі гэтыя чатыры бліндажы, здавалася лягчэй.

Купрэйчык, не адрываючыся ад бінокля, імкнуўся вызначыць, жыхары якога бліндажа, размешчанага на вонкавым абводзе, часцей за іншых наведваюць тыя, што ў цэнтры. «Чым больш ходзяць да начальства, — разважаў ён, — тым больш будуць ведаць».

Гадзіны праз тры старшы лейтэнант ужо вызначыў такі бліндаж. Ён размяшчаўся метраў за дзвесце ад групы, крыху лявей. Афіцэры з гэтага бліндажа ўжо па тры-чатыры разы заходзілі ў тыя, якія старанна ахоўваліся.

«Ну што ж, — вырашыў Купрэйчык, — зараз трэба вызначыць, як ахоўваецца штаб уначы».

Час ляцеў хутка. Дзень хіліўся да вечара. Нарэшце разведчыкам удалося разгадаць усю сістэму аховы штаба. Праўда, гэтаму спрыялі і самі немцы.

З набліжэннем вечара яны сталі расстаўляць парныя патрулі з вонкавага боку сваіх хованак, а каля галоўных бліндажоў колькасць вартавых павялічылася ў два разы. Купрэйчык засёк, праз які прамежак часу патрулі з'яўляюцца ля бліндажа, які ён прыкмеціў. Аказалася, што праз восем-дзевяць хвілін.

— У бліндаж пойдзем я, Лугавец і Сёмін. Ражноў і Губчык сочаць за патрулямі. Пакатаў прыкрывае ўваход у бліндаж злева, Чобатаў — справа. Ты, Зайцаў, застанешся ля дзвярэй. Агонь адкрываць толькі ў крайнім выпадку.

Вечар прайшоў хутка, штаб супакоіўся, і неўзабаве супакой і цішыня апусціліся на ўсе бліндажы. Толькі металічныя трубы густа дымелі, нібы цвелячы разведчыкаў цяплом і выгодай.

Вычакаўшы, пакуль патруль пройдзе міма патрэбнага ім бліндажа, разведчыкі накіраваліся наперад. Прама па цаліне прабіліся да сцяжынкі і пайшлі ёй да бліндажа. Купрэйчыка вярэдзіла адна і тая ж думка: «Толькі б дзверы не аказаліся на завале!»

Вось і бліндаж. Аляксей злёгку пацягнуў на сябе дзверы — незамкнёна! Ён азірнуўся на сваіх таварышаў — усе на месцах — і паціху адчыніў дзверы. За імі аказалася шчыльная суконная коўдра. У даволі прасторным памяшканні, асветленым вялікай газавай лямпай, за сталом сядзелі двое. Яны былі без кіцеляў, у зеленаватых кашулях. Купрэйчык зрабіў крок у бок ад дзвярэй, даючы магчымасць увайсці ў бліндаж Сёміну і Лугаўцу, і ўскінуў аўтамат:

— Хендэ хох!

Каманда атрымалася нягучнай і, самае галоўнае, не грознай. Аляксей хацеў паўтарыць, але, убачыўшы, што немцы з шырока расплюшчанымі ад нечаканасці і страху вачыма, паднялі рукі, загадаў Сёміну:

— Грыша, забяры пісталеты, яны на нарах ляжаць!

Сёмін, трымаючы аўтамат напагатове, узяў абодва парабелумы і спыніўся ззаду за немцамі. Купрэйчык кінуў позірк на Лугаўца:

— Жэня, загадай ім, каб леглі на падлогу і не ўздумалі шумець, а то будзе каюк.

Лугавец пераклаў, і немцы паспешна выканалі каманду. Аляксей хутка агледзеў памяшканне, запхнуў у рэчмяшок усе дакументы і дзве нейкія карты. Падумаў секунду і абшукаў кішэні кіцеляў, якія віселі на цвіках, убітых у тоўстае бярвенне сцяны. Знойдзеныя ў кішэнях дакументы таксама паклаў у рэчмяшок і сказаў Лугаўцу:

— Хай апрануцца, а то мароз моцны.

Перапужаныя да смерці афіцэры нацягнулі на сябе кіцелі, уцепленыя шынялі.

Купрэйчык загадаў Лугаўцу:

— Жэня, звяжы іх!

Лугавец дастаў з кішэні скрутак тонкай вяроўкі і хутка звязаў афіцэрам ззаду рукі, пры гэтым пакінуў па доўгім кавалку вяроўкі для «павадыроў».

— Кляпы! — пачулася ўслед новая каманда старшага лейтэнанта.

Вычакаўшы дзве хвіліны, Аляксей загадаў:

— Жэня, папярэдзь, каб не дрыгаліся, і выводзь таго, што таўсцейшы, а ты, Грыша, — худога.

Лугавец сказаў па-нямецку:

— Вы ўзяты ў палон, цяпер пойдзеце з намі. Папярэджваем: любая спроба ўцячы ці падняць шум для вас будуць раўназначныя смерці!

Немцы заківалі галовамі.

Старшы лейтэнант, пераканаўшыся, што яны добра звязаны і іх надзейна трымаюць «павадыры», загадаў патушыць ліхтары, а сам вызірнуў на вуліцу. Спытаў у Чобатава:

— Дзе патруль?

— Толькі што міма прайшоў, рушыў на новы круг.

Купрэйчык зазірнуў у бліндаж і, затуляючы ліхтар рукой, пасвяціў разведчыкам, якія знаходзіліся там, каб, выходзячы, не зачапіліся за што-небудзь.

Падштурхоўваючы палонных, разведчыкі кінуліся да гаю, дзе нядаўна знаходзіўся іх назіральны пункт. Там перавялі дыханне і пачалі хутка адыходзіць у бок пярэдняга краю. Поспех нібы акрыліў хлопцаў, і яны, не зважаючы на глыбокі снег, подбегам кіраваліся наперад. У гэту ноч завеі не было, што, вядома, абцяжарвала пераход праз лінію фронту, а тут яшчэ месяц, як на ліха, вылез з-за хмар і асвяціў усё вакол. А пярэдні край усё бліжэй і бліжэй. Ён выразна пазначаны асвятляльнымі ракетамі, якія ўзлятаюць угару.

Купрэйчык выгляду не паказваў, што моцна засмучаны сваёй учарашняй прамашкай. Ён забыўся заладзіць праход у драцяной агароджы. І цяпер пераходзіць лінію фронту ў тым жа месцы небяспечна. Немцы маглі днём заўважыць праход і зрабіць там засаду. Трэба ісці іншым шляхам.

Калі наблізіліся да варожай траншэі, Аляксей вызначыў па ўзлятаючых ракетах, дзе ёсць шырэйшы прамежак паміж асвятляльнікамі, і першым папоўз наперад, але ўспомніў, што палонным са звязанымі ззаду рукамі паўзці немагчыма, спыніўся і загадаў звязаць ім рукі наперадзе. Разведчыкі хутка выканалі загад, і група паўзком пачала набліжацца да варожай траншэі. Купрэйчык дакрануўся рукой да спіны Губчыка. Той апярэдзіў усіх і першым дасягнуў краю траншэі. Зазірнуў у чорную пашчу — пуста, толькі ў нос ударыў спецыфічны «фрыцаўскі» пах. Махнуў рукой, свабодна, маўляў, а сам не стаў чакаць, пакуль яны наблізяцца, перамахнуў праз траншэю, папоўз да драцяной загароды, дастаў з рэчмяшка нажніцы і пачаў рыхтаваць праход. Зрабіў яго шырэй, цяпер турбавацца, што немцы днём выявяць яго, не выпадала.

Скончыўшы работу, Губчык падрыхтаваў аўтамат да бою і размясціўся крыху лявей падрыхтаванага прахода. Калі немцы і выявяць групу, то ён зможа прыкрыць сяброў агнём. Але ўсё прайшло як нельга лепш. Разведчыкі пераскочылі траншэю, пераадолелі праход у драцяной загародзе і прайшлі ўсю нейтральную паласу без адзінага стрэлу.

У штабе палка не спалі. Васільеў, выслухаўшы рапарт Купрэйчыка, абняў і пацалаваў яго:

— Ну, дзякуй, Аляксей, табе і тваім арлам, дзякуй!

Затым падпалкоўнік праз перакладчыка сцісла перамовіўся з палоннымі і адразу ж патэлефанаваў камандзіру дывізіі. Не шкадуючы добрых слоў у адрас разведчыкаў, далажыў, што яны прыбылі. Скончыўшы гаворку, ён загадаў начальніку штаба даставіць палонных у штаб дывізіі і, радасна ўсміхаючыся, павярнуўся да Купрэйчыка:

— Камдзіў загадаў усіх удзельнікаў аперацыі прадставіць да ўзнагарод!

Але Купрэйчык ужо не чуў яго. Ён сядзеў на нарах і спаў, абапёршыся на драўляную стойку.

## Уладзімір Славін

Сёння Уладзіміру ўпершыню дазволілі выйсці хвілін на дзесяць са шпітальнай зямлянкі. Ён ап’янеў ад яскравага святла, яркага вясновага сонца і свежага паветра, падслепавата жмурыўся, усміхаўся.

Міма ішла Панчанкава. Яна несла вялікае люстэрка. Убачыла Славіна, падышла да яго.

— Што, сынок, сонцу цешышся?

— Так, цётка Дуся! Добра як! Думаў, што і не ўбачу яго. — Заўважыўшы ў руках Панчанкавай люстэрка, спытаў: — Куды гэты вы яго нясеце?

— Ды вось, байцы трафей захапілі ў нямецкай калоне. Для шпіталя перадалі.

— Цётка Дуся! Павярніце да мяне, дайце паглядзецца. Два гады не бачыў сябе.

Панчанкава павярнула люстэрка да Славіна. Той зірнуў і сваім вачам не паверыў: перад ім стаяў высокі, худы, як жэрдка, хлопец з доўгімі ўскалмачанымі валасамі, бледным і худым тварам. Ліхаманкава блішчалі чорныя вочы, адзежа боўталася. Доўга і маўкліва, ні то са страхам, ні то з цікавасцю разглядаў сябе Уладзімір. «Няўжо гэта я? Страшны які!»

Нібы здалёку, ён пачуў голас санітаркі:

— Як сябе адчуваеш, сынок?

— Дзякуй, цётка Дуся, добра. Куля ўва мне на памяць засталася.

Жанчына, асцярожна ідучы па раскіслым снезе, накіравалася да зямлянкі. Засунуўшы рукі ў кішэні шпітальнага паўкажушка, Славін глядзеў ёй услед: «Трэба ж так трымацца. Пра згубу Аляксея Іванавіча нават мне не сказала. Шкадавала, мабыць».

Прайшло яшчэ два тыдні. Да Уладзіміра паступова вярталіся сілы. З кожным днём ён адчуваў сябе ўсё лепш. Нарэшце наступіў дзень, калі яму было дазволена ўступіць у строй.

У канцы красавіка цёплым сонечным днём Славін з'явіўся ў атрадзе. Першым абняў яго Тамкоў.

— Выкарабкаўся ўсё ж. Малайчына! Далібог, малайчына! Сказаць папраўдзе, не дужа верыў, што акрыяеш. Ну, нічога. Жыць табе зараз, хлопец, да ста гадоў! А цяпер прымай аддзяленне. У ім, быццам для цябе, сабраліся маладыя хлопцы, камсамольцы. Работы хопіць пад завязку. Пазнаёмішся з аддзяленнем — і прыходзь у штабную зямлянку, атрымаеш заданне.

У аддзяленні Славін сустрэўся з маладымі партызанамі. Гэта былі хлопцы з новага папаўнення.

З гэтага моманту і пачалося для Уладзіміра цяжкае жыццё, поўнае пастаяннай небяспекі.

Немцы, адчайна супраціўляючыся, далей адкочваліся на захад. Аднак фюрар кідаў на Усходні фронт новыя войскі, тэхніку, боепрыпасы. Партызаны рабілі ўсё магчымае, каб зблытаць фашысцкія стратэгічныя і тактычныя планы, не даваць ворагу спакою ні днём ні ўначы.

Партызаны з аддзялення Славіна міціравалі далёкія ўчасткі чыгункі і шашу.

Неяк увечары Тамкоў паклікаў Уладзіміра ў сваю зямлянку:

— Паводле дадзеных разведкі, у гэтых краях у немцаў застаўся адзін рамонтна-аднаўленчы цягнік, абсталяваны магутным пад'ёмным кранам. Хачу даручыць твайму аддзяленню папаляваць на яго. Спачатку меркавалася падлавіць яго на мосце і падарваць. Але ж на падыходзе нашы, і вось-вось паступіць каманда: не даць фашыстам знішчыць гэты мост. Таму мы вырашылі сіламі двух аддзяленняў правесці наступную аперацыю: Крайнюк са сваімі хлопцамі падарве на адным з участкаў варожы эшалон, і немцы пашлюць туды кран. Ты са сваімі хлопцамі замініруеш дарогу вось тут, — Тамкоў паказаў чырвоную пазнаку на трафейнай нямецкай карце, — на гэтым крутым павароце. Дарога тут праходзіць па высокім насыпе, а па баках — балота. Калі ўдасца пусціць цягнік пад адхон, то дастаць кран з балота немцы не змогуць.

Славін прыкінуў на вока адлегласць ад базы да кропкі, якую паказаў на карце камандзір.

— Кіламетраў трыццаць набярэцца.

— Трыццаць пяць. Я ведаю, што ты туды яшчэ не хадзіў. Таму возьмеш з сабой Белавуса. Гэтыя месцы ён ведае выдатна.

— Белавуса? — перапытаў Уладзімір і недаверліва ўсміхнуўся. Яму ўжо не раз даводзілася слухаць расповеды пра гэтага чалавека, пра яго дзівакаваты характар. Раней Белавус ваяваў у іншым атрадзе, які патрапіў у блакаду, вымушаны быў падзяліцца і выходзіць з акружэння невялікімі групамі. Вось тады Белавус і сустрэўся з партызанамі Тамкова. Камандзір распытаў яго, даведаўся, хто ён такі, адкуль, пацікавіўся, што можа рабіць.

Белавус флегматычна адказаў:

— Магу цягнікі падрываць.

— Што яшчэ ўмееце?

— Магу цягнікі не падрываць, — таксама хмурна і даволі млява адказаў партызан…

Тамкоў усмешку і маўчанне Славіна вытлумачыў па-свойму:

— Што, сумняваешся? Гэта дарма. Мужык талковы. З любой сітуацыі выйсце знойдзе. Дарэчы, атрад, у якім ён быў да пераходу да нас, знаходзіўся ў тым раёне.

— Не, не пра гэта я падумаў, Андрэй Лявонцьевіч. Успомніў, як ён з вамі пазнаёміўся.

Тамкоў засмяяўся:

— Так, гэта сапраўды было. Яму і далі мянушку майстар дзвюх спраў. Ну, ідзі. Рыхтуйся…

Славін выйшаў ад камандзіра і хутка адшукаў Белавуса. Той сядзеў ля ўвахода ў зямлянку, чысціў вінтоўку. Уладзімір прымасціўся побач:

— Мяне толькі што Тамкоў выклікаў, загадаў правесці адну аперацыю. Накіроўвае ў тыя месцы, дзе ты раней партызаніў. Параіў і цябе ўзяць. Як ты на гэта глядзіш?

Той падняўся на ногі, ускінуў вінтоўку, прыцэліўся ў верхавіну хвоі.

Белавус быў высокі, магутны, светлавалосы хлопец, у плячах касы сажань. Славін заўважыў, што ён нават вінтоўку ўскідвае марудліва. «Няўклюда, ці будзе з яго толк?» — падумаў Уладзімір. А Белавус, прыхінуўшы да дрэва вінтоўку, выцер рыззём рукі і толькі пасля гэтага зірнуў на Славіна:

— А нам, салдатам-мужыкам, усё адно, што кулямёт, што самагонка… Абы з ног збівала.

Славін усміхнуўся:

— Дык пойдзеш?

— Я ж адказаў: нам, падрыўнікам, усё адно, дзе ўзрываць — далёка ці блізка, абы нямецкія эшалоны пад адхон ляцелі. Калі ідзём?

— Гадзіны праз дзве. Начаваць будзем ужо там.

— Буду рыхтавацца, — спакойна сказаў Белавус і, сабраўшы раскіданыя на траве маслёнку, шомпал, некалькі ануч, узяў вінтоўку і пайшоў у зямлянку…

Пасля гэтага Славін сустрэўся з Крайнюком. Той таксама рыхтаваўся да аперацыі. Некалькі хвілін таму ён інструктаваў сваіх байцоў. Цяпер усе збіраліся на заданне.

Славін і Крайнюк селі за стол, разгарнулі карту.

— Разумееш, — казаў Славін, — мне трэба падарваць толькі рамонтнааднаўленчы цягнік. А як яго апазнаць у цемры?

— Прагаласуеш, спыніш і спытаеш, — пажартаваў Антон.

— Сапраўды, выйсце, — усміхнуўся Славін і ўжо сур'ёзна працягваў: — Застаецца адно: падлавіць яго ў дзённы час. Таму давай дамовімся так: ты падрываеш першы цягнік, які пойдзе раніцай, досвіткам, а я замініpую палатно яшчэ ўначы і буду чакаць, калі днём з'явіцца рамонтнік. Немцы ў гэты час адчуваюць сябе больш смелымі і будуць цягнік гнаць да месца здарэння на вялікай хуткасці, а мы тут як тут — ірванём яго…

Да світання было яшчэ далёка, калі маленькі атрад прыбыў у прызначаны раён. Славін дазволіў людзям гадзінку адпачыць. Потым група рушыла да чыгункі. Паказаўся насып — высокі, стромкі, цяжкадаступны. Першым палез наверх Белавус. Ён асцярожна цягнуў скрыню з узрыўчаткай, за ім узбіраліся Славін і яшчэ два байцы, адзін з якіх цягнуў за сабой дрот.

Цяжка дыхаючы, падняліся на насып. Баец перадаў дрот Уладзіміру, а сам з аўтаматам хутка папоўз налева. Яго таварыш накіраваўся направа. Перад імі стаяла задача — ахоўваць мінёраў.

Белавус з дапамогай яшчэ аднаго байца, які таксама прыцягнуў скрыню з узрыўчаткай, не спяшаючыся, але з вялікім спрытам вырыў сапёрнай лапаткай яму пад рэйкай на правай каляіне, заклаў туды ўзрыўчатку, уставіў дэтанатар з прымацаваным да яго дротам. Затым яны прарабілі на левай каляіне тое самае, злучылі электрапровадам абодва зарады.

— Усё! Можна маскіраваць, — далажыў Белавус, і падрыўнікі пачалі старанна замятаць сляды мініравання сухім жвірам, галькай, выпацканай мазутам. Пасля гэтага Белавус двойчы тузануў за кабель. Гэта быў сігнал для сваіх, якія знаходзіліся на ўзлеску.

Калі яны спусціліся з пагорка і падышлі да сваіх, набліжаўся світанак. Славін загадаў двум байцам заставацца ў дазоры, а астатнім адпачываць:

— Днём давядзецца быць напагатове, а цяпер паспрабуйце як след выспацца.

Наламаўшы галінак і паслаўшы іх на зямлю, партызаны ўлегліся. Паспрабаваў трохі задрамаць і Славін, але яго разбудзіў шум цягніка. Ён прамчаўся з грукатам і ляскам. Уладзімір падумаў пра Крайнюка:

«Пэўна, «яго» састаў пайшоў».

Праз некалькі хвілін прагрукатаў другі цягнік, затым трэці, чацвёрты… Уладзімір паступова прывык да гэтага шуму, што закалыхвае, неўпрыкметку задрамаў…

Яго разбудзіў баец, які знаходзіўся ў дазоры:

— Камандзір! Пад'ём! Глядзі, дрызіна ідзе. Мабыць, нашы спрацавалі.

Славін выпірнуў з-за куста, убачыў на мотадрызіне немцаў, узброеных кулямётамі.

— Будзі ўсіх!

Партызаны хутка давялі да ладу свой няхітры рыштунак. Белавус як галоўны падрыўнік зняў кавалак брызенту з магнета, старанна праверыў кантакты. Байцы моўчкі разыходзіліся па сваіх месцах.

Удалечыні пабачылі дым. «Цягнік! Толькі які?» — усе з напружаннем глядзелі на паварот, адкуль павінен быў паказацца варожы састаў. А вось і ён. «Рамонтнік!» — выдыхнуў Славін і зірнуў на Белавуса.

Састаў набліжаўся. Наперадзе яго знаходзіліся дзве адкрытыя платформы з пяском. Звычайна з такімі платформамі цягнікі ідуць павольна. Але немцы спяшаліся як на пажар. Таму і гналі рамонтна-аднаўленчы цягнік на вялікай хуткасці.

Белавус неадрыўна сачыў за саставам, але твар яго заставаўся спакойным, нават нейкім сумным.

«Толькі б не празяваў!» — каторы раз падумаў Уладзімір, і ў гэты момант проста пад коламі паравоза грукнуў выбух. Увесь састаў з тэхнікай, магутным кранам паляцеў пад адхон.

— Усім адыходзіць! — гучна крыкнуў Славін і пабег у пушчу.

Беглі доўга, цяжка дыхаючы. Усе разумелі, што трэба хутчэй пераадолець шашу. Неўзабаве даведаліся непрыемную вестку: дарога занята, фашысцкія войскі ачапляюць лес. Славін запытальна зірнуў на Белавуса, той зразумеў:

— Давайце за мной!

Ён павярнуў направа і пабег паралельна шашы. Усе кінуліся за ім. Густыя калючыя хмызнякі драпалі твары і рукі.

Сонца паказвала ўжо на поўдзень, калі партызаны наблізіліся да шашы ў іншым месцы. Белавус спытаў дазволу схадзіць у разведку. Славін накіраваў з ім яшчэ аднаго байца. Астатнія паваліліся на зямлю, каб хоць крыху адпачыць. Людзі пакутавалі ад смагі, аблізвалі перасохлыя вусны, але ў пляшках вады не засталося.

Удалечыні, якраз у тым кірунку, адкуль толькі што прыйшлі падрыўнікі, пачулася стральба. Гэта немцы пачалі прачэсваць лес. Усе з трывогай прыслухоўваліся і паглядалі ў той бок, дзе схаваліся разведчыкі.

Нарэшце абодва партызаны вярнуліся. Белавус далажыў:

— Пасты іх ужо стаяць. Але праскочыць можна. У адным месцы шаша праходзіць па лагчыне. З двух процілеглых бакоў, на ўзвышшах, немцы паставілі па бронемашыне. З гэтых кропак уся праезджая частка добра праглядаецца.

— А чаму ў нізіне нічога няма? Можа, там засада? — спытаў Славін.

— Няма ніякай засады. Уся справа ў тым, што ў нізіне — і справа, і злева — да шашы падыходзіць балота. Думаю, што гэта і ёсць найлепшая магчымасць прарвацца. Шлях праз балота ведаю як свае пяць пальцаў. Упэўнены — уцячом, тым больш што на бронемашыне па балоце не пакаціш. — Белавус памаўчаў трохі, збіраючыся з думкамі. — Калі мы трапімся на вочы немцам пры кідку праз шашу, трэба будзе як мага хутчэй прайсці балота, інакш яны па прасёлкавай дарозе праскочаць да моста праз невялікую рэчку, яна недалёка адгэтуль, і там нас сустрэнуць.

— А калі да ночы пачакаць? — спытаў Славін.

— Нельга. Па-першае, у нізіне могуць перакрыць дарогу, а па-другое, уначы па балоце не пройдзеш. Імгненна ў багне апынешся.

— Ясна. — Славін рашуча падняўся з зямлі. — Тады пайшлі!

Партызаны спяшаліся далей.

## Камандзір батальёна капітан Мачалаў

Чырвоная Армія рыхтавалася да летняй кампаніі 1944 года, падчас якой планавалася цалкам вызваліць захопленую ворагам тэрыторыю краіны і пачаць вялікі вызваленчы паход па Еўропе.

Капітан Мачалаў нават у думках не дапускаў, што яго могуць адклікаць з фронту.

Пётр Пятровіч толькі што прыйшоў ад камандзіра палка, у якога да хрыпаты выпрошваў папаўненне для батальёна. І цяпер, седзячы разам з начальнікам штаба на палянцы, ламаў галаву, як лепей размеркаваць паміж ротамі беднае папаўненне.

— Таварыш капітан! — Мачалаў адразу ж пазнаў голас ардынарца і незадаволена абярнуўся. — Вас пытаюць.

— Хто?

— Маёр… — ардынарац далікатна і тактоўна вычакаў і, панізіўшы голас, дадаў: — Маёр медыцынскай службы.

«Няўжо Вольга Ільінічна?» — падумаў Мачалаў. У глыбіні душы ён быў упэўнены, што гэта яна. Так атрымалася, што ў апошні час палявы шпіталь, у якім служыла Васілеўская, нібы суправаджаў полк Мачалава, і яны даволі часта сустракаліся. Акрамя таго, Мачалаў добра ведаў свайго ардынарца. Калі б яго пытаў проста маёр медыцынскай службы, то ардынарац далажыў бы пра гэта іншым тонам. Мачалаў падняўся і накіраваўся да сваёй палаткі.

Пётр Пятровіч толькі прайшоў негусты хмызняк і адразу ўбачыў Васілеўскую. Апранутая ў добра падагнаную форму, хромавыя боты, халявы якіх шчыльна аблягалі лыткі ног, яна, заўважыўшы Пятра, усміхнулася і пайшла насустрач. Працягнуўшы руку, сказала:

— Вырашыла наведаць вас і развітацца.

— Як развітацца? — здзівіўся Мачалаў і збянтэжана замоўк. Яго і Васілеўскую аб'ядноўвала адна і тая ж бяда, горыч страты зблізіла іх, зрабіла сустрэчы неабходнасцю для кожнага. І вось Вольга Ільінічна кажа, што прыйшла развітацца! Яна сумна ўсміхнулася:

— Так, Пётр Пятровіч, я прыйшла развітацца. Наш шпіталь пераводзяць на іншы ўчастак фронту. Вайна ёсць вайна, — яна зноў сумна і быццам вінавата ўсміхнулася і працягнула Мачалаву лісток паперы. — Тут мой хатні, даваенны адрас, пасля вайны я вярнуся туды. Калі захочаце напісаць, то нумар маёй палявой пошты вы ведаеце. Ну, а цяпер бывайце, а можа, да сустрэчы, Пеця! Беражы вас Бог! — Яна павярнулася і пайшла, каб ён не ўбачыў яе вільготныя вочы.

А Мачалаў, прыгнечаны і разгублены, глядзеў ёй услед, нібы жадаючы пакінуць назаўжды ў сваёй памяці яе воблік, голас, сумныя вочы…

Неўзабаве Вольга Ільінічна знікла з поля зроку, і капітан, апусціўшы галаву, накіраваўся зноў да начальніка штаба. Ён разумеў, што чым далей час будзе аддаляць яго ад гэтага развітання, тым больш у душы будзе расці неабходнасць сустрэчы з Вольгай, якая стала яму не проста франтавым таварышам, але і сябрам…

Прайшло некалькі дзён, і батальён зноў атрымаў загад атакаваць праціўніка. Мачалаў быў ва ўладзе хуткага бою. Пабываў ва ўсіх узводах і ротах, гутарыў з байцамі і камандзірамі, ставіў задачу. Даўжэй, чым звычайна, затрымаўся ва ўзводзе, дзе служыў заўсёды вясёлы і бестурботны сяржант Кісліцкі, які атрымаў нечаканае «падмацаванне». Некалькі дзён таму да іх ва ўзвод прыбыў радавы Кікнадзе, гадоў сарака двух, грузін. Да гэтага ён ваяваў у іншым палку, быў паранены, і вось зноў на фронце. Кікнадзе, як і Кісліцкі, быў вясёлым і дасціпным апавядальнікам. Ён з задавальненнем слухаў забаўныя гісторыі і не ўпускаў магчымасці самому павесяліць сяброў. Сёння ў яго быў добры настрой. Дзіва што! Ён атрымаў ліст ад сына-разведчыка, якому прысвоілі званне Героя Савецкага Саюза. Гэта навіна імгненна абляцела ўсю роту. Байцы радаваліся разам з Кікнадзе. А ён усё расказваў і расказваў пра сына.

Са слоў камандзіра роты Мачалаў ужо ведаў навіну і вырашыў павіншаваць байца. Калі яны падышлі да спехам зробленага бліндажа, то па галасах, якія даносіліся з яго, зразумелі, што там шмат людзей. Увайшлі. Капітан ад душы павіншаваў чырвонаармейца і спытаў:

— А самому не хочацца Героя атрымаць?

— Як гэта не хочацца, таварыш капітан? Я цяпер толькі і думаць буду, які мне подзвіг здзейсніць. Мой Гіві і так часта рабіў не так, як я хацеў, а цяпер без зоркі Героя мне хоць дахаты не вяртайся.

— Няўжо ён у вас такі недысцыплінаваны быў?

— Вай, вай, не так недысцыплінаваны, як… як гэта… — Кікнадзе падбіраў патрэбнае слова, — ініцыятыўны. Вось вазьміце, напрыклад, як ён жаніўся. Гэта было ў чэрвені сорак першага. Памятаю, сяджу я дома адзін. На душы спакойна, нічога дрэннага нікому не зрабіў. І раптам дзверы адчыняюцца, і ў кватэру ўвальваецца цэлая кампанія людзей. Я падумаў — госці ідуць. Радасць у хату! Дарма думаў. Людзі-та ўсе паважаныя — дырэктар школы, настаўнікі, сакратар школьны. І ўсе на мяне наступаюць, крычаць, шумяць, і ўсё лозунгамі: «Гэта ж не трынаццатае стагоддзе, а дваццатае! Як гэта можна! Як ён мог?»

Я, вядома, таксама расхваляваўся ад гэтага крыку, таксама крычу: «Што — дваццатае стагоддзе? Сам ведаю, што дваццатае! Чаго крычыце? Растлумачце, што здарылася!» А яны мне, нібы я глухі, хорам тлумачаць: «Ваш сын дзесяцікласніцу выкраў!» А я хачу ўдакладніць у іх, які сын, іх у мяне чацвёра, і трое з іх тады ў школе вучыліся: адзін у пятым, а двое — двайняты — у чацвёртым. Навошта, думаю, ім дзесяцікласніцу красці. А дырэктар і настаўнікі, замінаючы адзін аднаму, на мяшанай руска-грузінскай мове тлумачаць: «Не, да гэтых вашых дзяцей, дзякуй богу, чарга не дайшла яшчэ. Дзесяцікласніцу выкраў ваш старэйшы сын — Гіві!» Я тут, вядома, супакоіўся і кажу ім: «Замоўкніце і не крычыце на гаспадара дому, у якога вы ў гасцях знаходзіцеся. Скажыце лепш мне, ці прыгожая гэтая дзесяцікласніца і як яе імя?»

З іх слоў зразумеў, што прыгожая. Тады я зноў сеў на сваю канапу і спакойна кажу: «Не разумею, чаго вы турбуецеся. Калі такі прыгажун, як мой Гіві, і выкраў прыгажуню, дык ведаеце, якая прыгожая сям’я будзе?»

Адразу замоўклі ўсе, вылупілі на мяне вочы, адкрытымі ратамі паветра хапаюць, нібы яго ў маёй вялікай і светлай хаце менш стала. Прамармыталі яны мне штосьці пра пракурора, павярнуліся і сышлі. А я сяджу і галаву ламаю, што рабіць і як гэтага падшыванца зладзіць, каб не даць яму занадта далёка з гэтай прыгажуняй зайсці. Раптам паштальён прыходзіць, тэлеграму ўручае. Гляджу, а мяне на пошту для міжгародняй тэлефоннай размовы запрашаюць. Сабраўся і пайшоў. Адзначыўся на пошце ў тэлефаністкі, сяджу, чакаю, калі мяне паклічуць. Чую, маё прозвішча называюць, але, што за цуд, яшчэ чыёсьці называюць і запрашаюць нас у адну і тую ж кабіну. Сутыкаюся ля ўваходу ў кабіну з мужчынам і жанчынай. Адно аднаму дарогу саступаем, раскланьваемся, а самі нават не падазраём, што мы сваякі ўжо. Высветлілася, што яны — бацькі гэтай дзесяцікласніцы. Гіві з нявестай у Кутаісі ўцяклі, а адтуль выклікалі бацькоў на перагаворы. Вось так і нас паміж сабой пазнаёмілі.

— Ну і чым справа скончылася? — спытаў Мачалаў.

— Вяселлем.

— Ды вы яго таму ініцыятыўным называеце?

— Вядома. Я яму ўпотай нявесту прыгледаў, а ён сам ініцыятыву праявіў і ў дзевятнаццаць гадоў ажаніўся, зусім яшчэ дзіцём быў.

— Пачакайце, пачакайце, — усміхнуўся Мачалаў, — мяркуючы па вашым узросце, вы таксама не вельмі з жаніцьбай цягнулі. Колькі вам было гадоў, калі жаніліся?

Кікнадзе хітра ўсміхнуўся:

— Дзевятнаццаць, але я такім дзіцём не быў. А ён зусім маленькі ў мяне быў. Але ўсё імкнуўся бацьку апярэдзіць. Вось і Героя раней за мяне атрымаў. Скажыце, таварыш капітан, хіба гэта справядліва?

— Вядома, не. Але вы не хвалюйцеся, будзем спадзявацца, што і вы ад свайго сына не адстанеце.

— Не гаруй, салдат, — умяшаўся ў гутарку Кісліцкі, — мы табе ўсім узводам дапамагаць будзем. Я цяпер кожны танк, падбіты мной, буду на твой рахунак запісваць.

— Э, не, дарагі, дзякуй, я чужых перамог прысвойваць не хачу. Ды ты мяне пакуль дрэнна ведаеш, я і сам яшчэ сёе-тое магу…

З добрым настроем пакінуў пазіцыі батальёна Мачалаў, накіроўваючыся ў свой штаб…

Пад вечар яго нечакана выклікаў да сябе камандзір палка. Пётр Пятровіч быў упэўнены, што гутарка пойдзе пра хуткі бой. У бліндажы, акрамя Грыдзіна, знаходзіўся незнаёмы Мачалаву капітан. Падпалкоўнік сухавата сказаў:

— Знаёмся, Пётр Пятровіч, капітан Жураўлёў. Сёння ж перадасі яму камандаванне батальёнам, а сам выязджай у Маскву. Цябе адклікаюць.

— Мяне? У Маскву? Навошта?

— Не ведаю, але, паколькі табе трэба з'явіцца ва Упраўленне кадраў Наркамата ўнутраных спраў, падазраю, што атрымаеш новае заданне. Часу мала. Ідзі, здавай справы і праз дзве гадзіны будзь у мяне. Я збяру камандзіраў батальёнаў, развітаемся з табой.

Голас у Грыдзіна быў сумным.

Мачалаў чакаў чаго заўгодна, але толькі не гэтага. Далей усё пайшло як у калейдаскопе: здача спраў новаму камандзіру, развітанне з баявымі сябрамі, душны вагон, Масква.

Ва Упраўленні кадраў Наркамата ўнутраных спраў яго адразу ж запрасілі ў нейкі кабінет. Гадоў пяцідзесяці пяці генерал са стомленым і азызлым тварам адразу ж перайшоў да справы:

— Вы адкліканы з фронту для таго, каб вылецець самалётам да партызан, падабраць там людзей і выбыць у адзін з гарадоў, размешчаных на захадзе Беларусі. Там вы ў чаканні падыходу нашых войск азнаёміцеся са становішчам і, калі тэрыторыя вобласці будзе вызвалена, прыступіце да кіраўніцтва аддзелам па барацьбе з бандытызмам. Мы ведаем, што гэта справа вам знаёма, бо вам ужо даводзілася змагацца з бандытамі. Гэта, а таксама вопыт работы ў міліцыі і, вядома, франтавы вопыт, вам спатрэбяцца.

Генерал устаў з-за стала і, паволі прахаджваючыся па кабінеце, працягваў:

— Мы ўпэўнены, што на вызваленай намі тэрыторыі, якая была пад панскай Польшчай, з ліку здраднікаў, крымінальнікаў, паліцаяў, а таксама з тых, хто не паспеў сысці з адыходзячымі гітлераўскімі войскамі, будуць стварацца банды. Яны стануць не толькі рабаваць і забіваць, запалохваць і тэрарызаваць мясцовае насельніцтва, але і прыносіць шкоду новай уладзе, нападаць на партыйных і савецкіх кіраўнікоў, актывістаў, таксама на асобныя вайсковыя аўтамашыны, армейцаў. — Генерал сеў насупраць Мачалава і ўсміхнуўся стомленымі, запалёнымі вачыма. — А басмачы на поўдні чымсьці іншым займаліся?

— Тым, вядома. Бандыты, таварыш генерал, яны ўсюды бандыты.

— Правільна. Разумеючы гэта, мы і адклікаем з фронту людзей, здольных хутка і рашуча скончыць з гэтымі падонкамі, ну а з фашыстамі і без вас на фронце скончаць.

— У партызанскі атрад я адзін палячу?

— Дамо вам яшчэ двух чалавек у дапамогу, а цяпер уладкоўвайцеся ў гасцініцу, нумар вам замоўлены. Заўтра з’явіцеся сюды, атрымаеце неабходныя дакументы, зброю, пройдзеце інструктаж, пазнаёміцеся са сваімі памагатымі і ў шлях…

Нягледзячы на моцную стомленасць, Пётр Пятровіч заснуць ніяк не мог. Думкі пра будучыню і нязвыклая цішыня трывожылі яго.

Раніцай ён накіраваўся ў Наркамат, затым напісаў лісты Купрэйчыку і Васілеўскай. А яшчэ праз суткі цяжкі самалёт узняўся ў неба. Упершыню ў жыцці Пётр ляцеў на самалёце. Натужліва і магутна гулі маторы. Іх роў свабодна пранікаў праз рабрыстыя барты, і размаўляць можна было толькі нахіліўшыся да вуха суразмоўцы. У салоне самалёта, акрамя Мачалава і яго двух новых таварышаў — старшага лейтэнанта Булацкага і лейтэнанта Швяцова, — нікога не было. Гэта быў транспартны самалёт з доўгімі лаўкамі ўздоўж бартоў.

Пасярэдзіне салона ўздоўж лавак ляжаў груз. Па форме скрынь і маркіроўцы на іх Пётр зразумеў, што ў іх зброя і боепрыпасы. Яго хвалявала хуткая сустрэча з партызанамі. Ці зможа ён падабраць патрэбных людзей і давесці іх па варожым тыле да вызначанага месца? З надзеяй паглядаў капітан на спакойны твар Булацкага. Ён кадравік і павінен быць вельмі карысным пры падборы людзей. Лейтэнант Швяцоў, гадоў дваццаці трох, з вялікімі блакітнымі вачамі, густымі чорнымі бровамі, вучыўся ў школе міліцыі, але пасля таго як пачалася вайна, апынуўся на фронце. Быў цяжка паранены. Пасля выздараўлення працаваў у Маскве оперупаўнаважаным крымінальнага вышуку.

Мачалаву замінаў парашут, прымацаваны за спінай. Ён доўга важдаўся, пакуль усеўся, і цяпер спрабаваў засяродзіцца. А тут яшчэ гэты чортаў парашут. Перад вылетам паказалі, як трэба ім карыстацца. Уласна, гэта і так ясна: калі паляціш уніз, то трэба тузануць за колца. Праўда, скакаць давядзецца толькі ў крайнім выпадку. Самалёт павінен прызямліцца на партызанскім аэрадроме, даставіць зброю і боепрыпасы, а назад забраць параненых.

Далёка ўнізе сталі відаць беленькія агеньчыкі ракет, а паміж імі запульсіравалі чырванаватыя кропкі. Яны ляцелі ўздоўж зямлі насустрач адзін аднаму. «Фронт», — здагадаўся Пётр Пятровіч і яшчэ шчыльней прыціснуўся да прахалоднага шкла. Хтосьці крануў яго за плячо. Азірнуўшыся, Мачалаў убачыў бортстралка. Ён нахіліўся яшчэ ніжэй і пракрычаў:

— Праходзім лінію фронту, нас могуць абстраляць. Праверце парашуты!

«Хто ў такую цемрадзь патрапіць у наш самалёт?» — падумаў Пётр, назіраючы, як стралок займае сваё месца ўверсе салона, там, дзе быў усталяваны на турэлі кулямёт. Праверыў, як прышпілены шлейкі парашута, і пракрычаў Швяцову і Булацкаму, каб яны зрабілі тое ж. Пасля гэтага ён зноў прытуліўся да ілюмінатара, але ўнізе і вакол ужо было цёмна. Фронт ззаду.

За гады вайны ён прывык бачыць ворага перад сабой ці нават вакол, але ад таго, што вораг пад ім, што цяпер, можа, сапраўды, як і меркаваў стралок, нямецкія зеніткі наводзяць на гук самалёта свае доўгія, нібы хобаты сланоў, ствалы, каб знішчыць іх, стала нядобра, захацелася перасесці бліжэй да дзвярэй. Але праходзілі адна за другой пакутлівыя хвіліны, а самалёт, па-ранейшаму магутна і роўна гудучы маторамі, ішоў сваім курсам. Неўпрыкметку для сябе Мачалаў задрамаў і нават убачыў нейкі сон. Потым насцярожаны слых улавіў ва ўжо звыклым шуме матораў нейкія новыя гукі — кароткія сухія воплескі. Пётр Пятровіч расплюшчыў вочы, у гэты момант самалёт моцна

Жанчына паспрабавала штосьці сказаць, але Славін імгненна закрыў ёй рот далонню:

— Ну што, не зразумела? Сказана — спакойна, значыць — маўчы!

Жанчына, твар якой у цемры нельга было разгледзець, адвяла далонь, пакорліва прагаварыла:

— Маўчу, панове, маўчу. Прашу, праходзьце!

Аператыўнікі не чакалі яе запрашэння. Яны ўварваліся ў памяшканне і, падсвечваючы кішэннымі ліхтарыкамі, хутка агледзелі пакоі. У доме апынулася іх сем: у трох спалі людзі. Аператыўнікі дзейнічалі напорыста і бясшумна. З двара ўвайшлі яшчэ чатыры супрацоўнікі, пачалі будзіць спячых. Мачалаў, Славін і Бартошык таксама заняліся праверкай, зазірнулі ў адзін з пакояў. На масіўным драўляным ложку, пакрытым пышнай пярынай, спалі мужчына і жанчына. На крэсле ляжала іх адзежа. Бартошык падняў гімнасцёрку, што валялася на падлозе, усе ўбачылі пагоны старшага лейтэнанта.

— Правер, можа, дакументы ёсць у кішэнях? — загадаў начальнік.

— Дакументаў няма.

— Будзі, — кіўнуў Славіну Пётр Пятровіч.

— Зараз, толькі пад падушкай памацаю.

Уладзімір паціху запусціў руку пад падушку спячага мужчыны. Пальцы адразу ж намацалі зброю. То быў «вальтар». Уладзімір крануў спячага за плячо:

— Старшы лейтэнант, а старшы лейтэнант, прачніся!

Той штосьці прамыкаў невыразнае, павярнуўся на другі бок. Коўдра спаўзла. У «старшага лейтэнанта» з нахабнай шчырасцю агалілася частка цела ніжэй паясніцы. Бартошык засмяяўся, укалоў сябра:

— Глядзі, Валодзя! Ён табе адным месцам падміргвае.

Славін мацней тыцнуў дзяржальняй «вальтара» ў спіну спячага мужчыны:

— Ну, ты! Уставай, не арганізоўвай прадстаўленняў!

Невядомы нарэшце прачнуўся, сеў і, жмурачыся ад святла ліхтарыкаў, абурыўся:

— Якая падла спаць не дае?

— Спакойна, грамадзянін харошы. Мы — супрацоўнікі НКУС! Прад'явіце дакументы!

У гэты момант у суседнім пакоі раздаўся стрэл. Аказваецца, там не здагадаліся перш, чым разбудзіць спячага, праверыць, ці ёсць у яго зброя, і ледзь не паплаціліся за гэта. Толькі дзякуючы імгненнай рэакцыі Крайнюка, які перахапіў руку са зброяй, куля прашыла столь. А то аператыўнікі маглі не далічыцца каго-небудзь у сваіх шэрагах.

У трэцім пакоі, на матрацах, пакладзеных прама на падлозе, спалі трое, апранутыя ў цывільную адзежу. Усе былі ўзброены абрэзамі. Супрацоўнікі сабралі затрыманых у адзін пакой, затым вывелі з дома, парассаджвалі па машынах і павезлі. У адзін з аўтамабіляў пагрузілі знойдзеныя прыператрусе зброю, боепрыпасы, розныя каштоўнасці.

Начальнік аддзела і Славін хацелі пагаварыць з гаспадыняй. Адчувалася, што яна ведае многае, але казаць праўду не хоча. Вырашылі даставіць яе ў аддзел і там працягнуць гаворку.

У доме засталася невялікая група аператыўнікаў на выпадак, калі з'явяцца іншыя злачынцы.

Наступіла раніца, але ніхто не думаў пра адпачынак. У аддзел прывезлі пацярпелых. Яны адразу ж сярод затрыманых апазналі тых, хто ўдзельнічаў у нападах. Зніклі толькі галоўныя бандыты — у форме маёра і старшыны.

Славін у душы быў рады, што дзякуючы яму так хутка ўдалося ўчапіцца за бандыцкую шайку. Ён і Мачалаў сядзелі ў кабінеце, калі туды ўвайшоў ззяючы Бартошык.

— Парадак! Поп апазнаў свае рэчы. Цяпер ім няма куды дзявацца, думаю, пачнуць расказваць.

— А я вось не думаю! — запярэчыў Славін. — Тут у іх колькі хочаш хадоў. Будуць валіць на «маёра» і «старшыну», і нічога пакуль не зробіш. — Уладзімір зірнуў на Мачалава. — Пётр Пятровіч, трэба па-сапраўднаму ўзяць у абарот гаспадыню. Яе даваенны лад жыцця гаворыць пра многае. Напэўна, яна добра ведае сваю кліентуру, тым больш стары прама сказаў, што «маёра» да вайны сустракаў у салоне пані Шыкульскай. Прапаную адпусціць яе і ўзяць пад назіранне.

Начальнік усміхнуўся:

— Памятаю, раней было распаўсюджана такое правіла: перш чым унесці прапанову, падумай, хто яе будзе выконваць. Дык вось — Шыкульскую даручаю табе.

Бартошык гарэзліва ўсміхнуўся, непрыкметна пхнуў сябра ў бок локцем:

— Ідзі, хлопец, выконвай…

Мачалаў не чуў гэтай рэплікі, аднак, калі заўважыў на твары Славіна ўсмешку, загадаў:

— А ты, Бартошык… акажаш яму дапамогу.

Начальнік сышоў. Аператыўнікі зірнулі адзін на аднаго і разрагаталіся, але ў дзвярах зноў з’явіўся Мачалаў:

— Жанчыну, якая пра кінуты «ЗіС» паведаміла, хто-небудзь дапытаў?

— Не, яшчэ не паспелі. Я з ёй толькі пагутарыў.

— Дай мне яе дадзеныя, я даручу дапытаць.

Славін пацягнуўся да лістка паперы з адрасам Васілеўскай, што ляжаў на стале і аддаў яго начальніку.

Мачалаў слізгануў поглядам па напісаным і хацеў штосьці сказаць, але раптам запнуўся: ён хутка разгарнуў ужо складзены ўдвая лісток, прабег яго вачыма, і твар яго стаў бледным, рукі задрыжалі. Прыдушаным голасам спытаў у Славіна:

— Валодзя, як яна выглядае?

Славін адказаў. Мачалаў, нічога не кажучы, павярнуўся і выскачыў з кабінета. Бартошык і Славін пачулі, як ён пабег па калідоры, і здзіўлена пераглянуліся.

А Мачалаў убег да сябе ў кабінет, схапіў паўкажушак, шапку і кінуўся да дзяжурнага:

— Машыну, хутка!

— Ля пад’езда «опель» стаіць, таварыш капітан, шафёр за рулём.

Пётр Пятровіч выскачыў з памяшкання, сеў побач з вадзіцелем і загадаў:

— Давай у шпіталь! Цісні на ўсе педалі!

Машына, набіраючы хуткасць, панеслася па заснежаных вуліцах. Шафёр быў рады, што з ім паехаў начальнік, і тут жа пачаў скардзіцца:

— Таварыш капітан, як жа так атрымліваецца, што ў нас гэту машыну забіраюць? Мы ж, лічыце, самі яе аднавілі, а цяпер начальства руку на яе накладвае. Вы б пагаварылі з начальнікам упраўлення, хай бы не рабавалі нас, для мяне яна — як родная, усё сваімі рукамі перабраў, адрамантаваў… А зараз аддай…

Але Пётр Пятровіч не чуў шафёра. У яго галаве неспакойным роем праносіліся думкі пра Васілеўскую.

«Няўжо гэта сапраўды яна? Не, не можа быць. Прынамсі, мне яшчэ так ні разу ў жыцці не шанцавала. Але прозвішча, імя, імя па бацьку? Усё супадае, і нават тое, што хірург, маёр, не, усё ж гэтым разам мне, напэўна, усміхнулася шчасце!»

— Ну што ты так цягнешся? Можаш хутчэй? — нецярпліва кінуў ён шафёру.

— Магу, таварыш капітан, але занесці можа, — збянтэжыўся шафёр і мацней націснуў на акселератар. Машына павялічыла хуткасць.

У шпіталі Мачалаў пабег да прыёмнага аддзялення, але адразу ж за дзвярамі на яго шляху ўстаў дзяжурны з тых, хто выздараўлівае:

— Сюды, таварыш, нельга, тут параненых прымаюць.

— Мне трэба, — спыніўся Мачалаў. — Скажыце, а вы выпадкова хірурга Васілеўскую не ведаеце?

— Вольгу Ільінічну? Вядома, ведаю. Яна толькі што ў двор выйшла. Пайшла, напэўна, у іншы будынак. Як выйдзеце адгэтуль — налева.

Мачалаў, не слухаючы далей дзяжурнага, кінуўся да выхаду. Павярнуў налева, зрабіў некалькі крокаў і ўбачыў яе. Вольга Ільінічна, гледзячы сабе пад ногі і думаючы пра штосьці сваё, ішла насустрач. У Пятра перахапіла дыханне, у горле затрымаліся словы. Ён рвануў гузікі на паўкажушку і ціха паклікаў:

— Оля!

Яна падняла на яго вочы, і яны застылі ў радасным здзіўленні.

— Вы? — яна працягнула да яго рукі і здушаным голасам ускрыкнула: — Пеця!

Мачалаў кінуўся да яе, і яны, не бачачы нікога вакол, моўчкі абняліся.

Паліто, якое было накінута на плечы Васілеўскай, звалілася на снег. Параненыя, медсёстры і санітаркі, праходзячы міма, асцярожна абыходзілі іх і ціха перагаворваліся: «Пашанцавала Вользе Ільінічне, муж знайшоўся!»

## Уладзімір Міхайлавіч Славін

Шыкульская паводзіла сябе нахабна. Калі Славін загаварыў, яна груба перапыніла яго, са злосцю сказала:

— Можа, пан скажа, колькі будуць трымаць мяне пад арыштам?

— А вы не прымушайце нас звяртацца да такой меры, як арышт. У адваротным выпадку вас давядзецца трымаць тут сапраўды доўга. — Славін спакойна сеў насупраць затрыманай, працягваў: — Грамадзянка Шыкульская, скажыце, калі і дзе, пры якіх акалічнасцях вы пазнаёміліся з затрыманымі ў вашым доме людзьмі?

— Адкуль я ведаю? Прыйшлі ўвечары. Сказалі, што едуць з фронту. Папрасіліся пераначаваць. Вось я і дазволіла.

— Значыць, толькі на адну ноч?

— Так.

— Няпраўда! Яны правялі ў вас не адну ноч, і вы ведаеце іх даўно.

— Хто вам сказаў? Упершыню іх бачу.

— Паслухайце, грамадзянка Шыкульская, раю вам не злоўжываць нашым цярпеннем. Мы ведаем значна больш, чым вы мяркуеце. Раю па-добраму, кіньце лухту малоць. У архіве падняты дакументы, якія падрабязна сведчаць пра тое, што дзеялася ў вашым доме яшчэ да вайны. Ды гэта ж быў самы сапраўдны прытон, рассаднік распусты! У вас знаходзілі прытулак шулеры,

злодзеі, прастытуткі. Мы бачым, што і цяпер вы не спыняеце займацца гэтай справай. Таму не трэба напускаць туман. У вашым доме затрымана ўзброеная банда. І гэтым сказана ўсё. Дарэчы, як сцвярджаюць некаторыя з арыштаваных, вы атрымлівалі ў выглядзе ўзнагароды значныя каштоўнасці. Усе яны, зразумела, будуць рэквізаваны. Няўжо вы не разумееце, што далей паводзіць сябе так зусім бессэнсоўна? Цяпер я пытаю: будзеце казаць праўду ці ж працягваць гуляць у хованкі?

Шыкульская доўга маўчала. Славін адчуваў, што яна ліхаманкава шукае выйсце з сітуацыі, што ўзнікла, і вырашыў дапамагчы ёй:

— Сёння раніцай да вас прыходзілі двое: адзін у форме старшыны, другі — маёра. Скажыце, хто яны?

— Старшына? Маёр? — збянтэжана перапытала Шыкульская. — Ах, гэта тыя!

— Так-так, тыя самыя. Даўно знаёмыя з вамі?

Славін задаў гэта пытанне зусім абыякавым тонам. Усё яго аблічча ў гэты момант сведчыла, што яго, па сутнасці, не цікавіць адказ Шыкульскай, што ён сам усё добра ведае і пытае проста так, каб падтрымаць гаворку. У сапраўднасці ўнутры ў яго ўсё сціснулася, напружылася. Дзіва што! Вось-вось гэта жанчына можа назваць імёны небяспечных бандытаў.

Шыкульская разгублена глядзела на Уладзіміра, не ведаючы, казаць ці не казаць праўду. А ён усё тым жа як быццам абыякавым голасам спытаў:

— Што ж вы маўчыце? Ці мне нагадаць, што вы добра яго ведаеце?

— Не, не! — перабіла яна. — Я сама скажу! Больш не магу так. Лепш усё папраўдзе, але і вы пашкадуйце мяне! Зразумейце, як цяжка жыць самотнай безабароннай жанчыне. Абяцаеце, што пашкадуеце мяне? Абяцаеце?

— Абяцаю, але толькі ў тым выпадку, калі вы не будзеце хаваць праўды.

— Так-так, вядома. Буду казаць толькі праўду. Клянуся, як перад Богам, толькі праўду!

Шыкульская памаўчала трохі, сабралася з думкамі, пачала расказваць:

— Я тут яшчэ пры паляках жыла, трымала… як вам сказаць… Ну, разумееце, дом таемных спатканняў. Жыць жа неяк трэба было. Былі кліенты. Адны — выпадковыя, другія — пастаянныя. Утрымлівала, вядома, дзяўчынак. Дык вось, да мяне часта завітваў адзін пан. Прадставіўся камерсантам. Толькі многія мае кліенты намякалі, што гэткі ж камерсант, як я жонка Чэрчыля.

— Як яго прозвішча?

— Не ведаю. Усе клікалі Марэкам.

— І далей?

— Падабалася яму адна мая дзяўчына — Рэгіна Птушак, якая перад самай вайной нечакана выйшла замуж і пераехала жыць на хутар, але куды — не ведаю. Дык вось у Марэка і Рэгіны былі нейкія свае незразумелыя для мяне сувязі. Я асабіста шмат разоў сустракала іх у самых розных месцах у горадзе. Часта да яе прыходзілі незнаёмыя людзі, штосьці прыносілі ці, наадварот, штосьці выносілі. Карацей кажучы, я здагадвалася, што пан Марэк праз Рэгіну падтрымлівае сувязь са сваімі сябрамі. Але неўзабаве ён знік. І вось тыдні два таму да мяне нечакана прыходзяць Рэгіна і пан Марэк у форме маёра Чырвонай Арміі. З ім быў старшы лейтэнант. Іванам назваўся. Гэта той, якога вы затрымалі ў такім непрыстойным выглядзе.

Пан Марэк сказаў, што служыць у войску, што выпадкова сустрэўся з Рэгінай і яны вырашылі наведаць мяне. Прынеслі шмат чаго смачнага, каньяк, гарэлку. Павячэралі разам, а потым пан Марэк папрасіў, каб я дазволіла яго

падначаленым трохі пажыць у мяне. Паабяцаў добра заплаціць, дапамагчы прадуктамі. Я і згадзілася.

— Дзе гэты пан Марэк цяпер?

— Не ведаю. Але мне здаецца, што ён павінен быць у Рэгіны.

— Чаму вы так думаеце?

— Учора раніцай пан Марэк прыйшоў да мяне з нейкім старшыной. У таго быў аўтамат. Яны пасядзелі з гадзінку, пагаварылі са сваімі людзьмі і сышлі. Я выпраўляла іх разам з Іванам. У двары пачула, як пан Марэк ціха сказаў Івану, што калі ён спатрэбіцца, то яго можна знайсці на хутары ў Рэгіны.

— Вы добра гэта чулі?

— Вядома. Я ж не глухая.

— Значыць, Іван павінен ведаць, дзе жыве гэты маёр?

— Я таксама так думаю.

Славін паклікаў Бартошыка, даручыў яму запісаць сведчанні Шыкульскай. Той запрасіў Шыкульскую ісці за ім, і Славін задумаўся: «Цяпер слова за «старшым лейтэнантам». Але той нават прозвішча сваё не назваў. Значыць, спадзяецца выйсці з вады сухім. Чакаць ад яго праўдзівых сведчанняў — справа безнадзейная. Што ж прыдумаць?» І Славін вырашыў: пакуль ідзе допыт Шыкульской, пагаварыць са «старшым лейтэнантам». Ён падняў трубку тэлефона, патэлефанаваў дзяжурнаму.

Канваір прывёў «старшага лейтэнанта». Без рамяня, у расшпіленым кіцелі, з-пад якога выглядала зусім не армейскага ўзору брудная сподняя кашуля, ён паўстаў чалавекам, які зусім выпадкова нацягнуў на сябе афіцэрскае абмундзіраванне. Сярэдняга росту, хударлявы, са змардаваным тварам, «старшы лейтэнант» спыніўся перад сталом. Маленькія калючыя вочкі яго слізганулі па постаці Славіна. Злачынец відавочна настройваўся паводзіць сябе з выклікам.

Уладзімір запрасіў яго сесці, узяў ручку, падсунуў да сябе ліст паперы:

— Ваша прозвішча?

«Старшы лейтэнант» злосна ўхмыльнуўся:

— Пішы якое хочаш.

— Чаму я павінен пісаць якое хачу? Вы што — не чалавек?

— Гэта чаму ж? — пацiснуў ён плячамі.

— А таму, што вы чалавек, а чалавеку належыць мець імя, прозвішча. Таму я і хацеў бы з вамі пазнаёміцца.

Твар затрыманага сказіла сутаргавая грымаса.

— Сысунок! Каго на мушку бярэш? Ведаеш, колькі я такіх бачыў?

У душы Славіна ўсё закіпела. Ён ледзь прымусіў сябе стрымацца, спакойна заўважыў:

— Паслухай, Іван! Калі ты будзеш сябе так паводзіць, не выключана, што я буду апошнім, з кім ты маеш магчымасць пагутарыць. Вось чаму раю не строіць дурня. Дарэчы, для інфармацыі: такіх, як ты, я ўжо сустракаў, і нямала!

Тое, што маладзейшы па ўзросце Славін перайшоў на «ты», не стушаваўся перад затрыманым, падзейнічала. Іван суцішыў свой запал і пасля нядоўгага пярэчання стомлена прагаварыў:

— Я ж выдатна ведаю, што мяне чакае. Што б я ні казаў, выратавання ўсё адно не будзе.

— Час, вядома, ваенны. З такімі, як ты, доўга цырымоніцца ніхто не стане. Тым не менш, суд пры вынясенні прысуду ўлічвае ўсе акалічнасці. Дык чаму табе не скарыстацца любым, хай нават маленькім шанцам?

— Табе колькі гадоў? — нечакана спытаў затрыманы.

Славін крыху збянтэжыўся, пераадолеўшы няёмкасць, адказаў:

— Гэта няважна. Тут мы вядзём гутарку не пра ўзрост.

— Бачу, што табе будзе гадоў дваццаць, не больш, а мне — трыццаць чатыры. Дык вось, за чатырнаццаць гадоў, якія табе яшчэ трэба пражыць, я сёе-тое пабачыў, як той казаў, пажыў у поўнае задавальненне.

— Гэта таксама да справы не адносіцца. Марэка даўно сустракаў?

Славін зразумеў, што гутарку з гэтым чалавекам трэба весці ў яго манеры, і працягваў трымацца з ім на «ты».

— Якога Марэка? Не ведаю ніякіх Марэкаў.

— Нагадаю. Той, які ходзіць у форме маёра. Зрэшты, справа твая — можаш адказваць, можаш не адказваць. На ўсякі выпадак заўважу: мы і самі многае ведаем. Я маю на ўвазе таго Марэка, які прывёў вас да Шыкульскай. Учора са сваім сябруком ён зноў прыходзіў да яе. Сябрук, між іншым, пад старшыну працуе, аўтамат мае. Хопіць нагадваць ці дадаць, што гэта ўсё той жа Марэк, з якім вы рабаваннем займаецеся?

— Не ведаю ніякага Марэка, — зацята адказваў «старшы лейтэнант».

— Ведаеш! Гэтак жа, як ведаеш і Рэгіну, у якой ён жыве. Не разумею толькі, чаму ты ўпіраешся?

— Не ведаю вашага Марэка, і ўсё тут.

— Не, не ўсё. — Славін патэлефанаваў у кабінет Бартошыка і спытаў: — Скончыў допыт? — Пачуўшы сцвярджальны адказ, паклаў трубку: — А вось Шыкульская кажа зусім іншае. Цяпер скончу з табой гутарку, а затым, калі будзеш упірацца, вочную стаўку зробім.

Допыт шмат часу не заняў. Іван адмаўляў усё. Каб запісаць яго бедныя сведчанні, спатрэбілася не больш за пятнаццаць хвілін. Славін працягнуў пратакол арыштаванаму і прапанаваў:

— Прачытай і, калі ўсё правільна, — падпішы.

Уладзімір бачыў, з якой увагай чытаў «старшы лейтэнант» свае сведчанні, і падумаў: «А раптам атрымаецца гэтага гнюса разварушыць, даведацца штонебудзь пра верхавода банды?» Злачынец прачытаў пратакол, але падпісаць яго адмовіўся.

— Прозвішча ж на ім усё адно няма, — ухмыльнуўся ён.

Славін ізноў патэлефанаваў Бартошыку, папрасіў прывесці Шыкульскую.

Жанчына пры выглядзе свайго пастаяльца пабляднела. Славін узяў прынесены Бартошыкам пратакол допыту яе, хуценька прагледзеў напісаныя дробным почыркам лісткі, зачытаў тое месца, дзе гаворка ішла пра Марэка і старшыну, і спытаў у Шыкульскай:

— Гэта вашы сведчанні?

— Так, мае, — ледзь чутна адказала яна.

— Вы іх пацвярджаеце?

— Пацвярджаю.

— Добра! — Уладзімір звярнуўся да «старшага лейтэнанта»: — Што цяпер скажаш, Іван?

Той знішчальным поглядам праціў Шыкульскую, скрозь зубы прашыпеў:

— Сцерва! Аказваецца, ты не толькі на перадок слабая!

Пасля гэтых слоў Шыкульскую нібы падмянілі. Яна ўскочыла з крэсла, гучна закрычала:

— Ах ты неданосак смярдзючы! Гэты ты так са мной размаўляеш? Я, ці што, у твой дом на начлег прасілася? Я цябе ашуквала і казала, што на фронт

іду? Уцягнуў мяне ў гэту гісторыю і яшчэ абражаеш? Ганіш прыстойную жанчыну, якая сумленна свой хлеб зарабляе?

— Не блытай, — з’едліва сказаў Іван, — пра якую прыстойнасць ты можаш казаць? Свой хлеб ты зарабляеш не гонарам, а… увогуле, заткніся!

Шыкульская нечакана сарвалася са свайго месца, падскочыла да Івана, адвесіла яму такую аплявуху, што той не ўтрымаўся на крэсле, даўся галавой аб сцяну. Спатрэбілася некалькі хвілін, каб ён ачуўся. Бартошык схапіў пані Шыкульскую за рукі. А яна ўвесь час ірвалася да крыўдзіцеля.

У такіх умовах працягваць допыт не мела сэнсу, і Бартошык адвёў Івана. Славін пасадзіў Шыкульскую на крэсла, наліў вады:

— Выпіце, калі ласка, супакойцеся.

— Не, вы толькі падумайце: які нахабнік! Які нахабнік! Выходзіць, не ён злодзей, а я. Прашу прабачэння, са мной гэты нумар не пройдзе! Шкада, што не дазволілі вы пагаварыць з ім да канца. Ён бы шаўковым стаў.

— Скажыце, хто яшчэ ведае Марэка?

Шыкульская на хвіліну задумалася, потым адказала:

— Ён часта сустракаўся з маімі дзяўчаткамі, але яны ўсе раз’ехаліся хто куды. Хоць чакайце-чакайце. Тут дзесьці павінна жыць Галіна Дакальская. Яна ведала Марэка дый Рэгіну таксама.

— Раскажыце пра яе.

— Чым яна пры немцах займалася — не ведаю. Але чула, што выйшла замуж за паліцая, які сышоў з акупантамі.

«Напэўна, ёсць сэнс пагаварыць з Дакальскай», — падумаў Уладзімір і папрасіў Шыкульскую пачакаць у калідоры, а сам пайшоў да начальніка аддзела. Сцісла далажыў пра ўсё, што ўдалося высветліць.

Пётр Пятровіч распарадзіўся Шыкульскую адпусціць, а ў яе кватэры працягваць трымаць засаду. Уладзіміру ён загадаў адпачываць, а на наступны дзень з раніцы прыступіць да пошуку Дакальскай.

## Уладзімір Славін

Прайшоў тыдзень. Усе гэтыя дні Уладзімір шукаў Галіну Дакальскую. Дадзеных пра яе не было нават у старых паліцэйскіх архівах. Аператыўніку давялося папрацаваць, апытаць дзясяткі людзей, каб атрымаць звесткі пра гэту жанчыну. Высветлілася, што цяпер яна Кладнова Галіна Сцяпанаўна, пражывае ў невялікай хатцы на ўскраіне горада.

Апоўдні Славін, Крайнюк і Мамонаў, апрануты ў форму малодшага лейтэнанта НКУС, пастукалі ў дашчаныя дзверы хаты Кладновай. Адкрыла маладая жанчына ў накінутым на плечы футры. Яна адказала на прывітанне і, даведаўшыся, што перад ёй супрацоўнікі НКУС, разгубілася. Славін першым увайшоў у кватэру і… спыніўся, здзіўлены бляскам люстэркаў і бронзы. На падлозе — дарагія варсістыя дываны. У другім пакоі за сталом сядзелі сяржант і маёр з зоркай Героя Савецкага Саюза на грудзях. На стале некалькі бутэлек гарэлкі, закуска.

— Дабрыдзень, таварышы. Мы супрацоўнікі НКУС, — прадставіўся Мамонаў. — Прашу прад’явіць дакументы.

Малодшы лейтэнант падышоў бліжэй да стала, стаў каля сяржанта, Славін заняў месца побач з маёрам, які ўстаў і расшпіліў кіцель, дастаючы дакументы. Сяржант раптам ускочыў з крэсла:

— Каго вы, пацукі тылавыя, правяраеце? Нас, франтавікоў? Ды я цяпер!.. — і ён тэатральным жэстам пляснуў па сваёй кішэні. Ззаду пстрыкнуў затвор пісталета. Гэта Крайнюк падрыхтаваў зброю да стральбы.

Славін наблізіўся да сяржанта:

— Спакойна, таварыш сяржант! Не крычыце. Мы знаходзімся пры выкананні службовых абавязкаў. Гэта можа скончыцца для вас дрэнна. Прычым раней, чым вы думаеце.

Спакойны, упэўнены тон Уладзіміра асадзіў сяржанта.

— Вы ўсё адно не маеце права правяраць нашы дакументы. Давайце сюды камендатуру…

Маёр перабіў:

— Канчай істэрыку, сяржант! Прад'яві дакументы і не дуры! — і ён працягнуў Славіну пасведчанне і іншыя паперы.

— Вось мае дакументы.

Славін спытаў:

— Сяржант з вамі?

— Не. Еду, як вы бачыце, у адпачынак. Тут перасадка. Трэба чакаць свайго цягніка амаль шэсць гадзін. А тут ён падвярнуўся, кажа: «Пойдзем, маёр, пасядзім у знаёмых». Ну, я і пагадзіўся. Не ведаў, што ён такі нервовы, — і зноў звярнуўся да сяржанта: — Чаго ўпіраешся? Прад'яві дакументы!

— Не буду, і ты мне, маёр, не ўказ. Хай вядуць да каменданта, а з гэтымі размаўляць няма чаго!

— Дурань! — не хаваючы раздражнення, заўважыў маёр і сеў на сваё месца, наліў у шклянку гарэлкі, выпіў, хруснуў салёным агурком.

А сяржант нечакана рэзка адпіхнуў ад сябе Мамонава, затым Славіна, кінуўся да акна. Аднак Крайнюк быў напагатове. Кароткім моцным ударам ён збіў сяржанта з ног, завярнуў яму рукі, спрытна выцягнуў з кішэні галіфэ «вальтар».

Славін узяў пісталет у рукі і, разглядаючы яго, прагаварыў:

— Не думаю, што гэта ваша табельная зброя, — і кіўнуў Мамонаву: — Абшукай!

У кішэні шыняля былі выяўлены дзве гранаты-«лімонкі», фінскі нож. Дакументаў ніякіх не аказалася. Славін спытаў:

— Дык дзе ж вашы дакументы?

Сяржант унурыўся галавой, асуджана прагаварыў:

— Узялі, сексоты! На мякіне правялі!

Славін папрасіў Мамонава і Крайнюка даставіць затрыманага ў аддзел, а сам застаўся ў кватэры. Пасля кароткай гутаркі ён зразумеў, што маёр нічога карыснага паведаміць не можа, і адпусціў яго.

Уладзімір звярнуўся да Дакальскай:

— Даўно ведаеце сяржанта?

— Пераначаваў дзве ночы, і толькі.

— Дзе пазнаёміліся?

— На вакзале. Я працую там касірам. Пасля работы выйшла на прывакзальную плошчу, ён і прычапіўся да мяне. Сказаў, што франтавік, папрасіўся на начлег. Пашкадавала яго, пагадзілася. Я ж не ведала, што ён не той, за каго сябе выдае.

— Адкуль вы ведаеце, што ён «не той»?

— Яшчэ ўчора, калі ён ап'янеў і заснуў, вырашыла паглядзець дакументы. Ні ў кішэнях шыняля, ні ў кіцелі, ні ў штанах нічога не знайшла.

— Чаму ў міліцыю ці камендатуру не заявілі?

— Хацела паведаміць — не паспела.

— Зброю бачылі?

— Толькі нож. Пісталет, мабыць, пад падушкай хаваў.

— Часта такія суб’екты ваш дом наведваюць?

— Не, што вы! Першы раз.

— Рэгіна Птушак не заходзіла?

— Не, не заходзіла. Даўно ўжо не бачыла яе.

— Як даўно?

Кладнова на хвіліну задумалася:

— Год, а можа, паўтара.

— А вы самі даўно ў яе былі? — гэта пытанне Славін задаў, не разлічваючы на станоўчы адказ. Але жанчына нечакана сказала:

— О, ужо гады два як не была.

Славін ледзь стрымаў хваляванне:

— Дзе яна жыве?

— На хутары. Ад горада кіламетраў дваццаць будзе.

— Дарогу добра ведаеце?

— Так, памятаю.

— Вы кажаце праўду, што даўно яе не бачылі?

— Далібог! Хлусіць няма чаго.

— А Птушак пацвердзіць вашы словы?

— Вядома. Можаце самі яе спытаць.

— Што ж, з’ездзім з вамі да яе, праверым.

— Калі ласка, з задавальненнем…

Адчыніліся дзверы, у пакой увайшлі Мамонаў і Крайнюк.

Славін прапанаваў гаспадыні:

— Збірайцеся, пачакаем вас у двары.

Аператыўнікі выйшлі. Мамонаў сказаў:

— Затрыманы дэзерцірам аказаўся. Ужо тры месяцы як у вышуку знаходзіцца.

Славін сцісла расказаў сябрам пра гутарку з Кладновай. Тыя адразу павесялелі. Мамонаў прапанаваў:

— Выдатна! Адразу ж паедзем на хутар!

— Адразу нельга, — запярэчыў Славін. — Павязём у аддзел. Там і вырашым, што рабіць далей.

З ганка спусцілася Кладнова. Мамонаў выйшаў на праезжую частку вуліцы, спыніў «віліс». Ён прад’явіў вадзіцелю пасведчанне, папрасіў падвезці іх да месца службы.

Прайшло некалькі хвілін, і яны ўвайшлі ў будынак, дзе размяшчаўся аддзел. Славін тут жа накіраваўся да Мачалава, далажыў пра вынікі наведвання кватэры Кладновай. Той выслухаў яго і сказаў:

— А зараз запрашай усю аператыўную групу. Трэба дзейнічаць, не губляючы ні хвіліны.

— Пётр Пятровіч! Пакуль будуць збірацца людзі, дазволь яшчэ раз пагаварыць з Іванам. Тым больш што на наш запыт толькі-толькі прыйшоў адказ, і мы ўжо ведаем, хто ён такі. Думаю, ёсць сэнс паспрабаваць развязаць яму язык. Трэба неяк атрымаць звесткі пра тых, хто разам з «маёрам» знаходзіцца на сялібе, даведацца іх прозвішчы, якую зброю маюць.

Мачалаў не пярэчыў, і Славін, перадаўшы дзяжурнаму па аддзеле ўказанне пра збор аператыўнай групы, накіраваўся ў камеру.

Іван сядзеў на насціле з груба пазбіваных дошак, здавалася, зусім не звярнуў увагі на рыпенне абітых бляхай дзвярэй і Славіна.

Уладзімір моўчкі сеў на прыбіты да падлогі табурэт, нягучна спытаў:

— Як справы, Іван?

Той паціснуў плячамі, без ахвоты адказаў:

— Справы — у вас. У мяне — гультайства.

— Я і прыйшоў, каб пазбавіць вас ад гультайства, — Славін наўмысна перайшоў на «вы», як бы падкрэсліваючы, што наступіў новы этап у іх adносінах. — Думаю, што час пагаварыць ужо сур'ёзна, Іван Сяргеевіч.

Арыштаваны здрыгануўся:

— Што? Імя па бацьку даведаліся?

— Не толькі імя па бацьку, але і прозвішча. Цяпер нам вядома, што вы — Масленікаў, што раней тройчы асуджаны, што амаль год назад здзейснілі ўцёкі з месцаў пазбаўлення волі. Адно толькі незразумела: чаму вы сюды прыбылі? Вырашылі да немцаў падацца?

— На які хрэн мне гэтыя немцы? Я ж не сляпы. Бачу, што капут ім, — ён памаўчаў, затым працягваў: — Думаў, у гэтай адзежы лягчэй будзе зацерціся сярод тысяч вайскоўцаў.

— Дзеці ёсць?

Масленікаў не чакаў такога пытання, збянтэжана прамармытаў:

— Быў адзін… цяпер дзесьці гадоў трынаццаць-чатырнаццаць будзе яму. А чаму вы пра гэта пытаеце?

Масленікаў неўпрыкмет для сябе пачаў звяртацца да Славіна таксама на «вы». Уладзімір не прамінуў гэту акалічнасць, падумаў сам сабе: «Бач ты! Запаважаў. Трэба паспрабаваць выклікаць на адкрытую размову».

— Ды проста падумаў: няўжо чалавек можа так па-дурному на зямлі пражыць і нават пасля сябе нічога не пакінуць?..

— Гэта вы правільна заўважылі — «пражыць». Маё жыццё ўжо ззаду, наперадзе — «вышка».

— Вядома, за ўсё, што вы нарабілі, да таго ж у ваенны час, вам цалкам могуць прысудзіць вышэйшую меру пакарання. Але яшчэ падчас нашай першай сустрэчы я казаў, што не трэба губляць шанцаў застацца ў жывых. Цяпер вам прапануецца такі шанец.

— Што я павінен рабіць?

— Казаць праўду.

Масленікаў задумаўся. Ён упёрся локцем у калені, абхапіў рукамі галаву. Славін спакойным тонам працягваў пераконваць:

— Не хачу хаваць ад вас: сваімі праўдзівымі сведчаннямі вы скароціце нам час, неабходны для расследавання гэтай справы, і, самае галоўнае, напэўна прадухіліце непатрэбныя ахвяры. Дарэчы, Галіну Дакальскую, цяпер Кладнову, ведаеце?

— Не, упершыню чую.

— Справа ў тым, што гэта былая сяброўка Рэгіны Птушак. Кладнова сёння пакажа хутар, дзе жыве Рэгіна.

— Навошта ж вам мае сведчанні? — ледзь усміхнуўшыся, спытаў арыштаваны.

— Нас цікавіць колькасць людзей на хутары, іх узбраенне. Самі разумееце, наколькі гэта важна.

— Двое іх, — неахвотна працадзіў Масленікаў і дадаў: — Марэк і Віктар.

— Прозвішчы іх ведаеце?

— Не, не ведаю. Ды і на які ляд яны патрэбныя!

— Дзе вы з імі пазнаёміліся?

— Тут, у горадзе.
— Даўно?
— Каля месяца.
— Дзе вайсковае абмундзіраванне ўзялі?
— Без мяне даставалі.
— Як яны гэта вам растлумачылі?
— Сказалі, што ў лесе на машыну напалі, а ў ёй абмундзіраванне было.

Славін успомніў, як некалькі месяцаў назад сапраўды быў здзейснены напад на машыну, якая дастаўляла абмундзіраванне ў адну з вайсковых часцей. Загінулі шафёр і суправаджаючыя машыну старшына і салдат. Тады вырашылі, што гэта справа рук немцаў, якія адсталі ад фронту, тым больш што гільзы, выяўленыя на месцы здарэння, былі ад нямецкай стралковай зброі. Славін спытаў:

— Дзе схавана астатняе абмундзіраванне?
— Там жа, у Рэгіны ў хляве, у сене.
— Праўду кажаце?
— Навошта хлусіць? Можа, сапраўды залічыце і дасце яшчэ трохі пажыць на белым свеце.
— Добра. Тады запішу вашы сведчанні.

Масленікаў моўчкі кіўнуў галавой. Славін выйшаў з камеры, накіраваўся ў следчы кабінет. Перад тым як працягнуць допыт, Уладзімір патэлефанаваў начальніку. Той выслухаў яго, загадаў:

— Давай зробім так: ты садзіся і запісвай сведчанні. Важна не ўпусціць момант. Тым часам нашы з’ездзяць з Дакальскай у раён хутара, выставяць назіральнікаў і вернуцца ў горад. Табе падашлём машыну і ахову, возьмеш з сабой Масленікава. Паглядзім, на які хутар ён прывязе. Потым супаставім іх сведчанні і будзем прымаць рашэнне.
— Зразумеў. Якую машыну дашлеце?
— Дам табе свайго «казла».
— Вось дзякуй! Хоць перажываць не буду — як бы Масленікаў не збег.

Славін паклаў трубку, пачаў рыхтавацца да допыту.

Канваір увёў Масленікава. Арыштаваны станавіўся ўсё больш адкрытым. Ён падрабязна расказаў пра ўцёкі з месцаў пазбаўлення волі, як абрабаваў некалькі кватэр, якім чынам прабраўся сюды, у горад, дзе разлічваў здабыць сапраўдныя дакументы, па іх патрапіць у дзеючую армію. Бо адчуваў, што вайна набліжаецца да канца. А гэта значыць, што пасля перамогі можна будзе з’ехаць куды-небудзь у глыб краіны і жыць па чужых дакументах. Хто будзе правяраць былога франтавіка?

Адкрытым быў Масленікаў і тады, калі Славін пацікавіўся яго «сябрамі». Расказаў усё, што ведаў. Аказалася, што двое з гэтых «сяброў» — былыя паліцаі, астатнія — крымінальнікі, якіх выпусцілі з турмы немцы.

Масленікаў амаль нічога не ведаў пра Марэка і «старшыну».

— Разумееце, — казаў ён, — спрабаваў я некалькі разоў высветліць, хто яны, але выгіналіся, як вужы, ухіляліся ад адказу.
— Чым яны ўзброены?

Масленікаў нявесела ўсміхнуўся:

— Танкаў і самалётаў няма, астатняе — маецца! — ён памаўчаў трохі і дадаў: — Аўтаматы, пісталеты, гранаты ў хаце захоўваюць. У хляве — два кулямёты, процітанкавае ружжо сенам прыкрыты. Злева, у куце, процітанкавыя міны ляжаць.
— Якую мэту яны ставяць перад сабой?

— Сабраць пабольш людзей і пагуляць, пакуль не спыняць. Марэк аднойчы п'яны ляпнуў, што хоча золата назапасіць, у Бразілію махнуць.

Нарэшце Славін скончыў пісаць. Даў арыштаванаму падпісаць пратакол допыту. Затым яны пайшлі да машыны. Славін сеў побач з вадзіцелем, Масленікаў — на заднім сядзенні паміж двума аўтаматчыкамі. Ехалі доўга. Масленікаў зрэдку падказваў вадзіцелю, дзе паварочваць. Дарога была моцна заснежана, і машына прасоўвалася наперад на невялікай хуткасці.

Неўзабаве заехалі ў лес. Паабапал у белых строях сцяной стаялі высокія елкі. Пасля дваццаціхвіліннай язды па лесе Масленікаў папрасіў спыніць машыну. Уважліва гледзячы наперад праз ветравое шкло, ён няўпэўнена прагаварыў:

— Здаецца, тут… Дазвольце выйсці з машыны?

— Давайце выйдзем, — пагадзіўся Славін і адкрыў дзверцы.

Іван зрабіў некалькі крокаў па хадзе машыны, спыніўся, аглядаючыся па баках. Аўтаматчыкі насцярожана сачылі за кожным рухам. Але Масленікаў разумеў, што бегчы бессэнсоўна, уважліва ўзіраўся ў мясцовасць. Нарэшце паказаў рукой на вузкую прасеку:

— Вось тут была сцяжынка, снегам занесла. Па ёй можна прама да хутара прайсці.

— Далёка ісці?

— Не больш за кіламетр.

Славін занепакоіўся: «Нашы ж з Кладновай паехалі, а слядоў — ніякіх. Няўжо іншы хутар паказала?» Падышоў да прасекі. Вецер занёс снегам сцяжынку, і цяпер ледзь-ледзь праглядаліся нечыя сляды. Цяпер ужо было цяжка вызначыць, калі яны пакінуты. Ва Уладзіміра мільганула думка: «А што, калі пешшу прайсці да хутара? Паглядзець, пакуль яшчэ светла, дзе ён размешчаны? А, хай будзе, што будзе!» Ён вярнуўся да машыны, загадаў канваірам пасадзіць арыштаванага ў машыну, а сам, правальваючыся па калена ў снезе, накіраваўся ўздоўж прасекі.

Ісці было цяжка. Нарэшце наперадзе, на шырокай паляне, ён убачыў вялікую хату, два хлявы, гумно — акружаныя паўколам невысокім рэдкім дашчаным плотам. Далей, уздоўж агароду, цягнулася загарадзь з доўгіх жэрдак. Ля аднаго хлява фыркаў конь, недалёка ад яго скакаў вялікі кудлаты сабака. Людзей не было відаць. Але дым, які валіў з трубы, сведчыў, што хутар не пустуе. Славін схаваўся за ствалом елкі, уважліва назіраў за хатай і хлявамі, стараючыся запомніць, як яны размешчаны, вызначаў падыходы да іх.

Нарэшце Уладзімір накіраваўся назад. Калі прыйшоў да стаянкі, было ўжо цёмна.

Машына крута развярнулася і паехала да горада. Масленікаў спытаў:

— Ну як? Знайшлі?

— Знайшоў. Хата, два хлявы, гумно. Правільна?

— Так.

Славін, жадаючы праверыць, наколькі Масленікаў праўдзівы, спытаў:

— Не ведаеце, сабака ў іх ёсць?

— Быў, — адказаў Масленікаў і тут жа ўдакладніў: — Велізарны, кудлаты.

— Колькі ў іх коней?

— Тры.

— Даводзілася чуць, дзе цяпер муж Рэгіны?

— Пра гэта гаворкі не было. Ведаю толькі, што Марэк спаў з ёй.

— Дарэчы, вам не даводзілася бачыць яго дакументы?

— Не паказваў, хоць ставіўся да мяне з павагай. Аднойчы ў горадзе мы ўтрох ішлі па вуліцы. Раптам насустрач — камендацкі патруль. Спыніў нас. Марэк дастаў нейкія дакументы, прад'явіў, і нас адпусцілі. Што за дакументы, на чыё прозвішча — не ведаю.

— Прозвішча старшыны таксама не ведаеце?

— Не, не ведаю. Але ён казаў, што пасля нападу на машыну забраў дакументы забітых — вадзіцеля і тых двух чалавек, якія суправаджалі.

Машына нарэшце заехала ў горад. Прайшло яшчэ некалькі хвілін, і Славін ужо ўваходзіў у кабінет начальніка. Той, убачыўшы Уладзіміра, нецярпліва спытаў:

— Ну што? Паказаў?

— Так, сапраўды! Паказаў. А Кладнова паказала?

— Не. Не змагла знайсці ў лесе паварот, які вядзе да хутара. Асабіста яна была ў Птушак, здаецца, толькі два разы. Цяпер усё занесла снегам, і Кладнова, як ні старалася адшукаць дарогу да хутара, так і не змагла.

— Па якой дарозе ехалі?

— Дарогу яна памятае. Вось пагледзі, — Пётр Пятровіч падышоў да стала і разгарнуў карту, — бачыш? Ехалі па гэтай дарозе.

— Правільна! — узрадаваўся Славін. — Масленікаў таксама па гэтай дарозе вёў. Паварот прыблізна ў гэтым месцы. Масленікаў нядаўна там быў і то ледзь пазнаў. А вось тут — сядзіба Рэгіны Птушак.

І Славін падрабязна расказаў, як ён аглядаў хутар.

— Уначы зможаш знайсці дарогу да яго? — спытаў начальнік аддзела.

— Вядома.

— Тады ідзі адпачывай. Гадзіны ў тры падымем цябе, адвязём групу назіральнікаў, расставім у лесе вакол хутара. Калі пераканаемся, што бандыты там, пачнём аперацыю.

## Оперупаўнаважаны аддзела барацьбы з бандытызмам Уладзімір Славін

Ноч была на рэдкасць лютай. У кузаў крытага грузавіка селі сямёра супрацоўнікаў. Брызент хаваў пасажыраў ад ветру, але моцны мароз залазіў у валёнкі, пад паўкажушкі, неміласэрна хапаў за нос і шчокі. Ехалі моўчкі. Славін сядзеў у кабіне, але пачуваўся ніякавата. Начальнік аддзела вылучыў яму гэтае месца, каб паказваў дарогу, а сам разам з астатнімі аператыўнікамі забраўся ў кузаў.

Уладзімір пільна ўзіраўся ў дарогу, у лес, што прабягаў паўз яе. Ён вельмі баяўся падвесці таварышаў і прагледзець паварот на хутар. Адно — днём, зусім інакш — уначы. Паспрабуй пазнай тую прасеку, якая вядзе да хутара. Спідометр у грузавіку не працаваў, і вызначыць, колькі кіламетраў засталося ззаду, было немагчыма. Уладзімір узрадаваўся, калі машыну моцна страсянула: яна заехала на драўляны масток, перакінуты праз невялікі раўчук. Парэнчаў у мастка не было. Пакрыты снегам, ён амаль не выдзяляўся. Але Уладзімір памятаў, як учора днём іх «казла» гэтак жа моцна падкінула, як цяпер і грузавік. Ён падумаў: «Хвілін дзесяць засталося. Грузавік едзе, мабыць, з такой жа хуткасцю». Вадзіцель, пажылы старшына, флегматычна спытаў:

— Што? Хутка пад'едзем?

— Не хвалюйся, Ваня. Хутка спынімся. Трэба зарыентавацца, — і Уладзімір пагледзеў наперад. Не, не памыліўся.

Роўна праз дзесяць хвілін ён сказаў вадзіцелю спыніцца. Выйшаў з кабіны, агледзеўся і пайшоў да задняга борта.

— Прыехалі, можна выходзіць.

Калі ўся аператыўная група падышла да прасекі, Мачалаў пакінуў з вадзіцелем толькі аднаго аўтаматчыка. Астатнім супрацоўнікам прапанаваў ісці за ім. Праўда, цяпер прабірацца праз густы лес у цемры, па пояс у снезе, было значна складаней. Толькі к сямі гадзінам супрацоўнікі падышлі да паляны. Далей рухацца было рызыкоўна.

Пётр Пятровіч адвёў групу метраў на пяцьдзясят у глыб лесу, яшчэ раз праінструктаваў кожнага супрацоўніка.

— Калі яны на хутары, — растлумачыў начальнік напрыканцы, — то абавязкова будуць выходзіць у двор. Ваша задача — палічыць, колькі іх тут сабралася. Калі будзе ўсё ясна, адзін з вас павінен дабрацца да дарогі, павярнуць у бок горада. Прайшоўшы з паўкіламетра, ён заўважыць наш грузавік, а крыху ўбаку, ля вогнішча, — нашых людзей. Тыя будуць прыкідвацца, быццам машына сапсавалася і стала на рамонт. Калі да абеду пасланец не з’явіцца, вас падменяць іншыя супрацоўнікі, а вы адправіцеся да машыны.

— А калі бандыты пойдуць у лес, наткнуцца на нас ці выявяць нашы сляды? — пачулася пытанне.

— Ваша задача — назіраць. Але калі раптам здарыцца і такое, дзейнічайце па становішчы. Нездарма ж у вас аўтаматы… Ёсць яшчэ пытанні?

Супрацоўнікі маўчалі.

— Калі пытанняў няма, значыць, заданне зразумела. Займайце кожны сваё месца.

Славін меркаваў, што яму таксама давядзецца назіраць за хутарам, але начальнік вырашыў інакш. Як толькі аператыўнікі размясціліся на сваіх пазіцыях, ён падышоў да дарогі і загадаў Уладзіміру ісці за ім.

— Пётр Пятровіч, можа, я застануся з хлопцамі?

— Не. Прыедзеш сюды з групай захопу.

Далей яны ішлі моўчкі. Машына ўжо развярнулася, стаяла недалёка ад павароту. Уладзімір і аўтаматчык, які застаўся з шафёрам, забраліся ў кузаў, і грузавік паехаў, але праз хвіліну-другую спыніўся. Мачалаў выйшаў з кабіны і, пыхкаючы папяросай, падышоў да задняга борта:

— Пачакаем, цяпер нашы пад’едуць.

І сапраўды, неўзабаве з’явіўся «казёл». У ім прыехала яшчэ пяцёра супрацоўнікаў, у тым ліку Мамонаў, Бартошык і Крайнюк. Начальнік аддзела, звяртаючыся да Славіна, падкрэслена гучна, каб чулі ўсе, сказаў:

— Ну што, Уладзімір Міхайлавіч? Я так думаю: раз ты ўчапіўся за гэту групу, то табе і канчаць з ёй. Прымай камандаванне, а я паехаў у аддзел. Маса тэрміновых спраў, і ўсе чакаюць свайго рашэння.

Ён сеў у легкавую машыну.

Бартошык, куражачыся, спытаў:

— Што, таварыш начальнік? Пачнём камандаваць?

— А як жа, таварыш Бартошык! — хаваючы ўсмешку, адказаў Славін і знарок загадным тонам дадаў: — А ну, марш распальваць вогнішча!

Усе пайшлі ў лес, і адтуль пачуўся трэск сухога галля. Вадзіцель залез у кузаў, скінуў на дарогу запасное кола, затым падкаціў яго да пярэдняга. Побач на кавалку брызенту расклаў прылады, на капот паставіў паяльную лямпу, а ў матор уставіў завадную ручку. Назіраючы за яго дзеяннямі, Славін ухвальна падумаў: «Вось гэта старшына! Ведае сваю справу!»

Тым часам недалёка ад абочыны весела ўспыхнула вогнішча. У групе аператыўнікаў сабраліся людзі бывалыя: хто прайшоў загартоўку ў дзеючай арміі, хто — у партызанах. Напоўніць кацялок снегам, падвесіць яго над агнём — вучыць нікога не патрабавалася. Антошын прынёс да вогнішча некалькі металічных кубкаў, рэчмяшок, адтуль дастаў цукар, кавалак сала, хлеб. Хітра зірнуўшы на Славіна, падміргнуў супрацоўнікам:

— Вось калі б начальнік здагадаўся прыхапіць што-небудзь больш істотнае, тады б я пагадзіўся працаваць пад яго камандай хоць усё жыццё.

— Бач чаго захацеў! — усміхнуўся Славін. — А кукіш з макам не хочаш?

— Фі, як груба! Не да твару кіраўніку. Хто ж так з падначаленымі размаўляе? — удавана пакрыўдзіўся Антошын. — Вы, таварыш начальнік, як бачу, харчышак з сабой ніякіх не прыхапілі. Хоць за грубасць вас можна пакараць: пакінуць галодным.

Але Славін не здаваўся:

— Яшчэ адно слова, і я накірую вас на пост замяніць каго з нашых людзей. А туды, як вядома, харчышкі, якія вы ў сваім рэчмяшку цягаеце, браць нельга. Так што вы таксама многім рызыкуеце. Прычым не толькі застацца галодным, але і назаўжды пазбавіцца такога смачнага сала.

Усе засмяяліся, а Антошын пхнуў сябра ў плячо:

— Добра! Падзелімся, Бог з табой.

Аператыўнікі размясціліся вакол вогнішча, пачалі есці. Аднак з-за павароту хутка з’явіўся чалавек.

— Дык гэта ж наш! — пазнаў свайго супрацоўніка Антошын.

І сапраўды, падышоў Брытвін, памочнік оперупаўнаважанага. Ён увесь пакрыўся шэранню і, пераводзячы частае дыханне, паведаміў:

— Уладзімір Міхайлавіч, яны там!

— Дакладна пераканаліся?

— Вядома. У «старшыны» добра бачна павязка на шыі, і «маёра» запрыкмецілі. Абодва некалькі разоў выходзілі ў двор. То дровы насілі ў хату, то ў прыбіральню па чарзе бегалі, то ў хлеў чагосьці два разы лазілі.

— Ясна, — працягнуў Славін, зірнуўшы на аператыўнікаў. — Збірайцеся, таварышы. Не забудзься, сябар Антошын, сальца і іншыя смачныя рэчы разам з мяшэчкам у машыне пакінуць.

Антошын, не адказваючы, шпурнуў рэчмяшок у кузаў. Славін загадаў старшыне-вадзіцелю праз паўгадзіны падагнаць машыну на ранейшае месца. Група рушыла ў дарогу.

Гэтым разам яны ішлі напрасткі, па прасецы. Такім чынам удалося скараціць час на дарогу. Неўзабаве ўсе сабраліся разам. Яшчэ раз уважліва вывучыўшы становішча, Славін пакінуў двух супрацоўнікаў на ўзлеску: калі злачынцы паспрабуюць прабрацца ў гэты кут, яны абавязкова патрапяць у пастку. Астатнія ўдзельнікі аператыўнай групы, зрабіўшы вялікі круг, пачалі набліжацца да хутара. З гэтага боку вокны хаты прыкрываў хлеў. Гэтым і вырашыў скарыстацца Славін, каб неўпрыкмет падысці да будынкаў.

Вось і хата. Аператыўнікі на нейкі момант стаіліся за глухой сцяной, намерваючыся больш дакладна ўзгадніць свае далейшыя дзеянні. І тут усе збянтэжыліся: з-за вугла высунулася кудлатая сабачая пыса. Сабака падаўся яшчэ трохі наперад, у нерашучасці спыніўся, гледзячы на чужых людзей. Ён выскаліў вялікія белыя іклы, глуха загыркаў, як здалося супрацоўнікам, не вельмі зласліва. Славін, не разважаючы, выняў з кішэні частку свайго сухога пайка — кавалак каўбасы, — асцярожна шпурнуў сабаку. Той схапіў пача-

стунак і гультаявата адышоў да сваёй будкі. Уладзімір з палёгкай уздыхнуў, жэстам загадаў траім супрацоўнікам абысці хату справа. Астатніх людзей павёў налева. Хлопцы дзейнічалі энергічна, зладжана. Ля кожнага акна непрыкметна спынілася па адным аўтаматчыку.

Славін і іншыя аператыўнікі, сагнуўшыся, пракраліся пад двума вокнамі, паціху адчынілі дзверы, увайшлі ў сенцы. Трохі пастаялі, каб вочы прывыклі да прыцемку. Наперадзе былі дзверы ў жылое памяшканне. Але што за імі? Ніхто не ведаў размяшчэння пакояў. Таму супрацоўнікі яшчэ ў лесе дамовіліся, што кожны будзе ўрывацца ў бліжэйшы да яго пакой. Славін асцярожна прыадчыніў дзверы, убачыў вялікую сялянскую печ, стол. За ім сядзелі двое мужчын і жанчына. Уладзімір рэзка расчыніў дзверы, прама з парога загадаў:

— Ні з месца! Рукі ўгару!

У гэты момант супрацоўнікі пракраліся ў два іншыя пакоі.

Яшчэ ні пра што не пытаючы, Уладзімір зразумеў, што тыпы, якія сядзяць з паднятымі рукамі за сталом, былі менавіта тымі, каго шукала аператыўная група. На шыі крайняга — зашмальцаваны бінт. У таго, што быў побач з ім, — вялікі шнар на твары. Не даючы бандытам апамятацца, супрацоўнікі вывелі іх з-за стала, звязалі рукі. Жанчыну вывелі ў суседні пакой, каб яна не перагаворвалася з бандытамі.

Усё было зроблена настолькі хутка, што ніхто са злачынцаў нават не паспеў ачомацца.

Агледзелі хату, хлявы. Там аказаліся не толькі выкрадзеныя рэчы, дакументы, каштоўнасці, але і шмат зброі. У гаспадарцы Птушак знайшлося двое вялікіх саняў, якія супрацоўнікі даверху завалілі боепрыпасамі, запрэглі коней.

Славін разглядаў зорку Героя, знятую з кіцеля ўяўнага маёра:

— Як ты мог сваімі бруднымі рукамі чапаць яе?

— Падумаеш! — нахабна ўхмыльнуўся бандыт. — А можа, я пакрасавацца хацеў?

— Нядоўга ж ты красаваўся!

— Што нас чакае? — нясмела, лісліва спытаў «старшына».

— Адплата, — цвёрда адказаў Славін і загадаў збірацца ў шлях…

## Старшы лейтэнант Аляксей Купрэйчык

Дзень Перамогі Купрэйчык сустракаў у Берліне. Праўда, не ў цэнтры, а на яго ўскраіне, бо, патрапіўшы пасля шпіталя ў дывізіённую разведку, ён пасля ранення яшчэ так і не прыйшоў у форму. Начальнік разведкі дывізіі падпалкоўнік Арбатаў не дазваляў пакуль Аляксею хадзіць на заданні, і ён займаўся тым, што ў развалінах выяўляў і арыштоўваў нямецкіх салдат і афіцэраў. Цяпер недахопу ў палонных не было. Варта было спусціцца ў любы ацалелы склеп, там абавязкова хаваліся гітлераўскія афіцэры ці салдаты, іх, як правіла, без допыту збіралі ў агульныя групы і накіроўвалі на зборны пункт. Але Купрэйчык увесь час нудзіўся па сваім узводзе і надакучаў Арбатаву просьбамі. Падпалкоўнік быў чалавекам строгім і сухім. Пры кожнай просьбе Купрэйчыка ён моршчыўся і адмахваўся:

— Ну чаго ты прычапіўся да мяне. Паглядзі на сябе: адна скура ды яшчэ костак крыху ў дадатак, ледзь на нагах трымаешся. Вось акрэпнеш як трэба, тады і пашлём ва ўзвод, а пакуль займайся тым, што табе даручылі.

Ад такіх гутарак у Купрэйчыка на душы было моташна. Ён, баявы афіцэр, які прайшоў амаль усю вайну ад Масквы да самага Берліна, павінен адседжвацца ўдалечыні ад перадавой. Яго настрой нават не стаў лепшым пасля таго, як узнагародзілі ордэнам Чырвонай Зоркі за той апошні бой, калі ён быў паранены. Аляксея цягнула на перадавую.

Але вось вайна скончылася. Для разведчыкаў наступіла пара бяздзейнасці, і Купрэйчык намерваўся адшукаць свой былы ўзвод, павіншаваць хлопцаў з перамогай, успомніць тых, хто не дайшоў да Берліна і склаў свае галовы дзеля гэтай перамогі, але яго нечакана выклікалі ў штаб дывізіі. Там уручылі прадпісанне, дзе было сказана, што старшы лейтэнант Купрэйчык Аляксей Васільевіч адкамандзіроўваецца ў распараджэнне Наркамата ўнутраных спраў і павінен з'явіцца праз тыдзень у горад Мінск.

Падпалкоўнік Арбатаў упершыню па-сяброўску ўсміхнуўся Купрэйчыку:

— Ну вось, бачыш, як я правільна рабіў, што збярог цябе. Цяпер ты патрэбен краіне для іншых спраў. Ну, дай я цябе абдыму на развітанне…

Праз трое сутак Купрэйчык прыбыў у Брэст і адразу ж накіраваўся ў шпіталь да Надзі. Усё здарылася так хутка, што ён ёй нават не паспеў напісаць пра новае прызначэнне.

Ехаць было недалёка, і неўзабаве ён, сышоўшы са спадарожнага грузавіка, апынуўся сярод мора зеляніны, кветак, сонца. Удыхаючы поўнымі грудзьмі чыстае п'янкое паветра, ён лёгкім крокам ішоў па сцяжынцы, якую толькі што паказаў яму сустрэчны пажылы старшына.

«Прыгажосць-та якая, вось і наступіла сапраўднае мірнае жыццё!» Ад гэтай думкі Аляксею захацелася спяваць, гучна крычаць, смяяцца. Дзіва што, ён прайшоў усю вайну, дзясяткі разоў глядзеў смерці ў вочы — і застаўся жывы! Наперадзе мір, жонка, жыццё! Яго цешыла ўсё: і птушкі, і сонца, і зеляніна роднай зямлі! Як яму хацелася цяпер легчы на гэту вабную родную зямлю, дакрануцца шчакой да мяккай сакавітай травы! Але наперадзе, дзесьці там, за кустамі, што віднеліся непадалёку, ужо праглядаліся хаты, а там — шпіталь, а ў ім Надзя, яго жонка!

— Наперад, дзядзька! — гучна скамандаваў сам сабе Аляксей. — Хутчэй — і ты будзеш узнагароджаны!

Так, яму сёння адназначна шанцавала. Толькі ўвайшоў праз расчыненыя насцеж велізарныя драўляныя вароты, якія вялі на тэрыторыю шпіталя, як сустрэў Надзю. Яна ішла з нейкай дзяўчынай і пра штосьці весела гаварыла. Абедзве былі апрануты ў белыя халаты, але Аляксей адразу ж пазнаў яе. Ён дагнаў іх, плячом злёгку адсунуў дзяўчыну ад Надзі і пайшоў побач з ёй. Дзяўчына хацела абурыцца, але, убачыўшы ўмольны позірк сімпатычнага старшага лейтэнанта, маўчала, чакаючы, што ж будзе далей. А Надзя весела і бесклапотна ішла крыху наперадзе, працягвала свой расповед пра ўчарашняе выступленне на сходзе нейкай Краўцовай. Але вось яна замоўкла і павярнула галаву направа, а там замест сяброўкі — Аляксей. Надзя спачатку вырашыла, што ёй здалося. Спынілася, моўчкі і здзіўлена паглядзела на яго вялікімі вачыма. Нарэшце яна зразумела, што гэта не прывід і што перад ёй сапраўды жывы і здаровы Аляксей. Яна дакранулася да яго твару рукой, а затым яе рукі імгненна абвіліся вакол яго шыі…

Пасля першых хвалюючых хвілін яны накіраваліся прама да начальніка шпіталя.

Высокі, мажны, гадоў шасцідзесяці палкоўнік, даведаўшыся, з кім да яго прыйшла Кір'янава, сустрэў Аляксея ветліва. Нават дзеля такога выпадку загадаў прынесці па сто грам спірту.

— Мы прыйшлі да вас параіцца, — перайшоў да галоўнага Аляксей, — як нам зараз з жонкай быць. Я атрымаў прызначэнне ў Мінск, а вось Надзя — тут.

Палкоўнік усміхнуўся:

— Ну, брат, гэтую справу можна выправіць. — Зірнуў на Надзю і сказаў: — Давайце, мілыя вы мае, зробім так: вам, Кір’янава, у першую чаргу я даю трохдзённы адпачынак. Пасля гэтага, — ён паглядзеў на Аляксея, — вы едзеце ў Мінск, уладкоўваецеся, ну і чакаеце яе. А мы за гэты час зробім адпаведныя запыты, каб перавесці вашу жонку ў Мінск. Так што парадак…

Наступіў вечар. Надзя і Аляксей прагульваліся па лясной сцяжынцы. Цёплы ветрык далікатна перабіраў яе валасы. Яны выйшлі на паляну, перайшлі яе і апынуліся ў густых зарасніках гнуткіх бяроз і тонкіх елак. Аляксей зняў кіцель і разаслаў яго пад кустом. Надзя села на кіцель, а Аляксей апусціўся побач. Зямля была цёплай і сухой. Яна паглядзела ўгару і раптам засмяялася ціхім шчаслівым смехам:

— Лёшачка, а паказаць, дзе ты?

— Як гэта, дзе я? — не зразумеў Аляксей.

Надзя паклала галаву яму на плячо і паказала рукой угару на абсыпанае зоркамі неба:

— Глядзі. Я не ведаю, як называецца зорка — гэта тая, якая побач вунь з той, яркай, крыху лявей, бачыш?

На небе зорак было шмат, і Аляксей чыстасардэчна прызнаўся:

— Не, Надзейка, не бачу, там гэтулькі зорак.

— А я бачу, і заўсёды, калі мне станавілася сумна ці было цяжка, я чакала вечара, адшуквала сярод зорак цябе, і мне адразу ж станавілася лягчэй, часам мне нават здавалася, што і ты ў гэта імгненне глядзіш на гэту ж зорку. Я нават размаўляла з табой.

— Родная, слаўная мая.

Аляксей абняў яе і зазірнуў ёй у вочы.

Надзя абхапіла яго шыю аберуч, прытулілася гарачымі вуснамі да яго твару і ледзь чутна сказала:

— Я знайшла цябе, мая зорка.

## Уладзімір Міхайлавіч Славін

…Славіна выклікаў да сябе начальнік. Уладзімір пастукаў, увайшоў у кабінет. Мачалаў сядзеў за сваім сталом. На старэнькай пашарпанай канапе прыстроіўся сакратар райкама камсамола. Поруч стала — Караткоў. Славін са слоў дзяжурнага ведаў, што прыехаў Сяргей Міронавіч, але яшчэ не бачыў яго. Залацістыя новенькія пагоны падпалкоўніка вельмі пасавалі яму і нават маладзілі. Усе трое прывіталіся са Славіным за руку, і Караткоў, загадкава ўсміхнуўшыся, спытаў:

— Ну, таварышы, хто аб’явіць?

— Давай ужо ты. Ты яму накшталт хроснага, — адказаў Мачалаў.

Караткоў падышоў да Славіна.

— Працаваў ты, Уладзімір Міхайлавіч, добра. Мужна і ўмела змагаўся з бандытамі. Пройдзе трохі часу і з гэтым злом будзе скончана. Аднак спатрэбіцца яшчэ шмат гадоў, перш чым атрымаецца выкараніць злачыннасць. А гэта значыць, Уладзімір, краіне яшчэ спатрэбяцца людзі, здатныя прафесійна, граматна абясшкоджваць тых, хто захоча падняць руку на народнае дабро,

на гонар, на Савецкую ўладу. Мы параіліся і вырашылі рэкамендаваць цябе на вучобу ў школу міліцыі. Як ты на гэта паглядзіш?

— Я? Не думаў пра гэта, але… калі трэба — пайду!

— Вось і выдатна! Рыхтуйся, запасайся літаратурай. З'ездзіш да маці. Ведаю, як знудзіўся па ёй. Ну, а потым і за вучобу…

Славін, збянтэжана і радасна ўсміхаючыся, выйшаў з кабінета. Караткоў павярнуўся да Мачалава:

— Ну, а Крайнюку ты сам паведаміш. Ён калі выпісваецца?

— Паслязаўтра..

Твар Мачалава пахмурнеў. Месяц назад Крайнюк і Бартошык удзельнічалі ў аперацыі па абясшкоджванні групы бандытаў. Участак лесу, дзе павінна была знаходзіцца банда, акружылі і пачалі прачэсваць тэрыторыі. Неўзабаве большасць злачынцаў былі затрыманы, а хто аказваў супраціўленне — знішчаны. У густым хмызняку заўважылі невялікую хату. У яе ўвайшлі Бартошык і Славін. У хаце было цёмна, і Бартошык пасвяціў запалкай. Тым часам з кустоў, убачыўшы ў акне святло, стрэліў адзін з бандытаў. Бартошык быў забіты. Крайнюк кінуўся да кустоў, а другі бандыт стрэліў у яго. Антон, перш чым страціць прытомнасць, паспеў чаргой з аўтамата стрэліць па кустах. Адзін з бандытаў быў забіты, а другі, паранены, працягваў адстрэльвацца. Звар'яцелы ад гора, Славін выскачыў з хаты. Бандыт пабег. Пры любых іншых умовах Славін дагнаў бы яго і абяззброіў, але тады, прыпаўшы на калена, ён доўгай чаргой забіў бандыта.

Мачалаў нават не звярнуў увагі, што патухла папяроса. Караткоў чыркнуў запалкай:

— Ну, а сам калі здасі справы?

— Заўтра прыязджае новы начальнік, адразу ж пачну здаваць. Мала я тут папрацаваў.

— Нічога, дарагі. Вайна скончылася, людзей у нас будзе больш, справяцца тут і без цябе, тым больш, цябе чакае не меней цяжкая праца ў Мінску. Дарэчы, як ты вырашыў з Вольгай Ільінічнай?

— А што тут вырашаць. Засталіся мы з ёй бабылямі. Страта родных стала нашым агульным горам. Гэта гора і аб'ядноўвае нас. Вырашылі мы так: як толькі я здам новаму начальніку справы, яна возьме адпачынак. З'ездзім у мае краі. Паглядзім, што можна зрабіць там. Магчыма, помнік Тані і дзецям паставіць можна. Ну, а затым я застануся ўладкоўвацца, а яна вернецца сюды і будзе афармляць перавод у адзін са шпіталяў, размешчаных у Мінску.

— Правільна вы вырашылі. Вы абое шмат гора перажылі і павінны зараз адзін аднаго трымацца і падтрымліваць.

## Таццяна Андрэеўна Мачалава

У вёску з фронту пачалі вяртацца першыя салдаты. Дзе-нідзе ўжо быў чутны віск пілаў і стук сякер. Людзі паступова пачыналі новае жыццё.

Таццяна Андрэеўна і яе дзеці жылі ў невялікай зямлянцы на краю вёскі. Калі прыйшло вызваленне, Таццяна адразу ж напісала ў Маскву. Прасіла паведаміць ёй, ці жывы муж, даць яго адрас. Са слоў былога камандзіра партызанскай брыгады, а цяпер сакратара райкама партыі Глазкова, яна ўжо ведала пра запыт, які паступіў аднойчы ў партызанскі атрад на яе, і пра той адказ, які далі партызаны, лічачы, што Таццяна Андрэеўна і яе дзеці загінулі. Таму і спяшалася адшукаць мужа, узрадаваць яго.

Уся сям'я жыла пакутлівым чаканнем і надзеяй. І вось праз месяц у іх зямлянку прыйшла страшная бяда. Яны атрымалі пахавальную. У гэты момант Таццяна Андрэеўна вырашыла, што скончыліся яе сілы. Страціўшы мужа, яна страціла веру ў жыццё. У яе апусціліся рукі. Дзеці ні на хвіліну не пакідалі маці адну, гатавалі есці, займаліся ўборкай, глядзелі за ёй, як за дзіцём.

Таццяна Андрэеўна добра запомніла той жнівеньскі дзень, калі да яе ў зямлянку завіталі шасцёра вясковых баб. Ва ўсіх было сваё гора: у траіх загінулі мужыкі, а ў іншых — сыны. У той дзень Таццяна яшчэ раз пераканалася ў шчодрасці і шчырасці чалавечай душы, у жаданні дапамагчы адзін аднаму. Гэтыя жанчыны насілі ў сэрцах уласнае гора, а прыйшлі да яе, каб хоць неяк супакоіць. Яны не вохкалі і не ўздыхалі, а проста па-чалавечы, па-жаночаму адкрыта, душэўна пагаварылі з ёй. І Таццяна Андрэеўна зноў адчула жаданне жыць, гадаваць дзяцей. Увечары, калі засталася адна, паклялася, што выгадуе і выхавае дзяцей, каб яны былі годнымі бацькі.

Незадоўга да Дня Перамогі Мачалаву зноў адшукаў Глазкоў. Дамовіліся, што ў чэрвені яна вернецца ў сваю спаленую вёску. «Мы табе дапаможам хату пабудаваць, — казаў ён, — увосень пачнеш вучыць дзяцей калгаснікаў».

Ад думкі, што яна патрэбна людзям, Таццяна паверыла яшчэ больш у сябе, зразумела канчаткова, што за жыццё трэба змагацца.

Мачалава вырашыла з'ездзіць у Мінск, пахадайнічаць пра пенсію на дзяцей, а затым перабрацца ў сваю вёску. Чуллівыя жанчыны сабралі, колькі маглі, грошай на білеты, адварылі бульбы «ў мундзіры», далі — хто кавалачак сала, хто — масла.

Калі выйшла з зямлянкі, зірнула на дзяцей Таццяна Андрэеўна і заплакала. Худыя, знясіленыя, Юля і Ваня былі апрануты ў такія лахманы, што цяжка было зразумець, што за рэчы на кожным з іх. Да чыгуначнай станцыі было каля сарака кіламетраў. Іх пагадзіўся падвезці адзінокі стары Міхей. Узімку сорак трэцяга года ў яго памерла жонка, а ў канцы сорак чацвёртага і пачатку сорак пятага атрымаў паведамленні пра гібель абодвух сваіх дзяцей.

Дзед Міхей запрог у старую падводу каня, і яны паехалі. Стары разлічваў за дзень давезці Таццяну Андрэеўну і дзяцей да чыгункі, пераначаваць дзе-небудзь, балазе што на двары стаяла цеплыня, і на наступны дзень вярнуцца дахаты. Ён быў гаманкім чалавекам, а паколькі ехаць давялося цэлы дзень, ды яшчэ з прыпынкамі, то ён паспеў многае расказаць за дарогу.

Таццяна Андрэеўна заўважыла, што дзед Міхей гаворыць не перастаючы, але ён ні разу не згадаў сваіх загінулых дзяцей. «Можа, гэтымі гутаркамі ён жадае сцішыць свой боль, сысці ад трывожных дум?» І, зразумеўшы гэта, яна імкнулася, як магла, падтрымліваць размову.

Калі дзень пачаў ужо хіліцца да вечара, яны пад'ехалі да чыгункі. Дзед Міхей паказаў на стог сена, які стаяў недалёка ад дарогі, і, усміхнуўшыся, сказаў:

— Ну, вось і мая «гасцініца». Адвязу вас да станцыі, вярнуся сюды і пераначую, а заўтра — дахаты.

Ля паўразбуранага будынка станцыі Таццяна Андрэеўна падзякавала добраму старому і ўвайшла туды. Усярэдзіне невялікі вакзальчык аказаўся сяк-так адрамантаваным. Народу ў ім было шмат, асабліва вайскоўцаў, Таццяну балюча кальнула ў сэрца думка: «Вось і мой Пеця мог бы аднойчы прыехаць з фронту на гэты вакзал. — Але сама сабе запярэчыла: — Чаму на гэты? Ён жа і не ведае, дзе мы жывём. Хоць калі б ён сапраўды ехаў, то прыехаў бы сюды. Адгэтуль да вёскі, дзе мы з ім жылі, бліжэй, чым да той, дзе цяпер наша зямлянка».

Яна падышла да дзядка-чыгуначніка з павязкай дзяжурнага на рукаве і спытала, ці хутка будзе цягнік на Мінск. Той хмурна растлумачыў, што не раней дваццаці дзвюх гадзін.

«Ну што ж, — вырашыла яна, — трэба купіць білеты». І накіравалася ў процілеглы кут вакзала, дзе ля маленькага вакенца касы тоўпіліся людзі. І раптам нібы электрычны ток ударыў яе. Таццяне здалося, што яна бачыць Пятра: падцягнуты капітан з ордэнамі і медалямі на грудзі пра штосьці размаўляў з жанчынай. Таццяна прымусіла сябе адвярнуцца: «Ну вось, зараз ён мне не толькі сніцца будзе, але і здавацца ў кожным афіцэры». Павярнулася да дзяцей і сказала:

— Станьце ў куток, каб вас не заштурхалі, і пачакайце мяне, я вазьму білеты.

Але Юля пацягнула яе за рукаў і, зачаравана гледзячы міма яе, перарывістым голасам ціха сказала:

— Мама, паглядзі, гэта не наш тата?

Таццяна Андрэеўна зірнула на дачку і жахнулася: твар у Юлі быў белым, вочы шырока расплюшчанымі, спалоханымі. Гэта і прымусіла маці азірнуцца. Набліжаючыся да іх, у бок выхаду ішоў той жа капітан. Таццяна Андрэеўна схапілася за сэрца і ціха, прыглушаным голасам сказала:

— Госпадзі, дык гэта ж Пётр!

Яна хацела паклікаць яго, але ў роце перасохла.

— Тата! — у адзін голас паклікалі Юля і Ваня.

Капітан спыніўся і паглядзеў на іх.

— Ён! — выдыхнула Таня і, ні то запытальна, ні то сцвярджальна, прамовіла: — Пеця?!

Капітан, нібы ад моцнага ўдару, пахіснуўся. Адкрыў рот, але сказаць нічога не мог. Ён развёў рукі і павольна пайшоў да іх. Нарэшце ён змог прашаптаць:

— Таня, дзеці мае! — і, зрабіўшы яшчэ некалькі крокаў, падхапіў рукамі дзяцей і жонку, якія кінуліся да яго.

У зале наступіла цішыня. Усе моўчкі глядзелі на іх. Да маёра, які сядзеў на лаве, падышла жанчына і кранула яго за плячо:

— Таварыш маёр, я вас вельмі прашу, перадайце, калі ласка, капітану, які сустрэў сваіх дзяцей і жонку, яго чамаданы, а я вельмі спяшаюся.

Яна паставіла побач два чамаданы і хутка выйшла на вуліцу. Недалёка стаяў крыты ваенны грузавік. Вольга Ільінічна падышла да лейтэнанта, які сядзеў на падножцы. Яны пра штосьці перамовіліся, і праз паўхвіліны яна ўжо была ў кузаве. Седзячы на цвёрдай лаве, уся ў слязах, яна ціха сказала:

— Родны, як я радая, што хоць ты з нас дваіх вярнуў сваё шчасце. Я напішу табе пазней, растлумачу…

## Славін

Цёплы, сонечны дзень. Славін, у светлай кашулі, трымаючы перакінуты праз левую руку пінжак, а ў правай — чамадан, які шмат што пабачыў, уваходзіў у сваю кватэру. Білася сэрца ў грудзях.

Хацелася кінуцца да маці. Але ж ужо не маленькі, павінен валодаць сабой. Адчыніў дзверы, прайшоў доўгі напаўцёмны калідор, пацягнуў на сябе наступныя дзверы. У невялікім пакоі бокам да дзвярэй стаяла маці і не бачыла яго. Пастарэлая, з багатай сівізной, яна моўчкі стаяла каля старога абшарпа-

нага стала, на якім шумеў прымус, і думала пра штосьці. Уладзімір нейкі час глядзеў на яе, потым ціха паклікаў:

— Мама!

Настасся Георгіеўна павярнула галаву, выпусціла лыжку.

— Вова! Валодзечка! — Яна абяссілена павісла ў яго на шыі.

З пакоя выскачыла Жэня.

— Валодзя!

І абедзве — маці і сястра — заплакалі.

А потым сядзелі за сталом, пілі слабенькі ліпавы чай і гаварылі, гаварылі. Настасся Георгіеўна цяпер ужо спакойна спытала:

— Сынок, што ты думаеш далей рабіць? Куды пойдзеш працаваць?

Уладзімір падняўся, абышоў вакол стала, спыніўся за спінай маці, моўчкі абняў яе і толькі тады адказаў:

— У міліцыю, мама.

— У міліцыю? Дык там жа могуць… забіць?

Ён прыціснуўся шчакой да яе галавы, усміхнуўся:

— Не заб’юць.

Пераканаць маці было не так проста. Уладзіміру ў той дзень каштавала нямала намаганняў атрымаць матчына блаславенне. У самы апошні момант Настасся Георгіеўна спахапілася:

— Чакай, чакай, сынок! Сёння ж пятніца. Ідзі ты ў гэту міліцыю заўтра.

Уладзімір засмяяўся, супакоіў яе:

— Добра, мама! Пайду заўтра.

І сапраўды, так ужо атрымалася, што пятніца для сям’і Славіных была нейкім фатальным днём. У пятніцу памёр дзед. У гэткі ж дзень сканала бабуля. У пятніцу фашысты арыштавалі Міхаіла Іванавіча. У той момант яны не маглі ведаць, што праз дзесяць гадоў, у пятніцу, памрэ Настасся Георгіеўна.

Уладзімір падышоў да расчыненага акна, убачыў пяшчотна-зялёнае лісце і падумаў: «Такім чынам, пачынаецца новае жыццё. Як яно складзецца?»

Так, для Славіна, як і для ўсіх нашых людзей, скончылася Вялікая Айчынная вайна. Аднак пра спакой ён пакуль не мог нават і думаць. Наперадзе яго чакалі іншыя трывогі, іншыя хваляванні. Барацьба працягвалася.

***Канец першай кнігі.***

***Пераклад з рускай Язэпа РУНЕВІЧА.***



Васіль МАКАРЭВІЧ

# МЕТЫ І СЛЯДЫ

* * *

Пакінуў
Я нямала ў свеце мет.
Вам доказы патрэбны? Калі ласка!
Іх дзесь да сёння беражэ цэмент
У стольнай, на вакзале
Яраслаўскім.

Вакзал гудзеў
У дымнай гаркаце,
Як смалакурня чадная ці гута.
І ледзь не тыдзень у глухім куце
З падлогай разам нас гайдаў
І гутаў.

А баламут,
Дзяляга-праваднік,
Хоць выбівала з выбівал бывалых,
Не мог білеты выбіць на цягнік
Для нас, у глуш тайгі
Завербаваных.

З начы вакзал
Цэмент пад бок нам слаў.

---

*__Макарэвіч Васіль Сцяпанавіч__ нарадзіўся 15 ліпеня 1939 года ў вёсцы Купленка Крупскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна (1964). Працаваў у газеце «Чырвоная змена», на Беларускім радыё.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Вогненная камета» (1963), «Мерыдыяны і паралелі» (1966), «Ліставей» (1971), «Вечнае дрэва» (1974), «Радоўка» (1977), «Праталіна» (1983), «Відушчы посах» (1987), «Сумежжа» (1989), «Квадратура круга» (2000), «Неба ў руках» (2012) і інш.*

*Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова (1994), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2013).*

І храпака такога мы давалі,
Што чуў яго, напэўна, Яраслаўль
За сотні вёрст, у спальнях
І — падвалах.

Калі ж рванулі
Ў шлях мы, як хутчэй, —
Я ведаў, на вакзале, у сталіцы
Цэмент прагнуты ад маіх плячэй
І яміны ад локцяў
Засталіся.

Валіў тайгу,
Скідаў, як з пнёў, гады,
Дайшоў з сякерай ледзь не да Аляскі.
Ды помніў скрозь пра меты і сляды
У стольнай, на вакзале
Яраслаўскім.

Прымчу ў Маскву
І — на вакзал хутчэй!
І там знайду, без компаса і лоцый,
Цэмент, прагнуты ад маіх плячэй,
І яміны глыбокія
Ад локцяў.

## ПЕСНЯ

*Марыі ЛАПА*

Каля карала
Зорыцца карал.
Ды капне з неба знічкаю імгненнаю,
Як толькі песню выведзе харал
У сарафане з вышыўкай
Агменевай.

І рэха чуйна
Ходзіць па кутах,
Хістае ў градах пудзіла гароднае.
Пакуль у небе кружыць песні птах
Па-над вячэрняй сцішанай
Гародняю.

То з дымнаю
Гарчынкай палыноў,
То з пахам багуноў сухой імшарыны
У Закарпацці песню слухаў Львоў

І панна Вісла з гжэчнаю
Варшаваю.

У песні свіст
І пошчак салаўя
І сцішаны усплёск заспанай Нарачы.
Ў калысцы песню гушкала жняя,
Сярпом калісьці ніву
Зажынаючы.

Быць не магла
Служанкай пры чынах,
У славе не купалася, бы ў возеры.
Хоць часам, як паненку, на чаўнах
На быстрыну стагоддзя
І вывозілі.

Калі ж улетку
Жнівень клапатаў,
Перабіваўся то касцом, то возчыкам,
З памежжа Польшчы ў песню залятаў
Бусліны клёкат з неўгамонным
Пошчакам.

Яна не раз
Падносіла сюрпрыз, —
Яе пачуўшы, перуны не гракалі
І выклікалі за мяжой на «біс»,
Каб зноў крылом кружыла
Сівагракавым.

З-за сотні рэк,
З-за тысячы дымоў
З важатымі, вятрамі міжгароднімі,
Вярталася з гасцей хутчэй дамоў,
Курляла ў небе родным,
Над Гародняю.

## ГРУЗДЫ

Ледзь ударацць раніцай дразды
І пачне гайдацца неба, шырыцца, —
Дол праломяць галавой грузды
І прашыюць груздзяняты шыльцамі.

Сыдзе, з крохкіх, семдзясят патоў.
Глушаць перуны іх, быццам доўбняю,

Аж пакуль да цвёрдых капытоў,
Як адзін, не зробяцца падобнымі.

Не сядзіцца у лясной глушы,
Быццам зачапіла іх кантузія.
Хоць ты кол на галаве чашы, —
Кожны лычам рые дол і тузае.

Носа ўверх не задзірай, браток,
Бо капрыз — патуга эфемерная!
Можна ссунуць капялюш набок
І падобным быць сабой на фермера.

Пара верне з долу, як з катла —
Ад расы сцюдзёнае заступніца!
Да груздоў ні прымхі, ані тля
Нізашто і блізка не падступіцца.

Грузд, ён — весялун і дока з док.
Урачысты, бы на дэманстрацыі,
Хоць і раннем прыкры халадок
Даланёй за каўняром памацае.

Не, не вэрхал распачнуць дразды
І не енк прачнецца дзесь у сажалцы, —
Гэта, знайце, ў печы дзесь грузды
На патэльні пражацца і смажацца!



Ала САСКАВЕЦ

# ДЗЯЎЧЫНКА А-ЛЯ МІРЭЙ...

*Маленькая аповесць*

Хударлявая, кволая на выгляд дзяўчына з заплечнікам за спінай і вялікай гаспадарчай сумкай у руцэ ішла лёгка і хутка па няроўнай лясной сцяжынцы. Ношу сваю перакідвала з рукі ў руку, не спыняючыся. «Цяжкая, відаць, — думаў высокі светлавалосы юнак. — Цікава, што ў ёй?» Ён ішоў за дзяўчынай ужо болей за кіламетр, а яна быццам і не адчувала яго прысутнасці, ні разу не азірнулася. «Ну азірніся, азірніся! — прасіў юнак у думках. — Мне трэба цябе дагнаць, але я не хачу спалохаць».

Раптам дзяўчына, нібыта пачуўшы яго просьбу, азірнулася. І, хоць адразу ж пайшла далей, хада яе змянілася: знікла лёгкасць крокаў, яна пачала чапляцца нагамі за выбоіны і карані дрэў. І тут прыйшлі ёй на памяць словы Фё Фё: «Стрэнеш у дарозе сабаку ці ваўка — не ўцякай, спыніся і загавары». «Цікава, а калі з чалавекам незнаёмым сустрэнешся, то што рабіць?» — спыталася ў сябе Ксюша і, не дачакаўшыся адказу, спынілася, паставіла сумку, павярнулася тварам да яго, дачакалася, пакуль ён наблізіцца, і смела спыталася:

— Ты ж не мяне сустракаў. Чаго ідзеш за мной?

— А што, нельга? Гэта ж не твая асабістая дарога, — спыніўшыся, адказаў той, імкнучыся надаць свайму голасу дзёрзкасці.

— Не асабістая, вядома ж, але мая, бо я па ёй часта хаджу, а цябе тут ніколі не сустракала, — Ксюша неяк адчула, што баяцца яго не трэба.

— А я першы раз, — у голасе юнака з'явіліся ноткі няўпэўненасці.

— І куды ж ты ідзеш, калі не сакрэт?

Хлопец задумаўся: схлусіць ці не? Але яму не хацелася хлусіць гэтай маленькай і крыху смешнай дзяўчыне, і ён, гледзячы ёй проста ў вочы, шчыра прызнаўся, што ідзе куды вочы глядзяць. Прытоены глыбокі сум і душэўны боль, які ўбачыла дзяўчына ў яго вачах, выклікалі спачуванне, але, схамянуўшыся, яна падумала: «Усім не дапаможаш. Ды і якая мне справа да яго?»

— Будзем лічыць, што проста гуляеш. Ну і гуляй, а мне ісці трэба, — сказала дзяўчына, не знайшоўшы другіх слоў.

— А я магу дапамагчы. Сумка, бачу, цяжкая. Давай паднясу, — сказаў юнак, як казаў шмат разоў іншым людзям, калі бачыў, што ім патрэбна дапа-

---

*__Саскавец Ала Мікалаеўна__ нарадзілася 13 верасня 1935 года ў г. Барысаве Мінскай вобласці. Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Працавала настаўніцай.*

*Апавяданні друкаваліся ў рэспубліканскіх газетах і часопісах. Піша таксама п'есы і вершы.*

мога. Рэдка хто яму давяраў, і гэтым разам ён ізноў падрыхтаваўся пачуць адмову, але дзяўчына на дзіва спакойна працягнула яму сумку і пайшла паперадзе. «Вось даверлівая! — падумаў юнак. — Я ж магу — у кусты!» Ён адчуў, як запахла каўбаса, каўтнуў сліну, засмактала пад лыжачкай. Вельмі захацелася есці. Каб перабіць думкі пра ежу, спытаў:

— А табе далёка ісці?

— Што, знясіліўся ўжо? — усміхнулася дзяўчына, павярнуўшыся да яго тварам.

— Во даеш! — усклікнуў юнак і дадаў: — Я ж магу ў кусты і…

— Мог бы, але не змог. А цяпер давай сумку, сама панясу.

— Ды не бойся, я пажартаваў, — юнак адвёў убок руку дзяўчыны, наблізіўся і, зазіраючы ёй у твар, загаварыў смялей: — Слухай, а табе хто-небудзь казаў, што ты вельмі падобная да Мірэй Маццье? Гэта французская спявачка.

— Годзе ўжо, не загаворвай мне зубы, — засмяялася дзяўчына, але для сябе зазначыла: «Не такі ён і недарэка, калі ведае, хто такая Мірэй Маццье».

— Не, сапраўды падобная. Я гэта падабенства заўважыў адразу, як толькі ты выйшла з аўтобуса: такі ж кірпаты носік, круглыя вочкі, а галоўнае — прыческа, — юнак правёў рукой вакол сваёй галавы. Яму вельмі не хацелася заставацца аднаму на гэтай лясной дарозе, і ён імкнуўся працягнуць размову.

— Ведаю я, хто такая Мірэй Маццье. І што падобная да яе, ведаю. А што? Ты пайшоў за мной, каб пераканацца, што я не Мірэй?

— Можа быць, — інтрыгаваў юнак.

— А калі пераканаўся, то давай знаёміцца. Я — Ксюша! — Сказала яна і гулліва працягнула хлопцу руку.

— А мяне Уладам людзі клічуць, — паставіў ён сумку, паціснуў дзяўчыне руку, потым галантна пакланіўся.

— А дарогу дадому знойдзеш? Не заблудзіш у трох соснах? — дзяўчына раптам жартаўліва перавяла размову на другую тэму.

— Дарог у мяне шмат. А вось дому няма, — задуменна вымавіў ён і тут жа схамянуўся, бо, відаць, не хацеў, каб яна яго шкадавала. — Кватэра, канечне, ёсць, а дому, лічы, — няма.

— Як гэта? — здзівілася дзяўчына, яшчэ хацела нешта сказаць, і раптам асеклася, убачыўшы зноў яго вочы. Гледзячы на бледны, бяскроўны твар, яна раптам падумала, што хлопец вельмі хоча есці, і, каб не прыніжаць яго чалавечай годнасці чарговым недарэчным пытаннем, сказала:

— Вой, я так хачу есці, не снедала ж! — схлусіла яна, бо лічыла, што хлусня дзеля ратавання не грэх. — А ты снедаў?

Юнак неяк няўпэўнена паціснуў плячыма, але тое, як прагна ў чарговы раз праглынуў сліну, выдала яго. Яна зразумела: хлопец вельмі хоча есці. Яе добраму, амаль яшчэ дзіцячаму сэрцу стала балюча, на вочы набягалі слёзы, і, каб не выдаць сябе, Ксюша пачала даставаць з сумкі бутэрброды з каўбасой, разламала агурочкі. Ад духмянага паху ва Улада ажно закружылася галава... Зрэшты, ён помніў гэты пах: латочніцы час ад часу частавалі яго такімі зялёненькімі, у пупырышках агурочкамі — плацілі за дапамогу.

Елі моўчкі, няспешна, асабліва Ксюша, бо ёй хацелася, каб Уладу дасталося больш. «Бяры, бяры! — падбадзёрвала яна, а сама са спачуваннем глядзела на яго, разважала і прыйшла да думкі, што іх лёсы, відаць, у нечым падобныя…

Такая ж доля магла напаткаць і яе, «тупаватую малпачку», як называлі яе паміж сабой не толькі дзеці. Пачуўшы неяк гэтыя ж словы ад адной настаўніцы, дзяўчынка вырашыла ў школу болей не хадзіць. Забіваючыся ў аблюбаваны на гарышчы дома куток, марыла толькі пра адно: знайсці сабе падобную,

такую ж няшчасную сяброўку. І знайшла. Дакладней, не яна знайшла, а яе знайшла Фёкла Фёдараўна з суседняга пад'езда, якая нядаўна стала працаваць у сталоўцы яе школы.

Знайшла яна Ксюшу заплаканую да ікаўкі, прывяла дадому, накарміла, выкупала ў ванне, загарнула ў прасціну і паклала спаць. Спала Ксенія на чужой пасцелі добра і доўга. Так доўга, што калі прачнулася, то ўбачыла: ля яе ложка вісела новая сукенка і ўсё, што апранаюць пад яе, стаялі новыя туфлікі са шкарпэткамі. Ксюша аж вачам не паверыла, пацёрла іх і тут пачула голас Фё Фё: «Прачынайся. Будзем апранацца».

Прыбраную Ксюшу Фёкла Фёдараўна павяла ў цырульню і амаль з парога звярнулася да майстрыхі: «Зіначка! Будзь ласкава, зрабі з гэтых валасоў нешта людскае». — «Будзе зроблена, Фёдараўна. Вой, якія яны пругкія і густыя. А колер які!.. Зраблю ёй «а-ля Мірэй». Згодна, дзіця?» Дзіця толькі кіўнула галавой: што яна на гэта магла сказаць? Слова такога Ксюша не ведала, але адчула, што павінна быць прыгожа, калі так кажуць. Ёй захацелася запомніць гэта слова, таму ціха паўтарала: «Алямірэй… Алямірэй…» Ціхутка, як мышаня, сядзела Ксюша, ажно пакуль па загадзе цёці Зіны не расплюшчыла вочы. Убачыўшы сябе ў вялікім люстэрку, глядзела моўчкі, нібыта ў сне, пакуль не пачула: «Гляньце на гэты цуд! Копія Мірэй Мацье! Ну, дзяўчо, ці ведаеш, хто яна?» — Ксюша зноў толькі адмоўна крутнула галавой, маўляў, не ведаю. — «Гэта спявачка французская, — патлумачыла ёй майстрыха і спытала: — А ты любіш спяваць?» — «Я не ўмею, — азвалася ўрэшце малая. — Я люблю маляваць»...

— Ксенія з тварыкам Мірэй Мацье, дзякуй табе за пачастунак, — голас хлопца, які нядрэнна падсілкаваўся і цяпер выціраў лісцем рукі, абарваў Ксюшыны ўспаміны.

— Гэты тварык, як ты кажаш, я маю, толькі дзякуючы маёй дарагой Фё Фё.

— Каму? — здзіўлена запытаўся новы сябар Ксеніі. — Якой Фё Фё? Гэта імя такое?

— Фё Фё — гэта Фёкла Фёдараўна. Нам, дзецям, цяжка было запомніць імя Фёкла, вось мы і сталі называць яе скарочана Фё Фё. Калі яна ўзяла мяне да сябе, я была жудасна непрыгожая. Валасы вылазілі з-пад бантоў і тырчалі ў розныя бакі. А на твары перш за ўсё ў вочы кідаўся мой кірпаты нос. Мяне таму ўсе ў школе і называлі «тупаватай малпачкай». І калі Фё Фё даведалася, што я ў школу не хаджу з гэтай прычыны, прывяла мяне да сябе, прыбрала і адвяла ў цырульню, дзе з мяне і зрабілі беларускую Мірэй. — Ксенія крутанула галавой — яе рыжыя валасы, заззяўшы на імгненне, узляцелі і апусціліся прыгожай хваляй. — Мне іншыя стрыжкі не пасуюць. І стрыжэ мяне з той пары толькі цёця Зіна. Я яе абажаю.

— Гэтая прычоска табе вельмі да твару. А што далей зрабіла твая дарагая Фё Фё? — Улада ўразіла самакрытычнасць дзяўчыны, і яму захацелася даведацца пра яе жыццё як мага больш.

— Што зрабіла? О! Яна пайшла ў школу і ўчыніла там такі тарарам. Не ведаю, што яна там сказала, але адносіны да мяне ў школе змяніліся. Я старанна наведвала заняткі, толькі вучоба мне давалася вельмі цяжка, і я разумею, што настаўнікі не адзін раз выцягвалі мяне на гэтыя «троечкі» і пераводзілі з класа ў клас. Ну, а ў вольны ад заняткаў час я стала дапамагаць сваёй заступніцы ў нашай школьнай сталовай мыць посуд. Дапамагала-дапамагала і нарэшце, калі Фё Фё пайшла на пенсію, а я скончыла дзевяць класаў, заняла гэтае месца.

— Ты працуеш пасудамыйкай?

— Некаму ж трэба і посуд мыць, — уздыхнула дзяўчына, — ні на што іншае я няздатная. Я дачка алкаголікаў. Мазгі ў мяне курыныя. Словам, дурнічка з тварыкам вядомай спявачкі.

— Зусім ты не дурнічка. Проста з праграмай не спраўлялася. Ды і не табе адной вучоба цяжка даецца. А колькі табе гадоў? — спытаўся Улад, каб адцягнуць дзяўчыну ад цяжкаватых успамінаў.

— Ужо шаснаццаць. А табе?

— Мне васямнаццаць хутка, значыць, я старэйшы за цябе.

Ксюша акінула вокам яго высокую, нават зграбную постаць: «Якое гора ці якое бязладдзе прымушае цябе, хлопча, ісці абы-куды?» — падумала яна і рашуча, хаця і не без іроніі, запыталася:

— Дык скажы мне, старэйшы, ты пайшоў за мной, каб мяне абрабаваць?

Такое нечаканае-канкрэтнае пытанне апаліла яго, як агнём. На імгненне ўзнікла жаданне сказаць няпраўду, прыдумаць прычыну больш-менш прыстойную. Але гэта было толькі адно імгненне, бо адразу ж недзе з глыбіні душы ўзнік загад: «Не хлусь!»

— Уцячы з гэтай сумкай — думка была. Я адчуваў, што ў ёй прадукты. Але ж… — больш слоў Улад не знайшоў. І хаця такое прызнанне каштавала яму вялікіх намаганняў, але пасля гэтых слоў ён адчуў нейкую палёгку.

Ксюша, нібы не заўважаючы яго збянтэжанасці, спакойна загаварыла:

— Гэта прадукты для старых, слабых людзей. Для майго прадзядулі і яго суседкі. Я іду іх не толькі наведаць, але і дапамагчы: у хаце прыбраць, бялізну памыць. З такой работай я спраўлюся, а вось дапамагчы дроў на зіму нарыхтаваць у мяне сіл малавата.

— А хочаш, я дапамагу? — голас Улада загучаў весялей, бо ў яго зацеплілася надзея, што гэтая дзяўчына, якую ён неспадзявана сустрэў, дапаможа яму.

— Цудоўна! Парэжаш, пасячэш, складзеш. Табе за гэта дзядуля заплаціць. Увогуле, у вёсцы працы — воз! Усю ніколі не пераробіш. А тут жа адны старыя. Ім дапаможаш — харчаванне і невялікі заробак табе забяспечаны. Можа, ты і касіць умееш?

— Касіць не ўмею, — прызнаўся Улад з жалем, — але навучуся!

— Нічога. Дзядуля цябе навучыць. Ён як возьме ў рукі касу — адразу маладзее. Каса дзынь-дзынь — і кладуцца радочкі травы роўненька-роўненька. А сонейка прыгрэе — і такі водар навокал… — з летуценна-загадкавай усмешкай сказала Ксюша.

— Ты так хораша сказала. Але гэта ж складана, мусіць, — голас хлопца зноў здаўся Ксені няўпэўненым.

— Як гаворыць мая дарагая Фё Фё: усё складана, пакуль не ўмееш, і калі ёсць жаданне ўмець, то навучышся.

— Твая дарагая Фё Фё — проста філосаф. Ты мяне з ёй пазнаёміш?

— Абавязкова. А пакуль што бяры сумку і пайшлі. Я скажу дзядулю, што прывезла яму работніка-памочніка. Толькі памятай: не прагаварыся, што мы з табой толькі што пазнаёміліся.

— А падманваць жа нядобра, — пачаў Улад, але Ксюша перабіла яго.

— Нядобра, але гэта падман дзеля дабра. Навошта іх дарэмна хваляваць? Я не ўпэўнена, што яны захочуць пакінуць у сябе незнаёмага чалавека. А майго сябра ў памочнікі возьмуць.

— А ты чаму мяне не пабаялася? — задаў Улад пытанне, на якое ў яго самога адказу не было, бо амаль з самага пачатку іх сустрэчы ён быў, як кажуць, агарошаны спагадлівасцю дзяўчыны.

— Таму што ўспомніла параду Фё Фё: «Не бяжы ад сабакі. Пабяжыш — ён абавязкова пагоніцца і захоча ўкусіць. Звярніся лепш да яго з добрым словам». Вось я так і зрабіла.

Праз кароткую паўзу Улад так зарагатаў, што ажно рэха па лесе пайшло, а на вачах у яго ад смеху з'явіліся слёзы. Ксеня з недаўменнем глядзела на хлопца і не магла зразумець, што яго так рассмяшыла.

— Я ўявіў, — прамовіў ён, давячыся ад смеху, — як я іду на чатырох лапах і хвастом віляю…

Тут Ксеня зразумела ўсю недарэчнасць сваіх слоў і, убачыўшы, што Улад зусім не пакрыўдзіўся і не раззлаваўся, спачатку ціха, потым гучней таксама зарагатала. Так яны ішлі, смеючыся, мабыць, некалькі хвілін. Пасля кароткага перапынку паскорылі хаду.

— А ты сама надоўга сюды? — спытаў Улад. Ён не ведаў, што чакае яго ў вёсцы, як паставіцца да яго дзядуля Ксені, і яму хацелася, каб побач была дзяўчына, якой ён стаў давяраць, хаця знаёмымі яны былі ўсяго некалькі гадзін.

— Заўтра паеду. Мне да адпачынку яшчэ тыдзень. Вось мы і прыйшлі. Бачыш? — узняла руку Ксюша ў напрамку вёскі, якая нібыта вынырнула з лесу і прытаілася сваімі хаткамі на яго ўскрайку. Улад убачыў першую хату: нізкую, урослую ў зямлю, абнесеную агароджай з неабчасаных жэрдак. Такіх хатак ён бачыў безліч, але гэта здавалася яму нейкай асаблівай.

— Тут жыве мой дзядуля, і, калі ты не перадумаў, тэпай за мной, — Ксенія паглядзела з усмешкай на юнака, які з хваляваннем зашпільваў гузікі на кашулі. — Смялей! — падбадзёрыўшы яго, пайшла, не азіраючыся, бо інтуітыўна адчула: гэты хлопец і надалей пойдзе следам за ёю, як ішоў па незнаёмай лясной сцяжынцы.

* * *

Дзед сустрэў Ксюшу на ганку і па ўсім было відаць, што даўно яе чакаў і быў занепакоены.

— Што ты так доўга ішла? Я ж ведаю, калі аўтобус прыходзіць… І колькі табе ісці ведаю, — бурчаў стары, ідучы ў хату.

— Так атрымалася. Прабач! — сказала Ксенія і перадала яму важкі рукзак. — Ну не бурчы, дзядулечка! Затое я табе во памочніка прывяла.

— Бачу, што прывяла. І яшчэ бачу, што не ён, а ты гэткую торбу несла, — азірнуўся жвава дзядок, аглядаючы хлопца, як кажуць, з ног да галавы.

— Ён нёс. Толькі вагаўся, ці варта табе на вочы паказвацца, — сказала Ксенія, надаючы свайму голасу як мага больш упэўненасці. Яна разгубілася: як лепш пазнаёміць Улада з дзядулем, бо ведала, як ён насцярожана адносіцца да незнаёмых маладых людзей.

— А хто ж ён? — затрымаўся ля парога Цімох і кіўнуў у бок Улада.

— Ён хто? Ну… сябра мой, — не дужа ўпэўнена сказала дзяўчына.

— А мо каханак ужо? Глядзі мне! — амаль суровым голасам сказаў дзед, пазіраючы то на Улада, то на Ксюшу. Цімох вельмі любіў сваю праўнучку, як мог, аберагаў яе ад уплыву, як ён называў, «гарадскіх крывых сцежак».

— Не выдумляй. Кажу, што сябра, — сумелася дзяўчо. — Я папрасіла яго прыехаць дапамагчы табе дроў на зіму назапасіць.

— Ксюша папрасіла, а я пагадзіўся, — азваўся нарэшце хлопец, зразумеўшы, што дзяўчына такім чынам хоча паказаць, што знаёмы яны даўно, і працягнуў дзеду руку. — Дзень добры. Мяне Уладам завуць. А вас?

— Кліч проста дзедам, сябра маёй праўнучкі. І ці надоўга прыехалі? Бо дровы рыхтаваць — справа не вельмі лёгкая, і шмат часу патрабуе, — даводзіў Цімох.

— Мне заўтра на працу. Прыеду праз тыдзень. А Улад застаецца, сказала Ксюша. — Ты яму тут работу дай. У яго вунь кеды на нагах рассыпаюцца. На новыя кеды няхай заробіць…

— Ну паглядзім, які з яго работнік, — палагаднеў дзед.

— Не сумнявайцеся! І напілую, і накалю, і складу, — павесялеў Улад, адчуваючы, што той недавер, з якім спачатку стары паставіўся да яго, пачынае паступова знікаць.

— Працаваць будзем разам, — заключыў дзед. — А зараз, маладзёны, даю каманду: мыць рукі і да стала.

— Дзядуля, — пачала Ксенія, — я не…

— І слухаць не хачу! Худая такая. Як ветрам цябе не здзьмувае. Паясі і мый бялізну. Я ўсё замачыў. І парашку пральнага насыпаў.

З гэтымі словамі стары рушыў у хату, а Ксюша пачала паліваць на рукі Уладу нагрэтую на сонцы ваду, чэрпаючы яе з вядра, якое стаяла на лавачцы ля ганка.

* * *

Праз нейкі час заспявала ў двары дзеда піла. На яе песню на падворак зазірнула суседка і азвалася досыць маладым для яе сталага ўзросту голасам:

— А я думаю сабе, з кім гэта Цімох так спрытна пілуе. Няўжо Ксюшка ў сілу ўвайшла? Добры дзень, малады чалавек.

— Добры дзень і вам, — азваўся Улад, не прыпыняючы справу.

— Праходзь, Варка, — запрасіў стары. — Пасядзі, пакуль Ксюха з рэчкі вернецца.

— Ужо бялізну памыць паспела? — здзівілася Варка.

— Дык жа я на досвітку ў парашку ўсё замачыў, — сказаў гаспадар, прыпыніўшы працу. — Табе таблеткі прывезла. І каўбасу доктарскую.

— А ўсё ж такі, Цімох, хто гэта табе дапамагае? — не сцярпела жанчына. — Можа, будучы зяцёк?

— Я?.. Я сябра Ксеніі, — удакладніў Улад і, каб адвесці ўвагу жанчыны ад сваёй асобы, запытаў: — Можа, і вам трэба будзе дровы ўпарадкаваць?

— А як жа! Трэба будзе, — перапыніла яго жанчына. — Закончыш тут — і прыходзь да мяне. Я ж суседка Цімохава.

— Знайду, дзе жывеце, — зухавата сказаў хлопец і спрытна раскалоў цурбан першым ударам.

— Бачу, хлопча, што не баішся працы. От, бабы нашыя ўзрадуюцца, што такога работнічка Ксенька прывяла, — і, убачыўшы дзяўчыну, якая вярнулася з поўным тазікам чыстай бялізны, дадала: — Дзякуй, Ксенечка, ад усіх за твой клопат і спагаду да нас, старых.

* * *

Так і затрымаўся Улад у гэтай невялікай вёсачцы на беразе нешырокай, ціхай рэчкі. Толькі на падворках пяці хат сакаталі куры і гарланілі пеўні, на трох — рохкалі свінні. А ў адной гаспадарцы, якраз на лужку ў Варвары, бяялі яшчэ і козы.

За тыдзень вяскоўцы Улада адкармілі, ды і грошы яму плацілі за работу добрыя, не скупіліся, бо ведалі цану працоўнага мазаля. Нешта яму з вопраткі і абутку перапала ад Варчынага ўнука, які служыў у войску і якому, мабыць, гэтыя рэчы ўжо былі малаватыя.

Улад днямі даволі спрытна пілаваў дровы пілой-аднаручкай, калоў іх, складваў. Нават Варчыным козам сена, як мог, касіў, сушыў ды ў хлеў складваў. А венікаў колькі навязаў ім у падзяку за малачко ды тваражок!..

А вечарамі сядзеў Улад з дзедам Цімохам на ганку, і вялі яны нетаропкую гутарку. Улад з гонарам расказваў Цімоху, што прафесія плітачніка, якую ён набывае, даволі запатрабаваная, бо ў гарадскіх кватэрах сцены ў кухнях і ваннах абкладваюць пліткай: белай, блакітнай, некаторыя і чорнай, а то і з рознымі ўзорамі. Улад, успамінаючы словы свайго майстра-настаўніка, не прамінуў сказаць, што класці плітку трэба акуратна і роўна, а для гэтага трэба мець спецыяльныя навыкі. Цімох з цікавасцю слухаў хлопца, бо з павагай адносіўся да працавітых людзей. Карыслівым і сквапным Цімох не быў ніколі, але, не абдзелены прыродай здаровай сялянскай прагматычнасцю, ён лічыў, што любая праца павінна аплачвацца, таму і запытаў:

— Колькі ж зарабляе плітачнік, бо праца, як я разумею, нялёгкая?

— Праца складаная, але грошы немалыя плоцяць. Вопытны плітачнік па сто даляраў у дзень зарабляе.

— Ого! А ты ўжо даляры зарабляў? — працягваў допыт Цімох.

— Што вы, дзядуля! Для гэтага трэба мець вопыт і інструменты. Яны дарагія, і мне іх пакуль не купіць. Цяпер я дапамагаю майстру і вучуся ў яго. Збяру грошай, куплю інструменты і буду даваць аб'яву ў газету, што магу пакласці плітку і зрабіць утульнай кухню ці ванну, — летуценна адказаў Улад.

— Добра! Прафесію трэба мець: тут ты на правільным шляху стаіш. Але даруй, што я ў цябе запытацца хачу: чаму ты, як я зразумеў, па вёсках цягаешся?

— Неяк жа трэба карміцца, — з сумам вымавіў Улад. — Гэта толькі летам. І прыроду я люблю. І ягады-грыбы збіраць можна. А іншы раз назбіраю і прадам. — Уладу станавілася ўсё больш утульна побач з гэтым чалавекам, пра якога ўсяго тыдзень назад ён нічога не ведаў.

— Ну, летам я разумею. А зімой як? — голас Цімоха задрыжаў.

— Зімой нас у ліцэі абедамі кормяць, — супакоіў старога Улад.

— А сняданак? А вячэра? — дзівіўся дзед.

— Дзеда!.. Не сып мне соль на рану… Маці, бывае, не п'е. Тады бываюць сняданкі і вячэры. А бывае, дапамагу латочніцам, а яны мне нешта і падкінуць, — яшчэ раз супакоіў Улад старога.

— Што з жанчынамі сталася? — з сумам сказаў Цімох. — Вось і мая ўнучка, Ксеньчына маці, такая ж… Сэрца рвецца. Як і дапамагчы не ведаю. Начамі, бывае, не сплю, усё думаю, думаю: чаму пры жывой маці дзіця ў чужой, сталага веку жанчыны жыве? Пытаюся ў Ксюшы, ці бачыцца яна з маткай. А яна толькі з сумам глядзіць на мяне: «Бачуся», — кажа. А я адчуваю, што тыя сустрэчы толькі болю ёй дадаюць. Штодзень дзякую Богу, што ён пашкадаваў маю крывіначку і паслаў гэтую жанчыну. Малю Бога, каб здаровенькая яна была як мага даўжэй, каб радасць мела ад Ксюшы. Перадаю ёй грошай трохі. Цяпер Ксеня не хоча ўжо браць, кажа, што зарабляе сама. Ды я і цяпер трохі сабраў грошай для яе. Колькі мне іх самому трэба. А вы ж маладыя! Бедныя вы, мае дзеткі.

— Нічога, дзядулечка! Прарвёмся! Свет не без добрых людзей. Галоўнае — не красці і на людзей не мець крыўды. Праўда? — ледзь не са слязой спытаў хлопец.

— Так-то яно так. Ксюшка мая, веру, праpвецца. І ты, дзякуй Богу, бачу, не зломак! — сказаў і пачаў падымацца. — Ну, пайшлі спаць.

Улад дапамог Цімоху падняцца, і яны ўдвух пайшлі ў прахалоду хаткі.

* * *

Так прайшоў тыдзень, праз які павінна была прыехаць Ксенія. І Улад чакаў яе. Чакаў, як мог бы чакаць сястру. А можа, нават і больш як сястру!

Чакала ад’езду да дзеда Цімоха і Ксюша. Чакала так шчыра, што Фёкла заўважыла гэта і спыталася:

— Што гэта ты так прыхарошваешся ў дарогу?

— Я прыхарошваюся? — нібы здзівілася дзяўчына.

— Канешне. Я заўважыла ў табе перамены. Расказвай! Як на духу гавары. Хто ён? Як завуць? Дзе жыве? — не адступала яе любая Фё Фё.

— Яго завуць Уладам. Цяпер ён жыве ў дзядулі Цімоха, — прызналася Ксюша і адчула, што ёй стала лягчэй на душы. — Я хацела вам расказаць…

— Хацела яна… — буркнула незадаволена старая.

— Праўда, хацела! — Ксюша прыхінулася і абняла жанчыну.

— Ён вясковы хлопец? — працягвала допыт Фёкла Фёдараўна. Яна палюбіла гэтае дзяўчо і шчыра жадала ёй добрай долі.

— Не. Гарадскі. Але можа пілаваць і калоць дровы. Гэтым нават зарабляе трошкі.

— Ясненька! — падвяла рысу Фёкла. — Зарабляе, бач…

— Улад добры. Вось пабачыце, — нясмела сцвярджала дзяўчына. — Я вас пазнаёмлю. Ён вернецца ў ліцэй на заняткі. Можна будзе запрасіць яго да нас? — у яе голасе былі і радасць, і трывога, і спадзяванне.

— Дык ён вучыцца? — больш лагодным голасам спытала Фё Фё і падумала: «Бачу, трэба будзе пазнаёміцца. Жыццё бярэ сваё». Паглядзеўшы ў пасвятлеўшыя вочы дзяўчыны, дадала: — А чаму ж не? Запрашай. Толькі папярэдзь, каб я плюшак напякла.

— Вы згодны? — узрадавалася Ксюша і, не дачакаўшыся адказу, кінулася з абдымкамі і пацалункамі да жанчыны. — Міленькая мая Фё Фё! Золатца маё любае. Якое шчасце, што ты ў мяне ёсць.

— Гэта і маё шчасце, што ты ў мяне ёсць, — выціраючы слязу, шаптала жанчына.

— І маё!.. І маё!.. — ледзь не крычала Ксюша.

* * *

А быў жа час, калі, лічы, нікога ў яе не было. Яна засталася амаль адна пасля смерці бабулі Каці. Пакуль тая была жывая, у Ксюшы быў свой тапчанчык з падушкай і коўдрай. А не стала бабулі — на той тапчан пачалі ўкладвацца матчыны сябры. І аднойчы адзін з іх улёгся ледзь не на Ксюшу. Дзяўчынцы зрабілася так страшна і агідна, што яна сышла з дому. Забілася ў закуток на паддашку, прыхапіўшы бабуліну коўдру. Захуталася ў яе з галавой, і ёй рабілася цёпла і ўтульна. Праз дзірачку заглядваў сонечны праменьчык. Калі Ксюша прыжмурвала вока, праменьчык разбіваўся на мноства рознакаляровых агеньчыкаў. Гэта яе забаўляла і параджала жаданне намаляваць гэтыя агеньчыкі алоўкамі. Сваіх алоўкаў у Ксюшы не было, але суседка па парце ёй іх давала. А Ксюша за гэта малявала такія ж агеньчыкі ў яе блакноце. «Толькі я ўжо не буду хадзіць у групу падоўжанага дня, — з сумам падумала дзяўчо. —

І ўвогуле ў школу не пайду. Невыносна чуць мянушку «тупая малпачка». І каб толькі школьнікі, а то і…» — заплакала ўрэшце Ксеня — і зніклі агеньчыкі. Праз слёзы дзяўчо выглянула з-пад коўдры і зразумела, што ўжо сцямнела, а яе ніхто не шукае. «Ну і няхай не шукаюць, — шаптала яна сабе. — Вось памру тут. Можа, хоць у труну пакладуць у новай прыгожай сукенцы. І плакаць па мне будуць… І кветкі прынясуць». На гэтай думцы ў яе галаве з'явілася карцінка: яна ляжыць у труне… І тут ёй стала вельмі страшна. Страшна і пад коўдрай. З вачэй цяклі слёзы, рукі размазвалі іх, аж пакуль Ксюша не заплакала наўзрыд. І во дзіва: праз плач дзяўчынка пачула крокі і пытанне: «Хто тут плача?» Ксюша пазнала голас цётачкі, якая калі-нікалі частавала дзяцей двара печывам. Дзецям цяжка было вымаўляць яе імя, і яны пачалі называць яе Фё Фё. — «Гэта я, Фё Фё, — азвалася Ксюша. — Вы прыйшлі забраць мяне?» — «Прыйшла. Ідзі да мяне, нам будзе весялей удзвюх. Я ўжо старая, дрэнна бачу. Ідзі, мая харошая. Не бойся».

Ксюша кінулася на голас і трапіла ў цёплыя, пахучыя рукі. З гэтай хвіліны яна перастала адчуваць сябе пакінутай.

* * *

Улад чакаў Ксенію на аўтобусным прыпынку з кветкамі. Быў ён апрануты ў крыху шыракаватыя ў таліі джынсы, белую сарочку з кароткімі рукавамі. На нагах былі новыя красоўкі, з якіх выглядалі белыя шкарпэткі. Светлыя, добра прамытыя валасы раздзьмуваў вецер, і хлопец спрабаваў закласці іх за вушы.

Такім яго ўбачыла Ксенія з вакна аўтобуса. І кветкі палявыя яна ўбачыла. Таму не адразу вырашыла, ад якой прыгажосці забілася яе сэрцайка і білася, ажно пакуль Улад не зняў з яе пляча ёмкі рукзак, не забраў з рук сумку і не ўсунуў у іх кветкі. Усё было зроблена аўтаматычна, без слоў, пакуль Ксюша не парушыла цішыню.

— Можа, павітаемся? А то кветкі сабраў, а словы згубіў. Ці што? — пакпіла дзяўчына, хоць самой было вельмі прыемна адчуваць такую ўвагу з боку юнака.

— Ой, прабач! З прыездам, — сумеўся хлопец.

— Добрай раніцы, — паправіла дзяўчына. — Як вы тут без мяне?

— Усё як след! Ты надоўга? — нясмела спытаў Улад.

— Не. Зноў у маёй зменшчыцы дзіця захварэла. Пайшлі ўжо. Чаго стаіш?

— Ой, прабач. Заглядзеўся на цябе.

— Можа, не пазнаў? — пажартавала Ксюша.

— Пазнаў. І бачу, што табе вельмі да твару гэтая сукенка.

— Дзякуй за камплімент. Ой, ты і майстар на іх, — засмяялася Ксюша.

— А гэта не камплімент. Гэта ад душы, — апраўдваўся Улад.

— І ты апрануты інакш. І кеды новыя, — разглядала хлопца, вакол яго ходзячы, дзяўчына. — А шкарпэткі чаму белыя купіў?

— Сёння тут такі гандаль быў — вось і купіў. А шкарпэткі толькі белыя і засталіся, — зніякавеў Улад.

— Белыя — гэта прыгожа, толькі іх кожны дзень мыць прыйдзецца, — паспачувала яна яму.

— А я і цёмныя кожны дзень мыю.

— Малайчына, — пахваліла яна яго, як хваляць звычайна старэйшыя малодшых, і Уладу падалося, што ён займеў старэйшую сястрыцу, якая будзе ім камандаваць, і гэта будзе яму ў радасць.

— Пайшлі, а то зноў дзед хваляваца будзе.

— Не будзе. Ты ж не адна цяпер будзеш ісці.

— Як добра, што ты мяне сустрэў, — напаўголаса сказала Ксенія.

— Па-другому быць не магло, — удакладніў Улад і застаўся стаяць, гледзячы на кветкі ў руках дзяўчыны.

— Як яны прыемна пахнуць! — уткнуўшыся ў букет, шчасліва засмяялася і гарэзліва глянула Ксенія на таго, хто першым у яе жыцці ўручыў ёй кветкі. — Дзякую.

Улад стаяў перад ёй з белазубай усмешкай. У вачах яго яна ўбачыла іскрынкі радасці, таму ціха пакрочыла, так і не адрываючы твару ад кветак і прыслухоўваючыся да яго хады.

* * *

Ужо на падыходзе да сялібы Ксюша заўважыла перамены: дровы адсвечвалі сонечным бляскам пад страхой уздоўж хлева, двор быў падмецены. У сенцах і ў запечку ляжалі трэскі і бяроста. А дзядуля смажыў карасікаў на патэльні, якая стаяла на трынозе на прыпечку.

— Прывітанне, дзядулечка! — падбегла да яго Ксюша. — Ой, якая смаката будзе! — сказала яна і пацалавала Цімоха ў белую бараду.

— Вунь каго цалуй, — кіўнуў дзед у бок Улада. — Гэта ён нацягаў гэтай драбязы.

— Я і пачысціў, — пахваліўся Улад.

— Малайчынка. Дзякую.

— А пацалунак? — пажартаваў хлопец.

— Абыдзешся, — нязлосна адмовіла дзяўчына. — Белыя шкарпэткі здымай. Запэцкаеш.

— Сам запэцкаю — сам і мыць буду.

— Ужо ж сам. Толькі не забывайся спачатку іх гадзіны на дзве мылам намыліць, — гарэзліва-павучальным тонам сказала Ксюша, узлахмаціўшы Уладу чуб.

— Дзякуй за параду, — толькі і паспеў сказаць Улад, як у двор зайшла Варвара і пачала здаля:

— Ксюша! Во тваражок табе прынесла.

— Дзякую, бабулечка, — азвалася дзяўчына, ідучы насустрач. — Да чаго ж ён у вас смачны. — А падышоўшы бліжэй, ціха спыталася: — Ну як тут мой пратэжэ?

— Ой, дзякуй, мілая, за такое пратэжэ. Такі хлопчык добры. Усім дапамагае.

— Заходзь, Варка, — выйшаў на ганак Цімох. — Паеш карасікаў з намі.

— З радасцю. Даўно не ела.

* * *

На гэты раз Ксюша ад’язджала не адна, а з Уладам. А ўбачыўшы сум у вачах дзядулі, суцешыла яго:

— Дзядулечка. Мы будзем прыязджаць да цябе, — прытуліўшыся да яго пляча прамовіла Ксюша.

— Як прыязджаць? Уладу ж вучыцца трэба будзе, — усумніўся стары.

— На выхадныя можна будзе. Ды і я ж таксама сумаваць па вас буду, — азваўся Улад.

— То і прыязджайце. Удваіх прыязджайце. Ці па аднаму. Я грошай на дарогу дам.

— Я ж працую, дзеда, — прыгадала Ксенія.

— А які ў цябе заробак. На во табе пару соценак, унучачка. І табе, Уладзь. Купі сабе штаны. А то гэтыя ў поясе шырокія, а так — кароткія. Як падстрэлены ходзіш. Ведама ж, Варчын унук паўнаваты.

Яны не хацелі браць грошы, але стары не адступаў, таму мусілі ўзяць. І вельмі да часу былі тыя грошы: на аўтобусным прыпынку зноў ішоў гандаль. Гандлявалі якраз джынсамі. Уладу не хапала трошкі, і Ксюша даклала. З вялікай неахвотай узяў у яе грошы хлопец. І толькі таму ўзяў, што збіраўся хутка зарабіць: дамовіўся ж з цёткай Варкай, што прыедзе да яе выбіраць бульбу. А яшчэ таму ўзяў, што і Ксюша змагла купіць сабе амаль такія ж. Гандляр, відаць, чуў іх ўгаворы, ведаў, чаму ў яе мала засталося грошай, таму прадаў ёй джынсы з вялікай скідкай.

Так што перад Фёклай Фёдараўнай Ксюша і Улад з'явіліся ў аднолькавых джынсах. А галоўнае: на абодвух яны ляжалі так — бы на іх шылі.

— Ну, вы як брат і сястра ў гэтых джынсах, — пажартавала Фё Фё.

Гэтая добразычлівасць прыгрэла Улада. Ён заўсміхаўся, павітаўся і пацалаваў руку жанчыне. Фёкла заўважыла, што яго белая сарочка, добра вымытая і акуратна высушаная, пасавала да белых шкарпэтак у сініх кедах. Доўгія светлыя, крыху закруцістыя валасы на патыліцы былі перацягнуты гумкай. Яго вялікія шэрыя вочы глядзелі на жанчыну з удзячнасцю і надзеяй. Менавіта яго вочы сказалі ёй, што гэты малады чалавек стане суджаным для яе падапечнай, яе, Фё Фё, такой неспадзяванай радасці: на старасці яна займела дачушку, добрую, удзячную дачушку, якраз такую, пра якую марыла змаладу, а Бог дасць — і зяця займее.

І ўжо засынаючы пасля доўгай бяседы за сталом, Фёкла Фёдараўна цвёрда ведала, каму яна пакіне сваю кватэру, свой нажытак, на каго можна будзе спадзявацца, калі зусім састарыцца і стане нямоглай.

Гэты такі просты роздум так запаланіў яе істоту ціхай радасцю, што яна пачала ўяўляць цэлыя сюжэты з іх будучага сумеснага жыцця: «Во Ксенія і Улад бяруць шлюб, а яна ў іх за маці… Ксенія і Улад — маладыя бацькі, а яна — за бабулю… З унукам ці ўнучкай няньчыцца: корміць яго ці яе з лыжачкі, казкі расказвае, кніжкі з ім ці з ёй гартае, у двары гуляе… І так ёй добра было ад гэтых уяўленняў, што яна і пра свае хваробы забывалася, і бяссонне адступала ад яе.

І прачнуўшыся на досвітку, мару займела — час прыспешыць. Захацелася ёй, каб Улад хутчэй тэрміновую службу адслужыў і на працу ўладкаваўся.

* * *

Не менш шчаслівым пачаў адчуваць сябе і Улад. Як раней было: на паўгалодны страўнік сядзіць ён на занятках і пра абед марыць. Пасля заняткаў ногі адбівае, каб які заробак набыць і без вячэры не застацца. Маці ж апошнім часам усё часцей з бутэлькай абдымаецца. Затым, небарака, плача, прабачэння просіць, клянецца, што кіне піць, а не стае ёй нечага, каб гэта зрабіць — мужчыны перашкаджаюць.

А цяпер Улад засынае і прачынаецца з адчуваннем радасці: ён цяпер не адзінокі падбіты птах, у яго амаль сям'я. Туды ён нясе свае меркаванні, мары. Яго там слухаюць, часам па-добраму смяюцца з шырокіх яго фантазій пра хатку за горадам, пра садок пры ёй, каб былі свае яблыкі, грушы, агурочкі-

памідорчыкі, ну і, вядома, лазенька: які рабочы чалавек не марыць пра яе. І ён не крыўдуе, калі Ксюша і Фё Фё пасмейваюцца, бо адчувае, што гэтым самым яны падбадзёрваюць яго. Вось чаму Улад не можа дачакацца размеркавання на практыку, бо ведае, што там можна будзе зарабіць не толькі на харчаванне, а і на тое-сёе з адзення. А ён жа марыць і Ксюшцы купіць пухавічок, каб не мерзла зімою. Купіць ёй яму хочацца нават больш, чым сабе, таму Улад прыглядаецца да дзяўчат-модніц, каб выбраць для Ксюшы пухавічок з капюшонам, аздобленым футрам.

І яшчэ ў яго навіна: цяпер ён, пакуль, праўда, пад наглядам сваёй сяброўкі, кожны вечар купляе не пепсі-колу ці кока-колу і баранак, а чвэртку хлеба і два скрылікі каўбасы. Самай, канешне, таннай. Але і яна прыцягальна-смачна пахне! Пахне вечарам, пахне раніцай. Улад падчас запівае свой бутэрброд простым кіпенем, але гэта ўжо не бяда. На занятках ён слухае тлумачэнні, адказвае на пытанні, і ўжо не думае, як раней, як пад’есці.

А яшчэ Улад з Ксюшай ходзяць на выстаўкі мастакоў. І пачалося гэта пасля таго, як Фё Фё паказала яму Ксюшыны малюнкі. Хлопец быў уражаны партрэтам Мірэй, намаляваным простым алоўкам.

— Адкуль гэта ў яе? — пацікавіўся ён у Фёклы Фёдараўны.

— Гэта яна сама малявала, — з гонарам сказала тая.

— Як? — здзіўленне Улада было такім непадробным, што Фёкла працягвала:

— Глядзела на сябе ў люстэрка і малявала. А во на гэты твар глянь! — падсунула Фё Фё Уладу аркуш паперы.

— І гэта яна намалявала?

— А хто ж? Запомніла твой твар і па памяці малявала.

— Дык ёй жа трэба вучыцца! — усклікнуў шчыра хлопец.

— А экзамены ці здасць? А так во малюе, як умее, і мае радасць. І мяне намалявала. Толькі дужа прыгожай, я лічу, — сказала Фё Фё.

Улад узяў у рукі партрэт пад шклом, уважліва паглядзеў на яго.

— Ці падобная? — занепакоілася жанчына.

— Вельмі. Як жывая вы тут, Фёкла Фёдараўна.

— Называй мяне, як Ксюша, — Фё Фё. Быў калісь герой серыяла Сі Сі. Так што і Фё Фё не горш.

Улад бачыў, што Ксенія адчувае радасць не толькі ад сваіх малюнкаў, а і ад чужых, таму пазнаёміўся з навучэнцамі мастацкага каледжа, каб ведаць, дзе праводзяцца мастацкія выстаўкі і імпрэзы. І работы Ксеніны паказаў, і тыя іх ухвалілі, назвалі геніяльнымі для самавучкі.

Ксюша і Улад разам хадзілі на выстаўкі, пераважна туды, дзе быў вольны ўваход ці танныя квіткі. Улада радавалі гэтыя сустрэчы з прыгажосцю. Ён і сам, здаецца, мог бы так маляваць, але толькі ў марах. А Ксюша малюе! Ён бачыць яе шчаслівыя вочы. З удзячнасцю яны яму ўсміхаюцца, і няма, бадай, больш шчаслівага чалавека ў гэтай зале, чым Улад. Хіба толькі сама Ксюша.

* * *

І вось ва Улада пачалася доўгачаканая практыка. Дні набылі іншы сэнс, іншым стаў рэжым яго жыцця, з’явіліся новыя самаадчуванне і самаацэнка. Мабыць таму, што Ксюша прымусіла Улада ўзяць у яе пазыку. Сціплую пазыку: усяго толькі на той жа хлеб і каўбасу, бо зарабіць на гэта ён ужо не меў магчымасці. Пазычыўшы ў Ксюшы грошы, Улад праз нейкі час павесялеў: ужо не даводзілася галадаць. Аднойчы пасля працы Фёкла Фёдараўна паціка-

вілася ва Улада, чаму ён сёння навучыўся, у чым удасканаліўся. Размаўлялі на кухні за вячэрай. Гаварылі прыкладна так:

— Ну, — пыталася Фёкла Фёдараўна, — што ты сёння рабіў?

— Сёння я рыхтаваў клеявы замес, — сур'ёзна і з гонарам дакладваў ёй хлопец, адклаўшы лыжку, бо еў ён заўжды няспешна, з асалодай, чым радаваў гаспадыню.

— А як яго рыхтуюць? — уступіла ў размову Ксюша.

— Для гэтага ёсць перфаратар, — тлумачыў юнак.

— А што гэта такое? — цікавілася Фёкла Фёдараўна.

— А вось уявіце: доўгі… ну, скажам, тоўсты аловак. З аднаго боку электрычны провад, а з другога — насадкі ў выглядзе… Як тут растлумачыць… — задумаўся хлопец.

— Дык гэта ж, мусіць, як міксер, калі насадкі, — умяшалася Ксенія. — Міксер, пэўна.

— Вельмі падобны, — сказаў Улад.

— Ясна. Я ж ім цеста ўзбіваю. У ваду сыплю муку, соль, цукар, — мовіла Фёкла Фёдараўна.

— Правільна. Ён так і называецца — будаўнічы міксер, толькі ў ваду я сыплю клеявы раствор. Ён бывае розных гатункаў: класічны — больш танны, а водатрывалы — даражэйшы, і выкарыстоўваюць яго як на вуліцы, так і ў кватэры.

— І правільна ты замясіў сваё цеста? — пыталася Фёкла Фёдараўна.

— Настаўнік пахваліў, — не без гонару сказаў Улад.

— Які настаўнік? Гэта ж не школа, — абурылася Ксюша, бо слова «настаўнік» яе вуха не лашчыла.

— Эх, малая! Настаўнік — гэта чалавек, які добра ведае сваю прафесію. На практыцы ў кожнага практыканта ёсць настаўнік. Ён паказвае, расказвае, прапануе практыканту ўбачанае паўтарыць.

— Тады мая любая Фё Фё была маёй настаўніцай! — паклаўшы галаву на плячо бабулі, з замілаваннем сказала Ксенія.

— Ну які з мяне настаўнік? — сумелася жанчына.

— Вы вялікі настаўнік, Фёкла Фёдараўна. З мяне, маўчуна, зрабілі апавядальніка…

— А шмат інструментаў трэба браць у рукі, каб стаць плітачнікам? — хітравата сажмурыла вочы Ксюша.

— Для якаснай работы трэба многае. Па-першае, галоўны інструмент — гэта пліткарэз, які рэжа плітку, як нож хлеб. Далей — ватэрпас, дрыль, свердлы па бетоне і керамічнай плітцы, кельня, шпатэль… — пачаў пералічваць хлопец.

— Хопіць! Хопіць на сёння! — запярэчыла Ксенія. — Мы гэтую гаворку расцягнем на доўгія вечары. Згодны?

Ксюша ўзняла руку, Улад і Фёкла Фёдараўна ў знак згоды дакрануліся сваімі далонямі да яе далоні. Усім было цёпла, утульна і весела ў гэтай двухпакаёўцы.

* * *

За такімі гаворкамі прайшла восень, надыходзіла зіма. Ксюша ўжо ведала, што шпатэлі бываюць простыя і зубчатыя, што такое валік для грунтоўкі і махавы пэндзаль; што плітачніку неабходна мець сродкі аховы: акуляры, рэспіратар, пальчаткі і г.д.; што няроўныя сцены трэба раўняць тынкоўкай; што праца плітачніка — працэс складаны, але аплачваецца даволі добра.

За гэты час Улад аддаў Ксюшы доўг, купіў ёй у падарунак на дзень нараджэння пухавічок, ды і сабе нешта прыдбаў. А галоўнае — ён ужо не быў, як кажуць, нахлебнікам у Фёклы Фёдараўны — мог даць ёй грошы за сталаванне. І ўвогуле, Ксюша, як ён жартаваў, стала яго асабістым банкірам, бо толькі яна ўмела распарадзіцца яго заробкамі так, што пазычаць грошы яму ўжо не трэба было...

Надыходзіла вясна, а разам з ёю набліжаўся час значных перамен у жыцці Улада. Яго прызывалі ў армію. І яму ў сувязі з гэтай падзеяй было дазволена датэрмінова здаць экзамены і атрымаць дыплом. Мара Фёклы здзейснілася: Улад і прафесію атрымаў, і пойдзе ў армію на тэрміновую службу. Толькі пра гэтую мару яна нічога не гаварыла сваёй прыдбанай дачушцы — баялася сурочыць. Яна толькі штодня маліла Бога, каб не развёў ён іх, каб даў ім шчасце быць разам, і каб яна сама магла грэць ля іх сваю старасць.

* * *

Канец красавіка быў па-летняму цёплы, людзі апраналіся лёгка. А май выдаўся дажджлівым, што, вядома, спрыяла дачнікам, а не тым, хто заставаўся ў горадзе. І хаця Аліса Фрэйндліх спявае, што «у природы нет плохой погоды», аднак дажджлівае надвор'е сапсавала сцэнарый адпраўкі прызыўнікоў на ваенную службу: на пляцоўцы каля ваенкамата аркестра не было, марш «Развітанне славянкі» не гучаў. А Фё Фё так хацела, каб яго пачуў і Улад, і Ксюша. Прызыўнікі стаялі на пляцоўцы са сваімі роднымі і сябрамі. Чакалі...

Каля Улада стаялі Ксюша, Фёкла Фёдараўна і яго маці. Фёкла паглядзела на яе і пашкадавала: жанчына вельмі разгубленая... Адчувалася, што Уладавай маці было сорамна перад ёй і Ксеніяй. Каб неяк падтрымаць маці юнака, надзяліць яе ўвагай і цяплом, Фёкла абняла жанчыну і Ксюшу, прыкрыўшы іх сваёй вялікай хусткай. Заўважыла, што жанчына спачатку сумелася, потым па яе твары слізганула ўсмешка і ўдзячнасць... Заўважыў гэта і Улад, на развітанне ён абняў усіх разам, хуценька пацалаваў кожную ў шчаку, а калі пачуў сваё прозвішча, пабег да камандзіра, які пастроіў ужо сваіх навабранцаў, аддаў каманду і павёў да аўтобуса.

Ксюша пайшла следам, неўзабаве ўбачыўшы, што Улад нешта хоча сказаць, стала побач і пачула: «Барысаў. Печы. Я напішу. Чакай». — «Буду чакаць, Уладзька!» — скрозь слёзы прамовіла і вуснамі, і вачымі дзяўчына.

Тым часам да яе падышла Фё Фё і дзяўчына ўткнулася тварам у яе прыплечча. А тая пачала яе гладзіць і шаптаць: «Паплач, дзіцятка, паплач. А ён няхай паслужыць. Мужчынам стане нашае хлапчанё». Ад гэтага шэпту, ад цёплых слоў «нашае хлапчанё» і ад ласкавых рук сваёй дарагой Фё Фё Ксюша супакоілася і, убачыўшы ў акне аўтобуса Улада, здолела памахаць яму рукой і ўрэшце зразумець: Улад стаў для яе не толькі сябрам, а і дарагім, каханым чалавекам; словы дзядулі Цімоха пры першай сустрэчы аказаліся прароцкімі. І што цяпер яна гатова ісці за ім ужо не толькі шляхам да дзеда, а і доўгім жыццёвым...



Соф'я ШАХ

# ВУЛАЧКА МАЯ...

## ВЯНОК САНЕТАЎ

**1**

Вулачка мая, сто раз апетая,
у мяне сама ты ўжо санетная,
ды, на жаль, урэшце па-сапраўднаму
толькі-толькі мною зразуметая…

Вулачка мая нясмела-смелая,
то зачаравана пышна-белая,
верная наўсцяж марозу ўладнаму,
і карункавая, і скалелая…

То зялёная скрозь пекны квет,
што ні дрэва — шолах, пошум, шэпт,
тайна-таямніца нібы нейкая…

То ўся свецішся ад жаўцізны,
барвы-чырвані, залацізны, —
вулачка мая ты Піянерская!

---

*__Шах Соф'я Мікалаеўна__ нарадзілася 29 лістапада 1947 года ў вёсцы Лясец Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці. Скончыла факультэт пачатковых класаў Мазырскага педагагічнага інстытута імя Н. К. Крупскай (1969), дэфекталагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя А. М. Горкага (1980). Працавала настаўніцай пачатковай школы ў вёсцы Гажын Нараўлянскага раёна, у вёсцы Цідаў, у пасёлку Азарычы Калінкавіцкага раёна, лагапедам у школе-інтэрнаце ў Светлагорску.*

*Аўтар паэтычных кніг «І не пакіне спадзяванне» (1989), «Пад высокай лагодай нябёс» (1995), кніг вянкоў вянкоў санетаў «Адухаўленне» (2000), «Прысвячэнне» (2001), «Прызначэнне» (2002), «Увасабленне» (2003), «Спасціжэнне» (2004), «Азарычы» (2007), зборнікаў вянкоў санетаў «На ўсё дабро ў адказ» (2003), «Кругаспеў» (2006), «Малітваспеў» (2010) і інш.*

**2**

Вулачка мая ты Піянерская,
о мая журбіначка ўсяленская,
ты паміж мінулым і цяперашнім —
надта ўжо мяжа-граніца рэзкая!

Вулачка мая, мая ты гэткая,
рэчаіснасцю сваёю меткая, —
ў сны трапляеш воблікам дагледжаным,
і тваё з'яўленне ў іх нярэдкае.

Снішся-снішся ўлоннем даўніны, —
так мае аблюбавала сны,
так сваімі вабіш ты мясцінамі,

ды таму што звабу ўсю тваю,
агарнуўшы, да душы тулю
тысячу разоў ужо ўспамінамі.

**3**

Тысячу разоў ужо ўспамінамі,
простымі працягамі, наіўнымі
песціла цябе, мая ты вулачка, —
застаюцца ўсё адно няўхільнымі.

Ўсё адно ты свістамі шпачынымі,
клёкатамі звонкімі буслінымі
будзіш-бударажыш думкі-думачкі —
і няма-нямашака спачыну ім.

Вось і зноўку, вось як бачыш зноў
з тых маладзіковых ты гадоў
усплываеш, вабнасцю прасветлая…

Ўся навідавоку, ўся як ёсць
невымоўная твая мілосць,
памяццю удзячнаю сагрэтая…

**4**

Памяццю удзячнаю сагрэтая,
то зімую я з табой, то летую,
бачу скрозь то сцюжнай, то спякотнаю,
а ўсё роўна шчырай ды прыветнаю.

Чую і аціхлай, і заветранай,
і дажджамі-струнамі ачэпленай,
а такою непаўторна-роднаю,
што радства дагэтуль і нямерана.

Раскашуюць вольна зрок і слых, —
я гатоўна адпускаю іх,
гэтай выспелай патрэбе верная.

Слухай зноўку, зноўку пазірай
на імпэт душы, яе адчай,
вулачка мая ты запаветная!

**5**

Вулачка мая ты запаветная,
вечнай незаменнасцю адметная,
гэтакая сэрцу асаблівая,
нібы ў чымсьці й сапраўды сакрэтная.

Лоннейка маё ты звышканкрэтнае,
досвіццю душы звышадпаведнае —
то вясёлае, а то журлівае,
вынікам каштоўным неймавернае.

Месцейка шчымлівае, куды
абарваліся мае сляды,
вось і сталі скрухай пракаветнаю.

Лапінка радзімая зямлі,
дзе мы ўчацвярох жылі-былі,
дзе стаяла хатка непрыкметная…

**6**

Дзе стаяла хатка непрыкметная,
там цяпер трава — трава бясследная,
там цяпер ні трэсачкі, ні шчэпачкі,
там цяпер пустэльня апраметная.

Голасць-немасць-глухасць несусветная
па-за агароджаю штыкетнаю,
толькі яблыні, як тыя метачкі,
па-над гэтай пустатою смертнаю.

А была сядзібка між сядзіб
з водарам старых дуплістых ліп,
з ценькімі распевамі птушынымі…

Ўсё было — хаця і ў цеснаце.
А цяпер ужо ўсё тое дзе?
Дзе — паміж клапотамі няўпыннымі?

**7**

Дзе — паміж клапотамі няўпыннымі?
Пад нябёсамі блакітна-сінімі,
пад нябёсамі пахмурна-шэрымі
міма йдзе-імчыць жыццё часінамі.

Міма — і вазамі, і машынамі,
крыкамі працягла-жураўлінымі,
ды вятрамі цёплымі і мёрзлымі,
ды над дахамі — віткамі дымнымі.

Ў нас таксама печ была, і дым
сведчыў з коміна штораз усім:
цеплынечка ёсць і ў нас надзейнае.

Селішча трымалася, жыло, —
ў ім скрозь кіпенных іспытаў зло
мама гаравала век свой, бедная.

**8**

Мама гаравала век свой, бедная.
Гараванне тое невымернае —
хатняе, дварова-агароднае,
з працаю-заробкам паралельнае.

Не была ёй доля міласэрнаю.
А душу матуля мела спеўную,
хоць у яве горкай і самотную,
ды ў надзеі ўсё-ткі летуценную.

Дзе яна цяпер, мая матулечка?..
Ну а ты жыві заўсёды, вулачка,
бо ў табе жыцця майго выток.

І каб ён скрозь прамяніўся моцаю,
і каб ёю славіўся, бясконцаю,
вулачка мая ты, — вось вянок.

**9**

Вулачка мая ты, — вось вянок!
Што ні слова ў ім — то васілёк,
то рамонак, ворлік, казялец,
то пралеска, зоркаўка, ўюнок…

Што ў ім ні агучаны радок —
то засвецяцца неназнарок

медуніца, смолка, дзьмухавец,
сон-трава і ландыш-краспачок…

Бэзу квет, акацыі, чаромхі,
каташкі вярбы, бярозы, вольхі
і цяпер мо высвячаюць змрок…

Ну а квет жа ліпавы — галоўны.
Як ён калісь уплываў, натхнёны,
на майго маленства беражок!

**10**

На майго маленства беражок
гэты вось вянок — нібы масток.
Перайду — убачу пекнату:
сажалку і поплаў-пятачок.

Поле там зусім непадалёк,
размаіты луг, жывы бруёк.
Дагаджу жаданню — прыпаду
зноў на смак паспрабаваць струмок.

Апушчуся ціхенька ў траву,
з воблакамі разам паплыву
ў свет звышдзіўнагучны і звышколерны…

Ну а там дзесь блізка ўжо зусім
траплю, адчуваючы уздым,
на майго юнацтва бераг стоены.

**11**

На майго юнацтва бераг стоены —
і не мяккі, і не заспакоены,
выхадкамі, рызыкамі стромісты,
неладамі, шаламі асвоены.

І аднак жа ўсё-такі не стомлены,
і аднак жа прагамі азораны,
на памкненні-дзеянні разгоністы
і на мары-мроі разняволены.

Вулачка мая ты… Божа-Божанька,
і куды яно ўсё знікла моцненька?!
Скрозь — адны абрывачкі ўваччу…

Перад імі скорана і роспачна,
перад імі клопатна і споведна
выпяю, адплачу, адшапчу.

**12**

Выпяю, адплачу, адшапчу,
адхвалююся і адтрымчу, —
памяццю ўсе хаты да адной
уяўлю і зноў пералічу.

Ці па снезе там, ці па дажджу
зрок гуляць паміж двароў пушчу,
і на кожненькім акне журбой
настальгічна ўспыхну, заблішчу.

І адзначу: знікла шчэ сядзібачка,
шчэ адна старая ўпала ліпачка, —
над пяньком чарговым памаўчу…

Шаты ўспомню тыя небаскробныя,
сцежкі-сцежачкі пясчана-цёплыя, —
жаль ва ўвесь твой воблік заключу.

**13**

Жаль ва ўвесь твой воблік заключу
і сама употай прасачу,
як ён струніць-горне да цябе
і сябе, і ўсю маю душу.

Як ён і ў спякоту, і ў імжу
часавую долее мяжу
і цябе ўсё туліць да сябе, —
мо яму хоць гэтак дагаджу.

Хай пацее, мерзне, мокне там,
хай тваім дварам, платам, садам
моліцца, дарэштачкі агалены.

Хай галубіць-песціць гэты твой
засяроджаны зямны спакой, —
можа, й стане скрухі меней споўнены.

**14**

Можа, й стане скрухі меней споўнены,
можа, й будзе трошачкі прыгоены,
ўбачанай тваёю рэчаіснасцю
трошкі і прытуплены, прыморапы.

Можа, й зразумее, гэткі спознены,
сам сабою змучаны і сточаны,
што ніякай існасцю і шчырасцю
не вярнуць той час калішні, сонечны.

Хай блукае між тваіх двароў, —
можа, й знойдзе нешта са слядоў,
што пацвердзяць: ты й цяпер імпэтная.

Можа, іншай сутнасцю якой,
а ўсё роўна роднай і жывой, —
вулачка мая, сто раз апетая…

**15**

Вулачка мая, сто раз апетая,
вулачка мая ты Піянерская,
тысячу разоў ужо ўспамінамі,
памяццю удзячнаю сагрэтая…

Вулачка мая ты запаветная,
дзе стаяла хатка непрыкметная,
дзе паміж клапотамі няўпыннымі
мама гаравала век свой, бедная…

Вулачка мая ты, — вось вянок
на майго маленства беражок,
на майго юнацтва бераг стоены.

Выпяю, адплачу, адшапчу,
жаль ва ўвесь твой воблік заключу, —
можа, й стане скрухі меней споўнены.



Валянціна КАЗАК

# ЧАРНОБЫЛЯ БУРА

## ЧОРНА-БЕЛАЯ ДОЛЯ
***трэнас-паэма***

Чорна-белая доля, чорна-белая…
Чарнобылем доля пабегла,
Бегла, бегла, не спытала:
«А на каго ж маці засталася?»

Чарнакрылая доля, чарнакрылая,
Чарнобылем глебу накрыла,
Накрывала глебу, не спытала:
«А на каго ж любая засталася?»

Вярталася, вярталася, доля, дадому,
Не кажы ты праўды нікому!
Чаму лясы нашыя пашарэлі?
Чаму дзеці нашыя пажарнелі?

Чорна-белая доля, чорна-белая…
Чарнобылем доля пабегла.
Бегла гаротніца, не спытала
«А на каго ж Украіна засталася?»

---

***Казак Валянціна Спірыдонаўна*** *нарадзілася 1 ліпеня 1946 года ў вёсцы Новыя Бездарычы Абухаўскага раёна Кіеўскай вобласці. Вучылася і працавала журналістам у Кіраваградзе, Вінніцы і Кіеве. З 1968 г. член Нацыянальнага саюза журналістаў Украіны, з 1979 — Нацыянальнага саюза пісьменнікаў Украіны.*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Сурми серця» (1975), «Чисті росі» (1981), «Поклик літа» (1988), «Гарячі Барви» (1988), «За Україну молюсь» (2011), «Чорно-біла доля» (2012) і іншых, кніг для дзяцей, фальклорных выданняў. Творы былі перакладзеныя на рускую, беларускую, нямецкую, кабардзінскую, балкарскую, малдоўскую і іншыя мовы.*

*Лаўрэат шматлікіх узнагарод, у тым ліку прэміі імя Міколы Трублаіні (1977), Сцяпана Руданскага (1996), фестывалю сытыры «Київ-92» (1992).*

## З ГОРАМ НАПАЛОВУ ЦЯЧЭ ВАДА

**1.**

З чорнага пекла Чарнобыля,
Змяінага чорнага горла
Праклёнам, журбою тут коціцца
Клубок векавечнага гора.

То страты горш за ардынскія,
Помста, праклёны і кара.
За знявагі слёз мацярынскіх
Каменнем злятаюць Ікары.

**2.**

Жываносныя воды Прыпяці!
Ачысціце нас, наталіце,
Дняпро шматпакутны, выжыві!
Слязьмі спорнымі рэкі атручаны,
Па Украіне цякуць.

Бяда сама не прыходзіць: з бядою
Белакроўнае племя калін.
Чым тыя раны загоіць
Мая Украіна,
Каб мудрым быў сын?!

«Я “не плачу, а выю сувора…”[1]
Над пажарамі славянскіх перлін.
У Прыпяці пад Гетмана дубраваю
Я не буду адзін…»

* * *

***Вязуць нас у «зону», мама!***
(З ліста салдата-ліквідатара
аварыі на ЧАЭС)

У лесе Тоўстым, у лесе,
Дзе людзі мелі мажлівасць хавацца,
Цяпер бегаюць звяры аблыселыя
Плутоніевымі сцежкамі —
Мама, нам тут не схавацца!

---

[1] Радок з Т. Шаўчэнкі.

* * *

***А лён цвіце сіні-сіні,***
***А маці чакае дадому сына.***

В. ЮХІМОВІЧ

Лён уночы
Расквітнеў.
— Дзе ж мае сыны? —
вецер спытаў.
Сінім квітнее
Лёну рака.
Прыпяць цячэ —
З журбою яна.
Пчолы гудуць,
Хлопцы мае
Ідуць на рэактар —
Прыпяць цячэ.

## ОЙ У ЛУЗЕ, У ДАЛІНЕ

***На каліну вецер вее —***
***каліна не спее.***

(З народнай песні)

Ой у лузе, у даліне
Квітнее каліна.
Выраджала у Чарнобыль
Маці рана сына.

А ўжо ж тая калінанька
На марозе грае,
Чагось доўга сын вайсковы
Назад не вяртае…

А ўжо ж тую калінаньку
Паклявалі зграі.
А калінавыя зернейкі
Каменне прабіваюць…

## МАЦЯРКАМ

Маёй сівізны свет палыну,
Тваёй сівізны чорны палын.
І не забудуць, і не пакінуць
Думкі месца, дзе загінуў сын.

За Зямлю загінуў.
З-за чужых правінаў.
І не даруе, і не пакіне
Зямля гэтая — мая Украіна.

## СУМНЫЯ РЭАЛІІ

Сцябецца Саламянка і Падол,
Ужо слэнгам ботае Кіеў.
Курсы грыўняў вышэй крыжоў.
«Долар, еўра, кошты-павеі…»

* * *

Паўз вейкі сонца не льецца — сніцца Чарнобыль,
сістэма пералівання крыві.
Чарнобылезалежныя мы
ад любові,
Болем абменьваемся,
болем, як промнем.
А нам шэпчуць:
«Ужо вы здаровыя!»

* * *

Вяртайся, зямелька, са скрухі,
Ты, палескі атручаны край,
З-пад падману чужынскае мукі
Павярніся і зёлкай хутчэй прарастай!
Хоць палыном, дзе раней было жыта,
Дзе каліна расла, цяпер саркафаг!
Катастрофы сусветнай сталіца,
Чарнабровы Чарнобыль ў дымах!
Мы на гэтай зямлі тут спрадвеку,
І ніколі нас не забіць.
Жыта памяці ўзыдзе зялёным,
А душа тое ведае і прамаўчыць.

## ПЛАЧ ПА ЧАРНОБЫЛЬЦАХ

Ты не вер ім, мама,
Што я паміраю,
Ты не вер, каханая,
Я ж так мала жыў —

Стану ветрам шалёным,
Зялёным клёнам у гаі,
Стану небам высокім —
У ззянні зламаных крылаў.

Тое жах ці адвага? —
А я не знаю —
Нас было там багата —
Маладыя ў гаі.

Стануць ветрам шалёным,
Зялёным клёнам у гаі,
Стануць небам высокім —
У ззянні зламаных крылаў.

— Што за вецер шалёны? —
Дачка запытала.
— Што за клён той зялёны? —
Жонка спытае.
Толькі маці заплача,
Украіна спявае:
«Іх Чарнобыля бура
Атруціла. Журба».

***Пераклад з украінскай***
***Адама ШОСТАКА.***

**Вячаслаў РАГОЙША,**
**Чжан ЛІНЬ**

# ТАНЕЦ У КАНДАЛАХ

*Пра пераклад беларускай паэзіі на кітайскую мову наогул і Максіма Танка — у прыватнасці*

Знамянальна, што першым беларускім пісьменнікам, з якім пазнаёміўся кітайскі чытач на сваёй мове, быў Янка Купала. Яго зборнік вершаў «Жалейка» выйшаў яшчэ да нараджэння Кітайскай Народнай Рэспублікі, у 1946 годзе, і быў перавыдадзены ў 1953 годзе, ужо ў народным Кітаі. Як сцвярджае даследчыца беларуска-кітайскіх літаратурных сувязей Вераніка Карлюкевіч, у XX ст. сродкамі кітайскай мовы быў узноўлены шэраг твораў беларускіх пісьменнікаў. Прычым перастваралася найперш проза. Гэта некаторыя апавяданні, аповесці, раманы, п'есы, у прыватнасці — Якуба Коласа («Дрыгва»), Петруся Броўкі («Калі зліваюцца рэкі»), Янкі Брыля («У Забалоцці днее»), Кандрата Крапівы («Хто смяецца апошнім», «Пяюць жаваранкі»), Янкі Маўра («Палескія рабінзоны», «ТВТ»), Івана Мележа («Людзі на балоце»), Святланы Алексіевіч («У вайны не жаночае аблічча»), у найбольшай ступені — Васіля Быкава («Трэцяя ракета», «Знак бяды», «Пайсці і не вярнуцца», «Сотнікаў», «Жураўліны крык», «Абеліск», «Дажыць да світання», «Воўчая зграя», «Альпійская балада») і Івана Шамякіна («Снежныя зімы», «Шлюбная ноч», «Атланты і карыятыды», «Гандлярка і паэт», «Вазьму твой боль», «Трывожнае шчасце») [1]. Кітайскамоўныя ўзнаўленні празаічныя, як правіла, выконваліся праз пасрэдніцтва рускіх мастацкіх перакладаў. Што да твораў паэтычных, то тут перакладаў значна менш. Назваць можна хіба што асобныя вершы і паэмы таго ж Янкі Купалы («Над ракой Арэсай», «Бандароўна», «Я — калгасніца», «Маладым паэтам»), вершы Якуба Коласа («Абаронцам роднай зямлі») і Петруся Броўкі («Беларусь»), паэмы Аркадзя Куляшова («Новае рэчышча», «Толькі ўперад», «Прыгоды цымбал»), а таксама зборнік вершаваных твораў Максіма Танка — бадай, самую значную з'яву беларуска-кітайскіх паэтычных стасункаў другой паловы XX ст.

Кнігу Максіма Танка «Выбраныя творы», выдадзеную ў Пекіне ў 1958 годзе [8], пераклалі два выдатныя кітайскія літаратары — Гэ Баоцюань (1913—2000) і У Ланьхань (нар. у 1926), які па сёння карыстаецца псеўданімам Гаа Ман. Абодва яны, апрача ўсяго, — цудоўныя знаўцы рускай літаратуры і культуры ўвогуле, актыўныя даследчыкі кітайска-рускіх культурных узаемадачыненняў, аўтары шматлікіх артыкулаў і кніг па дадзенай праблематыцы. Свае веды і творчыя здольнасці з часам пашырылі і на іншыя нацыянальныя літаратуры былога СССР, у тым ліку на беларускую і ўкраінскую. У прыватнасці, Гэ Баоцюань перакладаў творы Янкі Купалы, Гаа Ман — Тараса Шаўчэнкі. Яны актыўна ўдзельнічалі ў сустрэчах кітайскіх і савецкіх пісьменнікаў, што ў свой час даволі рэгулярна праходзілі як у СССР, так і ў КНР. Скажам, Гаа Ман упершыню пазнаёміўся з Максімам Танкам яшчэ ў 1954 г. у так званым «цягніку дружбы»; пазней, праз тры гады, суправаджаў яго (як перакладчык і дарадца) у часе месячнай пабыўкі беларускага паэта ў Паднябеснай. Яго кантакты з Беларуссю і беларусамі працягваюцца па сённяшні дзень. У розны час ён сустракаўся з многімі беларускімі пісьменнікамі, мастакамі, журналістамі — З. Азгурам, Р. Барадуліным, А. Вяр-

цінскім, С. Алексіевіч (пераклаў яе кнігу «У вайны не жаночае аблічча»), Г. Паплаўскім, Н. Гальпяровічам, А. Карлюкевічам, І. Плескачэўскай і інш., намаляваў графічныя партрэты некаторых з іх, надрукаваў пра іх артыкулы ў кітайскай прэсе [2]. У 1957 г. з Максімам Танкам пазнаёміўся і Гэ Баоцюань. Тыя непасрэдныя кантакты паўплывалі як на спасціжэнне (а пасля і пераклад) твораў народнага паэта Беларусі на кітайскую мову, так і на даволі хуткае (пасля тых кантактаў) выданне яго кнігі ў Пекіне.

Прадстаўляючы Максіма Танка кітайскім чытачам, Гэ Баоцюань у першым нумары часопіса «Шыкань» за 1958 г. пісаў: «За апошнія гады нямала паэтаў з брацкіх краін апелі новы Кітай... Максім Танк — гэта паэт з Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі... У верасні—кастрычніку 1957 г. (дакладней — з 29 верасня па 30 кастрычніка 1957 г. — **В. Р., Ч. Л.)** Максім Танк у складзе савецкай дэлегацыі знаходзіўся з візітам у Кітаі. Ён прысутнічаў на ўрачыстасцях, прысвечаных восьмай гадавіне ўтварэння Кітайскай Народнай Рэспублікі, на плошчы Цяньаньмынь у Пекіне, браў удзел у цырымоніі адкрыцця руху па мосце праз раку Янцзы ў горадзе Ухань і іншых мерапрыемствах па ўшанаванні падзей Кастрычніцкай рэвалюцыі. «Ля варот Цяньаньмынь»... напісаны якраз у Кітаі» [1, с. 20]. Відавочна, Гэ Баоцюань у апошнім выпадку памыліўся, бо, згодна аўтарскаму датаванню, гэты твор быў напісаны ўжо ў лістападзе, пасля вяртання Максіма Танка ў Мінск (14.XI.1957). Да кітайскай пабыўкі паэта можна аднесці толькі два яго вершы — «Мост дружбы» (14.X.1957) і «Белы Конь» (24.X.1957). Вандроўніцкая сумятня, калі за дзень часамі трэба было пераадольваць (на машынах, цягніках, самалётах) па некалькі сот, а то і тысяч кіламетраў, не садзейнічала паэтычна-творчай сканцэнтраванасці. У той жа час Максім Танк амаль штодня запісваў у свой дзённік ўражанні ад новых краявідаў, розных мерапрыемстваў, паездак, сустрэч з кітайскімі дзяржаўнымі і партыйнымі дзеячамі, пісьменнікамі, работнікамі культуры, звычайнымі рабочымі і сялянамі. Тыя дзённікавыя запісы, што ўпершыню апублікаваны ў Зборы твораў пісьменніка ў 13-ці тамах [10], вельмі прыдаліся яму крыху пазней, калі ён актыўна працаваў «над цыклам вершаў пра Кітай» (запіс ад 21.XI.1957 [10, с. 497]). Так, у тым жа лістападзе 1957 г. з'явіліся вершы «Зорным шляхам» (10.XI.1957), «Сайн-Шанд» (12.XI.1957), «Мост дружбы» (14.XI.1957), «Вялікая кітайская сцяна» (21.XI.1957), у снежні — «Ці Бай-шы» (5.XII.1957). Гэты цыкл паэт працягваў ствараць, нягледзячы на розныя непрадбачаныя акалічнасці («Едзем з Любашай у Варшаву. Каб не прэмія, не паехаў бы, а сядзеў бы і пісаў бы свае кітайскія вершы»; запіс ад 26.XI.1957 [10, с. 497]), не толькі ў канцы 1957, але і ў пачатку наступнага года: «Далей працую над кітайскім цыклам сваіх вершаў» (запіс ад 6.III.1958 [10, с. 499]). Так напісаліся яшчэ вершы «Хустка» (11.I.1958), «Лунмынскія пячоры» (25.I.1958), «Ван-суй!» (5.II.1958), «Міска для рысу» (6.II.1958), «Мост вечнага спакою» (8.II.1958), «За бяседным сталом» (9.II.1958), «Бронзавае люстэрка» (27.II.1958), «Лаян» (27.II.1958). Усе гэтыя вершы пасля склалі вялікую публікацыю ў чацвёртым нумары «Полымя» за 1958 г. Але і далей «кітайскае натхненне» часта прыходзіла да паэта, адлівалася ў радкі вершаў «Я паўдня вас чакаў...» (2.III.1958), «Засуха ў правінцыі Хэнань» (5.III.1958), «На новабудоўлі» (6.III.1958), «Цень помніка ў люстры возера Дынху» (8.III.1958), «Янцзы» (11.III.1958), «Попельніца з какосавага арэха» (17.III.1958), «Старая прымаўка» (28.III.1958), «У будынку былых курсаў сялянскага руху» (7.IV.1958), «На Жамчужнай рацэ» (8.IV.1958), «У майстэрні кветак, якія не вянуць» (9.IV.1958), «Альтанка Чжычуньцін» (28.IV.1958), «Усход» (29.IV.1958). Названыя вершы сталі асобнай нізкай у шостым нумары таго ж «Полымя» за 1958 год. Дзве публікацыі вершаў кітайскага цыкла склалі разам 27 твораў.

У той час, калі ў Мінску Максім Танк актыўна працаваў над кітайскім цыклам вершаў, у Пекіне ішла інтэнсіўная праца па перастварэнні верша-

ваных твораў беларускага паэта на кітайскую мову. І не толькі для іх публікацыі ў перыёдыцы, але найперш — для запланаванага асобнага іх выдання. Калі ранейшыя (не кітайскага цыкла) вершы мелі ўжо даволі добрыя рускія адпаведнікі, якія — як пасрэднікі — можна было выкарыстоўваць кітайскім перакладчыкам, то гэтага нельга сказаць пра вершы кітайскага цыкла. Яны — у рускамоўных перакладах Якава Хялемскага — з'явіліся пазней, дзвюма падборкамі былі надрукаваны ў часопісах «Знамя» (1958, № 10) і «Новый мир» (1959, № 10), пасля ж склалі асобную кніжку «Восток зарей пылает» [7]. Таму паралельна з напісаннем вершаў Максім Танк сам рабіў іх рускамоўныя падрадкоўнікі і па просьбе кітайскіх сяброў адсылаў у Пекін. Пра гэта, у прыватнасці, сведчыць наступны дзённікавы запіс: «15.III.[1958]... Паслаў пісьмо і некалькі падрадкоўнікаў сваіх вершаў Гэ Баоцюаню, які збіраецца іх даць у сваім часопісе «Дружба» [10, с. 499].

У выданне «Выбраныя творы» ўвайшло ў цэлым звыш трох дзясяткаў вершаў беларускага паэта. З іх траціна — вершы з кітайскага цыкла, якія пераклаў Гаа Ман. Гэта «Ля варот Цяньаньмынь», «Вань-суй!», «Ці Бай-шы», «Хустка», «Міска для рысу», «Мост вечнага спакою», «За бяседным сталом», «Бронзавае люстэрка» і інш., у тым ліку два творы, напісаныя яшчэ да пабыўкі паэта ў Кітаі («Блакітная рака», «Да кітайскіх сяброў»). Кітай у вершах Максіма Танка апісаны з дапамогай арыгінальных геаграфічных рэалій, фаўністычнай і фларыстычнай лексікі, вобразаў вядомых асоб (гістарычных дзеячаў, майстроў мастацтва), гістарычных падзей, кітайскіх тапонімаў, фальклорных элементаў — фрагментаў легенд і паданняў, а таксама багатага арыгінальнага вобразнага ладу, які ўвасабляе катэгорыі індывідуальна-аўтарскай паэтычнай карціны свету. Максім Танк актыўна выкарыстоўваў прыёмы мастацкай дэталі, тэматычнага паралелізму, вобразы-сімвалы. У вершах сустракаюцца словы безэквівалентнай лексікі, якія абазначаюць паняцці, характэрныя для кітайскай культуры, кітайскія прыказкі і прымаўкі. У кітайскім цыкле створаны абагульнены вобраз Кітая — ад старажытнага да сучаснай паэту дзяржавы. Для фарміравання вобраза Старажытнага Кітая паэт часта выкарыстоўваў імёны гістарычных персанажаў. Дэталёва і дакладна ўзнавіў атмасферу Старажытнага Кітая, яго культуру.

Як жа гэта паэтычная карціна Кітая, і старажытнага, і сярэдзіны XX ст., створаная Максімам Танкам, скапіравана пэндзлем кітайскага мастака-перакладчыка? Перш чым адказаць на гэта пытанне, трэба спыніцца на самой *спецыфіцы* паэтычнага перакладу ўвогуле, на праблеме яго *адэкватнасці*, якую, у сваю чаргу, нельга вырашыць без разумення асаблівасцей нацыянальнай вершатворчасці. Тым больш што сутнасць, характар, сама методыка перакладу беларускай паэзіі на кітайскую мову яшчэ, здаецца, ні ў беларускім, ні ў кітайскім перакладазнаўстве ні разу не закраналася.

Пытанне пра адэкватнасць перакладу мастацкіх тэкстаў, перш за ўсё паэтычных, вершаваных, з'яўляецца адным з найбольш складаных у перакладазнаўстве. Гэта звязана як з пэўнымі патрабаваннямі да якасці перакладу ўвогуле, так і з асаблівасцямі перакладу менавіта мастацкіх тэкстаў, дакладней — мастацкіх твораў. Творы мастацкія адрозніваюцца ад проста тэкстаў (навуковых, дакументальных, афіцыйна-справавых і інш.) перш за ўсё тым, што іх сістэмаставаральнай сутнасцю з'яўляецца мастацка-эстэтычная функцыя, увасобленая як у змесце, так і ў форме. Больш за тое — у арганічным перапляценні, адзінстве таго і другога. Асноўная мэта такіх твораў заключаецца ў дасягненні эстэтычнага ўздзеяння на чытача (слухача, гледача) не толькі праз іх змест, але і праз форму (паэтыку).

Сярод усіх відаў і жанраў літаратуры лірычная паэзія мае самую складаную структуру, строга рэгламентаваную форму, высокую ступень семантыка-стылістычнай і вобразнай канцэнтрацыі, што з'яўляецца галоўнай асаблівасцю, якая адрознівае вершаваны тэкст ад іншых відаў мастацкіх тэкстаў. Аднак менавіта гэта істотна ўскладняе задачы перакладчыка.

Прадметам нашага даследавання ў дадзеным выпадку мы ўзялі найперш узнаўленне ў кітайскіх перакладах, бадай, самага істотнага кампанента паэтыкі верша — яго рытма-метрычнага малюнка. Пры гэтым будзем карыстацца прынятым у перакладазнаўстве тэрмінам *эквірытмічнасць* (накшталт *эквірыфменнасць*, *эквілінеарнасць*). Пад эквірытмічнасцю разумеецца паўнавартаснае ўзнаўленне рытмічнага малюнка твора, які перакладаецца. Гэта — адзін з важнейшых крытэрыяў арыгінальнасці перакладу, захавання эстэтычнай і нацыянальнай своеасаблівасці першакрыніцы.

Метрычны лад кітайскага вершавання далёкі ад вершавання беларускага (як, дарэчы, і рускага). Кітайская і ўсходнеславянскія мовы (як, зрэшты, і ўсе еўрапейскія) — тыпалагічна розныя. Гэта, зразумела, уплывае на характар рытмічнай арганізацыі кітайскага верша, з аднаго боку, і беларускага — з другога. Кітайская паэзія, у асноўным, здаўна стваралася і ствараецца па сённяшні ў сістэме, блізкай да сілабічнага вершавання, у той час як сучасная беларуская — пераважна сілаба-танічная. Кітайская мова, яе лексічныя і прасадычныя асаблівасці не дазваляюць сілаба-танічнага вершавання, што шырока бытуе ў славянскіх, рамана-германскіх, англійскай і іншых еўрапейскіх мовах.

Сілабічнае вершаванне, як вядома, заснавана на сувымернасці вершаваных радкоў па ліку складоў: у радках павінна быць аднолькавая колькасць складоў (прынцып ізасілабізму). Такі верш спачатку ўзнік і атрымаў распаўсюджанне ў еўрапейскіх мовах з фіксаваным месцам націску ў словах: у французскай (на апошнім складзе), польскай (на перадапошнім), чэшскай (на першым) і г. д. Ва ўсходнеславянскіх мовах націск свабодны, г. зн. ён можа знаходзіцца ў словах на любым месцы. Дадзеныя прасадычныя асаблівасці беларускай і рускай моў і прадвызначылі тое, што рускае і беларускае вершаванне пераважна сілаба-танічнае. Пад сілаба-танічным вершаваннем (ад грэч. συλλαβή — склад і τόνος — націск) разумеецца такі спосаб арганізацыі верша, пры якім націскныя і ненаціскныя склады чаргуюцца ў пэўным парадку, нязменным для ўсіх радкоў верша, — прынцып танізму). Разам з тым сілаба-тоніка змяшчае ў сабе і прынцып ізасілабізму: у вершаваных радках паўтараецца аднолькавая колькасць складоў, як і ў сілабічных вершах. Менавіта таму гэта вершаванне і называецца *сілаба-танічным* [4, с. 27—45].

Беларускае вершаванне першапачаткова (пад уплывам чэшскага і польскага верша) узнікла як сілабічнае. Першыя вершы выдатнага першадрукара, перакладчыка і асветніка «са слаўнага горада Полацка» Францыска Скарыны (каля 1490 — каля 1551), якія ўвайшлі ў прадмову да кнігі «Псалтыр» (1517) — першай з 23 перакладзеных ім на старабеларускую літаратурную мову кніг Бібліі — былі менавіта вершы сілабічныя. Пазней, у сярэдзіне XVII ст., дзякуючы творчасці яшчэ аднаго знакамітага беларуса Сімяона Полацкага (1629—1680), які на запрашэнне цара Аляксея Міхайлавіча пераехаў у Маскву, яны паклалі пачатак і рускай вершатворчасці, таксама сілабічнай. Руская сілабіка праіснавала да першай трэці XVIII ст. уключна, да вядомай рэформы Традзьякоўскага—Ламаносова, да замены яе сілаба-тонікай. У беларускай жа паэзіі сілабіка ўтрымалася ажно да канца XIX ст. Аднак цяпер ні ў рускай, ні ў беларускай паэзіі сілабічная сістэма вершаскладання не выкарыстоўваецца, бо такія вершы гучалі б ненатуральна, як нейкі анахранізм. Ільвіную долю сучаснай вершатворчасці складаюць вершы сілаба-танічныя, шырока бытуюць танічныя, перш за ўсё дольнікі. З другой паловы XX ст. распаўсюджанне ў былым СССР, і ў першую чаргу дзякуючы менавіта Максіму Танку, атрымаў верлібр [4, с. 58—64].

У аснове класічнага кітайскага вершавання ляжыць чаргаванне ў вершаваных радках складоў з рознай музычнай танальнасцю, якія адрозніваюцца адзін ад аднаго вышынёй і характарам гучання (роўны, уздымны, спадна-ўздымны тон). Распаўсюджаная сістэма кітайскага вершавання называецца *гэлюйшы*, што перакладаецца як статутны, ці рэгулярны, верш. Для гэлюйшы характэрна

аднолькавая колькасць у вершаваных радках складоў-слоў (прынцып ізасілабізму), а таксама рэгулярнае чаргаванне ў іх тонаў і строгая рыфма. На пісьме вершаваны памер вызначаецца колькасцю іерогліфаў у радках верша, бо кожны кітайскі іерогліф — гэта і асобны склад, і слова адначасова. Менавіта такім вершам напісаны пераважна добра вядомыя беларускім чытачам па перакладах творы Ван Вэя, Ду Фу, Лі Бо, Ай Ціна і іншых выдатных кітайскіх паэтаў. Стаўшы класічным, гэты верш праіснаваў чатырнаццаць вякоў і не знік у нашы дні. Распаўсюджаны від гэлюйшы — статутны верш *шы*, радкі якога, як правіла, складаюцца з пяці (5-складовы) ці сямі (7-складовы) іерогліфаў (слоў/складоў). Пры дэкламацыі яны дзеляцца цэзурай напалам, аднак паколькі лік складоў у радках няцотны, то ў канцы другой паловы радкоў паўзай выдзяляецца апошні склад (іерогліф). Што да музычных тонаў, то яны па сваім меладычным гучанні дзеляцца на роўныя (*пін*) і няроўныя (*цзэ*). У паэтычным творы яны чаргуюцца строга паслядоўна, тым самым ліквідуецца манатоннасць у вершы, узнікае музычнасць і ствараецца своеасаблівая мелодыка: тон то павышаецца, то паніжаецца. Менавіта гэта хвалевая мелодыка і ляжыць у аснове своеасаблівага рытму, характэрнага для кітайскага верша [12].

Для некаторых даўніх паэтычных відаў і формаў (песенная лірыка, адычная паэзія) характэрна ўжыванне змешанага вершаванага памеру: у іх радкі ўтрымліваюць розную колькасць іерогліфаў. Разнастайнасць у паэзіі жанраў, у прыватнасці такіх, што вядуць сваё паходжанне з народнай творчасці, звязанай, у сваю чаргу, з жывым маўленнем, стварыла перадумовы для з’яўлення і пашырэння ў кітайскай вершатворчасці першай трэці XX ст. свабоднага верша, што сфармаваўся пад моцным уплывам еўрапейскага верлібра.

Разгледзім цяпер характар узнаўлення вершаў Максіма Танка сродкамі кітайскай мовы і кітайскай паэтыкі. Прычым спынімся выключна на вершах паэта з яго кітайскага цыкла. Усе гэтыя вершы, як мы ўжо казалі, пераклаў Гаа Ман, які, паводле Кастуся Ладуцькі, «у апошнія некалькі гадоў… стаў вядомай фігурай у беларускай літаратурнай перыёдыцы» [2]. Па законе імавернасці можна дапусціць, што тая самая методыка перакладу прысутнічае і ва ўсіх іншых перакладах вершаў беларускага паэта з яго кітайскай кніжкі «Выбраныя творы» (1958). Пры гэтым будзем кіравацца разуменнем адэкватнасці перакладу — перакладу, які максімальна адпавядае тэксту арыгінала, як зместу яго, так і форме.

Звернемся найперш да аналізу рытмікі кітайскіх узнаўленняў вершаў Максіма Танка. Мы ўважліва прааналізавалі ўсе творы кітайскага цыкла ў перакладах Гаа Мана. Да якой высновы можна прыйсці? Як паказвае супастаўленне арыгіналаў з іх кітайскамоўнымі аналагамі, асаблівасці гэлюйшы — сістэмы, паводле нашага меркавання, найбольш набліжанай да ўсходнеславянскай (у тым ліку беларускай) сілаба-тонікі — амаль не запатрабаваныя ў кітайскіх перакладах вершаў беларускага паэта. Напрыклад, верш *«Міска для рысу».* За выключэннем першага і шостага радкоў, у якіх заўважаецца шасцістопны ямб (Я6 — 13 складоў), увесь твор напісаны пяцістопным ямбам (Я5 — 10 або 11 складоў). Вось яго пачатак:

1. У імператарскіх палацах у Пекіне
2. Каштоўнасцей і скарбаў не злічыць:
3. Драконы,
         габелены,
                  паланкіны,
4. Тысячагодняй даўнасці карціны,
5. Багі,
      калчаны,
            стрэлы
                  ды мячы [9, с. 163].

Прывядзем цяпер цалкам кітайскі тэкст гэтага верша:

**古 碗**

**Даўнейшая чаша**

1. 在 北 京 的 故 宫 里
У Гугуне Пекіна
2. 陈 列 着 无 数 的 珍 宝:
Выстаўлены бясконцыя скарбы:
3. 有 金 龙 ，有 壁 毡 ，有 花 轿 ，
Залатыя драконы, насценныя дываны, вясельныя паланкіны,
4. 有 古 代 名 家 们 的 绘 画 ，
Творы жывапісу старажытных майстроў,
5. 有 弓 矢 ，有 箭 壶 ，有 宝 刀。
Лукі і стрэлы, калчаны, каштоўныя клінкі.
6. 有 从 古 冢 里 出土 的 陶 瓷:
Ёсць кераміка і фарфор з старажытных магіл:
7. 一 头 瘦 削 的 火红 色 的 骆 驼 ，
Адзін стомлены вогненны вярблюд,
8. 昂 着 头 在 迎 风 嘶 叫。
Раве супраць ветру з узнятай галавой.
9. 也 许 ，它 因 为 身 上 背 着 重 担 受 了些 委 屈 ，
Можа быць, ён прыніжаны цяжкай паклажай,
10. 也 许 ，在 荒 漠 里它 想 喝 点 儿 水 ，睡 一 场 觉?
Можа быць, у пустыні ён хоча глыток вады, паспаць?
11. 也有古代的乐器。
І старажытны музычны інструмент.
12. 只要用手触动一下 ，
Толькі кране рука —
13. 它马上就会发出声响 ，
Ён загучыць меладычна,
14. 讲出风儿怎样在这个国家里喧嚣.
Раскажа, як вецер дзьме па краіне.
15. 讲出人民在将什么歌唱和梦想？
Выкажа, пра што народ спявае і марыць?
16. 这儿还有一只平凡的古碗。
Тут яшчэ адна простая драўляная чаша.
17. 低下头来仔细看一看 ：
Нагнуся і ўважліва пагляджу:
18. 里面并没有盛着什么饭菜……
У ёй няма рысу...
19. 可是今天人们多么幸福,
Аднак як сёння шчаслівыя людзі,
20. 以为每个人都能吃饱了饭
Таму што кожны можа паесці дасыта [8, с. 100].

Параўнанне перакладу з арыгіналам паказвае: асноўны *змест* танкаўскага верша, яго *сэнсавае напаўненне* перададзены. Перакладчыцкія замены («У імператарскім палацы у Пекіне» на «У Гугуне Пекіна»), г. зв. прырашчэнні («*залатыя* драконы», «*вясельныя* паланкіны»), апушчэнні («каштоўнасцей», «багі», «лукі») і інш. цалкам дапушчальныя, асабліва пры перакладзе паэтычнага твора, дзе на лексічную тоеснасць у многім уплываюць вымогі рытмікі і рыфмікі. Зрэшты, скажам адразу: і ў астатніх узнаўленнях вершаў Максіма Танка іх змястоўна-вобразная сутнасць, за асобнымі выключэннямі, захавана. Тут Гаа Ману варта аддаць належнае. Аднак як жа ўзноўлены рытма-інтанацыйны лад першакрыніцы? Згадваючы нашы ранейшыя развагі пра беларускае і кітайскае вершаванне, супастаўляючы тое і другое, бачым: найбольш прымальным з'яўляецца перастварэнне беларускай сілаба-тонікі кітайскім гэлюйшы. У кітайскай мове адсутнічае націск, таму пра перадачу націскных і ненаціскных складоў гаворка ісці ўвогуле не можа. Але ж у беларускай сілаба-тоніцы прысутнічае і вымога ізасілабізму, якая ляжыць у аснове класічнага, шматвяковага гэлюйшы. Гэтую асаблівасць рытмікі Максіма Танка — аднолькавую (прыблізна аднолькавую) колькасць складоў у вершаваных радках — якраз можна (і трэба!) перадаць. Праўда, пры гэтым будзем мець на ўвазе надзвычайны лаканізм кітайскай мовы: кожны іерогліф — асобнае слова і склад адначасова. Таму колькасць складоў у перакладах звычайна меншая, чым у арыгінале.

У першых пяці вершаваных радках працытаванага перакладу колькасць складоў адпаведна: 7, 8, 9, 9, 9 (у арыгінале: 13, 10, 11, 11, 10). Як бачым, першыя два і наступныя тры радкі твора ў перакладзе маюць амаль аднолькавую колькасць складоў (іерогліфаў), па сутнасці нагадваюць арыгінал. Калі б аднолькавая (прыблізна аднолькавая) колькасць складоў (іерогліфаў) захавалася і ў астатніх радках верша Максіма Танка на кітайскай мове, мы маглі б гаварыць пра захаванне ў перакладзе прынцыпу эквірытмічнасці. Аднак у той час як ва ўсіх наступных радках арыгінала рытм вызначае, апрача іншага, і аднольвая колькасць складоў (10 або 11, апошні радок — 6), у кітайскамоўным варыянце верша сустрэнем самую розную колькасць іх: 9, 10, 11, 8, 16, 16, 7, 8, 9, 14, 13, 11, 9, 11, 10, 11. Беларускі сілаба-танічны верш, такім чынам, не ўзноўлены ў дадзеным выпадку кітайскім сілабічным гэлюйшы, і мы не можам гаварыць пра эквірытмічнасць перакладу нават з папраўкай на прасадычную рознасць моў.

Прынцып эквірытмічнасці ў гэтым перакладзе, апрача сказанага, парушаюць яшчэ два моманты: павялічаная колькасць радкоў у параўнанні з арыгіналам (з 18 да 20), а таксама незахаванне сэнсава прадвызначанага рытмічнага ўсячэння апошняга радка верша (на дзве стапы). Як першае, так і другое, несумненна, таксама ўплывае на рытм канкрэтнага твора. Праўда, гэта ўжо стасуецца лакальнага, а не генеральнага парушэння прынцыпу эквірытмічнасці.

Звернемся зараз да другога прыкладу — узнаўлення рытмікі верша *«Хустка»*. У арыгінале — сем двухрадковых строфаў, усяго 14 радкоў. Вершаваны памер — шасцістопны ямб (Я6), у кожным радку па 13 складоў.

Згадаем беларускі тэкст:

1. Дзяўчына з роду Мяо хустку вышывала:
2. Узяла іголку ў пальцы, ніткі падабрала

3. Вясёлыя, як промні весняга світання,
4. Блакітныя, як неба над зямлёй Юньнаня,

5. Пявучыя, як гукі тэна або гонга,
6. Срабрыстыя, як хвалі бурнага Меконга.

7. Як вышыла — з усмешкай нітку адкусіла
8. І мне як госцю гэту хустку падарыла.

9. Бяда, што, як вярнуся да сяброў, дадому,
10. Я не змагу дарунак паказаць нікому,

11. Бо не з шаўковых нітак была хустка гэта,
12. А з танцаў, песень Мяо, звону бранзалетаў.

13. Заплюшчу вочы — бачу, задумаюся — чую:
14. Дзяўчына з роду Мяо спявае і танцуе [9, с. 162—163].

А цяпер — кітайскае ўзнаўленне верша Максіма Танка:

**手绢**

**Хустка**

1. 苗族姑娘正在绣手绢，
Дзяўчаты з племені Мао вышываюць хустку,
2. 手捏着针，选妥了线。
Трымаюць у пальцах іголку, падабраўшы ніткі.
3. 绚烂的线儿好像阳春的曙光，
Яркія ніткі, як ранішняя зара вясны,
4. 蓝色的线儿和云南家乡的天色一样。
Сінія ніткі, як колер неба ў родным горадзе Юньнане.
5. 线儿仿佛能发出清脆的声响，如同锣钹，
Ніткі выдавалі звонкі гук, нібы кімвал,
6. 银色的线儿宛如汹涌的澜沧江的浪花。
Срэбныя ніткі, як бурныя хвалі ў рацэ Ланьцан.
7. 姑娘含着微笑咬断了丝线，
Дзяўчаты перакусілі нітку з усмешкай,
8. 随将绣好了的手绢送给我远方的客人留念。
Потым дарылі вышытыя хусткі далёкім гасцям на добрую памяць.
9. 遗憾的是自从我告别了朋友们返回家园，
Шкада, што з тых пор, як я развітаўся з сябрамі, вярнуўся домоў,
10. 我无法把这块手帕拿给别人去看。
Я не магу паказаць гэтую хустку іншаму.
11. 因为那是有苗族的歌舞和银镯的鸣啭，
Таму што гэта прыгожая каляровая хустка
12. 绣成的一块美丽多彩的手帕。
Была вышыта з песень племені Мао, танцаў і гукаў срэбнага бранзалета.
13. 如今只要我闭上眼睛就能听到和看见，
Цяпер, як толькі заплюшчу вочы, дык слухаю і бачу малюнак,
14. 苗族姑娘唱着歌翩翩起舞的场面。
У якім дзяўчаты з племені Мао танцуюць пад песні [8, с. 109].

Параўнаем кітайскі пераклад з беларускім арыгіналам. Перакладчык у цэлым дакладна перадаў зместавую сутнасць верша Максіма Танка, хаця у тым-сім і «падправіў» беларускага паэта. Так, у арыгінале — «дзяўчына з роду Мяо», у перакладзе — «дзяўчаты з племені Мао», «як хвалі бурнага Меконга» — «як бурныя хвалі ў рацэ Ланьхань»… Магчыма, перакладчык у перадачы канкрэтных рэалій больш дакладны, чым сам аўтар твора. Не забудзем, што Гаа Ман суправаджаў Максіма Танка ў яго паездцы па Кітаі, быў з ім на ўсіх сустрэчах, мерапрыемствах. Відаць,

на самай справе перад савецкімі гасцямі танцаваў свой адметны танец цэлы калектыў дзяўчат, а не адна дзяўчына, і былі яны не з роду, а з племені, і не Мяо, а Мао… Хаця, як мы ведаем, мастацкая праўда ўсё ж адрозніваецца ад праўды рэальнай і часта ўражвае нас больш, чым тая, рэальная. Ды зараз не пра гэта. Як жа ўзноўлена рытміка арыгінала? Колькасць складоў ва ўсіх строфах верша, як і ў папярэднім выпадку, тут самая розная: 9, 8 // 12, 14 // 15, 16 // 11, 18 // 17, 14 // 16, 11 // 16, 14. І гэты твор, як відаць, перакладзены на кітайскую мову не сілабікай. Таму гаварыць пра эквірытмічнасць, няхай сабе частковую, таксама не даводзіцца.

Каб быць дакладнымі ў аналізе і ацэнцы перакладаў, спынімся яшчэ на адным прыкладзе — узнаўленні верша «Бронзавае люстэрка». Арыгінал яго, напісаны трохстопным амфібрахіем (Ам3), складаецца з дзюх васьмірадковых строфаў з рыфмоўкай а**б**в**г**д**б**е**г**:

1. О бронзавае люстэрка
2. З грабніцы старой ці з кургана,
3. Скажы мне: якая глядзела
4. Ў цябе чараўніца-дзяўчына
5. І як яна веер трымала,
6. Ва ўборы якія прыбрана
7. Была, калі дом пакідала
8. Ў вясельным сваім паланкіне?
9. Скажы мне, прыпомні: якімі
10. Былі яе вусны і вочы?
11. Ты чуеш? Я тут, у музеі,
12. Гатоў пачакаць аж да рана.
13. Маўчыш ты? Няўжо не прыпомніш?
14. Ці мо адказаць мне не хочаш?
15. Тады я не знаю — навошта
16. Цябе адкапалі з кургана!.. [9, с. 165].

Прывядзем цяпер кітайскае перастварэнне гэтага верша:

1. 哦，你这面从古墓或者是荒冢里出土的铜镜呀，

О, бронзавае люстэрка з даўняй грабніцы ці пустыннай магілы,

2. 告诉我吧：是那位天仙似的美女用来照过自己的脸庞？

Раскажы, якая прыгажуня, падобная да багіні, глядзела ў цябе, каб бачыць свой прыгожы твар?

3. 还有，当她坐上花轿，离开了自己的老家

Яшчэ, калі пакідала радзіму, як яна трымала ў руках веер і якое адзенне было на ёй,

4. 她手里怎样拿着扇子，她身上穿着什么样的衣裳？

Відаць, яна была апранута ў паланкін вясельны?

5. 告诉我吧！回想一下吧！他的眼睛和嘴唇是什么模样？

Раскажы! Успомні! Якія яе вочы і вусны? Чуеш?

6. 你听见吗？为了等待回答，我在博物馆里一直待到大天亮。

Каб чакаць адказу, я гатовы застацца ў музеі да світання.

7. 你一声不响？难道你回想不起来？还是你不愿意讲？

Чаму ты маўчыш? Няўжо ты забыла ўсё? Ці не хочаш расказаць?

8. 那我真不理解：为什么要把你从古墓或是荒冢里发掘了出来…

Калі гэта так, то я не разумею, чаму адкапалі цябе з даўняй грабніцы ці з пустыннай магілы… [8, с. 102].

Як і ў папярэдніх узнаўленнях, змест арыгінала перададзены ў цэлым дакладна. Аднак адразу кідаецца ў вочы парушэнне перакладчыкам эквілінеарнасці: васьмірадкоўі пертварыліся ў чатырохрадкоўі, з шаснаццаці радкоў верш скараціўся да васьмі. Гэта, так сказаць, лакальнае, прыватнае адступленне ад паэтыкі арыгінала. Што да адступлення асноўнага, генеральнага, то і ў гэтым узнаўленні, як і раней, не захаваны прынцып ізасілабізму, які, хоць бы часткова, мог перадаць рэальнае рытма-інтанацыйнае гучанне першакрыніцы, напісанай сілаба-танічным вершам. Падлік іерогліфаў (складоў) паказвае на іх самую розную колькасць у вершаваных радках: 19, 22, 16, 20, 21, 25, 20, 25. Значыць, і тут мы сустракаемся з тым самым своеасаблівым верлібрам.

У перакладах іншых вершаў Максіма Танка з яго кітайскага цыкла таксама не вытрыманы прынцып ізасілабізму. Назавем некаторыя з гэтых вершаў і колькасць іерогліфаў (складоў) у вершаваных радках:

«Ля варот Цяньаньмынь» — 11, 11, 13, 14, 15, 10, 15, 13, 12, 11, 10, 14, 11, 14, 13, 12, 10, 10, 16, 12, 10, 16, 13, 17.

«Ван-Суй!» — 10, 16, 13, 15, 10, 4, 7, 4, 10, 10, 8, 14, 10, 14, 11, 12, 2, 11, 12, 10, 8, 9, 9, 8, 5, 12, 7, 2, 2, 4, 8, 6, 11, 10, 4, 8, 13, 7, 6.

«Ці Бай-шы» — 8, 10, 13, 8, 6, 9, 5, 4, 14, 12, 10, 10, 7, 9, 9, 9, 8, 8, 12, 10, 12, 6.

«Мост Вечнага Спакою» — 15, 15, 14, 14, 17, 15, 14, 14, 11, 19, 21, 17.

«Засуха ў правінцыі Хэнань» — 9, 6, 10, 11, 12, 13, 11, 10, 11, 10, 8, 10, 13, 10, 10, 12, 14, 11, 14, 13, 10, 6, 6, 10, 7, 9, 7, 8, 8, 15,10, 17, 16.

Як вядома, верлібр з’явіўся ў рускай і беларускай паэзіі яшчэ ў пачатку XX ст., але ў савецкі час быў выдалены з паэзіі (нярэдка разам з яго стваральнікамі) як «тлетворное влияние буржуазного Запада», «мертворожденное дитя» і г. д. Максім Танк, які пачаў сваю творчасць па-за СССР, у былой Заходняй Беларусі, верлібрам часам карыстаўся нават на самым пачатку свайго паэтычнага шляху. У прыватнасці, ім напісаны 4% вершаў, што ўвайшлі ў кнігу «Пад мачтай» (Вільня, 1938) [6, с. 190]. Аднак пасля 17 верасня 1939 г. да верлібра, як і ўсе савецкія паэты, звяртацца ён не мог. Становішча змянілася толькі пасля 1956 г. І звязана гэта было з вынікамі лёсавызначальнага для савецкай краіны XX з’езда КПСС, які выкрыў культ асобы Сталіна з яго таталітарнымі метадамі кіравання народнай гаспадаркай, са шматлікімі абмежаваннямі, у тым ліку ў галіне літаратуры. І Максім Танк у самым канцы 1950—пачатку 1960-х гг. стаў карыстацца верлібрам зноў. Так, калі ў зборніку вершаў «След бліскавіцы» (1957) верлібраў яшчэ няма, то ў кнізе «Мой хлеб надзённы» (1962) такіх твораў ужо 6%, у «Глытку вады» (1964) — 19%, а ў «Перапісцы з зямлёй» (1967) — ажно 32% [5, с. 190]. Прыблізна ў трэці сваіх лірычных твораў Максім Танк звяртаўся да верлібра і пасля, на працягу ўсёй сваёй далейшай творчасці. Паколькі ўсе паэтычныя зборнікі Максіма Танка, знакамітага савецкага паэта, тут жа перакладаліся на рускую і некаторыя іншыя мовы народаў СССР, прычым перакладаліся эквірытмічна, верлібр з дапамогай беларускага пісьменніка пачаў актыўна абжываць і ўсю савецкую паэтычную прастору.

Аднак у кітайскім цыкле вершаў Максіма Танка, створаным у канцы 1957 і пачатку 1958 г., ніводнага верлібра мы яшчэ не знойдзем. Такім чынам, узнаўленне па-кітайску гэтых твораў верлібрам не можа лічыцца эквірытмічным. Мы не можам гаварыць пра адэкватнасць, перш за ўсё рытмічную, перакладаў Гаа Мана.

А як жа з перадачай у кітайскамоўных перакладах іншых асноўных кампанентаў паэтыкі беларускіх арыгіналаў? Як з захаваннем прынцыпаў эквірыфменнасці і эквілінеарнасці? Верлібр, як мы ведаем, адмаўляецца не толькі ад класічнай метрыкі і рытмікі, але і ад ужывання рыфмаў, карыстання строфамі. Што да эквілінеарнасці, то яе мы цалкам можам назіраць, бадай, толькі ў перакладзе верша «Хустка». Тут архітэктоніка твора захавана і колькасна, і якасна: радкоў, як і ў арыгінале, 14, верш падзелены на двухрадкоўі. Што да іншых пера-

кладаў твораў кітайскага цыкла, то ў іх (накшталт перакладаў «Міскі для рысу» ці «Бронзавага люстэрка») парушаны асобныя патрабаванні эквілінеарнасці: ці не захавана разбіўка верша на строфы, ці колькасць строфаў іншая, чым у арыгінале. Затое з задавальненнем можам канстатаваць: рыфміку першакрыніц, наколькі гэта дазваляе кітайская мова і кітайская паэтыка, Гаа Ман захаваў.

Кітайская рыфма прынцыпова адрозніваецца ад рыфмаў, што выкарыстоўваюцца ў беларускай паэзіі. Прырода гэтага адрознення абумоўлена прасадычным ладам кітайскай мовы. Усе склады кітайскай мовы змяшчаюць дзве часткі — пачатковы зычны (ініцыяль) і канечны галосны (фіналь). Ініцыяль у рыфму не ўваходзіць, рыфмуюцца толькі фіналі, дзе ёсць і падвоеныя (дыфтонгі) і патроеныя (трыфтонгі) спалучэнні галосных, што вымаўляюцца як адзін склад. Апрача таго, у рыфме прысутнічае і музычны націск — «тон». Уся гэта разнастайнасць дае багатую сістэму рыфмаў, заснаваную адно на фіналях.

Разам з тым у кітайскай паэзіі вялікую ролю адыгрывае не толькі сама рыфма, але і яе размяшчэнне ў вершаваных радках — рыфмоўка. Паводле рыфмоўкі кітайскія вершы могуць мець: 1) парную рыфму; 2) скразную рыфму; 3) рыфму праз адзін радок (няцотныя радкі не рыфмуюцца); 4) рыфму тыпу **ааба**. У кітайскай паэзіі няма перакрыжаванай і апаясной рыфмы. Нярэдка вялікі сваім аб'ёмам вершаваны твор мае скразную рыфму. У кітайскіх вершах «вялікай формы» (асабліва ў жанры *фу*, які ўмоўна перакладаецца як *ода*), дзе тэкст падзелены на некалькі частак, скразная рыфма яднае толькі адну частку, пры павароце ж тэмы мяняецца і рыфма [12].

Гаа Ман пры перакладзе вершаў Максіма Танка ўлічваў характар іх рыфмоўкі, але ўзнаўляў яе, зыходзячы з традыцый кітайскай паэтыкі. Так, пры перакладзе верша «Хустка» парная рыфма цалкам захавана. Што датычыць вершаў, напісаных катрэнамі з перакрыжаванай рыфмоўкай (а гэта амаль усе астатнія вершы), то ў кітайскіх перакладах, у адрозненні ад беларускіх арыгіналаў, рыфмуюцца толькі цотныя радкі, няцотныя ж не рыфмуюцца. Іначай і быць не магло, бо творчасць беларускага паэта ўваходзіла ў свет кітайскай літаратуры, станавілася з'явай і гэтай літаратуры. Усё, што можна было перадаць з галіны рыфмаў і рыфмоўкі, перакладчык перадаў. У той жа час тое, што парушала стылістыку кітайскага вершаванага слова, а ў выніку — і не магло паўнавартасна ўспрымацца кітайскім чытачом, Гаа Ман не капіраваў. Таму яго пераклады ў цэлым можна назваць эквірыфмічнымі. Гэта значыць, яны па магчымасці дакладна адлюстроўваюць рыфміку беларускіх вершаў Максіма Танка з яго кітайскага цыкла…

Такім чынам, праведзены намі супастаўляльны аналіз вершаў Максіма Танка з яго кітайскага цыкла і іх кітайскамоўных перастварэнняў паказвае, што *змест* перакладаў у цэлым эквівалентны зместу арыгінальных твораў, хоць паміж імі і маюцца невялікія несупадзенні, увогуле дапушчальныя пры мастацкім перакладзе. Больш несупадзенняў, прычым істотных, назіраецца пры ўзнаўленні *паэтыкі* арыгіналаў, найперш — іх рытміка-інтанацыйнага ладу. Сілаба-танічныя вершы Максіма Танка перададзены Гаа Манам не з дапамогай гэлюйшы, што, як нам здаецца, было б бліжэй за ўсё па характары рытмікі да арыгіналаў, а своеасаблівым верлібрам. Чаму своеасаблівым? Перакладчык, як мы бачылі, у сваіх узнаўленнях ужываў і рыфму (вядома, паводле законаў кітайскага вершавання), а гэтага свабодны верш увогуле не дапускае. Значыць, перад намі не класічны верлібр, а хутчэй за ўсё — райковы верш (раёшнік) [6, с. 240—242]. У такім вершы таксама, як і ў верлібры, няма аднолькавай колькасці складоў у вершаваных радках, але рыфмы выконваюць сваю пэўную ролю (сэнсавую, архітэктанічную, мнеманічную), у тым ліку і эмоцыястваральную, эстэтычную. Хоць, зразумела, яны не кампенсуюць адсутнасць той «музыкі» верша, якая была б у ім, калі б вершаваныя радкі падначальваліся законам ізасілабізму.

Паўстае пытанне: чаму Гаа Ман перадаў сілаба-танічныя вершы Максіма Танка своеасаблівым верлібрам, дакладней — раёшнікам? Магчыма, пера-

кладчык хацеў «еўрапеізаваць» Максіма Танка, зрабіць яго вершы па рытміцы больш «сучаснымі». У той час у Кітаі, як і ў многіх краінах Еўропы, верлібр знайшоў даволі шырокае распаўсюджанне, стаў атаясамлівацца з найноўшымі літаратурнымі плынямі. Не варта ігнараваць і наступную акалічнасць. Неабходна было тэрмінова выдаць зборнік вершаў Максіма Танка на кітайскай мове, што і было зроблена ў 1958 годзе, менш чым праз год пасля яго наведвання Кітая. А перакладаць верлібрам (ці раёшнікам) сілаба-танічныя вершы, несумненна, нашмат лягчэй, чым паводле правілаў гэлюйшы, строга захоўваючы прынцыпы ізасілабізму.

Не выключана і наступнае. Пры ўсім разуменні Гаа Манам важнасці перакладу ўвогуле, уласнай перакладчыцкай працы, у яго існуе і пэўны скептыцызм у адносінах да гэтага віду творчасці. Колішні перакладчык Максіма Танка сёння разважае: «Раней я лягчэй ставіўся да перакладу, цяпер, думаю, гэта вельмі цяжкая праца. Гэта танец у кандалах, які трэба настолькі прыгожа станцаваць, каб людзі запляскалі ў ладкі. Ты абавязкова выходзіш з арыгінала, і нараджаецца іншае разуменне аўтара. Аднак перакладаць трэба. Не ўсе валодаюць замежнымі мовамі, але ў многіх існуе патрэба ведаць новых аўтараў, новыя напрамкі, новыя літаратурныя стылі» [10]. У іншым інтэрв'ю Гаа Ман адносна паэтычнага перакладу выказаўся яшчэ большым катэгарычна: «Перакладаць прозу можна, паэзію — нельга. Мне здаецца так, бо кожны перакладчык абавязкова ўносіць нешта сваё, без гэтага не абысціся. Перакладаць вершы на кітайскую, мне здаецца, не тое, не тое… Не ведаю, згодзіцеся Вы са мной ці не, але я так лічу. Мой вопыт. Гэта раней я нічога не баяўся, усё перакладаў» [3].

І ўсё ж, нягледзячы на значныя цяжкасці, а таму і пэўныя памылкі, перакладчыцкага «танца ў кандалах», выдадзены ў 1958 годзе ў Кітаі зборнік выбраных вершаў Максіма Танка ў перакладах Гаа Мана і Гэ Баоцюаня меў і да гэтага часу мае вялікае значэнне. Кніга «Выбраныя творы» (Пекін, 1958) упершыню пазнаёміла кітайскіх чытачоў з невядомым ім датуль беларускім паэтам, з самой Беларуссю, яе гісторыяй, культурай і прыродай, з тым, як далёкі госць успрыняў Кітай. Зразумела, сёння, у перыяд актыўных беларуска-кітайскіх узаемаадносін, настаў час новага, на самым сучасным узроўні перакладчыцкага майстэрства, прачытання творчасці Максіма Танка сродкамі кітайскай мовы. Будзем спадзявацца, што гэта неўзабаве здарыцца.

## Спіс літаратуры:

1. Карлюкевіч, В. Беларуская літаратура ў Кітаі: пераклады твораў беларускіх пісьменнікаў на кітайскую мову ў XX ст. / В. Карлюкевіч // Роднае слова. — 2015. — № 10. — С. 19—22.

2. Ладуцька, К. Бібліятэка Гаа Мана / К. Ладуцька // Літаратура і мастацтва. — 2015. — 5 чэрвеня. — С. 9.

3. Плескачевская, И. Все рифмуется только с любовью / И. Плескачевская // СБ. Беларусь сегодня. — 2012. — 17 сентября. — С. 11.

4. Рагойша, В. П. Беларускае вершаванне / В. П. Рагойша. — Мінск: БДУ, 2010. — 150 с.

5. Рагойша, В. П. Паэтыка Максіма Танка: Культура вобраза. Характар верша / В. П. Рагойша. — Мінск: Выд-ва БДУ імя У. І. Леніна, 1968. — 227 с.

6. Рагойша, В. П. Паэтычны слоўнік. — 3-е выд., дапрац. і дапоўн. / В. П. Рагойша. — Мінск: Бел. навука, 2004. — 576 с.

7. Танк, М. Восток зарей пылает / М. Танк; перев. с белорус. Я. Хелемского. — М.: Сов. писатель, 1959. — 44 с.

8. Танк, М. Выбраныя творы / М. Танк;練акл. Гэ Баоцюань, У. Ланьхань. — Пекін, 1958 (на кітайскай мове). — 124 с.

9. Танк, М. Збор твораў: у 13 т. / М. Танк, — Мінск, 2007. — Т. 3: Вершы (1954—1964). — 446 с.

10. Танк, М. Збор твораў: у 13 т. / М. Танк. — Мінск, 2009. — Т. 9: Лісткі календара. Дзённікі (1941—1959). — С. 491—497.

11. Русский клуб в в Шанхае [Электронный ресурс]. — Рэжым доступу: http: // www.russianchanghaj.com /articles/ past6929. — Дата доступу: 12.03.2016.

12. Литературный словарь терминов [Электронный ресурс]. — Рэжым доступу: http: // www.litdic.ru/kitajskaya-poetika-stichoslozhenie-i-poeticheskie-zhanry/. — Дата доступу: 5.01.2016.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 22 ліпеня 2016 года.

## Рэзюмэ

**Вячаслаў РАГОЙША, Чжан ЛІНЬ**

## ТАНЕЦ У КАНДАЛАХ

***Пра пераклад беларускай паэзіі на кітайскую мову наогул і Максіма Танка — у прыватнасці***

Артыкул прысвечаны перакладам беларускай паэзіі на кітайскую мову. Падрабязна разглядаюцца пытанні адэкватнасці перакладу вершаў Максіма Танка Гаа Манам. Разважаецца пра ролю эквірытмічнасці як аднаго з важнейшых крытэрыяў арыгінальнасці перакладу, захавання эстэтычнай і нацыянальнай своеасаблівасці першакрыніцы.

**Ключавыя словы:** сістэма вершавання, рытміка, рыфміка, сілаба-танічны верш, верлібр, эквірытмічнасць.

## Summary

**Viachaslau RAGOISHA, Chzhan LIN**

## DANCING IN IRONS

**About translation into Chinese of the Belarusian poetry in general and Maxim Tank’s one particularly**

The article is devoted to translations of Belarusian poetry into Chinese. Much attention is given to questions of the adequacy in translations of Maxim Tank’s poetry written by Gaa Man. The authors analyze the role of equivalence of rhythm as one of the most important criteria of the originality in translations, preservation of aesthetic and national singularity of the primary source.

**Keywords:** a system of versification, rhythmic, rhymic, syllabo-tonic verse, free verse, equivalence of rhythm.

Сяргей САМАХВАЛ

# ТВОРЧАСЦЬ УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА Ў БАЛГАРСКАЙ КУЛЬТУРНАЙ ПРАСТОРЫ

Уладзімір Караткевіч — чалавек свету, а можа, і сусвету. Многія беларускія пісьменнікі асабліва любілі і па-мастацку апісвалі мясціны, адкуль былі родам. Згадваюцца, напрыклад, кранальныя радкі сябра У. Караткевіча — Р. Барадуліна: «*Ірве стаеннік павады, / На волю скача. / Мне адступаць няма куды — / За мной — Вушача*». Але У. Караткевіч, паводле ўспамінаў Р. Барадуліна, сваю Оршу лічыў толькі штампам у пашпарце. Для яго не было межаў. Сёння мала каму з пісьменнікаў удасца пахваліцца такой багатай геаграфіяй жыцця, як У. Караткевічу.

У славянскай прасторы імя беларускага класіка ведалі не толькі па творах, але і па асабістым знаёмстве з ім. У. Караткевічу ўдалося наладзіць цесныя сувязі з многімі славянскімі (і не толькі) краінамі, асабліва з Украінай, Расіяй, Польшчай, Чэхаславакіяй. Так, ва Украіне ён скончыў універсітэт, у Расіі — Вышэйшыя літаратурныя і сцэнарныя курсы, двойчы бываў у Польшчы — спачатку па запрашэнні прафесара Ягелонскага ўніверсітэта З. Нядзелі, а затым у сябра па кіеўскім універсітэце — добра вядомага ўкраініста, а таксама прапагандыста беларускай літаратуры, прафесара, загадчыка кафедры ўкраіністыкі Варшаўскага ўніверсітэта Фларыяна Няўважнага. У 1973 і 1979 гг. наведваў Чэхаславакію па запрашэнні славацкай дзіцячай пісьменніцы і перакладчыцы Гелены Крыжановай-Брындзовай, дзе сустрэўся з перакладчыкам (у тым ліку сваіх твораў) і даследчыкам беларускай літаратуры Вацлавам Жыдліцкім. У. Караткевіч перакладаў многіх украінскіх і польскіх паэтаў, але не горш ведаў і творчасць іншых славянскіх пісьменнікаў. Падчас першага гасцявання ў Польшчы ў 1971 г. «здзівіў Нядзелю добрым (лепшым нават, чым у яго) веданнем паэзіі Канстанты Ільдэфанса Галчыньскага, а сербскага гісторыка літаратуры Стояна Субоціна, які якраз таксама гасцяваў у Кракаве, — веданнем творчасці Радуле Стыенскага» [17, с. 38], — згадваў А. Мальдзіс. У. Караткевіч прысвяціў нарыс «Мой се градок» Кіеву і эсэ «Абраная» — Украіне. Творы былі напісаныя ўжо напрыканцы жыцця ў 1982 г. Дзеля справядлівасці дадамо, што немалую любоў адчуваў У. Караткевіч да Літвы і Латвіі, і дай яму ў тыя часы магчымасць часцей выбірацца за межы Савецкага Саюза, відаць, аб'ездзіў бы ўвесь свет. З павагай і цікаўнасцю ставіўся да кожнага народа і яго культуры, а найперш да свайго, што падкрэслівае ў вершы «Быў. Ёсць. Буду»: «*Хто за Край Свой Родны, за ўсе Народы / Паўстане нават на Бога*». І хоць не паўсюль яму давялося пабываць, гэта не азначае, што нязведаныя ім краіны яго не цікавілі.

Так атрымалася і з Балгарыяй, у стасунках з якой пісьменніку ўдалося пакінуць яскравы след. Асоба У. Караткевіча набыла вядомасць у Балгарыі амаль адразу пасля першых яго кніг на Беларусі. 60-я гг. ХХ стагоддзя былі асабліва плённымі ў беларуска-балгарскіх літаратурных стасунках, бо тады ў серыі «Савецкія паэты» Х. Радзеўскага сталі выдавацца асобныя зборнікі многіх беларускіх аўтараў — Я. Купалы, Я. Коласа, А. Куляшова, М. Танка, П. Панчанкі, Н. Гілевіча. У. Караткевіч не быў «савецкім пісьменнікам» у поўным сэнсе гэтага слова. Як адзначае вядомы беларускі даследчык яго жыцця і творчасці А. Вера-

бей, у У. Караткевіча «ўжо на другім курсе [Кіеўскага ўніверсітэта, 1949—1955] не было ілюзій адносна асобы Сталіна» [6, с. 11].

Абмінуць увагай такую каларытную постаць у беларускай літаратуры балгары не маглі. Таму ў выніку працяглага выбару твора адпаведнага зместу і з назвай, якая б гэты змест адразу раскрывала, у зборнік *«Утринна проверка. Млади съвестки поети»* 1962 г. уключылі «Партызанскую баладу» У. Караткевіча з кароткай біяграфічнай даведкай пра аўтара. З беларускіх паэтаў у зборніку былі прадстаўленыя таксама Р. Барадулін («*Пролет в брестската крепост*»), Н. Гілевіч («*Каро Вале*»), Е. Лось («*Желание», «Кристал»).* Складальнікі (А. Германаў, У. Башаў, Д. Баляраў, К. Станішаў) удакладнілі: «вершы ў дадзены зборнік падабраныя сярод іншых твораў маладых савецкіх паэтаў, якія нам былі высланы Саюзам савецкіх пісьменнікаў па нашай просьбе. Усе аўтары і вершы рэкамендаваныя сакратарыятамі альбо кансультатыўнымі аддзеламі пісьменніцкіх саюзаў асобных рэспублік» [23, с. 4].

Пераклаў баладу паэт Аляксандр Міланаў. Аднак, па шчырасці, гэты пераклад не вызначаецца добрай якасцю. А. Міланаў добра ведаў рускую мову (у 1957 г. скончыў аддзяленне рускай філалогіі Сафійскага ўніверсітэта), але вырашыў, напэўна, не карыстацца рускім перакладам, а пераўвасобіць твор наўпрост з беларускай. Гэта пацвярджаецца і ўдакладненнем напачатку зборніка: «Украінскія, беларускія і рускія паэты перакладзеныя з арыгінала, а астатнія — з падрадкоўнікаў» [23, с. 4]. Таму, верагодна, А. Міланаў звяртаўся да слоўнікаў беларускай мовы (цяжка меркаваць, да якіх, бо па сённяшні дзень няма ніводнага перакладнога беларуска-балгарскага слоўніка), і таму многія словы перакладчык перадаў у адным з іх значэнняў — на жаль, не тым, які быў у Караткевіча, што істотна змяняе сэнс. Так, назвы траў «*бярозка*», «*павітуха тугая*» перададзены як «*бели брези»* / *«белыя бярозы»* і «*старици със непокорни глави» / «старыя з непакорнымі галовамі»* [23, с. 64]. Ён сутыкнуўся менавіта з тою цяжкасцю, пра якую казаў у гутарцы з Аляксеем Гардзіцкім перакладчык беларускай літаратуры А. Германаў: «Часам падводзіць блізкасць слоў, бо яны могуць гучаць аднолькава, а мець розны сэнс. У такіх выпадках пераклад можа атрымацца па-буквалісцку дакладным, але няправільным» [8, с. 118]. Недакладнасці меліся і ў перадачы эпітэтаў. Так, першы радок «на нашай *любай і чыстай*, на нашай сіняй зямлі» гучыць як «в нашата *тиха и светла*, в нашата синя земя…» (літаральна: у нашай ціхай і светлай). І ўсё ж, нягледзячы на некаторыя хібы, А. Міланаву ўдалося перадаць «сюжэт» балады, аднак, на нашу думку, не атрымалася захаваць стыль аўтара. Вядома, што паэзія Караткевіча (як, зрэшты, і проза, і ўся творчая спадчына) — з'ява самабытная ў беларускай літаратуры і вельмі няпростая для перакладу. Сам А. Міланаў, паэт, больш дбаў пра гучанне верша, пра рыфму і таму губляў рытміку і скажаў сэнс. У Караткевіча ж кожнае слова, як вядома, выверанае, на сваім месцы. У інтэрв'ю балгарскай даследчыцы Р. Станкевіч ён прызнаваўся: «Слова павінна ўлезці на сваё месца адразу, як цвік. І апошняя гэта справа — сто разоў выцягваць яго абцугамі і забіваць зноў» [21]. Сама ж балада арганічна ўпісвалася ў гэты зборнік. Так, у яго ўключаны таксама падобныя па пафасе і змесце балада «Партызанскія магілы» Я. Еўтушэнкі, «Парабалічная балада» А. Вазнясенскага. Хоць гэты жанр для балгарскай паэзіі не асабліва характэрны ў адрозненні ад беларускай. Не надта распаўсюджана і «партызанская паэзія». Добра вядомыя «Вершы ў ладунках (патранташах)» / *«Стихове в паласките»* (1954) Весяліна Ханчава, «Партызанскія песні» / *«Партизански песни»* (1947) Весяліна Андрэева і «Партызанскі дзённік» / «*Партизански дневник*» (1948) Давіда Овадзія больш адпавядаюць жанру лірычнага дзённіка гераізму і мужнасці балгарскіх воінаў і прасякнуты матывам тугі па Айчыне. Але варта ўдакладніць: у баладах (як, зрэшты, амаль ва ўсёй творчасці) У. Караткевіча заўсёды раскрываецца шчырае каханне і чыстая любоў, а не пафас вернасці камуністычным ідэям — як, напрыклад, у вядомай «Баладзе пра камуніста» / «*Балада за комунист*» (1946) В. Андрэева:

«Не чалавек, а жалеза», — над ім працадзіў фашыст.
І мёртвы ціха адрэзаў: «Не, камуніст» [1, с. 115].

Ці вершы Давіда Овадзія «Партызаны»:

Будзе помста, вялікая будзе адплата!
Не зламаць нас нікому на свеце!..
Крышым надпіс фашысцкім ударам прыклада,
І — наперад, праз дождж і праз вецер… [1, с. 177].

Пазней, у 1964 г., у газеце «*Народна младеж*» былі змешчаны яшчэ два вершы У. Караткевіча («Вадарод» / «*Водород*» і «Сырцовыя цагліны» / «*Сурови тухли*»). Над іх пераўвасабленнем працаваў усё той жа А. Міланаў. На гэты раз вершы суправаджаліся пазнакай, што пераклад ажыццяўляўся з рускай мовы.

Уладзімір Караткевіч не застаўся ў даўгу, і ў 1966 годзе пераклаў для «Полымя» невялікую нізку вершаў А. Міланава. Ва ўступным слове ён падкрэсліў, што вершы «спадабаліся мне сваім непрымірымым стаўленнем да ўсяго злашкоднага, да ўсіх тых вусеняў, якія сёння спрабуюць тачыць лісце на зялёным дрэве жыцця. Яны спадабаліся мне, бо іх аўтар — вясёлы паэт, добры да добрага і гнеўны на злое» [18, с. 109]. Сапраўды, гэтыя вершы («Праз што праходзяць межы», «Карчма для галодных», «Вольны пераказ андэрсенаўскай казкі пра голага караля», «Анафема», «Узаемнасць», «Ваенны паэт», «Свята паэзіі») сатырычныя (праўда, у Балгарыі быў не менш дасціпны тагачасны паэт Канстанцін Паўлоў, які ў 1960 г. выдаў кнігу «Сатыры», пераклады двух яго вершаў — «Як робяцца злыя духі» і «Кашмар» — змясціў у кнізе «Ад стром балканскіх» (1965) Ніл Гілевіч). Асабліва падабаліся У. Караткевічу вершы «Анафема» і «Вольны пераказ андэрсенаўскай казкі пра голага караля». У першым з іх апавядаецца, як малады настаўнік па імені Дайчынаў аднойчы ўсяго на 5 хвілін спазніўся на ўрок, але дырэктар, спаткаўшы яго на калідоры, у дакладзе «назваў Дайчынава нядбальства ўзорам / І прыкладам бяспрыкладным назваў», і ў выніку той, пакінуўшы школу, пакутаваў з-за гэтага ўсё сваё жыццё. Прайшло шмат часу, настаўнік памёр, а дырэктар канстатаваў:

Прыяцелі, калегі і радзіна,
Рабіў нябожчык годна кожны крок,
Дарма, што ў юныя свае часіны
На пяць хвілін спазніўся на ўрок [18, с. 112].

Дарэчы, вершы А. Міланава Караткевіч ведаў значна раней. У паэме «Віно дажджоў», за якую Янка Брыль у лісце назваў Караткевіча Гамерам, згадваецца адпачынак пісьменніка ў Рагачове, дзе жыў яго дзядзька па матчынай лініі Ігар Грынкевіч. У паэме ёсць такія радкі:

[Вып'ем]…І яшчэ за Аляксандра, за яго знішчальны смех,
…За працяг яго легенды аб раздзетым каралі [9, с. 187].

Датуецца твор 5 жніўня 1964 г. Паэма цікавая яшчэ тым, што ў ёй згадваецца даследчык беларуска-балгарскіх узаемасувязей — Георгі Вылчаў (які, на думку А. Вераб'я, і пазнаёміў нашага пісьменніка з А. Міланавым). Якраз у гэты час Г. Вылчаў прыехаў у Беларусь і гасцяваў у Караткевіча. Гасцінны гаспадар-беларус доўга чакаў «балгарскага папа», «папа Юрася», «кірыла-мяфодзіеўца», як жартам яго называлі У. Караткевіч з Я. Брылём у сваім ліставанні. Вось некалькі цытат з гэтага ліставання: «Балгарскі поп усё не едзе… Гілевічава жонка казала, што ён пісаў нядаўна Нілу: не ладзіцца там штосьці з адпачынкам… Баяцца, мусіць, балгары, што зноў, пабываўшы тут, Юрка прывязе ім па лініі дружбы народаў лішняй работы…» (Я. Брыль да У. Караткевіча ад 22 ліпеня 1964 г.); «Хай поп Юрась ведае, што царква для яго гатовая, што хата — таксама, што чакаюць яго там у госці» і «Юрась, прыязджай! Зусім без цябе ссумаваўся. Малітву Бахусу

такую завернем — пан Бог на небясі з Кірылам і Мяфодзіем засумуе і пазайздросціць» (У. Караткевіч да Я. Брыля ад 4 жніўня 1964 г.); «…фактар па Балгарыі Юрась Ваўковіч сюды прыбыў з вялікім вантажом лубачных кніг для дзюкаў… Трымае сябе той фактар несусветна. На раку, напрыклад, ходзіць у ружовай паласатай сарочцы, як у нас, хіба толькі арыштанты ходзяць, і ў сініх паласатых піжамных штанах, выклікаючы гэтым ашаламленне ў тубыльцаў» (У. Караткевіч да Я. Брыля ад 16 жніўня 1964 г.) [24, с. 103—113]. Як бачым, стасункі ў Караткевіча з Г. Вылчавым былі вельмі блізкія і сяброўскія. Відаць гэта і па радках са згаданай паэмы:

> Ты ж, Георгі, як далёкі, але вечна блізкі госць…;
> П'ецца ў дождж, дык пі, Георгій, пі, балгарскі ты лайдак,
> Ні Кірыл і ні Мяфодзій гэтак, дурні, не жылі.
> Што з таго, што гэтай песні літары далі яны, —
> Мы далі для гэтай песні тое, чым звініць яна:
> Азбуку любві да праўды і агіды да хлусні,
> Азбуку радзімы мілай, і кахання, і віна [9, с. 187].

Дзякуючы Г. Вылчаву У. Караткевіч у Балгарыі быў добра вядомы. Таму яго творчасць актыўна пераўвасаблялася. Пераклады Я. Дзімава трох вершаў («Балада пра паўстанца ваўкалаку», «Быў. Ёсць. Буду», «На Беларусі Бог жыве») змешчаны ў «*Антология на белоруската поезия*» (2000). Яны добрай якасці, але не перададзены цалкам усе сэнсы У. Караткевіча. Гэтыя вершы дасканала раскрываюць паэтычны талент творцы, які праяўляецца ў шчымлівым тоне лірычнага героя і багатай вобразнасці. Творы прасякнуты неверагоднай любоўю да нацыянальных вобразаў і родных каранёў. Аднак, як слушна заўважае А. Верабей, «паэзію жывілі сокі роднай зямлі, і адначасова яна квітнела пад жыватворным святлом сусветнай культуры» [6, с. 29]. Гэта асабліва яскрава пацвярджае верш «Фантазія», які ў перакладзе Ярдана Янкава быў змешчаны на старонках газеты «*Литературен свят*» [14]. Тэма кахання — адна з асноўных не толькі ў творчасці У. Караткевіча, але, як вядома, і ва ўсёй сусветнай паэзіі. У. Караткевіч здолеў паказаць універсальнасць гэтага пачуцця, яднаючы і абагульняючы ў адным вершы часы, нацыянальнасці, віды мастацтва, сцвярджаючы, што перад каханнем усе і ў любы час роўныя. Лёс сам выбірае ахвяр — таксама частая сентэнцыя творчасці У. Караткевіча. Гэтая сентэнцыя адлюстравана ў вершы «Дзяўчына пад дажджом» / «*Летен дъжд и момиче*», пераклад якога быў здзейснены Н. Вылчавым і таксама друкаваўся на старонках газеты *«Литературен свят»* [12]. Рамантычная ўзнёсласць паэзіі У. Караткевіча шмат у чым блізкая творчасці балгарскага паэта Хрыста Ясэнава, асабліва яго зборніку «Рыцарскі замак» (1921), аднак існуе ў іх змесце і прынцыповая адрознасць: з агаленым унутраным пачуццём лірычны герой У. Караткевіча рэдка апынаецца ў стане безвыходнасці. Выкарыстанне фальклорных сюжэтаў, каларыту нацыянальных вобразаў і спавядальнасць збліжае паэзію У. Караткевіча і з паэтычнымі творамі Элізаветы Баграны, асабліва з цыклам «Старанародныя вобразы» ў зборніку «Вечная і святая» (1927), а прыхільнасць да стварэння сусветных вобразаў, помнікаў мінулага, шэдэўраў мастацтва, пры гэтым застаючыся верным свайму патрыятычнаму пачуццю, яднае яго паэтычную спадчыну з творамі Пенча Петкава Славейкава.

Папулярнасць у Балгарыі набыла і проза У. Караткевіча, якая перакладалася амаль па «гарачых слядах». Першым празаічным творам, прадстаўленым балгарскаму чытачу ў пераўвасабленні Х. Берберава, стала апавяданне «Блакіт і золата дня», змешчанае ў анталогіі *«Белоруски разкази»* (1968) [5]. Яно пазней увайшло і ў «*Антология белоруска проза*» [2], але ў перакладзе Зоі Васілевай. Яе пераклад больш адпавядае гутарковаму маўленню балгар. Для больш лёгкага ўспрымання сучасным чытачом яна не прытрымліваецца дакладнай перадачы кожнага слова і выразу, а ўжывае часам іншы мастацкі стыль. Бербераў, наадварот, імкнуўся

пакінуць караткевічаўскі стыль і сінтаксіс, і таму перакладаў амаль ідэнтычна. Параўнаем хоць бы пачатак апавядання:

«Толькі адна Прыпяць з цяжкасцю гоніць да Дняпра талыя воды, *залiваючы* на дзясяткі кіламетраў палі і лясы» [10, с. 317].

У Берберава: «Само пълноводната Припет с мъка влачи водите си към Днепър*, заливайки* полята и горите на десетки километри» [5, с. 363]. У Васілевай: «Само Припяць тежко тласка към Днепър размразените си води, *които* на десетки километри *заливат* нивя и гори» [3, с. 213]. Берберaў пакідае дзеепрыслоўе, якое менш характэрна для маўлення балгар, а Васілева ўжывае складаназалежны сказ з адносным займеннікам, што ўспрымаецца больш натуральна. Нават назву твора Бербераў пераклаў паводле арыгінала — назоўнікамі: «*Синевата и златото на деня»*, а Васілева — прыметнікамі, акцэнтуючы ўвагу на характарыстыцы: «*Синьото и златното на деня*». Яна імкнулася да большай даступнасці перакладу. Напрыклад, пры апісанні дзяўчынкі ў Караткевіча «рот з мяккімі ямачкамі ў куточках вуснаў», а ў перакладзе — «червени устни, трапчинки на бузите» / «чырвоныя вусны, ямачкі на шчочках»; «хустку», якую скінула дзяўчына, перакладчыца замяніла на «шалік». Аднак змены Васілевай падпарадкаваны пэўнай мэце — мастацкаму ўздзеянню на чытача. Без гэтай мэты перакладчыца змен не ажыццяўляла і сэнс слоў старалася захоўваць. Так, «фарбаванкі», дзеля якіх спяшаліся жанчыны з кірмашу, яна пераклала правільна — «боядисани яйца». А Бербераў, на жаль, не да канца зразумеў сэнс і пераклаў сказ: «*За да светявате образите ли*?» [літаральна: каб вы свяцілі свае абразы?]. Тое ж датычыцца і «зялёных шклянак», якія ў яго — «бутилки», выраз «захацелася скруціцца ў іх цеплыні, як котка» гучыць як «поиска ѝ се да се свие в тяхната топлина на кълбо като *топка*», дзе «котка» замененая словам «топка», што літаральна азначае «мячык, клубок», хаця словы ў дзвюх мовах абсалютна ідэнтычныя па сэнсе і правапісе.

Час дзейнічаў на карысць якасці перакладаў ці, дакладней, ведання мовы. Пераклад Берберава можна ахарактарызаваць меншым адыходжаннем ад сінтаксісу арыгінала, але і некаторымі зменамі лексікі, што выклікана, верагодна, недакладным яе веданнем. Часам было наадварот: праз імкненне перадаць тоесна кожнае слова гублялася разуменне. Так адбылося, напрыклад, з «галавасцікамі» (так герой апавядання Юрка называў галавастых дзікіх парсюкоў). У Караткевіча гэта выглядае як гульня значэннямі слова, а ў перакладзе дакладнае «попови лъжички» (што больш адпавядае беларускаму «апалонік») такой гульні не ўтрымлівае, і балгарскаму чытачу цяжка здагадацца, чаму герой называе галавастых дзікоў «апалонікамі», лічынкамі бясхвостых земнаводных. Васілева гульню захавала проста прыметнікам «галавастыя». Аднак, не паглыбляючыся ў аналіз перакладаў, засяродзімся на наступным: чаму менавіта гэта апавяданне выбіраецца, каб рэпрэзентаваць караткевічаўскую прозу? Чаму менавіта яно перакладзена адным з першых, і менавіта да яго праз гады звяртаюцца іншыя перакладчыкі? Адказ нам бачыцца ў тым, што яно мае шмат «сталых» караткевічаўскіх сімвалаў: вочы («*Празрыстыя славянскія вочы, — быццам майскае неба ў ранішнім тумане*» — вочы дзяўчыны, і «*Вочы ў яго трывогу наводзяць. Няладныя яны, не такія, як у астатніх*» — вочы Юркі), вада і човен (у аповесці «Ладдзя роспачы», вершы «Вячэрнія ветразі»), сухое лісце каштанаў, з якім ён параўноўвае касу дзяўчынкі (аповесць «Лісце каштанаў», 1973). Васілева здолела «ўлавіць» і ўдала прадэманстраваць дадзеныя сімвалы ў перакладзе. Акрамя таго, у апавяданні паказана рамантычная ўзнёсласць, малахарактэрная для другой паловы XX стагоддзя. Пры гэтым дэталёва адлюстраваны беларускі побыт.

У наступнай анталогіі, на гэты раз буйнейшага празаічнага жанру, «*Белоруски повести*» [4], выдадзенай у 1978 годзе, праз дзесяць гадоў пасля зборніка «Белоруски разкази», быў змешчаны твор «Лісце каштанаў» / «*Кестенови листи*». У хуткім часе, 1981 г., на гэты раз асобнай кнігай, выходзіць аповесць «Дзікае

паляванне караля Стаха» / «*Дикият лов на крал Стах*» у перакладзе Р. Эўцімавай. На рускай і эстонскай мовах гэтая аповесць з'явілася толькі праз два гады. Неўзабаве выйшаў зборнік апавяданняў У. Караткевіча, аб'яднаных назваю аднаго з іх «Паром на бурнай рацэ» / «*Сал на бурната река»* (1982). У кнігу ўвайшло 10 апавяданняў («Паром на бурнай рацэ» / «*Сал на бурната река*», «Барвяны шчыт»/ «*Пурпурният щит*», «Краіна Цыганія» / «*Страна Цигания*» ў перакладзе Сімяона Русакіева, «Сіняя-сіняя…» / «*Синя-синя*», «Кніганошы» / «*Книганосци*», «Дрэва вечнасці» / «*Дървото на вечността*» — Марыі Дзімітровай, «Былі ў мяне мядзведзі» / «*Някога имах мечи*», «Вока тайфуна» / «*Окото от тайфуна*», «Калядная рапсодыя» / «*Коледна рапсодия*» — Івана Дайчынава і «Залаты Бог»/ «Златният Бог» — Пенкі Кыневай). С. Уладзіміраў ва ўступным слове з метафарычнай назвай «Шукальнік вечнага» выказвае перакананне, што «Уладзімір Караткевіч у хуткім часе стане пісьменнікам, любімым і шуканым балгарскімі чытачамі. Ён валодае натуральным апавядальніцкім талентам, умее нязмушана і займальна пранікнуць у псіхалогію сваіх герояў — звычайна цікавых і супярэчлівых асоб, якія маюць значныя ідэі і кіруюцца моцнымі парывамі» [13, с. 5]. Праз год выйшла новая кніга У. Караткевіча — раман «Чорны замак Альшанскі» / «*Черният Олшански замък»*[15] у перакладзе Пенкі Кыневай. На рускай, чэшскай і ўкраінскай мовах ён быў выдадзены толькі праз год.

«Апанаваны аднойчы страсцю да гісторыі, ён займаецца ўваскрашэннем мінулага свайго народа і ўкладае ў гэтую сваю мэту ўвесь свой талент і неўтаймаваную фантазію», — пісаў пра яго гістарычную прозу С. Уладзіміраў [13, с. 8]. У. Караткевіча многія даследчыкі часта ставяць побач з такімі аўтарамі, як Генрык Сянкевіч, Алоіс Ірасек, Вальтэр Скот, Артур Конан Дойль, падкрэсліваючы яго адраджэнскую місію ў раскрыцці гістарычнага мінулага беларускага народа. Таму Р. Станкевіч сцвярджае, што «пісьменніцкі подзвіг У. Караткевіча, які першы адкрыў табуіраваную зону сапраўднай, але невядомай беларускай гісторыі, параўнальны толькі з подзвігам Хілендарскага манаха» [22]. Пад «Хілендарскім манахам» яна мела на ўвазе вядомага адраджэнца балгарскай літаратуры — Паісія Хілендарскага (1722—1765), які ў 1762 годзе напісаў «Гісторыю славянабалгарскую». Падчас турэцкага прыгнёту гэты твор абудзіў памяць балгар, іх патрыятычны дух. У балгарскай літаратуры жанр гістарычнай прозы актыўна развіваецца з 20-х гг. XX стагоддзя і звязаны з імёнамі Антона Страшымірава, Дабры Немірава, Фані Паповай-Мутафавай, Стаяна Загарчынава, а пазней — Антона Дончава і Веры Мутафчыевай, хоць драмы такой праблематыкі пісаліся яшчэ ў XIX стагоддзі — часы нацыянальнага Адраджэння. Не абмінуў гэтую тэму і класік балгарскай літаратуры Іван Вазаў у першым дзесяцігоддзі XX стагоддзя. Аднак усе іхнія творы не маюць такой папулярнасці, як творы У. Караткевіча ў Беларусі і за яе межамі. Балгарскія раманы часта прысвечаны нейкай адной гістарычнай постаці, ідэалізуюць яе, не раскрываюць да канца саму эпоху. Караткевіч жа перад сабою заўсёды ставіў мэту «для тых, хто яшчэ не ведае гісторыі, даўняй культуры і літаратуры Беларусі, — абудзіць іх цікавасць» [21] і карыстаўся нязменным прынцыпам праўдзівасці ў адлюстраванні падзей: «Ніколі не хлусі, калі пішаш. Трэба, каб неаглядна верылі», — сцвярджае пісьменнік [21].

Амаль усе яго творы ўзбагачаны літаратурнымі, гістарычнымі і іншымі культурнымі рэмінісцэнцыямі. Георгі Вылчаў так выказваецца пра яго творчасць: «самымі спрэчнымі аказаліся раманы Я. Брыля і асабліва У. Караткевіча. Частыя рэтраспекцыі ў раздробленай сюжэтнай кампазіцыі ў Караткевіча стварылі шмат непапраўных хібаў адносна жанру. Па сутнасці, менавіта ў гэтым кірунку Караткевіч дасягае свайго амплуа; у адзінстве пераадольвання лірычнага і авалодання эпічным; у паўторным пункце аднаго бясконцага дыялогу паміж дабром і злом» [7, с. 24]. Разам з тым, напэўна, ні пра аднаго беларускага пісьменніка Вылчаў не піша так эмацыянальна-захоплена, як пра

У. Караткевіча: «Як умела далучае ён гістарычнае мінулае свайго народа да нашай сучаснасці, наколькі дакладны аказваецца сённяшні яго адпраўны пункт да адшумелых XVII—XIX стагоддзяў! Якім глянцам пакрываецца пераважаючы ў яго дваранскі і шляхецкі персанаж і як трапна, няўмольна разбіваецца гэтая глазура з мэтай агаліць душэўную ляноту, цынізм адцураных ад народа прывеліяваных саслоўяў, каб паказаць трагічную асуджанасць тых, якія, нягледзячы на дабрачынныя памкненні не здолелі стаць перад народам у яго барацьбе за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне» [7, с. 54]. Тут даследчык шмат у чым абапіраўся і на раман «Каласы пад сярпом тваім», якога, на жаль, да гэтага часу балгары не могуць прачытаць на сваёй роднай мове, а між тым сялянскія бунты, апісаныя ў рамане, шмат у чым падобныя да балгарскіх, якія таксама паказвае, напрыклад, А. Страшыміраў у аповесці «На кръстопът» / «На раздарожжы». Параўноўваючы гістарычную прозу У. Караткевіча з прозай Э. Станева, вельмі цікавыя назіранні робіць Г. Навасельцава: «Высокамастацкая гістарычная проза У. Караткевіча, чэшскага пісьменніка У. Ванчуры, балгарскага Э. Станева стала паказальнай вехай развіцця рамантычна-асветніцкага напрамку: выпрацавалася ўстойлівая традыцыя выкарыстання здабыткаў фальклорнай, міфалагічнай спадчыны, старажытнага пісьменства. Пашыралася мастацкая практыка ўвасаблення мінулага на аснове спалучэння канкрэтна-гістарычных, дакладных звестак і шырокага выкарыстання пісьменніцкага вымыслу, фантазіі» [19, с. 113]; «У. Караткевіч, як вядома, абапіраўся на дэтэктыўную форму падачы матэрыялу. Раман Ракутовіч і Юрась Братчык становяцца кіраўнікамі паўстанняў, здзяйсняюць подзвігі ў імя Радзімы і раскрываюцца як пазачасавыя героі (ім выступае і Тэафіл — галоўны персанаж балгарскага пісьменніка Э. Станева)» [19, с. 114]. Маецца на ўвазе раман Станева «Антыхрыст» (1970) пра часы асманскага прыгнёту ў Балгарыі.

Роза Станкевіч, якая таксама была асабіста знаёмая з Уладзімірам Сямёнавічам і неаднойчы брала ў яго інтэрв'ю (у 1980 г. выйшла «*Люблю сваю Белую Русь*» у «Сельскай газеце», а затым у 1982-м у «ЛіМе» — «*Любую справу рабіць хвацка*»), у артыкуле «У. Караткевіч — апостал беларускай духоўнасці» выказалася так: «Яго свет прынцыпова адрозніваецца ад таго, што існавала да яго ў літаратуры і мастацтве Беларусі. Замест апісання пакаленнем беларускіх пісьменнікаў шматпакутнай і беднай, пакінутай краіны замардаваных сялян, ён паказвае вобраз Беларусі як еўрапейскую цывілізаваную дзяржаву, апавядае пра краіну, у якой існуюць не толькі народныя казкі, але і вялікая культурная спадчына, якая ашчадна ахоўваецца пакаленнямі», а таксама: «асоба Уладзіміра Сямёнавіча Караткевіча… асабліва прывабная: галоўнае, сваёй смеласцю, імкненнем мастака да гістарычнай праўды, бунтам думкі, якая дасягае крайняй адкрытасці, з рэакцыямі пільнага мастака, схільнага ўлавіць жыццё інтэлектам філосафа і непасрэднаю чысцінёю дзіцяці» [22]. Нездарма Р. Барадулін назваў яго «дзіцём з вачыма празарліўца».

Намі абазначаны толькі некаторыя дачыненні балгараў да шматграннай, самабытнай і непаўторнай спадчыны класіка беларускай зямлі. С. Уладзіміраў перакананы, што «Уладзімір Караткевіч — новы свет для балгарскіх чытачоў», і спадзяецца, што ён «хутка зойме трывалае месца ў іх чытацкіх інтарэсах» [10, с. 9]. Больш падрабязна пераклады твораў У. Караткевіча на балгарскую мову прааналізаваны Р. Эўцімавай у зборніку «Перакладная рэцэпцыя еўрапейскіх літаратур» [20].

Хочацца спадзявацца, што яшчэ многія яго лірычныя і празаічныя творы знойдуць патрэбнае асэнсаванне балгарскімі даследчыкамі і крытыкамі, якія будуць абапірацца не на павярхоўнае ўздзеянне караткевічаўскага слова, а на глыбокі і ўдумлівы яго аналіз, так, як некалі сам пісьменнік старанна і абачліва падбіраў яго для дакладнага выражэння сваёй думкі.

## Спіс літаратуры:


1. Ад стром балканскіх. Вершы сучасных балгарскіх паэтаў / Пер. і склад. Н. Гілевіч. — Мінск: Беларусь, 1965. — 312 с.
2. Антология белоруска проза / съст. В. Ипатова. — София: Елинда-Евтимов, 2005. — С. 213—223.
3. Антология на белоруската поезия / съст. Р. Евтимова. — София: Панорама, 2000. — С. 294—310.
4. Белоруски повести / Съст. В. Никифарович. — Варна: «Г. Бакалов», 1978. — 483 с.
5. Белоруски разкази / Съст. В. Куляшова, прев. Х. Берберов. — София: Народна култура, 1968. — 454 с.
6. Верабей, А. Уладзімір Караткевіч. Жыццё і творчасць / А. Верабей. — Мінск: Беларуская навука, 2005. — 271 с.
7. Вълчев, Г. Приобщения. Литературни контакти и аналогии / Г. Вълчев. — София: Народна просвета, 1971. — 140 с.
8. Гардзіцкі, А. Сафійскія гутаркі / А. К. Гардзіцкі // Вачыма сяброў. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1977. — С. 115—138.
9. Караткевіч, У. Збор твораў: у 25 т. / У. Караткевіч. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2012. — Т. 2. Паэзія 1961—1984. — 2012. — С. 184—188.
10. Караткевіч, У. Збор твораў: у 25 т. / У. Караткевіч. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2012. — Т. 3. Апавяданні. Казкі 1946—1981. — 2014. — С. 317—328.
11. Караткевич, У. Водорот. Сурови тухли / У. Караткевич // Народна младеж. — 1964. — № 111.
12. Караткевич, У. Летен дъжд и момиче / У. Караткевич // Литературен свят. — 2015. — № 73.
13. Караткевич, У. Сал на бурната река: Разкази / У. Караткевич. — София: Народна култура, 1982. — 273 с.
14. Караткевич, У. Фантазия / У. Караткевич // Литературен свят. — 2012. — № 43.
15. Караткевич, У. Черният Олшански замък. Роман / У. Караткевич. — София: Отечествен фронт, 1983. — 365 с.
16. Мальдзіс, А. Жыццё і ўзнясенне У. Караткевіча. Партрэт пісьменніка і чалавека / А. Мальдзіс. — Мінск: Літаратура і мастацтва, 2010. — 208 с.
17. Мальдзіс, А. Уладзімір Караткевіч — пісьменнік беларускі і еўрапейскі / А. Мальдзіс // Уладзімір Караткевіч і яго творчасць у еўрапейскім літаратурным кантэксце. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 2000. — С. 35—39.
18. Міланаў, А. Эпіграмы і вершы / Пер. У. Караткевіча // Полымя. — 1966. — № 5. — С. 109—113.
19. Навасельцава, Г. Мастацкае ўвасабленне айчыннай гісторыі ў творах к. ХХ ст. / Г. Навасельцава // Полымя. — 2012. — № 2. — С. 112—118.
20. Преводна рецепция на европейските литератури в България: в 8 т. / редкал. — София, 2000—2006. — Т. 4. Славянски литератури / Иван Павлов [и др.] — 2002. — С. 28—30.
21. Станкевіч, Р. Уладзімір Караткевіч: «Люблю справу рабіць хвацка» / Р. Станкевич // Полымя [Электронны рэсурс]. — 2010. — Рэжым доступу: http://www.polymja.lim.by/?p=115. — Дата доступу: 21.10.2015.
22. Станкевич, Р. Уладзимир Караткевич — апостолът на беларуската духовност (диалог-размишление) / Р. Станкевич // Електронно издателство LiterNet [Электронны рэсурс]. — 2010. — Рэжым доступу: http://liternet.bg/publish16/r_stankevich/sreshti/karatkevich.htm. — Дата доступу: 21.10.2015.
23. Утринна проверка. Млади съветски поети. — София: Народна младеж, 1962. — С. 59—66, 116.
24. Шляхам гадоў. Гісторыка-літаратурны зборнік. — Мінск: Мастацкая літаратура, 1990. — 372 с.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 2 лютага 2016 года.

**Рэзюмэ**

**Сяргей САМАХВАЛ**

**ТВОРЧАСЦЬ У. КАРАТКЕВІЧА Ў БАЛГАРСКАЙ КУЛЬТУРНАЙ ПРАСТОРЫ**

Выяўляюцца заканамернасці і адметнасці ўспрымання творчасці У. Караткевіча ў Балгарыі праз кантактныя сувязі з балгарскімі даследчыкамі і пісьменнікамі. Праводзяцца тыпалагічныя паралелі беларускай і балгарскай літаратур. Паказана значэнне творчасці беларускага класіка для балгарскага чытача.

**Ключавыя словы**: У. Караткевіч, успрыманне, рэцэпцыя, пераклад.

**Summary**

**Siarhei SAMAKHVAL**

**WORKS OF U. KARATKEVICH IN THE BULGARIAN CULTURAL SPACE**

The regularities and peculiarities of perception of U. Karatkevich in Bulgaria discover through a contact connection with the Bulgarian researchers and writers. Typological parallels of Belarusian and Bulgarian literatures are indicated. The significance of Belarusian art classics for the Bulgarian reader is marked.

**Key words:** U. Karatkevich, perception, reception, translation.

# ІГАР ЛУЧАНОК: «МАЯ ПАЛІТЫКА — ГЭТА МАЕ ПЕСНІ»



*Гаварыць з Лучанком — ох як няпроста. Але дужа цікава. Ён — чалавек імпульсіўны, эмацыянальны, парывісты. У нечым наіўны, безабаронны, як дзіця. І як дзіця — даверлівы, ранімы. Аднак, калі справа датычыцца рэчаў для яго важных, прынцыповых, Ігар Міхайлавіч становіцца рэзкім, катэгарычным, бескампрамісным. З-за гэтага часам узнікаюць непаразуменні, канфлікты.*

*Зрэшты, такое бывае ва ўсіх геніяльных людзей. А тое, што Лучанок — геніяльны кампазітар, не могуць адмаўляць нават яго апаненты.*

*Ён — меладыст ад Бога. Нават калі б ён стварыў толькі адну песню «Мой родны кут» на словы Якуба Коласа, то і пры гэтым імя Лучанка засталося б навечна ў аналах нацыянальнай культуры. Здавалася б, простая, бясхітрасная мелодыя, але колькі ў ёй закладзена пяшчоты, любові да роднага краю, якія глыбіні ўтрымліваюцца ў гэтым народным, да слёз беларускім меласе. Таму не дзіва, што ў песні, хоць ёй ужо не адзін дзясятак гадоў, розныя выканаўцы працягваюць адкрываць усё новыя і новыя фарбы, новыя адценні, новыя нюансы.*

*Не так даўно на юбілейным канцэрце Нацыянальнага народнага аркестра імя Іосіфа Жыновіча «Мой родны кут» выконваў Пётр Ялфімаў у суправаджэнні народнага аркестра і камернага хору. Я не ведаю, якія чароўныя кнопачкі знайшлі ў гэтай мелодыі выканаўцы, але адбыўся самы сапраўдны цуд: песня загучала дзівосна свежа, неверагодна кранальна і гэтак магутна, духаўздымна, што зала слухала, стаіўшы дыханне, а пасля ўзарвалася шквалам гарачых, удзячных воплескаў, якія не аціхалі, напэўна, хвілін дзесяць.*

*А ў Лучанка ж такіх песень — дзясяткі, сотні. «Спадчына», «Жураўлі на Палессе ляцяць», «Алеся», «Вераніка», «Зачарованая мая»... Можна пералічваць і пералічваць. А ён не стамляецца пісаць новыя творы. Заўсёды ў жыццёвым і творчым палёце.*

*Да Лучанка слава, прызнанне прыйшлі даволі рана. Яму было ўсяго дваццаць восем, калі ягоная песня «Памяць сэрца» атрымала першую прэмію на Усесаюзным конкурсе савецкай песні. Сам старшыня журы, легендарны Леанід Уцёсаў падышоў пасля да маладога кампазітара і, моцна паціснуўшы руку, выказаў цёплыя словы ўдзячнасці.*

*У дваццаць дзевяць Лучанку была прысуджана прэмія Ленінскага камсамола Беларусі, у трыццаць чатыры — прэмія Ленінскага камсамола, у трыццаць восем — Дзяржаўная прэмія БССР. Ён узнагароджаны ордэнамі «Знак Пашаны», Кастрычніцкай рэвалюцыі, Дружбы народаў, Францыска Скарыны, шматлікімі медалямі.*

*Усе самыя высокія званні атрымаў, калі яму не было яшчэ і пяцідзесяці. Заслужаны дзеяч мастацтваў — у трыццаць пяць, народны артыст БССР — у сорак чатыры, народны артыст СССР — у сорак дзевяць. Ён адзін з нямногіх у Беларусі, хто мае ганаровае званне заслужаны дзеяч культуры Польшчы.*

*І абсалютна дакладна: І. Лучанок — першы беларус, які стаў уладальнікам імяннай зоркі на Плошчы зорак эстрады ў Маскве. А вядомы беларускі пісьменнік Уладзімір Ліпскі напісаў пра жыццё і творчасць слыннага кампазітара дзве цудоўныя кніжкі — «Басаногж па зорках» і «Мелодыя душы».*

*Многія дзеячы савецкай, расійскай і беларускай культуры паспелі сказаць пра Ігара добрыя словы.*

*Ціхан Хрэннікаў: «Ігар Лучанок валодае меладычным дарам і добра адчувае песенны вобраз. Сваёй музыкай ён узбагаціў нашу агульную культуру».*

*Леў Ашанін: «Лучанок ніколі не гнаўся за модаю, за сенсацыйнымі трукамі. Ён жыве ў музыцы».*

*Іван Мележ: «Дарагі Ігар, з адной толькі «Спадчынай» ты ўжо смела можаш крочыць у вечнасць».*

*Пімен Панчанка: «Трансліраваўся творчы канцэрт Лучанка з Калоннай залы Дома Саюзаў. Надзвычай цікава. Таленавіты, чорт!»*

*Сам жа Ігар Міхайлавіч сказаў пра сябе вельмі сціпла: «Мару, каб душа мая, якую я ўклаў у песні, хаця б маленькай часцінкай перадалася маім слухачам, тым, хто любіць народную мелодыю, хто адчувае ў маіх песнях святло, надзею.*

*Буду шчаслівы, калі застануцца хаця б адна-дзве мае песні. Тады і я, кампазітар, буду жыць».*

## Мой родны кут

**— Ігар Міхайлавіч, гэта праўда, што вы паходзіце са старажытнага дваранскага роду?**

— Праўда. Але я даведаўся пра гэта нядаўна. І то не сам. Мне дапамог мой сябра, пісьменнік Уладзімір Ліпскі. Калі ён узяўся пісаць пра мяне кнігу, то вырашыў заглыбіцца ў архівы, даследаваць карані нашага роду. І высветлілася, што мая маці Аляксандра Герасімаўна Жук — са старажытнага дваранскага роду. Роду, які вядомы яшчэ з Сярэднявечча.

Першым даўным-даўно зарэгістраваў свой сямейны герб сандамірскі ваявода Ян. І адбылося гэта ажно ў 1352 годзе. Амаль семсот гадоў таму. Во куды, у якую глыбіню, сягаюць карані нашага роду!

Не магу сказаць, ці ведалі пра гэта мае бацькі. Ва ўсялякім разе, размовы такой дома ніколі не вялося. Пры савецкай уладзе ганарыцца гэтым не даводзілася. Наадварот, сваё шляхетнае паходжанне старанна замоўчвалі, інакш можна было атрымаць ярлык «вораг народа», «агент польскай дэфензівы». Ва ўсіх анкетах, біяграфіях звычайна пісалі: з сялян альбо з рабочых.

**— Вы згадалі пра сямейны герб. Ці маеце вы яго выяву? Што сімвалізуе ваш герб?**

— Маю. Дзякуючы таму ж Ліпскаму, які знайшоў гэты герб у архівах і зрабіў мне яго копію. Што на ім адлюстравана? На блакітным полі — срэбная падкова з замацаваным зверху срэбным крыжам. На ім, гэтым крыжы, сядзіць чорны груган з залатым пярсцёнкам у дзюбе. А яшчэ там намаляваны рыцарскі металічны шлем — як знак таго, што ў гэтым родзе былі воіны, абаронцы Айчыны. Карона ж — сімвал знатнасці, улады, велічы. Срэбная падкова — на шчасце, а крыж над ёй — знак заступніцтва Бога.

**— Мець такі герб — трэба было заслужыць. Гэта вялікі гонар і пашана. Чым жа займаліся вашы далёкія продкі? У якіх мясцінах яны жылі? Чым праславілі нашу зямлю?**

— З тых Жукоў, з якіх паходзіць мая маці, усе былі землеўладальнікі. Адзін з іх — Людвіг Аляксандравіч Жук, матчын прапрадзед, меў 81 дзесяціну зямлі. Чым ён займаўся яшчэ, акрамя хлебаробства, архіўныя дакументы не паведамляюць.

А вось пра яшчэ аднаго продка, майго прапрадзеда Фёдара Лучанка, сёетое ўдалося раскапаць. Аказваецца, ведучы немалую сялянскую гаспадарку, ён выконваў яшчэ і абавязкі войта. Па тым часе — гэта немалая пасада. Па сутнасці, ён быў начальнікам над жыхарамі сваёй, а можа, і суседніх вёсак.

Пазней Фёдар Лучанок пераехаў у Язоўкі Ігуменскага павета, меў там немалы надзел зямлі. Унук яго Лукаш стаў бацькам Міхаіла, а той — маім бацькам.

Дзеда Лукаша помню слаба. Ён памёр, калі мне было чатыры гады. Але ведаю, што гэта быў высокі, дужы мужчына. Гаспадар. Поля меў не багата — шэсць дзесяцін, аднак жыў заможна. Калі прыйшлі агітаваць за калгас — усё аддаў, а сам у калгас не пайшоў. Застаўся адзінаасобнікам. Спяваў у царкоўным хоры. Чытаў Біблію.

Лукаш быў тройчы жанаты, а памёр бабылём. Такая вось доля…

**— А як склалася доля ў вашых бацькоў?**

— Напачатку здавалася, што і мой бацька застанецца на зямлі, падоўжыць род хлебаробаў. Ён рана навучыўся касіць і араць, малаціць і сеяць. Умеў абыходзіцца з канём, кароваю. Аднак душа яго цягнулася да іншага. Змайстраваў дудку, падбіраў на ёй галасы птушак, выводзіў мелодыі, якія гучалі тады на вясковых вяселлях, вечарах танцаў.

Лукаш бачыў гэтае захапленне сына, але не замінаў яму. Наадварот — заахвочваў. Адшкадаваўшы немалыя грошы, купіў нават сапраўдную скрыпку. Больш за тое, адвёз сына за рэчку Чарняўку, у вёску Заботы — да Сідаравых



*Ігар Лучанок з бацькамі.*

хлопцаў. Каб навучылі Мішу іграць на гэтым няпростым інструменце. І кемлівы, таленавіты хлопец так авалодаў скрыпкаю, што пагалоска пра музыку-самавука дайшла ажно да дзядзькі Галубка.

**— Да Уладзіслава Галубка, знакамітага тэатральнага рэжысёра і акцёра? А як гэта адбылося?**

— Трупа Галубка, як вы ведаеце, была вандроўнай. Аднойчы яна апынулася на Ігуменшчыне. Нехта падказаў Галубку, што там-та і там-та ёсць такі хлопец, які выдатна іграе на скрыпцы. Уладзіслаў Іосіфавіч паслаў ганца ў Язоўкі. А потым была сустрэча і з самім Галубком. Пра што яны гаварылі, як дамовіліся — бацька асабліва не расказваў. Але ў кнізе ўспамінаў пра Уладзіслава Галубка ёсць невялічкі аповед і майго бацькі. Дык вось ён там піша, што Галубок доўга з ім размаўляў, расказваў пра сваіх артыстаў, перасоўны тэатр і нарэшце запрасіў працаваць разам. І бацька пагадзіўся.

Так Міхаіл Лукіч Лучанок стаў, як запісана ў адной з яго анкет, рабочым сцэны Беларускага дзяржаўнага перасоўнага тэатра БССР. І адбылося гэта 20 лютага 1926 года.

«Але чаму рабочым сцэны?» — можаце запытацца вы. Адкажу. Паколькі гэта быў тэатр на калёсах, то кожны артыст, калі была патрэба, станавіўся і грузчыкам, і рабочым сцэны, і асвятляльнікам, і прыбіральшчыцай. Вось Міхаіла Лукіча і запісалі ў рабочыя. Напэўна, яшчэ і дзеля пралетарскага каларыту. Хаця асноўная праца ў яго была, канешне ж, у тэатральным аркестры.

**— А маці ваша мела якое-небудзь дачыненне да тэатра, да мастацтва наогул?**

— Ніякага.

**— Дык як жа яны пазнаёміліся, калі жылі далёка адно ад аднаго?**

— Пазнаёміліся падчас гастроляў тэатра ў Крупскім раёне, дзе Аляксандра Герасімаўна працавала настаўніцай. Яна ўжо скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт, прыродазнаўчае аддзяленне, і мела адпаведны дыплом. Тады гэта было вялікай рэдкасцю — універсітэцкая адукацыя. Таму, відаць, простаму сялянскаму хлопцу, скрыпачу-самавуку, няпроста было заваяваць сэрца адукаванай дваранкі. Аднак жа неяк заваяваў!

Пажаніліся мае бацькі ў 1931 годзе. Прыехалі ў госці да Лукаша ў Язоўкі. А той рады: сын узяў жонку вучоную, з багатай сям'і. Зладзілі вяселле. І пражылі Аляксандра Герасімаўна і Міхаіл Лукіч у любові і згодзе пяцьдзясят тры гады.

Спачатку жылі ў Мінску. Здымалі пакойчык у доме на Ігуменскім тракце — цяпер вуліца Маякоўскага. У гэтым доме нарадзілася мая старэйшая сястра Ларыса, а пазней, у 1938 годзе, і я. Бацька паспеў ужо скончыць медыцынскі інстытут і атрымаць дыплом урача. З тэатрам Галубка, відаць, не без настойлівых угавораў маладой жонкі, ён развітаўся яшчэ ў 1931 годзе.

У энцыклапедыі вы можаце прачытаць, што я нарадзіўся ў Мар'інай Горцы. Гэта няпраўда. Не верце гэтаму. Нарадзіўся я ў Мінску, але пражыў у ім усяго трыццаць восем дзён. Справа ў тым, што па заканчэнні мединстытута Міхаіл Лукіч атрымаў накіраванне ў Магілёўскую псіхіятрычную бальніцу. Было месца і ў Мінску, але яго адправілі ў правінцыю. Відаць, з надзеяй, што той больш у сталіцу не вернецца. Як-ніяк ён цэлых пяць гадоў працаваў з самім Галубком, а Галубок — «вораг народа». Таму яго лепш трымаць на адлегласці.

Псіхбальніца знаходзілася на ўскраіне Магілёва, у пасёлку Пячэрск. Нашу сям'ю пасялілі тут жа, на тэрыторыі бальніцы, у асобным цагляным доме. Папраўдзе кажучы, жыццё тут, за бетоннай сцяной, сярод душэўна хворых людзей давалася бацьку нялёгка. Ды і нам з сястрой не было асабліва куды выйсці пагуляць.

Скарыстаўшыся тым, што дачцэ трэба ісці ў першы клас, а ў Пячэрску школы не мелася, і што жонцы-настаўніцы таксама няма працы, Міхаіл Лукіч стаў прасіцца, каб яго перавялі ў бальніцу Магілёва. І летам 1940 года мы пераехалі туды ў жылы раён чыгуначнай станцыі. Пасяліліся ў доме чыгуначнікаў на Першамайскай вуліцы. Сястра пайшла ў школу, а бацька стаў працаваць на трыццатым урачэбным участку станцыі Магілёў.

Ды радасць наша была кароткай. Мне не споўнілася і трох гадоў, калі пачалася вайна.

## Трывожная памяць

**— Ігар Міхайлавіч, а вы тое ліхалецце крыху памятаеце? Як склаўся лёс вашай сям'і з пачаткам вайны?**

— З вайной усё пераблыталася ў нашай сям'і. Я тады, хоць і маленькі быў, памятаю адзін эпізод. Мы некуды беглі, вакол нас узрываліся снарады. І раптам у маім чаравіку развязаўся шнурок. Мы прыпыніліся, каб завязаць. І тут наперадзе ўзарвалася бомба. Калі б мы пабеглі, нас бы накрыла…

Яшчэ помню, як начавалі ў лесе паблізу Пячэрска. Мы — мама, сястра Ларыса і я — уцяклі туды з Магілёва, які немцы бамбілі. Бацьку мабілізавалі крыху раней. Перад самай вайной ён скончыў трохмесячныя курсы і атрымаў званне ваенурача 3-га ранга. З пачаткам вайны яго прызвалі на службу. На шчасце, яму яшчэ ўдалося ўзяць дазвол на эвакуацыю сям'і. У тыя дні якраз фарміраваўся новы эшалон на ўсход. Мы паспелі трапіць на гэты цягнік. Ехалі ў таварным вагоне. Людзей — як мурашак. Над намі ляталі самалёты, кідалі бомбы. Цягнік часта спыняўся, загружалі раненых. Урэшце рэшт мы даехалі да станцыі Марозаўская, гэта пад Сталінградам, і нас высадзілі. Зімавалі на хутары Бакланава, у доме Марачкіных. У гаспадыні сваіх было пяцёра дзяцей, ды нас яшчэ трое. Галадалі і мёрзлі страшна.

Але аднойчы здарыўся цуд. Бацька, якога вайна прывяла на Сталінградскі фронт, адшукаў нас на хутары і забраў да сябе. Некалькі дзён мы жылі ў Сталінградзе на вакзале. А пасля пераехалі ў Сальск, куды бацьку накіравалі на працу.

**— Ігар Міхайлавіч, вайна пакінула ў вашай душы балючы след?**

— Як вам сказаць… Часам было вельмі страшна, асабліва калі побач узрываліся снарады, калі на маіх вачах гінулі людзі. Няпроста пераЖыць холад і голад.

Але дзяцінства ёсць дзяцінства. Помню, мы, хлапчукі, злавілі ў полі зайчыка. Пушысценькі такі, шэранькі, цёплы. Ён галодны, і мы галодныя. Але гулялі разам, не пакрыўдзілі звярка.

Альбо яшчэ. Перад вачыма, як жывы, стаіць дзень, калі з Сальска вытурылі немцаў. Выйшаў я на вуліцу, іду па шарпаку, нагой ільдзінкі падбіваю. Хораша так, весела!..

Помню, як прывялі мяне ў школу, у першы клас. Сцены напалову разбураныя — у будынак трапіла бомба. Холадна. Чарніла замярзала. А сшыткі мы рабілі з газет. Пісалі на палях, між радкоў… Але прага да вучобы была вялікая. Усім нам хацелася хутчэй стаць дарослымі, адукаванымі і ўключыцца ў аднаўленне разбуранай краіны.

Ёсць у мяне пра знаходжанне ў Сальску і матэрыяльнае сведчанне. За некалькі дзён да ад'езду на радзіму мы з мамай пайшлі на мясцовы рынак. Там інвалід, мастак-самавук, маляваў партрэты ўсіх жадаючых. Мама пасадзіла мяне перад ім, і праз паўгадзіны партрэт быў гатовы. З надпісам: «Сальск, 21 ліпеня 1946 года».

Праз тыдзень мы зноў садзіліся ў таварняк, і за нашым вагонам, помню, беглі мае аднакласнікі з чыгуначнай школы нумар дзевяць і махалі мне на развітанне рукамі.

А ў мяне наперадзе была сустрэча з роднай Беларуссю, якую я мала ведаў, але якая вабіла мяне і хвалявала.

## Нараджэнне песні

**— Ігар Міхайлавіч, якім вам запомнілася вяртанне на радзіму — радасным, шчаслівым ці, можа, наадварот, сумным, тужлівым?**

— Ведаеце, дзіцячая душа — надзвычай чуйная да ўсяго і пераменлівая ў настроях. Развітанне са школьнымі сябрамі, з горадам, у якім мы пражылі амаль пяць гадоў, канешне ж, не магло не выклікаць у маёй душы шчымлівай тугі. Але як толькі цягнік пайшоў па беларускай зямлі, радасць і ўсхваляванасць бацькоў перадалася і мне. Я з вялікай цікавасцю разглядаў гарады, праз якія мы праязджалі, — Гомель (тут бацька працаваў на самым пачатку вайны), Бабруйск (калыска мамінага дзяцінства), невядомыя мне Асіповічы…

А сышлі мы на станцыі Пухавічы. Убачылі звычайныя вясковыя хаты, самотныя, бязлюдныя вуліцы і разгубіліся. Бацька стараўся нас развесяліць, падбадзёрыць:

— Ну, што насы павесілі? Бярыце рэчы і пойдзем шукаць наш маёнтак.

Маёнткам аказаўся прыстанцыйны драўляны барак. Адна яго палова прызначалася для жылля, а ў другой размяшчалася чыгуначная амбулаторыя. Начальнікам гэтай медыцынскай установы і стаў мой бацька.

Аднак у бараку мы пражылі не доўга. Бацька вырашыў пасяліцца ў Мар'інай Горцы, раённым цэнтры. Ён перавёз з вёскі Язоўкі бацькоўскі дом, які пуставаў з вайны. Накрыў яго шыферам, пафарбаваў, прыбудаваў веранду, выкапаў калодзеж, агарадзіў сядзібу новенькім плотам. Мама пасадзіла на ўчастку шмат кветак, вінаград, некалькі кустоў бэзу, грэцкі арэх, айву. А самае галоўнае — на агародзе раслі агуркі, памідоры, клубніцы, якія мне, васьмігадоваму хлапчуку, здаваліся тады найсмачнейшымі ў свеце.

У новым доме час ад часу гасцявалі сваякі — бацькавы сёстры Тоця і Насця, якія пешкам прыходзілі з Язавак, за трыццаць кіламетраў, а часам збіраліся калегі, сябры бацькоў. І тады мама ставіла на стол сваю фірмовую ягадна-яблычную наліўку, а бацька даставаў скрыпку — і да позняй ночы ў хаце гучалі песні.

Усё гэта разам стварала атмасферу ўтульнасці, камфорту, абжытасці і давала адчуванне сапраўднага шчасця.

**— І колькі вы пражылі тут, у атмасферы сямейнага шчасця?**

— Чатыры гады. У Мар'інай Горцы я пайшоў у другі клас, а, калі скончыў пяты, бацькі аддалі мяне вучыцца музыцы. Прафесійна. Да гэтага я займаўся самастойна. У мяне быў акардэон-чвэрць, цымбалы, і яшчэ стаяла ў доме чорнае шыкоўнае піяніна, якое бацька купіў у некага з мар'інагорцаў. Першыя ўрокі музычнай граматы мне даў бацька. А пасля я крыху наведваў самадзейныя заняткі, якія вяла наша суседка Ганна Генадзьеўна.

Але бацькі палічылі, што гэтага мала, каб стаць сапраўдным музыкам. І ў жніўні 1950 года мама прывезла мяне ў Мінск. Знайшлі плошчу Свабоды, музычную школу-дзесяцігодку. Ішоў якраз набор навучэнцаў. І вось першы экзамен. Заходжу я ў клас. Сядзяць важныя мужчыны. Адзін з іх пытаецца: «Ну, што ты нам можаш сыграць?» І паказвае на піяніна. Я сеў і нешта — не помню ўжо што — сыграў. Бачу, экзаменатары не ў захапленні. Кажу ім: «Я ўмею і на акардэоне». Сыграў ім вальс, польку, марш. Камісія павесялела. А я асмялеў: «Магу яшчэ на цымбалах». Пашапталіся. Праверылі слых і абвясцілі: «Прымаем цябе цымбалістам». У той год якраз адкрываўся клас па цымбалах, і я ў ім аказаўся адным з першых вучняў.

**— І вы ў свае трынаццаць гадоў засталіся ў вялікім горадзе адзін. Без бацькоў. Не сумавалі?**

— Напачатку сумаваў. А пасля ўцягнуўся ў заняткі, не было ўжо калі сумаваць. Дый амаль кожную нядзелю ездзіў у Пухавічы. А то мама з сястрой прыязджалі да мяне. А на наступны год бацькі дзеля мяне пераехалі ў Мінск. Бацька ўладкаваўся ўрачом у здраўпункт чыгуначнай бальніцы, мама — завучам у вячэрнюю школу, а Ларыса (яна на той час скончыла медвучылішча) — лабаранткай у акадэмічным інстытуце. Нам нават выдзелілі сваё жыллё — асобны пакойчык у доме нумар тры па вуліцы Фрунзе. Вы ведаеце гэты дом — якраз насупраць сённяшняга Дома літаратараў.

**— Ігар Міхайлавіч, дык вы, аказваецца, прафесійны цымбаліст?**

— А вы думалі!.. За тры гады я настолькі дасканала асвоіў гэты інструмент, што стаў адным з лепшых вучняў у класе. Мяне нават здымалі для кіначасопіса «Навіны дня». А ў газеце «Советская Белоруссия» змясцілі здымак хлопчыка з цымбаламі, у піянерскім гальштуку. Гэта быў я! (*смяецца*).

А вучыўся я ў выдатнага настаўніка — вядомага беларускага цымбаліста Аркадзя Астрамецкага. Лаўрэата першага Усесаюзнага агляду выканаўцаў на народных інструментах. Пазней ён стаў народным артыстам Беларусі. І, напэўна, хацеў, каб і я пайшоў яго шляхам. Ва ўсякім разе, відаць, не без рэкамендацыі майго настаўніка на другім годзе навучання мяне залічылі артыстам аркестра народных інструментаў, якім кіраваў Іосіф Жыновіч.

**— Чакайце, а колькі ж вам тады было?**

— Чатырнаццаць гадоў! І я нейкі час хадзіў не толькі на заняткі ў музычную школу, але і на працу. Паколькі я быў невысокага росту, мяне пасадзілі ў першым радзе аркестра. Помню, мы рыхтаваліся да Дэкады беларускага мастацтва ў Маскве. Рэпетыцыі — кожны дзень, па некалькі гадзін. Развучвалі сімфаньету Мікалая Чуркіна «Беларускія малюнкі», народныя танцы «Лявоніха», «Мікіта», акампаніравалі народнаму артысту СССР Мікалаю Ворвулеву. Але паездкі не адбылося: памёр Сталін.

А неўзабаве я аркестр пакінуў. Справа вось у чым. У дзявятым класе сур'ёзна захапіўся фартэпіяна. Да гэтага мяне падахвоціў піяніст Рыгор Шаршэўскі, за плячыма ў якога была Ленінградская кансерваторыя, школа высокай музыкі. Гэта ён адкрыў для мяне Чайкоўскага, Рахманінава, Скрабіна, Баха, Бетховена, Ліста, Шапэна, Пракоф'ева, Шастаковіча… А кампазітар Віктар Белы ўвёў мяне ў свет кампазіцыі. З-за яго я праседзеў два гады ў дзявятым класе.

**— А што здарылася?**

— Захапіўся кампазіцыямі, пайшоў прасіць кіраўніцтва школы, каб мяне перавялі ў клас фартэпіяна. А дырэктар Ізраіль Рыгоравіч Герман паставіў умову:

«Калі пойдзеш у дзясяты — выпусцім цымбалістам. Калі застанешся яшчэ на год у дзявятым — будзеш піяністам». Я падумаў, падумаў і вырашыў стаць другагоднікам.

**— І гэтае рашэнне, як мне падаецца, стала паваротным, вырашальным у вашым лёсе. У віртуозным музыку пачаў нараджацца таленавіты кампазітар.**

— Напэўна, можна сказаць і так. Хаця нараджэнне гэтае адбылося не адразу, не аўтаматычна з пераходам у клас фартэпіяна. Мелодыі, якія часам узнікалі, цепліліся ў маёй душы і раней, цяпер загучалі больш выразна, папрасіліся на паперу. І першыя песні былі напісаны менавіта ў тым камунальным пакойчыку па вуліцы Фрунзе. Некаторыя з іх не захаваліся, але адна гучыць і сёння. Гэта — «Песня пра Мінск» на словы народнага паэта Пімена Панчанкі.

**— Ігар Міхайлавіч, скажыце, калі ласка, а як наогул нараджаецца песня? Гэта доўгі, пакутлівы працэс ці, наадварот, імгненнае творчае азарэнне?**

— Ведаеце, творчасць — гэта надзвычай цікавая, загадкавая рэч. А нараджэнне песні — заўсёды таямніца. Адзін тужыцца, прыкладае Бог ведае колькі намаганняў, каб стаць знакамітым, а нічога не атрымліваецца. А вось самадзейны кампазітар Пятрэнка напісаў на словы Веры Вярбы «У суботу Янка ехаў ля ракі», здавалася б, просценькую песню, а народ заспяваў. І спявае да гэтага часу.

Не ўсё бывае раўназначным нават у самага таленавітага кампазітара. Хачатуран напісаў шмат цікавых п’ес, а ведаюць і любяць пераважна «Танец з шаблямі». Альбо той жа паланез «Развітанне з Радзімай» Агінскага…

Адна песня нараджаецца, як кажуць, у адзін прысест, выплёскваецца з душы адразу ўся, ад пачатку да канца, і не патрабуе пасля ні дапрацоўкі, ні шліфоўкі. А іншая — даецца цяжка, круціш яе і так, і гэтак, а ў ёй усё нешта муляе, усё нешта не тое. І часам траціш не адзін дзень, а то і тыдзень, пакуль нарэшце не знойдзеш прымальнае рашэнне.

У песні галоўнае што? Мелодыя. А ў мелодыі ёсць інтанацыя, ёсць матыў. Некалькі гукаў — гэта матыў. Але аснова — мелодыя. Мне Бог даў мелодыю. І пакуль ёсць сілы, пакуль у маёй душы гучыць мелодыя, будуць нараджацца песні.

## Шлях да прызнання

**— Я разумею: талент даецца ад Бога. Але ж гэты Боскі дар можна развіць, умацаваць, а можна загубіць, закапаць, вобразна кажучы, у зямлю. Што трэба для таго, каб творца максімальна рэалізаваў свой прыродны творчы патэнцыял?**

— Многае: не ленавацца, не распыляцца, не раскідвацца на дробязнае, другаснае. Але найперш — многа і сур’ёзна вучыцца.

На шчасце, я гэта зразумеў дастаткова рана. Адразу пасля музычнай школы паступіў у кансерваторыю. І вучыўся адразу на двух факультэтах: у Анатоля Васільевіча Багатырова праходзіў клас кампазіцыі, а ў Рыгора Ільіча Шаршэўскага, заснавальніка беларускай фартэпіяннай школы, удасканальваў выканальніцкае майстэрства. Некалькі гадоў быў ленінскім стыпендыятам.

А яшчэ я любіў даследчыцкую работу. Актыўна ўдзельнічаў у навуковым студэнцкім таварыстве, выступаў з лекцыямі, ездзіў у фальклорныя экспедыцыі. Дарэчы, па выніках такіх паездак наша група выдала цікавы зборнік музычнага фальклору, за што мы атрымалі першую прэмію Акадэміі навук. І ў гэтым таксама надзвычай неабходная, карысная вучоба.

**— Ігар Міхайлавіч, а чаму вы, лепшы выпускнік кансерваторыі, ужо дастаткова вядомы, таленавіты кампазітар, не засталіся ў сталіцы, а паехалі на перыферыю?**

— Гэта была прапанова майго настаўніка Анатоля Багатырова. Як я цяпер разумею, ён хацеў, каб я, будучы кампазітар, акрамя тэорыі, акунуўся яшчэ і ў рэальнае жыццё, адчуў усе яго плюсы і мінусы. Для творчага чалавека гэта вельмі важна.

Мяне размеркавалі ў Гомель выкладчыкам музычнага вучылішча. І літаральна з першых дзён я пераканаўся, што гэта правільнае рашэнне. У мяне сталі завязвацца творчыя кантакты з мясцовай інтэлігенцыяй, з'явіліся задумы новых музычных твораў.

На жаль, стала падводзіць здароўе. Давалася ў знакі перанапружанне падчас вучобы на двух факультэтах. Зімой адчуў сябе вельмі кепска. І вырашыў ехаць у Мінск. Там мяне адразу паклалі ў бальніцу. Пасля гэтага з'ездзіў яшчэ ў Есентукі. І ў Гомель мяне бацькі ўжо не адпусцілі. З дапамогай сяброў уладкаваўся выкладчыкам кафедры музыкі ў Мінскі педагагічны інстытут.

**— А праз год нечакана апынуліся ў Ленінградзе…**

— Ведаеце, мне ад самага пачатку шанцавала на добрых людзей, клапатлівых настаўнікаў. Выдатны наш кампазітар Уладзімір Алоўнікаў, які змяніў Багатырова на пасадзе рэктара кансерваторыі, сустрэўшы мяне аднойчы на нейкім канцэрце, запытаўся, ці не хацеў бы я паехаць на стажыроўку ў Ленінградскую кансерваторыю. Канешне, я з радасцю пагадзіўся.

У Ленінградзе мяне напаткала яшчэ адна прыемная нечаканка: экзамен у знакамітай кансерваторыі прымаў сам Дзмітрый Шастаковіч. Азнаёміўшыся з некаторымі маімі творамі, ён распытаў, дзе я працую, што раблю, а пасля цвёрда сказаў: «Гэта не ваша справа. Вы — кампазітар!» Вось гэтае благаслаўленне генія музыкі я з удзячнасцю нясу праз усё сваё жыццё.

Два гады вучобы ў Ленінградзе мне многае далі. Я скажу, магчыма, банальныя словы, але, паверце, гэта сапраўды так: я стаў бачыць далей, глыбей. Абвастрыўся слых, адкрыліся новыя гарызонты.

**— І тым не менш ваша вучоба на гэтым не спынілася.**

— Гэта праўда. Я — вечны вучань (*смяецца*). Дзвюх вышэйшых музычных устаноў мне аказалася мала. Захацелася скончыць аспірантуру пры Маскоўскай кансерваторыі. І зноў мне дапамог Уладзімір Алоўнікаў. У кастрычніку 1967 года я быў вызвалены ад абавязкаў выкладчыка кафедры кампазіцыі Беларускай кансерваторыі і залічаны аспірантам кансерваторыі ў Маскве. На два шчаслівыя гады я стаў вучнем Ціхана Хрэннікава, строгага і вельмі патрабавальнага настаўніка.

Выпускныя экзамены ў мяне прымалі два прафесары, два народныя артысты, два вядомыя ў краіне кампазітары — Ціхан Хрэннікаў і Мікалай Аладаў. І абодва паставілі мне «выдатна». А ў якасці дысертацыі я напісаў кантату «Невядомы салдат», якая спадабалася Хрэннікаву і якая высока ацэнена беларускімі музыказнаўцамі.

**— Вернемся, аднак, да песень. Вы даволі рана атрымалі прызнанне як кампазітар. Першыя ўжо вашы музычныя творы, напісаныя яшчэ студэнтам кансерваторыі, былі заўважаны крытыкай, пра вас пісалі рэспубліканскія газеты, часопісы, вас любілі здымаць фотакарэспандэнты, запрашалі на радыё. Але ўсё гэта, так сказаць, папулярнасць мясцовага значэння. А калі да вас прыйшла больш шырокая вядомасць, першая ўсесаюзная слава?**

— Магу назваць нават канкрэтную дату. Гэта здарылася 23 кастрычніка 1966 года. Тады ў Маскве праходзіў Усесаюзны конкурс на лепшую савецкую песню, прысвечаны 50-годдзю Вялікага Кастрычніка. Дваццаць дзён на сцэне Маскоўскага тэатра эстрады гучалі песні Ісаака Дунаеўскага, Дзмітрыя Пакраса, Міхаіла Блантэра, Васіля Салаўёва-Сядога, Дзмітрыя Шастаковіча, Барыса Макравусава і іншых выдатных кампазітараў.

Прагучала на гэтым высокім форуме і мая песня «Памяць сэрца», напісаная на словы паэта-франтавіка Міхаіла Ясеня і выкананая тады маладым, малавядомым спеваком Віктарам Вуячычам. Мы, канешне, на вялікі поспех не разліч-

валі — ужо сам факт удзелу ў такім прэстыжным конкурсе быў для нас немалой узнагародай.

Журы конкурсу ўзначальваў народны артыст Савецкага Саюза Леанід Уцёсаў. У складзе журы — спявачкі Клаўдзія Шульжэнка, Гелена Веліканава, кампазітары Ігар Шамо, Барыс Цярэнцьеў, Уладзімір Алоўнікаў…

І вось надышоў судны дзень. Абвяшчаюць дыпламантаў — нас не назвалі. Агучылі імёны тых, хто заняў трэцяе месца. На жаль, не мы. Абвяшчаюць другую прэмію — міма. І раптам чуем: «Пераможцамі конкурсу сталі…» І гучаць нашы прозвішчы. Мы — лепшыя!

Папраўдзе кажучы, у гэта спачатку цяжка было паверыць. Трапіць у кампанію такіх знакамітасцей і стаць першым здавалася нечым неверагодным, нейкай фантастыкай. Але гэта была сапраўдная перамога, прызнанне беларускай песні, яе аўтараў.

Расказвалі пасля, што Леанід Уцёсаў, слухаючы нашу песню, ажно праслязіўся. А калі ўручаў дыплом пераможцы, падарыў мне сваю кнігу «С песней по жизни». І размашыстым почыркам надпісаў: «Победителю конкурса советской песни тов. Лученку Игорю Михайловичу с симпатией».

У Мінск мы вярнуліся героямі. На вакзале нас сустракалі кветкамі, шчырымі абдымкамі — сябры, сямейнікі, афіцыйныя асобы. Але справа нават не ў гэтым. Песня «Памяць сэрца» вывела нас на новую арбіту. Яна як бы наноў нарадзіла мяне як кампазітара, а Віктара Вуячыча — як спевака. Нас прызналі на ўсіх прасторах Савецкага Саюза. Афіцыйныя ўлады надалі нам званні народных артыстаў Беларусі.

**— Сорак гадоў таму ў Маскве ў Калоннай зале Дома саюзаў адбыўся першы аўтарскі канцэрт маладога кампазітара Ігара Лучанка. Што значыла для вас гэта падзея?**

— Значыла многае. Разумееце, атрымаць перамогу на Усесаюзным конкурсе — гэта магла быць і выпадковасць. Ну, удалося чалавеку напісаць добрую песню, добра яе выканаць, плюс яшчэ, магчыма, нейкія сімпатыі членаў журы. Словам, гэта яшчэ не поўнае прызнанне. Гэта ўсяго толькі аванс, які ты павінен апраўдаць усёй сваёй далейшай творчасцю. А вось аўтарскі канцэрт, ды не абы-дзе, а ў Маскве, у Калоннай зале Дома саюзаў — гэта ўжо сур'ёзнае прызнанне.

Дарэчы, на тым канцэрце мае песні выконвалі зоркі савецкай эстрады — Марыя Пахоменка, Галіна Нянашава, Віктар Вуячыч, Валерый Кучынскі, Анатоль Падгайскі, Тамара Раеўская, дзіцячы хор Усесаюзнага радыё і тэлебачання пад кіраўніцтвам Віктара Папова, аркестр Усесаюзнага радыё і тэлебачання пад кіраўніцтвам Юрыя Сіланцьева, ансамбль «Песняры» з Уладзімірам Мулявіным. Бралі ўдзел паэты Леў Ашанін, Мікалай Дабранраваў, кампазітары Аляксандра Пахмутава, Марк Фрадкін…

## Палітыка і творчасць

**— Кажуць, кампазітарскі талент Ігара Лучанка перш за ўсё заўважыла і ацаніла ўплывовая па тым часе маладзёжная арганізацыя Беларусі — Ленінскі камсамол…**

— Гэта праўда. Уплывовай арганізацыя была таму, што ўплывовымі былі яе лідары, якіх ведала і цаніла ўся рэспубліка, — Генадзь Жабіцкі, Уладзімір Падрэз, Арсен Ваніцкі, Генадзь Анціпаў, Канстанцін Платонаў, Вячаслаў Радомскі… І я заўсёды лічыў і лічу вялікім гонарам для сябе, што менавіта камсамол заўважыў маладога кампазітара і прысудзіў яму прэмію Ленінскага камсамола Беларусі.

А калі праз год я атрымаў яшчэ і прэмію Усесаюзнага камсамола, мяне сталі называць камсамольскім кампазітарам. У гэтым няма нічога зняважлівага. Наадварот. Я шчыра ганарыўся тым, што моладзь прызнала мяне, што я стаў яе своеасаблівым кумірам. Мяне сталі запрашаць на розныя маладзёжныя мерапрыемствы. У складзе маладзёжных дэлегацый аб'ездзіў паўсвету. Быў удзельнікам трох




*Ігар Лучанок з Уладзімірам Мулявіным і Уладзімірам Ліпскім.*

Сусветных фестываляў моладзі і студэнтаў — у Берліне, у Гаване і ў Маскве. Магу з поўнай адказнасцю сказаць: тыя фестывальныя дні — памяць на ўсё жыццё.

**— Ігар Міхайлавіч, а ці не перашкаджалі такія вось шматлікія мерапрыемствы вашай творчасці?**

— Толькі дапамагалі! Новыя знаёмствы, новыя ўражанні, як правіла, нараджалі і новыя песні. Для Берлінскага фестывалю я напісаў песню «Мы ідзем па зямлі», якую падхапіла і заспявала моладзь розных краін. У Гаване незабыўнымі сталі сустрэчы з Фідэлем і Раулем Кастра. А рытмы Кубы, яе музыка і песні натхнілі мяне на песню «З намі ты разам, Куба», якая стала лаўрэатам Сусветнага форуму моладзі.

**— Вы сказалі, што аб'ехалі паўсвету. А не спрабавалі падлічыць, колькі ўсяго краін удалося наведаць?**

— Аднойчы мы з сябрам Уладзімірам Ліпскім спрабавалі гэта зрабіць. Налічылі шэсцьдзясят краін і збіліся з ліку. Дый справа, па вялікім рахунку, не ў гэтым. Галоўнае — што засталося ў душы, у памяці пасля той ці іншай замежнай паездкі.

Незабыўнай засталася для мяне паездка на Міжнародны фестываль песні ў Чылі. Па-першае, выдатна прагучалі мае «Верасы» ў выкананні Віктара Вуячыча. Пасля гэтага нас з Віктарам сталі пазнаваць на вуліцах, вітаць радаснымі воклічамі і шчырымі ўсмешкамі. Па-другое, вельмі цёплай, сардэчнай была сустрэча з прэзідэнтам Чылі Сальвадорам Альендэ. А Луіс Карвалан запрасіў на загарадны пікнік, дзе я іграў, а прысутныя спявалі.

Асобна трэба сказаць пра знаёмства з сусветна вядомым чылійскім паэтам Пабла Нерудам. Ён аказаўся не толькі цікавым суразмоўцам, але і выдатным чытальнікам сваіх вершаў. Упершыню я тады пашкадаваў, што на верлібры не ўмею пісаць песні.

Двойчы пабываў у Амерыцы. Першы раз — з ансамблем «Песняры». Канцэрты праходзілі ў многіх гарадах, і на ўсіх эстрадах — з аднолькавым поспехам. Гучалі не толькі мае песні, але і творы іншых савецкіх кампазітараў. Амерыканцы апладзіравалі «Песнярам» стоячы. Тады ў нас гэта яшчэ не было прынята, і нам такая экзальтацыя гледачоў была нязвыклай, здавалася дзівам. Для мяне тая паездка стала добрым экзаменам, праверкай на трываласць маіх песень.

Зусім іншы, таямнічы, па-ўсходняму загадкавы свет сустракаеш у Кітаі. Туды мы паехалі як парламентарыі — Анатоль Лук'янаў, старшыня Вярхоўнага Савета СССР, і я, член камітэта па міжнародных справах. У той паездцы Анатоль Іванавіч адкрыўся для мяне яшчэ і як неблагі паэт. Я нават на адзін з яго вершаў напісаў песню «Іван-чай», якая прагучала па Усесаюзным радыё і пэўны час была даволі папулярнай.

Такія паездкі, вядома ж, забіралі нямала часу. Але назваць іх марнымі не магу. Ужо хоць бы таму, што яны пашыралі мой кругагляд, дапамагалі глыбей разумець і цаніць прыгажосць і багацце роднай зямлі. Як пяецца ў адной з маіх песень, «Каб любіць Беларусь нашу мілую, трэба ў розных краях пабываць…»

**— Ігар Міхайлавіч, аднак жа ваш час забіралі не толькі замежныя паездкі, але і актыўная грамадская дзейнасць. Я маю на ўвазе дэпутацтва.**

— Шчыра скажу: я ў дэпутаты не імкнуўся. Мяне ўгаварылі. Пераканалі, што мая прысутнасць у парламенце будзе садзейнічаць вырашэнню шматлікіх праблем культуры. І ў лютым 1985 года я стаў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

І, напэўна, някепска працаваў, калі праз чатыры гады быў абраны народным дэпутатам Вярхоўнага Савета СССР. Час пачынаўся бурны. У грамадстве наспявалі вялікія перамены. Усе мы верылі, што перабудова, якая пачалася, усталюе атмасферу дэмакратыі і галоснасці, якасна зменіць наша жыццё. І я, хоць не лічыў сябе палітыкам, з галавой акунуўся ў дэпутацкія клопаты. Тое, што выказваў у песнях, тое адстойваў і з высокіх трыбун.

**— А паралельна з гэтым, наколькі я ведаю, вы яшчэ прымалі актыўны ўдзел як член журы ў фестывалі савецкай песні ў польскім горадзе Зялёна Гура. І нават кажуць, што вы сталі ініцыятарам і арганізатарам адпаведнага фестывалю, але ўжо польскай песні, у Беларусі.**

— Праўду кажуць. Справа ў тым, што горад Зялёна Гура быў пабрацімам нашага Віцебска. І ў мяне ўзнікла ідэя як знак узаемнай павагі арганізаваць падобны фестываль у Віцебску. Але не думайце, што ўсё так лёгка вырашылася. Абабіўшы парогі не аднаго дзясятка міністэрскіх кабінетаў, я так нічога і не дабіўся. І тады пайшоў шукаць падтрымкі ў ЦК КПСС. І знайшоў! Там інтэрнацыяналізм цаніўся высока. А менавіта гэта ідэя была закладзена ў аснову задуманага фестывалю.

Для перамоў у Варшаву вылецела дэлегацыя, у якой былі загадчык аддзела культуры ЦК КПСС Юрый Воранаў, загадчык аддзела культуры ЦК КП Украіны Барыс Іваненка і старшыня Саюза кампазітараў Беларусі Ігар Лучанок. Палякі ідэю ўхвалілі. Было прынята рашэнне: фестываль у Віцебску арганізаваць!

**— І яшчэ ходзіць пагалоска, што вы тады ж сабралі і прывезлі з Польшчы два мяхі нот…**

— Ну, наконт мяхоў — гэта перабольшанне (смяецца). Але добрую торбу запісаў лепшых, папулярных польскіх песень я сапраўды прывёз. І аддаў іх Беларускаму дзяржаўнаму аркестру, каб развучылі. А сам узначаліў журы, куды запрасіў самых аўтарытэтных кампазітараў, спевакоў — Марка Фрадкіна, Эдзіту П'еху, Льва Лешчанку, беларускіх калег.

І летам 1988 года фестываль польскай песні ў Віцебску адкрыўся. У вядомым цяпер летнім амфітэатры, які спецыяльна пабудавалі да адкрыцця мерапрыемства. На фестываль прыехалі не толькі спевакі з Польшчы, але і амаль з усіх рэспублік Савецкага Саюза. Цёплыя прывітанні прыслалі Міхаіл Гарбачоў і Войцэх Ярузельскі. Атрымалася сапраўднае свята песні.

Праз два гады з не меншым поспехам адбыўся і другі фестываль. А далей пачалося нешта незразумелае. Палітычныя перамены ў Польшчы, жнівеньскія падзеі 1991 года ў Маскве рэзка змянілі палітычны клімат. Закрыўся фестываль савецкай песні ў Зялёнай Гуры. Новыя палітыкі сталі патрабаваць закрыць і фестываль польскай песні ў Віцебску. Не ведаю нават, як мне ўдалося, але ў той

крытычны момант я зрабіў усё, каб віцебскі фестываль захаваць. Праўда, змяніўшы яго канцэпцыю, паклаўшы ў аснову ідэю славянскай еднасці, збліжэння нацыянальных культур. І назву прыдумалі новую — «Славянскі базар».

Ідэю падтрымалі Міністэрства культуры Беларусі, а таксама міністэрствы культуры Расіі і Украіны. Разам з дачкой Пятра Машэрава Наталляй я ўзначаліў арганізацыйны камітэт Міжнароднага музычнага фестывалю славянскай песні. Для падрыхтоўкі свята запрасілі з Масквы вопытнага шоў-бізнесмена Сяргея Віннікава. І ўлетку 1992 года «Славянскі базар» быў урачыста адкрыты.

Але даволі хутка я ў ім расчараваўся. «Базар» сталі паціху ператвараць у камерцыю, у бездухоўнасць. Галоўным станавілася не славянская песня, а долары. А калі Беларусь сталі наогул адсоўваць ад фестывалю, я ўстаў і сышоў. Гэты факт шырока вядомы.

Сышоў, але не апусціў рукі. Стаў змагацца за вяртанне «Славянскага базару» да першапачатковай ідэі. Напісаў вялікае, аргументаванае пісьмо Прэзідэнту Беларусі. У гэтым пісьме я не толькі падрабязна выклаў праблемы, але і прапаноўваў канкрэтныя меры па іх вырашэнні. І заключыў так: «Паважаны Аляксандр Рыгоравіч! Спыніце гвалт на «Славянскім базары». За правядзеннем фестывалю патрэбен дзяржаўны, фінансавы і мастацкі кантроль…»

І мой голас быў пачуты. Міжнароднае свята песні ў Віцебску Прэзідэнт узяў пад свой патранаж. Беларуская песня, беларускія выканаўцы і калектывы выйшлі з ценю і заявілі пра сябе ярка і самабытна.

**— Ігар Міхайлавіч, а што гэта быў за зігзаг у вашай творчай біяграфіі — хаджэнне ў рэктарства?**

— Вы маеце на ўвазе кіраўніцтва нашай кансерваторыяй? Так, тры гады я быў рэктарам гэтай шаноўнай навучальнай установы. Але не па сваёй волі. Мяне паклікалі ў ЦК КПБ і прапанавалі гэту пасаду. І хоць я аднекваўся, упіраўся, рашэнне было прынята. І я літаральна з першых дзён сутыкнуўся з неверагоднымі, незнаёмымі мне цяжкасцямі і праблемамі. Семсот студэнтаў, сто семдзесят прафесараў, дацэнтаў, выкладчыкаў. Тысячы квадратных метраў адміністрацыйных будынкаў, якія трэба рамантаваць, добраўпарадкоўваць. А яшчэ персанальная адказнасць за расходаванне немалых бюджэтных сродкаў…

Словам, усе гэтыя клопаты закруцілі мяне з такой сілай, што я стаў блытаць дзень з ноччу, вясну з летам. Стараўся паспець усюды, куды клікалі, дзе абавязаны быў прысутнічаць па статусе рэктара. А яшчэ ж хацелася нешта і сачыняць, і выступаць з новымі творамі перад людзьмі. Паступова стаў разумець: далей так не пацягну. І я напісаў заяву аб звальненні з пасады рэктара па ўласным жаданні.

**— Але ж у вас засталася яшчэ адна сур'ёзная пасада — старшыня Саюза кампазітараў Беларусі. Калі не памыляюся, вы на гэтай пасадзе ўжо больш за трыццаць гадоў?**

— Трыццаць пяць!

**— Ну і навошта гэты клопат вам, Ігар Міхайлавіч? Пры вашым здароўі, пры вашай загружанасці творчымі праектамі?**

— А гэта не мне патрэбен Саюз кампазітараў, а я — Саюзу. Калі калегі мяне выбіраюць, прытым выбіраюць тайным галасаваннем, як я ім магу адмовіць. Стараюся апраўдваць іх давер. А клопатаў розных сапраўды хапае. То справаздачныя канцэрты, то юбілеі, то пахаванні. Аднаго трэба прадставіць на званне — даўно заслужыў, другому прабіць кватэру — каторы год з сям'ёю туляецца па прыватных, трэцяму дапамагчы ўладкаваць сына ў Сувораўскае вучылішча…

І ўсімі гэтымі пытаннямі я вымушаны займацца. Пытаннямі, скажу вам, няпростымі. Але калі хоць нешта ўдаецца вырашыць станоўча, то я адчуваю не меншае задавальненне, чым ад напісання новай добрай песні. Хаця, канешне ж, творчасць была і застаецца галоўнай справай майго жыцця, самая вялікая мая палітыка.

## Сябры, каханне, сям’я

**— У вас многа сяброў сярод калег…**

— Многа не многа, але тымі, што ёсць, я шчыра ганаруся. Іосіф Кабзон, Аляксандра Пахмутава і Мікалай Дабранраваў, Леў Лешчанка… З Уладзімірам Мулявіным мы сябравалі доўгія гады. Аднойчы я нават, каб падтрымаць свайго сябра, лёг разам з ім у бальніцу. Валодзю трэба было рабіць аперацыю, а ён ніяк не рашаўся. Мая маральная падтрымка пайшла яму на карысць.

Шматгадовая дружба звязвае мяне з касманаўтамі Пятром Клімуком і Уладзімірам Кавалёнкам. Бываючы ў Мінску, яны ніколі не забываюць пра мяне. А я стараюся пабачыцца з імі, калі бываю ў Маскве.

**— Кажуць, цяпер сяброўства сярод людзей мастацтва — вялікая рэдкасць. Адносіны ўсё больш меркантыльныя.**

— Правільна кажуць. Цяперашнія многія творцы сталі дужа грашовымі. А я не грашовы. Не рынначны. І не прадажны. Мне нічога не трэба. У мяне ўсё ёсць. А здароўя вы мне не дадзіце *(смяецца)*. Дарэчы, сярод вашага брата таксама розныя людзі сустракаюцца. Ёсць журналісты, а ёсць журналюгі. Адзін такі, грашовы, аднойчы мне прапанаваў: дайце пяцьсот даляраў, і я абмажу гразёю любога, каго вы скажаце. Я паслаў яго далёка-далёка…

**— Ігар Міхайлавіч, давайце на заканчэнне пагаворым пра рэчы больш прыемныя. Скажам, пра каханне. Дзе і як вам удалося паланіць сваю цяперашнюю жонку, Сашу Чэканаву?**

— Тое, што Саша — мой лёс, я зразумеў з першай сустрэчы. А пазнаёміўся з ёю ў Пухавічах, куды яна прыехала ў Дом адпачынку. У нас аказалася шмат агульных інтарэсаў: Саша вучылася ў Брэсцкім музычным вучылішчы, я — у Ленінградскай кансерваторыі. Мы гаварылі і не маглі нагаварыцца. Упершыню я адчуў, якое гэта шчасце — узаемнасць пачуццяў, роднасць душ.

Два тыдні мы правялі разам. Потым раз’ехаліся кожны ў сваю навучальную ўстанову. Але ўжо не маглі адно без аднаго. То я ездзіў да Сашы ў Брэст, то яна да мяне ў Ленінград. А праз нейкі час вырашылі пажаніцца. Распісаліся ў ЗАГСе, і я прывёў сваю маладую жонку ў невялічкі пакойчык дома па вуліцы Фрунзе. Праўда, мядовы месяц мы правялі ў бацькоўскім доме ў Пухавічах.

З таго часу мы з Сашай разам. Летась адзначылі залаты юбілей. За гэтыя паўвека мая верная спадарожніца праехала са мною па гарадах і вёсках дзясяткі тысяч кіламетраў, пабывала на ўсіх маіх аўтарскіх канцэртах у Беларусі, Маскве, Санкт-Пецярбургу, Кіеве, у многіх краінах свету. Перапісала сотні кілаграмаў нот. Прапусціла праз сваё сэрца ўсе мае радасці і беды.

Я ўдзячны сваёй жонцы, што яна была і застаецца галоўнай апорай у маім жыцці. Гэта яна, мая Саша, натхніла мяне на мае лепшыя песні — «Алеся», «Вераніка», «Зачараваная» і многія іншыя. Яна — першы слухач кожнай маёй новай песні і першы, самы патрабавальны крытык, а часам і першы выканаўца пад мой акампанемент.

**— Ігар Міхайлавіч, вы можаце сказаць, што пражылі шчаслівае жыццё?**

— І так, і не. Я шчаслівы ў тым, што маю добрую сям’ю, што мае песні любяць і спяваюць у народзе. Але я пражыў няпростае жыццё. Многае перажыў. У мяне было тры клінічныя смерці. І вось нядаўна перанёс дзве не зусім удалыя аперацыі, у выніку чаго вымушаны хадзіць з кіёчкам. Розныя людзі мне прычынілі шмат зла, шмат розных непрыемнасцяў. Але не будзем пра гэта. Я па-ранейшаму пішу песні, маю шмат творчых планаў. Яшчэ ў страі. У поўным страі!

***Гутарыў Зіновій ПРЫГОДЗІЧ.***

***Фота Юрыя ІВАНОВА.***

**Зоя МАТУСЕВІЧ**

# ЛЕТНІЯ ІМПРЭЗЫ ВЯЛІКАГА ТЭАТРА

*Час бяжыць імкліва — пачаўся новы тэатральны сезон, а гарачыя прыхільнікі опернага і балетнага мастацтва яшчэ знаходзяцца пад уздзеяннем маштабных падзей і яркіх уражанняў, якія падарыў ім Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі на заканчэнне папярэдняга. Прычым гэта стала ўжо традыцыяй: не першы год тэатральны сезон у Вялікім завяршаецца двума фестывалямі — міжнародным балетным і выязным у фармаце open-air, што праходзіць у Нясвіжы і ў якім удзельнічаюць абедзве трупы тэатра — як балетная, так і оперная. І кожны з гэтых фестываляў, набываючы ўсё большы рэзананс, з'яўляецца не толькі своеасаблівай творчай справаздачай тэатра перад гледачамі, але і паказчыкам яго крэатыўнасці, здольнасці знаходзіць сучасныя формы і метады работы, папулярызуючы пры гэтым акадэмічныя формы самага высокага са сцэнічных мастацтваў.*

## «Балетнае лета ў Вялікім»

Пад такой назвай трэці раз на сцэне Вялікага тэатра Беларусі прайшоў Міжнародны балетны фестываль, які пачаўся 11 чэрвеня і доўжыўся на працягу тыдня. Звычайна ў яго рамках адбываецца адна з яркіх прэм'ер і паказваюцца пастаноўкі, звязаныя з гучнымі імёнамі аўтараў, харэографаў і выканаўцаў.

Гэтым разам у цэнтры ўвагі была прэм'ера балета народнага артыста Азербайджана Палада Бюльбюль аглы. Гэта імя, бясспрэчна, вядома ўсім: вельмі папулярны спявак, кампазітар, акцёр, педагог, доктар мастацтвазнаўства, прафесар, а таксама вядомы грамадскі і палітычны дзеяч, дыпламат — з 2006 года з'яўляецца надзвычайным і паўнамоцным Паслом Азербайджанскай Рэспублікі ў Расійскай Фэдэрацыі. І пры ўсёй сваёй занятасці працягвае займацца творчасцю. Летась Палад Бюльбюль аглы быў удастоены спецыяльнай узнагароды Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь «Праз мастацтва — да міру і ўзаемаразумення», і ў час міжнароднага фестывалю «Славянскі базар у Віцебску» на Алеі зорак каля Летняга амфітэатра была адкрыта і яго імянная зорка.

«Каханне і Смерць» — так называецца прэм'ерны балет Палада Бюльбюль аглы, у аснову якога пакладзены гераічны эпас старажытнацюркскіх плямёнаў, які канчаткова склаўся на тэрыторыі сучаснага Азербайджана — «Кніга майго Дзеда Каркуда» (*азерб.* «Kitabi Dədə Qorqud»).

Гэты манументальны эпічны твор складаецца з 12-ці тэматычна аб'яднаных песень-паданняў, цэнтральнай фігурай якіх з'яўляецца белабароды старац Дзед Каркуд, які выступае адначасова і як удзельнік падзей, і як стваральнік паданняў. Па сваіх ідэйна-тэматычных і мастацкіх вартасцях гэты старажытны эпас выходзіць далёка за межы цюркскага свету і стаіць у шэрагу народных эпічных твораў сусветнага значэння, менавіта таму ён занесены ў Спіс нематэрыяльнай духоўнай спадчыны ЮНЕСКА.

*«10 гадоў таму мы адзначалі 1300-годдзе гэтага бессмяротнага эпасу, —* расказвае Палад Бюльбюль аглы, *— і я, будучы ў той час міністрам культуры, па абавязку службы быў у ліку арганізатараў гэтага юбілею сусветнага маштабу, які адзначаўся ў многіх сталіцах свету па лініі ЮНЕСКА. І вось тады, падчас перачытвання гэтага эпасу, удзелу ў стварэнні энцыклапедычных выданняў, анталогій, розных каталогаў, у мяне і з'явілася задума стварыць па яго матывах вялікі эпічны твор. І я выбраў менавіта жанр балета, таму што як умоўны від мастацтва ён дае шмат магчымасцей для творчай фантазіі. Але ж у любым умоўным мастацтве павінна быць тая аснова, што хвалюе кожнага чалавека і прымушае яго задумацца. Бясспрэчна, ва ўсе часы былі такія праявы чалавечага існавання, як Каханне і Смерць, якія і сталі сэнсаўтваральнымі паняццямі ў маім творы і вакол якіх разгортваецца яго сюжэт. Чалавек з'яўляецца на свет ад кахання, але ўжо ў момант яго нараджэння над ім навісае цень смерці. Кагосьці яна забірае адразу, камусьці дае магчымасць пажыць на гэтым свеце, але ніхто не ведае — наколькі доўга. І нягледзячы на гэта, чалавек здольны кахаць, ведаючы, што ў любы момант усё можа абарвацца…*

*Сам эпас вельмі вялікі і з'яўляецца бяздоннай крыніцай, з якой чэрпаюць творчыя ідэі розныя аўтары. Па яго матывах напісана шмат кніг, створаны фільмы і спектаклі, і яшчэ адным унёскам у гэту агульную скарбонку будзе і мой балет. Пісаў я яго больш як тры гады, і ўпершыню ён быў пастаўлены ў 2005 годзе ў Баку, у Акадэмічным тэатры оперы і балета. З гэтым спектаклем мы былі на гастролях у Санкт-Пецярбургу — у Марыінскім тэатры і ў Маскве — у Вялікім. Пасля гэтага паступіла прапанова паставіць мой балет у адным з расійскіх тэатраў, і выбар выпаў на Екацерынбургскі акадэмічны тэатр оперы і балета — вельмі сур'ёзны і аўтарытэтны, якому ўжо больш за сто гадоў. І ў 2008 годзе была ажыццёўлена другая пастаноўка майго балета ў гэтым тэатры, якая, зразумела, адрознівалася ад першай бакінскай пастаноўкі. У гэтага спектакля даволі працяглае і ўдалае сцэнічнае жыццё — Екацерынбургскі тэатр ездзіў з ім на гастролі ў еўрапейскія краіны, паказваў яго ў рамках балетнага фестывалю ў Маскве на сцэне Вялікага тэатра, а таксама прывозіў яго ў Баку. І да сённяшняга дня ён знаходзіцца ў рэпертуары гэтага тэатра.*

*Ну а ў Мінску цяпер ажыццёўлена трэцяя пастаноўка балета, зусім не падобная ні на бакінскую, ні на екацерынбургскую. І адбылася яна дзякуючы трывалым творчым сувязям паміж нашымі тэатрамі, якія, вобразна кажучы, сябруюць дамамі. Да нас часта прыязджаюць з Мінска салісты і оперы, і балета, якіх наша публіка ведае і вельмі добра прымае. Не так даўно ў мінскім тэатры быў пастаўлены балет майго настаўніка, выдатнага кампазітара Кара Караева «Сем прыгажунь», які ўваходзіць у залаты фонд азербайджанскай нацыянальнай культуры і ставіцца ў многіх тэатрах свету. І мінская пастаноўка атрымалася яркай і ўдалай — яе вельмі прыязна прынялі ў нас у Баку. І вось тады нарадзілася ідэя працягнуць творчыя кантакты і для пастаноўкі ў Мінску быў прапанаваны мой балет. Я спачатку прыслаў сюды ноты і запіс музыкі, а калі прыехаў і сустрэўся з маладым балетмайстрам Вольгай Костэль, то ўбачыў, наколькі індывідуальная і своеасаблівая яе пастановачная канцэпцыя. Я нават спрабаваў з ёю ў нечым не пагаджацца і спрачацца, але яна ў кожным выпадку пераканаўча аргументавала сваю пазіцыю. Наогул, пачуццё аўтара, калі ён сутыкаецца з увасабленнем свайго твора іншымі творчымі людзьмі, даволі супярэчлівае. Калі ты пішаш музыку, седзячы ў цішы кабінета, то ўжо ўяўляеш, як яе будуць іграць. Да таго ж я, як чалавек, які доўгі час сам быў выканаўцам, прывык, што на сцэне ўсё залежыць ад цябе самога. Але калі я, ужо як кампазітар, прыходжу ў тэатр на свой балет, то ўзнікае зусім іншае пачуццё: як быццам ад мяне ўжо нічога і не залежыць — аркестр іграе, балет танцуе, і ты нічога ўжо зрабіць не можаш. Прынамсі, такое пачуццё было ў мяне, калі я прыехаў ў Екацерынбургскі тэатр на генеральную рэпетыцыю, пасля якой — ужо здача і прэм'ера спек-*



Вікторыя Трэнкіна. Сцэна з балета «Каханне і смерць».

*такля. Канешне, можна сказаць дырыжору-пастаноўшчыку: вось тут трэба іграць трохі хутчэй, а тут — трохі цішэй, але па вялікім рахунку змяніць у спектаклі ты нічога не можаш, бо ўся пастановачная работа ўжо зроблена. Таму, перажыўшы дзве пастаноўкі свайго балета і назапасіўшы пэўны вопыт, на трэцюю я прыехаў, можна сказаць, загадзя, і мінская прэм'ера не была ўжо для мяне такой нечаканасцю, як папярэдняя. Яна арыгінальная і па сваёй пастановачнай канцэпцыі, і па харэаграфіі, і наогул зроблена высокапрафесійна. Як музыкант, не магу не адзначыць вельмі высокі ўзровень прафесіяналізму аркестра, а творчы патэнцыял балетнай трупы проста фантастычны! Мяне вельмі ўразіла, што на кожную галоўную ролю назначана па 5—6 выканаўцаў, прытым знакамітых — народных і заслужаных артыстаў, лаўрэатаў прэстыжных міжнародных конкурсаў, многія з якіх маюць дзяржаўныя ўзнагароды. Далёка не кожны тэатр можа пахваліцца чымсьці падобным».*

Так склалася, што ўжо даволі працяглы час з Вялікім тэатрам Беларусі супрацоўнічае дырыжор бакінскага тэатра оперы і балета Эйюб Кулieў, і зусім заканамерна, што менавіта ён і стаў дырыжорам-пастаноўшчыкам балета свайго суайчынніка. (Дарэчы, і ў Беларускім музычным тэатры ідуць два творы азербайджанскіх кампазітараў: балет Фікрэта Амірава «Тысяча і адна ноч», дырыжорам-пастаноўшчыкам якога з'яўляецца Эйюб Кулieў, і музычная камедыя «Аршын мал алан» Узеіра Гаджыбекава, якую паставіў галоўны рэжысёр бакінскага тэатра оперы і балета Хафіз Гулieў.)

*— Супрацоўнічаць з такім кампазітарам, як Палад Бюльбюль аглы — вялікі гонар для любога дырыжора, — адзначае Эйлюб Кулieў. — Гэта наша жывая легенда, сучасны класік, самы вядомы азербайджанскі музыкант, які дастойна працягвае лепшыя традыцыі азербайджанскага музычнага мастацтва і вядомы далёка за межамі нашай Радзімы. Многія яго ведаюць у асноўным як кампазітара-песенніка і эстраднага выканаўцу, але ў яго ёсць сур'ёзныя і складаныя па жанры і форме творы. І яго апошняя работа, балет «Каханне і Смерць», лішні раз даказвае, што ён з'яўляецца дастойным прадаўжальнікам школы свайго настаўніка Кара Караева і лепшых традыцый азербайджанскага класічнага балета. Пры гэтым ён стварыў сваю ўнікальную музычную мову і свой індывідуальны стыль. І я хачу адзначыць высокі прафесіяналізм, уважлівасць і своеасаб-*



Канстанцін Кузняцоў (у цэнтры).
Сцэна з балета «Каханне і смерць».

*лівую чуйнасць музыкантаў аркестра Вялікага тэатра Беларусі, з якімі ўжо супрацоўнічаю не першы год і дзякуючы якім удалося выдатна прачытаць рытмічна нялёгкую і інтанацыйна своеасаблівую партытуру балета. Такі аркестр — мара любога дырыжора.*

Уся астатняя пастановачная група — беларуская. Своеасаблівай падстрахоўкай для нашых стваральнікаў спектакля стала запрашэнне ў склад па-станоўшчыкаў навуковага кансультанта з Азербайджана — доктара мастацтвазнаўства, прафесара Улькяр Аліевай, якая адзначыла вельмі ўважлівае пранікненне нашага харэографа і балетмайстра Вольгі Костэль у сэнс, характар і вобразную сферу цюркскага эпасу.

У сваю чаргу Вольга Костэль заўважае:

*— Ён вельмі самабытны і складаны, насычаны незвычайнымі метафарамі і гіпербаламі, і мне напачатку трэба было проста разабрацца, што ж гэта такое: ці то казка, ці то быль, ці то філасофскі роздум. Я з галавой акунулася і ў гэты эпас, і ў цюркскую міфалогію, і, канешне, — у гісторыю і культуру азербайджанскага народа, кансультавалася і перапісвалася з вядомымі вучонымі-ўсходазнаўцамі. Вельмі вялікую дапамогу непасрэдна ў рабоце над пастаноўкай аказала наш навуковы кансультант Улькяр Аліева. З аднаго боку, гэты твор глыбока нацыянальны, а з другога — у ім шмат агульначалавечага: драматызм гістарычных падзей, у водавароце якіх аказаліся продкі азербайджанцаў, паказваецца праз трагічны лёс закаханых, а гэта ўласціва ўсім людзям ва ўсе часы. Мне не хацелася паўтарацца і рабіць сваю пастаноўку падобнай на папярэднія, і я ўвяла ў спектакль абагуленыя вобразы дзвюх стыхій — белай і чорнай, стваральнай і разбуральнай, імя якім — Каханне і Смерць. І ў спектаклі гэтыя стыхіі пераплецены: яны выступаюць то разам, то паасобку, то ў выглядзе канкрэтных вобразаў, у залежнасці ад сцэнічнай драматургіі. Таму што і ў жыцці так — часта вельмі цяжка адрозніць чорнае ад белага, і чалавек схільны прымаць адно за другое... Але бясспрэчна адно: чалавек заўсёды баіцца Смерці і баіцца страціць Каханне, і гэтыя дзве стыхіі вызначаюць існаванне як канкрэтных людзей, так і цэлых народаў. У гэтым і заключаецца галоўная ідэя пастаноўкі: усё добрае і прыгожае, што назапашана чалавецтвам на працягу ўсёй гісторыі, створана ў імя Кахання. Асобных людзей і цэлыя пакаленні раздзяляе Смерць, але яна не можа знішчыць гэтыя тварэнні, якія сталі для нас культурнай спадчынай.*

Аўтар балета надзяліў галоўных герояў свайго твора імёнамі Азер і Байджан, якія, зліваючыся ў адно, утвараюць назву яго Радзімы — Азербайджан. І ў пастаноўцы Вольгі Костэль гэтыя сімвалічныя імёны-вобразы знаходзяць сваё глыбіннае праяўленне, увасабляючыся ў персанажах юнака і дзяўчыны, у мужчынскім і жаночым пачатках, без еднасці якіх немагчыма жыццё народа. Сплаў рэальнага і

фантастычнага ў спектаклі дае магчымасць візуальна прадставіць стыхіі Кахання і Смерці дзвюма парамі выканаўцаў адпаведна ў белых і чорных касцюмах, якія таксама нясуць у сабе мужчынскі і жаночы пачаткі. І кожная з гэтых пар імкнецца перацягнуць на свой бок галоўных герояў (асабліва яскрава гэта праяўляецца ў час выканання рытм-тэмы Смерці).

Наогул музыка балета вельмі выразная. Нездарма ж кажуць: калі гучыць музыка — не трэба слоў. Яркая і каларытная, пранізаная энергічнымі рытмамі і напоўненая цудоўнымі, лёгкімі для ўспрымання мелодыямі, яна надзвычай цікавая сваёй нацыянальна-стылістычнай адметнасцю. У адным ключы з драматычнай выразнасцю музыкі атрымалася і харэаграфія балета (таксама драматычна выразная, асабліва ў характарных партыях), у якой класічны танец арганічна спалучаецца з сучаснай харэаграфічнай лексікай.

Беларуская версія балета вызначаецца не толькі своеасаблівасцю мастацка-пастановачных прыёмаў і сваім харэаграфічным стылем, але ў цэлым — новай эстэтыкай і новым балетмайстарскім і рэжысёрскім мысленнем. У драматургічным развіцці сцэнічнага дзеяння выразна вылучаюцца тры сюжэтна-вобразныя сферы: патрыярхальнае жыццё агузаў (продкаў азербайджанцаў), сярод якіх персаніфікуюцца Агуз-хан і маладыя закаханыя — Азер і Байджан; нашэсце заваёўнікаў-кыпчакаў і звязаныя з ім сцэны вайны і вакханаліі кыпчацкага хана Гара-Меліка; алегарычная сфера сутыкнення і барацьбы дзвюх стыхій — Кахання і Смерці, кожная з якіх імкнецца перацягнуць на свой бок юнака і дзяўчыну.

Як адзначалася вышэй, аўтар балета быў надзвычай здзіўлены вялікай колькасцю танцоўшчыкаў, вядучых майстроў сцэны, прызначаных на кожнага з персанажаў. У прыватнасці, на партыю галоўнага героя Азера іх аж сем, на партыю Байджан — шэсць. І сапраўды, на працягу трох вечароў (здача спектакля і два прэм’ерныя паказы) склад выканаўцаў галоўных партый быў розным: у вобразе Азера на сцэну выходзілі заслужаны артыст Юрый Кавалёў, уладальнікі медаля Францыска Скарыны Ігар Аношка і Ягор Азаркевіч; у вобразе Байджан — заслужаная артыстка Ірына Яромкіна, уладальніца медаля Францыска Скарыны Ганна Фокіна, Вікторыя Трэнкіна. Вострахарактарную партыю Гара-Меліка па-свойму ярка і адметна выконвалі народны артыст Канстанцін Кузняцоў і заслужаны артыст Антон Краўчанка, але, акрамя іх, на гэту партыю ёсць яшчэ тры выканаўцы. Цікава, што адны і тыя ж танцоўшчыкі ў розных складах выконваюць партыі розных, нават супрацьлеглых па характары персанажаў, напрыклад, Антон Краўчанка — Гара-Меліка і Агуз-хана.



*Ірына Яромкіна і Юрый Кавалёў.*
*Сцэна з балета «Каханне і смерць».*

Акрамя названых, іншых персаніфікаваных асоб у балеце няма. Але ў ім шмат масавых сцэн і асобных карцін з удзелам кардэбалету, якія нясуць на сабе значную драматургічную нагрузку, паказваючы, па-сутнасці, калектыўныя партрэты або абагуленыя вобразы праціўнікаў. Гэта жанрава-побытавыя і рытуальна-абрадавыя карціны з жыцця агузаў, батальныя сцэны, замалёўкі з лагера кыпчакаў, танец наложніц…

У цэлым спектакль робіць вельмі яркае ўражанне, чаму ў многім спрыяе і яго сцэнаграфія, цэнтральным элементам якой з'яўляецца велічэзнае раскідзістае дрэва жыцця — сведка ўсіх падзей, выгляд якога змяняецца ў залежнасці ад сцэнічнага дзеяння: спачатку гэта проста прыземісты стары ствол з каржакаватымі сухімі галінамі, якія становяцца насычана зялёнымі ў сцэне прабуджэння да жыцця, барвовымі — у сцэне нашэсця заваёўнікаў і празрыста-серабрыстымі к канцу спектакля, сімвалізуючы пераход галоўнага героя ў бессмяротнасць. А ў фінале галіны пачынаюць разрастацца і ярка зіхацець — гэта з кветкі, якую калісьці Азер падарыў Байджан, вырасла квяцістае дрэва кахання. Уражваюць таксама сцэнічныя касцюмы і асабліва вынаходлівае прымяненне ў іх нацыянальных элементаў і арнаментальнай аздобы. Вобразна кажучы, работа сцэнографа Аляксандра Касцючэнкі і мастака па касцюмах Кацярыны Булгакавай з'яўляецца дастойным абрамленнем гэтай яркай пастаноўкі.

Звычайна на фестывалі «Балетнае лета ў Вялікім» паказваюць і прэм'еры апошняга сезона Вялікага тэатра. Адной з іх стаў балет славутага беларускага кампазітара народнага артыста СССР Яўгена Глебава «Маленькі прынц». Адразу адзначым, што гэта прэм'ера — асаблівая. Музыка да балета была створана яшчэ ў 1981 годзе, і ўпершыню быў пастаўлены ў пачатку 1982 года, але не ў Мінску ці іншым горадзе Саюза, а ў Хельсінкі. І ўсё ж даволі хутка, у 1983 годзе, увасоблены на сцэне Вялікага тэатра ў Маскве, у тым жа годзе — у Горкім і ў 1990 годзе — у Самары. А на сцэне Вялікага тэатра Беларусі прэм'ера «Маленькага прынца» адбылася амаль праз 35 гадоў пасля яго напісання — 1 лістапада 2015 года.

У свой час у нас былі пастаўлены такія балеты Яўгена Глебава, як «Мара», «Альпійская балада», «Выбранніца», а яго грандыёзны «Тыль Уленшпігель» пасля прэм'еры ў 1974 годзе вельмі хутка атрымаў гучную славу і быў пастаўлены ў многіх гарадах Саюза і за мяжой. Значны рэзананс мела і опера «Майстар і Маргарыта», ажыццёўленая на нашай сцэне ў 1992 годзе.

Пастаноўку «Маленькага прынца» ў Мінску здзейсніла расійскі харэограф і балетмайстар Аляксандра Ціхамірава, якая ўжо не першы год супрацоўнічае з Вялікім тэатрам Беларусі. У садружнасці з удавой кампазітара Ларысай Глебавай яна стварыла новую версію лібрэта. Была перагледжана і партытура балета — зроблены некаторыя перастаноўкі музычных нумароў і дабаўлены новыя, з іншых твораў кампазітара (дырыжор-пастаноўшчык — Алег Лясун). Такім чынам, мінская пастаноўка стала новым поглядам і на музыку Глебава, і на алегарычную аповесць Антуана дэ Сент-Экзюперы.

Як адзначае Аляксандра Ціхамірава, яна ў першую чаргу імкнулася рабіць акцэнт на прыхаваных сэнсах, якімі поўніцца тэкст гэтага твора, як бы звяртаючыся такім чынам да асобы самога аўтара. (Лічыцца, што вобраз Маленькага прынца глыбока аўтабіяграфічны і народжаны тугой Экзюперы па самім сабе ў дзяцінстве — нашчадку старажытнага дваранскага роду, якога ў сям'і называлі Каралём-Сонца.) Зразумела, у аповесці гэты вобраз не зліваецца з вобразам Лётчыка (кім з'яўляўся на самай справе Экзюперы), але ж узаемаадносіны Прынца з капрызнай і чуллівай Ружай, як сцвярджалі сябры пісьменніка, вельмі дзіўным чынам нагадвалі ўзаемаадносіны самога Экзюперы з яго жонкай Кансуэла. Таму невыпадкова ў спектаклі з'явіліся дзве паралельныя пары: Прынц і Ружа, а таксама Лётчык і яго Каханая. Нават сцэнічныя касцюмы ў Каханай і Ружы ідэнтычныя — адрозненні паміж імі толькі ў пластычнай персаніфікацыі і харэаграфічнай лексіцы.

У гэтым спектаклі, як і ў іншых, некалькі складаў выканаўцаў. На фестывальным паказе партыю Прынца выконваў Канстанцін Геронік, Ружы — Людміла Хітрова, Лётчыка — Ягор Азаркевіч, Каханай — Аляксандра Чыжык. Захаваліся ў пастаноўцы і такія персанажы, як Ліс і Змяя, а таксама чарада характарных герояў: Кароль, Славалюб, П'яніца, Фінансіст, з якімі даводзіцца сустракацца Прынцу ў час яго палётаў і паводзіны якіх яго вельмі здзіўляюць. Асаблівае месца ў пастаноўцы адведзена Ліхтаршчыку, партыю якога выконваў Антон Краўчанка. Гэты персанаж з'яўляецца сувязным звяном паміж асобнымі эпізодамі і як своеасаблівы лейтвобраз праходзіць праз увесь спектакль. Балет пачынаецца і заканчваецца дуэтам Ліхтаршчыка і Лётчыка, ён жа становіцца праваднікам Лётчыка ў дзіўны свет мрояў, і ён жа вяртае Лётчыка да рэальнасці, дапамагаючы яму зразумець і прыняць свет людзей з усімі іх недарэчнасцямі і недахопамі, і галоўнае — зразумець і прыняць сваю Каханую.

Спектакль можна разглядаць як аповед аб развіцці чалавечай асобы, аб тым, як захаваць у сабе тое, што дадзена ад нараджэння кожнаму, але многімі з узростам губляецца. Адсюль і алегарычны свет палётаў (вельмі арыгінальна прадстаўлены ў пастаноўцы), які ўспрымаецца як палёт творчай думкі, і свет пустыні, у якой аказваецца творца, калі яго не прымаюць.

У аповесці Экзюперы, якая з'яўляецца па сутнасці філасофскай казкай-прытчай, няма сюжэта ў традыцыйным яго разуменні, таму няма і яўнага канфлікту; яна складаецца з асобных карцін, якія вызначаюцца сваім вобразным строем і не звязаны паміж сабой агульнай фабулай развіцця. На такім матэрыяле цяжка пабудаваць нават драматычны спектакль, не кажучы ўжо пра балетны. Але думаецца, што менавіта ўмоўная прырода балета тут у многім і дапамагла. Балетмайстру-пастаноўшчыку ўдалося ў пабудове спектакля і ў яго харэаграфічным тэксце злучыць усе гэтыя эпізоды сэнсава, з пазіцыі філасофскага погляду на іх галоўнага героя.

Вобразнаму ўспрыманню вельмі дапамагае арыгінальная і стыльная сцэнаграфія мастака-пастаноўшчыка Вячаслава Окунева — народнага мастака Расіі, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, які даўно і плённа супрацоўнічае з нашым Вялікім тэатрам. Зразумела, у сцэнаграфіі балета ён выкарыстаў аўтарскія малюнкі самога Экзюперы: удава, які праглынуў слана, змяю, ліса, і, канешне, — знакамітую фігурку Маленькага прынца і яго ружу… А прымяненне відэапраекцыі стварае ўражанне шматслойнасці і аб'ёмнасці дэкарацый, што асабліва праяўляецца пры хуткай змене карцін, дзе нязменным застаецца дыск ілюмінатара, з якога толькі і можна ўсё гэта назіраць. Так што ўражанне касмічнага палёту ў час прагляду спектакля ўсім забяспечана!

На фестывалі была паказана яшчэ адна прэм'ера апошняга сезона, якая адбылася 1 сакавіка бягучага года, — аднаактовы балет культавага чэшскага харэографа Іржы Кіліяна «Маленькая смерць» на музыку Вольфганга Амадэя Моцарта. Гэта пастаноўка ўваходзіць у цыкл «Чорна-белых балетаў», першы з якіх — «Шэсць танцаў», таксама на музыку Моцарта — ужо быў пастаўлены на сцэне нашага тэатра ў 2013 годзе. Таму абедзве гэтыя аднаактоўкі былі аб'яднаны ў адзін вечар балета.

Сваёй творчасцю Кіліян ускалыхнуў усю Еўропу, заваяваўшы рэпутацыю харэографа-філосафа. Ён сумеў стварыць свой асаблівы, пазнавальны фірменны стыль з надзвычай арыгінальнай харэаграфічнай лексікай, злучыўшы сучасны танец з класічным балетным мастацтвам. Яго балеты абстрактныя і бессюжэтныя, у іх няма ні лібрэта, ні персанажаў, а ўсё дзеянне будуецца на ўяўленнях і асацыяцыях. І выканаўцы не дзеляцца на салістаў і кардэбалет, а складаюць своеасаблівы надзвычай зладжаны ансамбль. Пры гэтым кожная яго пастаноўка ўсё ж мае сваю адметную форму і вылучаецца логікай канцэптуальнай пабудовы.

Так, «Шэсць танцаў» можна аднесці да разнавіднасці камічнага балета, камізм якога грунтуецца не на калізіях сюжэта, а на самой харэаграфіі. Гэта вель-

мі дынамічная кампазіцыя, дзе ад танцоўшчыкаў патрабуецца акцёрская ігра ў іх карнавальнай прафанацыі «галантнага веку»: чатыры кавалеры ў напудраных парыках і белых споднікаў бурна высвятляюць адносіны са сваімі ўскудлачанымі дамамі ў гарсэтах. А «Маленькая смерць» — гэта ўжо больш лірычная пастаноўка, скіраваная ў бок класічнага танца. Многія называюць яе эратычным балетам, але гэта ўсё ж спрошчанае, прамалінейнае вызначэнне. Хутчэй, гэта далікатная харэаграфічная размова пра пачуццёвыя адносіны паміж мужчынам і жанчынай.

Пастаноўку «Маленькай смерці» ажыццявіла ў нас асістэнт Іржы Кіліяна Шырлі Эсебум, а дырыжорам-пастаноўшчыкам стаў Іван Касцяхін. «Шэсць танцаў» тры гады назад ставіла таксама Шырлі Эсебум у садружнасці з яшчэ двума асістэнтамі Іржы Кіліяна, а дырыжорам-пастаноўшчыкам быў Віктар Пласкіна.

У той жа вечар, аддзеленая ад аднаактовак Іржы Кіліяна антрактам, была паказана харэаграфічная карціна «Цені» з балета Людвіга Мінкуса «Баядэрка». Гэта ўзор чыстага класічнага танца, які дастаўся нам з балетнай спадчыны XIX стагоддзя. Так што былі ўлічаны густы ўсіх — і прыхільнікаў класікі, і апалагетаў сучасных харэаграфічных стыляў і напрамкаў.

Яшчэ адным прыкладам запатрабаванасці вечна жывой класікі быў балет Пятра Ільіча Чайкоўскага «Лебядзінае возера» з рэпертуару Вялікага тэатра, які, дарэчы, кожны год паказваецца ў рамках гэтага фестывалю. І кожны год галоўную партыю ў ім выконвае імянітая запрошаная зорка. На гэты раз у складанай «двайной» партыі Адэты-Адыліі прадстала прыма-балерына Міхайлаўскага тэатра заслужаная артыстка Расіі Кацярына Борчанка (якая ў 2003—2007 гадах з'яўлялася салісткай нашага Вялікага тэатра). А яе партнёрам у гэтым спектаклі быў беларускі прэм'ер Ігар Аношка (Зігфрыд).

Закончыўся фестываль, як звычайна, грандыёзным гала-канцэртам з удзелам зорак сусветнага балета, дзе быў прадстаўлены шырокі спектр стылёвай разнастайнасці балетнага мастацтва. І гэта быў не проста канцэрт з калейдаскопам разнастайных нумароў і мноствам выканаўцаў, а тэатралізаванае яркае шоу, рэжысёрам якога стала Вольга Костэль (якая рыхтавала і папярэднія гала-канцэрты гэтага фестывалю). Акрамя зорак беларускага балета (якія ў гэтым канцэрце нават загаварылі), свае цікавыя нумары паказалі многія госці: салісты Англійскага нацыянальнага балета Ксенія Аўсянік і Джэймс Аляксандр Форбат, вядучыя салісты Харкаўскага нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы і балета Антаніна Радзіеўская і Андрэй Пісараў, салісты Дзяржаўнага тэатра оперы і балета «Астана Опера» Гаухар Усіна і Жанібек Іманкулаў, прыма-балерына Азербайджанскага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета заслужаная артыстка Азербайджана Нігяр Ібрагімава, салісты Берлінскага дзяржаўнага балета Уладзіслаў Марынаў і Лучыа Герман Радрыгес Відал.

Такім чынам, на фестывалі ў чарговы раз была прадстаўлена ўся разнастайнасць харэаграфічных стыляў, школ і напрамкаў, паказаны ўзоры класічнай і сучаснай харэаграфіі, паўнаметражныя балеты і харэаграфічныя мініяцюры. І ўсё гэта багацце было даступна нашым гледачам.

## Вечары ў замку Радзівілаў

Выязны фестываль «Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў» прайшоў у Нясвіжы ўжо ў сёмы раз. Гэта сумесны праект тэатра і Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Нясвіж», які праходзіць пры падтрымцы Міністэрства культуры, Мінскага аблвыканкама і Нясвіжскага райвыканкама. Прыемна, што падобныя мерапрыемствы ў нас заўсёды знаходзяць спонсарскую падтрымку. Генеральным спонсарам праекта з'яўляецца кампанія «Мабільныя ТэлеСістэмы».

Традыцыйна фестываль працягваецца тры дні, і яго асноўныя мерапрыемствы праходзяць як у самім замку, так і ў касцёле Божага Цела — першым

барочным храме XVI стагоддзя не толькі на нашых землях, але і на тэрыторыі ўсёй Рэчы Паспалітай, спраектаваным італьянскім архітэктарам-іезуітам Джавані Марыя Бернардоні. Перыядычна некаторыя імпрэзы праходзяць і ў гарадской ратушы — найстарэйшай з усіх, што захаваліся ў Беларусі і праектаванне якой таксама прыпісваюць Бернардоні, бо пабудавана яна была практычна адначасова з касцёлам. Так што задзейнічаны самыя знакавыя гістарычныя аб'екты Нясвіжа, не гаворачы ўжо пра сам замкавы ансамбль, які разам з касцёлам занесены ў Спіс сусветнай культурнай і прыроднай спадчыны ЮНЭСКА. І менавіта тут, у рэзідэнцыі Радзівілаў, былі заснаваны першыя на тэрыторыі Беларусі пеўчая капэла, прыдворны аркестр і тэатр. І першыя ўзоры прафесійнага опернага і балетнага мастацтва з'явіліся таксама тут.

— *Звыклы фармат фестывалю мы не мяняем,* — адзначае генеральны дырэктар тэатра Уладзімір Грыдзюшка. — *На адкрытай пляцоўцы ўнутранага двара замка ў першыя два вечары паказваюцца балетны і оперны спектаклі, а ў трэці вечар — вялікі гала-канцэрт. У дзённы час задзейнічана Тэатральная зала замка, дзе выступаюць артысты тэатра з камернымі праграмамі. З асаблівым узнёслым настроем праходзяць дзённыя канцэрты духоўнай музыкі ў касцёле, і ў гэтым годзе менавіта такім канцэртам і пачынаецца фестываль. Але ж зразумела, што звыклы фармат кожны раз напаўняецца новым зместам. Мы абавязкова прывозім пастаноўкі беларускіх аўтараў: у мінулыя гады паказвалі оперы «Дзікае паляванне караля Стаха» Уладзіміра Солтана, «Сівая легенда» Дзмітрыя Смольскага, балет «Вітаўт» Вячаслава Кузняцова і іншыя. У наступным годзе плануем прывезці прэм'еру будучага сезона — новы балет Вячаслава Кузняцова «Анастасія», прысвечаны княгіні Анастасіі Слуцкай. Але пры гэтым мы не абыходзім і сусветную класіку, напрыклад, такія шэдэўры, як балет Пятра Ільіча Чайкоўскага «Лебядзінае возера» ці оперу Джоржа Бізэ «Кармэн», без якіх немагчыма ўявіць рэпертуар не толькі нашага тэатра. Не абыходзіцца ён сёння і без прызнаных узораў сучаснай харэаграфіі, і некаторыя з іх мы таксама ўключалі ў праграму фестывалю, напрыклад, «Шэсць танцаў».*

*Мы імкнёмся да таго, каб высокае мастацтва оперы і балета было даступным не толькі для жыхароў сталіцы. І як паказвае практыка, на наш фестываль збіраюцца не толькі жыхары Нясвіжа і бліжэйшых населеных пунктаў, але прыязджаюць госці практычна з усіх рэгіёнаў Беларусі. І з Мінска таксама — каб паглядзець той жа самы спектакль у незвычайнай атмасферы. Нямала і замежных гасцей — з Літвы, Польшчы, Расіі і нават з далёкага замежжа. У першы год мы выстаўлялі ў імправізаваным партэры 600 крэслаў, потым 800, потым 1000... Сёлета выставілі 1300 месц, і ўсе яны былі прададзены цэнтралізавана яшчэ да пачатку фестывалю. Але ніхто з прыехаўшых без загадзя купленых квіткоў ніколі не застаецца за варотамі замка — прадаюцца ўваходныя білеты і месца ва ўнутраным двары хапае ўсім. Усе гэтыя гады надвор'е было як на заказ, але на выпадак непагоды мы ўсё ж прадугледзелі некаторыя меры — закупілі больш як тысячу дажджавікоў.*

Традыцыйна значнае месца ў праграме фестываля займае беларуская духоўная музыка розных часоў, якая выконваецца ў касцёле Божага Цела, дзе проста выключная акустыка.

Арганізацыю і правядзенне гэтых канцэртаў немагчыма ўявіць без дзейнасці заслужанага артыста Рэспублікі Беларусь Віктара Скорабагатава — стваральніка і нязменнага кіраўніка ўнікальнага творчага калектыву «Беларуская Капэла», які ўваходзіць у склад Вялікага тэатра. Таксама цяжка пераацаніць і ўклад Віктара Іванавіча ў фарміраванне змястоўнай часткі фестывалю, а таксама яго асветніцкую дзейнасць, накіраваную на папулярызацыю нацыянальнай музычнай спадчыны.



*Пробашч касцёла Божага Цела ксёндз Пётр і мастацкі кіраўнік Беларускай капэлы Віктар Скорабагатаў.*

Сёлетні фестываль якраз і адкрываўся касцёльным канцэртам беларускай духоўнай вакальнай музыкі эпохі барока, рэжысёрам і вядучым якога быў Віктар Скорабагатаў і ў якім прымалі ўдзел салісты оперы Ганна Гур'ева, Наталля Акініна, Алена Золава, Юрый Гарадзецкі і Сяргей Лазарэвіч, а таксама канцэртмайстар Ларыса Церахава.

— *Калі мы з ксяндзом Пятром на пачатку нашага супрацоўніцтва абмяркоўвалі арганізацыйныя пытанні, адразу было вырашана, што ніякіх квіткоў для ўваходу ў касцёл быць не павінна — канцэрты будуць дабрачыннымі,* — зазначае Віктар Іванавіч. — *За прайшоўшыя гады ў сценах касцёла гучала духоўная музыка розных часоў і розных жанраў, і склад выканаўцаў быў таксама розным: толькі аркестр ці толькі хор, аркестр і хор разам, аркестр з салістамі, хор з салістамі акапэльна... Пачыналі мы з твораў эпохі барока, потым — эпохі класіцызму, рамантызму, асобная праграма складалася з твораў рэлігійнай тэматыкі Станіслава Манюшкі, пакуль не дайшлі да XX стагоддзя і не паказалі праграму з твораў Эдварда Гірдо, аб якой марыў ксёндз Пётр. Справа ў тым, што Эдвард Гірдо для Нясвіжа — асоба, можна сказаць, легендарная. Кампазітар, музыкант, які атрымаў адукацыю ў Італіі, ён у міжваенны перыяд 30 гадоў служыў арганістам у нясвіжскім касцёле. У пачатку Айчыннай вайны, разумеючы, што немцы могуць проста вывезці арган, створаны славутым віленскім майстрам Вішнеўскім пры патранажы саміх Радзівілаў, ён яго разабраў і закапаў, а пасля вызвалення адкапаў, зноў сабраў і ўстанавіў на сваё месца. Вось у мінулым годзе канцэртам з твораў Эдварда Гірдо мы і завяршылі першы цыкл праграм беларускай духоўнай музыкі. І сёлета распачынаем другі цыкл, зноў вяртаючыся ў эпоху барока.*

*Праграма канцэрта пачынаецца з «Полацкага сшытка»,* — тлумачыць далей Віктар Іванавіч. — *Між іншым, ён быў знойдзены ў вокладцы ўніяцкага трэбніка, які належаў епіскапу з Полацка. Адсюль і назва — «Полацкі сшытак». У ім 220 нумароў, і што дзіўна — у асноўным творы свецкія: нямецкія, італьянскія танцы, розныя канты... Часта над нумарам стаяць назвы — лацінскія, польскія, але часцей за ўсё беларускія, напісаныя лацінкай. Сярод гэтых нумароў ёсць і канты рэлігійнага напрамку, і вось адным з іх — «Успамажы, Божа» — і адкрываецца наш канцэрт. Затым прагучалі фрагменты з «Псальмаў Давідавых» ананімных аўтараў канца XVII — пачатку XVIII стагоддзя ў перакладзе на старабеларускую мову Сімяона Полацкага і фрагменты з араторыі Ігара Хадоскі «Жальбы», у аснову якой пакладзены «Планкты» — жалобныя галашэнні на ўкрыжаванне Пана нашага Езуса Хрыста кампазітараў XVII—XVIII стагоддзяў Германоўскага, Катовіча і іншых. Акрамя таго, у праграму канцэрта мы ўключылі і творы нямецкага барока: Ёгана Себасцьяна Баха і Георга Фрыдрыха Гендэля — таму што, пачынаючы з гэтага года, вырашылі паказваць нашу беларускую музычную культуру ў атачэнні еўрапейскай. Аналізуючы, напрыклад, творы кампазітара*

*Катовіча, прадстаўленыя ў «Жальбах», можна дакладна сцвярджаць, што ў сваёй творчай манеры і музычнай мове ён быў апалагетам Баха, а Германоўскі — апалагетам Гендэля. Таму нам і хочацца паказаць, што нашы кампазітары мінулых вякоў сваёй творчай тэндэнцыяй абсалютна ўпісваліся ў еўрапейскую культурную прастору. Больш таго, пачынаючы з XVIII стагоддзя, у еўрапейскай музычнай культуры былі і такія тэндэнцыі, якія нараджаліся тут, у Беларусі. Але пра гэта мы будзем ужо распавядаць у наступным годзе. І што яшчэ хочацца адзначыць: мы імкнёмся, каб нашы праграмы спачатку прагучалі ў Нясвіжы, а ўжо затым — у Мінску.*

А вечар першага дня фестывалю быў прысвечаны класічнаму балету. На імправізаванай тэатральнай сцэне ўнутранага двара замка быў паказаны «Дон Кіхот» Людвіга Мінкуса — адзін з самых прыгожых балетаў сусветнага рэпертуару. У галоўных партыях выступілі зоркі беларускай балетнай трупы: Кацярына Алейнік (Кітры), Канстанцін Геронік (Базіль), заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Марына Вежнавец (Мерседэс), заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Антон Краўчанка (Эспада), Ганна Фокіна (Дульцынея). За дырыжорскім пультам стаяў маэстра Мікалай Калядка.

Другі дзень фестывалю пачынаўся з дзённага канцэрта струннага квінтэта «Серэнада» з удзелам салістаў оперы, які па традыцыі праходзіў у Тэатральнай зале замка. Гэты калектыў — нязменны ўдзельнік фестывальнага праекта, і кожны год ён рыхтуе для сваіх слухачоў самыя разнастайныя праграмы — ад старажытных рамансаў да джазавых кампазіцый. У склад квінтэта ўваходзяць артысты аркестра Вялікага тэатра розных пакаленняў: Генрых Мацкевіч і Аляксей Ахотнікаў — скрыпкі, Сяргей Траццяк — альт, Сяргей Анашкевіч — кантрабас, Аляксей Окунеў — віяланчэль. Мастацкім кіраўніком і нязменнай салісткай гэтага ансамбля з'яўляецца заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Таццяна Траццяк. У сёлетнім канцэрце разам з ёй удзельнічалі салісты оперы Наталля Акініна і народны артыст Беларусі Уладзімір Пятроў, якія выступілі з творамі лёгкага жанру — выканалі музычныя хіты з вядомых кінафільмаў.

Вечарам на адкрытай пляцоўцы замкавага двара была паказана оперная класіка — лірычная казка «Іяланта» Пятра Ільіча Чайкоўскага. Вядучыя партыі выканалі заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь Анастасія Масквіна (Іяланта), Эдуард Мартынюк (Вадэмон), Ілья Сільчукоў (Роберт), Андрэй Валенцій (Рэнэ), заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Уладзімір Громаў (Эбн-Хакіа). Дырыжор — Алег Лясун.

І нарэшце — трэці дзень фестывалю, які



*Кацярына Алейнік і Канстанцін Геранік.*
*Сцэна з балета «Дон Кіхот».*

пачаўся таксама ў Тэатральнай зале замка дасціпнай музычнай баталіяй — тэатралізаваным канцэртам «Тэнары супраць басоў», які падрыхтавала рэжысёр Алена Медзякова. Вядучыя салісты оперы, уладальнікі самых высокіх мужчынскіх галасоў, пры дапамозе арый і дуэтаў «высвятлялі адносіны» з другімі вядучымі салістамі — уладальнікамі самых нізкіх мужчынскіх галасоў. А ім дапамагалі канцэртмайстры Юлія Шчарбакова і Ірына Целяпнёва.

Завяршыўся фестываль грандыёзным вячэрнім гала-канцэртам у пастаноўцы галоўнага рэжысёра Вялікага тэатра Міхаіла Панджавідзе з удзелам зорак опернай і балетнай труп. У яго праграме былі прадстаўлены арыі, дуэты і ансамблевыя сцэны з залатога фонду сусветнай оперы, а таксама самыя яркія фрагменты, па-дэ-дэ, адажыа і варыяцыі з найбольш вядомых і любімых публікай балетаў. За дырыжорскім пультам змянялі адзін аднаго маэстра Віктар Пласкіна і Андрэй Іваноў.

Толькі за адзін вечар ва ўнутраным двары замка аказваецца каля паўтары тысячы гасцей фестывалю. А калі скласці разам колькасць тых, хто на працягу трох дзён наведвае ўсе мерапрыемствы, што праводзяцца ў замку і па-за яго сценамі, то атрымліваецца ўнушальная лічба. Такім чынам, сёння ўжо можна з упэўненасцю казаць, што імпрэзы акадэмічных відаў мастацтва ў фармаце open-air у нас прыжыліся. А выбар месца іх правядзення аказаўся надзвычай удалым: галоўная пляцоўка фестывалю вельмі зручная і прыцягальная адным толькі сваім месцазнаходжаннем — закрыты з усіх бакоў замкавы двор, выкладзены бруканкай, стварае цудоўную акустыку, а ўнутраныя фасады замкавага комплексу з’яўляюцца манументальнай жывой дэкарацыяй. У Тэатральнай зале замка таксама цудоўная акустыка, не кажучы ўжо пра фарны касцёл, дзе кожнае слова і кожны гук набываюць своеасабліва ўзвышанае, незямное гучанне… І не толькі дзеля канцэрта варта пабываць у нясвіжскім касцёле — само яго ўнутранае ўбранне, ансамбль роспісаў і фрэсак можна лічыць музеем мастацкай еўрапейскай традыцыі адпаведнага гістарычнага перыяду.

Бясспрэчна, што правядзенне фестывалю Вялікага тэатра ў Нясвіжы спрыяе павышэнню яго турыстычнай прыцягальнасці. Прыток турыстаў у гэтыя дні тут значна павялічваецца, што адразу адбіваецца на запаўняльнасці гасцініц. Па-асабліваму выглядае і горад, у гэтыя дні ён напоўнены аўтамабілямі з нумарнымі знакамі не толькі ўсіх рэгіёнаў Беларусі, але і суседніх краін.

— *Мы не проста прадастаўляем пляцоўку для правядзення спектакляў і канцэртаў Вялікага тэатра, але і даём магчымасць гасцям фестывалю пазнаёміцца з экспазіцыямі замкавага ансамбля і новымі выставачнымі праектамі, — гаворыць дырэктар Нацыянальнага гісторыка-культурнага музея-запаведніка «Нясвіж» Сяргей Клімаў. — Напрыклад, у вялікай выставачнай зале цяпер экспануецца надзвычай цікавая выстава «Археалагічныя знаходкі Палаца Вялікіх Князёў Літоўскіх. Штодзённасць Віленскага двара» з фондаў музея-палаца Вялікіх Князёў Літоўскіх у Вільні, якія з’яўляецца надзвычай знакавым месцам для агульнай гісторыі дзяржаў, тэрыторыі якіх у свой час утваралі Вялікае Княства Літоўскае. І калі нехта абмежаваны ў часе і прыехаў толькі на спектакль, то нават у антракце можна падняцца ў залу і азнаёміцца з гэтай экспазіцыяй, якая дае магчымасць уявіць, як быў уладкаваны побыт уладных людзей у эпоху Гедыміна, Вітаўта, Ягелонаў... Наша супрацоўніцтва з Вялікім тэатрам прынесла і нечаканыя вынікі: у гэтым годзе наш музей-запаведнік атрымаў прыз еўрапейскай арганізацыі «Europa Nostra» — самай паважанай у Еўропе інстытуцыі ў галіне захавання культурнай спадчыны. І як было адзначана, гэта ўзнагарода нам была прысуджана за рэкордна кароткія тэрміны музеефікацыі замка і за падтрыманне да яго ўстойлівага інтарэсу грамадскасці, што адлюстроўваецца ў лічбе 400 000 наведвальнікаў у год. А ў гэтым нам і дапамагаюць такія маштабныя нацыянальныя акцыі, як «Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў».*

***Фота Міхаіла Несцерава.***




**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

# СВЕДЧАННІ ДЗЯЦЕЙ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ

***Я ПОМНЮ ЎСЁ... Вершы, апавяданні для мал. шк. узросту*** */ Уклад. У. Ліпскі, М. Чарняўскі; прадм. У. Ліпскага, П. Прыходзькі. — Мн.: Адукацыя і выхаванне, 2016.*

«Дзеці вайны — апошнія сведкі крывавага ліхалецця.

Вось і ў гэтай кнізе, якая спачатку нарадзілася ў часопісе «Вясёлка», сабраны шчымлівыя і трагічныя, праўдзівыя і ранімыя ўспаміны вядомых сёння пісьменнікаў і паэтаў Беларусі. У гады вайны яны былі дзецьмі. Адкрытым сэрцам, шырокімі вачыма ўспрымалі бяду, якая абрынулася на іх саміх, на іх сем'і, вёскі, пасёлкі, гарады. Яны, як з незагойнымі ранамі, як з асколкамі ў душы, жывуць з імі. І ўсе іх балючыя ўспаміны аб'яднаны адной спадзяванкай: каб такой жудасці ніколі не зведалі іх дзеці, унукі, праўнукі, каб цанілі мірны зямны рай». Гэтымі словамі Уладзіміра Ліпскага пачынаецца калектыўны зборнік успамінаў пісьменнікаў, якіх добра ведае беларускі чытач. Назаву ўсіх аўтараў кнігі «Я помню ўсё...»: Павел Місько (яго нарыс-успамін носіць назву «Жыццё пад кулямі»), Уладзімір Мацвеенка («Апаленае дзяцінства»), Кастусь Цвірка («Першыя немцы»), Рыгор Барадулін («З самаробак — па самалётах»), Уладзіслаў Нядзведскі (яго ўласная ваенная памяць — у вершы «Я помню ўсё..»), Янка Сіпакоў («Тое, што не забываецца»), Ніна Галіноўская («Зямля ў агні»), Ніл Гілевіч («Допыт у полі»), Уладзімір Паўлаў («Стук уначы», ёсць у кнізе і яго верш «Дзяцінства»), Генадзь Княўко (верш «Вы са мной»), Валянцін Мыслівец («Пагарэльцы»), Анатоль Вярцінскі («Дзядзька Лявон», «Лабанок і мы з братам»), Генадзь Бураўкін («Выратаванне»), Васіль Зуёнак («Кубанка»), Анатоль Дзялендзік («Мая вайна»), Віктар Кудлачоў (цыкл абразкоў «Акопы», «Боты», «У сабачых лапах»; ёсць і верш яго «А я чакаў…» у перакладзе з рускай мовы Міколы Чарняўскага), Уладзімір Карызна (урывак «Блакада» з паэмы «Зямля — два паўшар'і»), Віктар Казько («Дотык сонечнага промня»), Барыс Сачанка (урывак «Далёка ад дому…» з аўтабіяграфічнага рамана «Чужое неба»), Уладзімір Ліпскі («Згарэлі цацкі»), Уладзімір Шулякоўскі («Плач над магілай»), Анатоль Грачанікаў (верш «Крывавая балада»), Уладзімір Содаль («На валаску»), Анатоль Кудравец («Кляновае марозіва»), Валянцін Блакіт («На той дзіцячы розум…»), Юрась Свірка («Вайна ўсе забавы перакрэсліла…»), Уладзімір Скарынкін («Калыханка за калючым дротам»), Алесь Ставер (урывак «Аблава» з аўтабіяграфічнай аповесці «Пад канвоем»), Яўген Каршукоў («Дачакаліся свята»), Яўген

Міклашэўскі («Паездка ў прыфрантавы лес»), Павел Саковіч («Сынок, гэта ж не сон…»), Расціслаў Бензярук («Томік Пушкіна»), Рыгор Ігнаценка («Граната не ўзарвалася»), Валянцін Лукша («Старонка горкай памяці»), Ніна Маеўская («Мы — дзеці вайны»), Казімір Камейша («Аднагодкам вайны»). Увайшлі ў кнігу яшчэ і вершы Пімена Панчанкі, Максіма Танка, Эдзі Агняцвет, Пятра Прыходзькі, Міколы Чарняўскага, прысвечаныя дзецям вайны. Увайшоў і верш Станіслава Шушкевіча «Юныя партызаны». Тут трэба нагадаць: Станіслаў Пятровіч, вярнуўшыся ў Беларусь з ГУЛАГа, шмат намаганняў прыкладаў для ўзнаўлення памяці пра Вялікую Айчынную. Напісаў на гэтую тэму шмат вершаў, апавяданняў, нарысаў. Напісаў кнігу пра Марата Казея.

Распачаўшы шмат гадоў назад працу па зборы пісьменніцкіх сведчанняў пра дзяцей, маленства ў звязку з тэмай Вялікай Айчыннай вайны, рэдакцыя часопіса «Вясёлка» не проста зрабіла вялікую работу, не проста правяла актуальную медыйную акцыю, а выклала выразную падказку вартасці магістральнага шляху збірання памяці. Па-першае, «вясёлкаўцы» нагадалі: не ўсё расказана пра трагедыйнасць і драматычнасць, мужнасць і параненасць, страты народа Беларусі ў ваенным ліхалецці. Кожнае сведчанне варта ўзнаўлення, запісу. Гэтага патрабуе і шматабсяжная ранейшая праца. Яе пачатак — кніга «Ніколі не забудзем», асветленая апякунствам Якуба Коласа, Янкі Маўра, кніга, якую рупліва збіраў журналіст і дзіцячы пісьменнік Пятро Рунец. Яе пачатак — у кнізе Святланы Алексіевіч «Апошнія сведкі». Вытокі творчага «вясёлкаўскага» праекта — у стараннях, памкненнях беларускіх пісьменнікаў па стварэнні шматабсяжнага партрэта дзяцей і дзяцінства ў гады Вялікай Айчыннай (успомнім прозу Янкі Брыля, Івана Шамякіна, Івана Мележа, Івана Навуменкі, Алеся Шашкова, Івана Сяркова, паэзію, публіцыстыку Міколы Чарняўскага, Сцяпана Кухарава, Міколы Корзуна, Яўгена Курто, Валянціна Мысліўца і інш.). Падругое, кніга «Я помню ўсё…» нагадвае пра вартасці масавай пошукавай героіка-патрыятычнай работы. Яе патрэбна доўжыць і сёння. Добра, калі заўважаць кнігу Беларускі Рэспубліканскі Саюз Моладзі, Беларуская Рэспубліканская Піянерская арганізацыя (тым болей, што нядаўна Выдавецкім домам «Звязда» па выніках іх грамадскай акцыі выпушчана вельмі сімпатычная кніга вучнёўскіх работ «Унукі пра вайну»), ды і Міністэрства адукацыі — таксама. Эмацыйныя, вельмі вобразныя мастацкія ўспаміны, творы, якія прапушчаны праз сэрца, з'яўляюцца магутным рухавіком у нараджэнні суперажыванняў, ва ўсведамленні еднасці пакаленняў у міралюбівых памкненнях. Сёння, здараецца, пра вайну успамінаюць толькі ў святочныя дні. Шмат дзе ў агульнаадукацыйнай школе забыліся пра тое, што яшчэ 20—25 гадоў назад тут збіралі краязнаўчыя матэрыялы для музея «Героі і подзвігі» альбо пакоя партызанскай славы. А між тым і ў сённяшніх школьнікаў ёсць дзяды-прадзеды, якія бачылі Вялікую Айчынную на свае вочы альбо добра ведаюць сямейныя ці вясковыя паданні з першых вуснаў. Чаму б школьнікам, настаўнікам не паказаць «вясёлкаўскі» зборнік прыватна-мастацкіх памятак пра вайну старэйшым пакаленням?.. Мо гэта справакуе на новыя, няхай сабе і вельмі прыватныя, індывідуальныя летапісы…

«Нашу вёску Шоўкавічы фашысты спалілі на Сёмуху», — чытаем у дакументальным апавяданні Уладзіміра Ліпскага «Згарэлі цацкі». І далей: «Нашы шоўкаўцы парабілі ў лесе курані, зямлянкі. Там і зімавалі. Харчаваліся, чым бог пашле, што знаходзілі ў лесе, у полі, на папялішчах.

Вясной усе вярнуліся ў пустэльную вёску, пачалі будаваць новыя хаты.

Мама расказвала, калі мы падышлі да месца, дзе стаяла наша сядзіба, я наўзрыд заплакаў: «А дзе мае цацкі?..» Вакол ляжалі галавешкі, вуголле, попел. Агонь карнікаў не пашкадаваў нічога, нават маіх цацак. Вось толькі ніяк не магу ўявіць, якія яны былі ў мяне.

Я і па сёння люблю цацкі…»

Кніга, якую стварылі ў «Вясёлцы» і пасля выдалі асобным зборнікам у «Адукацыі і выхаванні», несумненна, павінна патрапіць у склад той літаратуры, што рэкамендуецца ў школе для пазакласнага чытання. Карысці ў гэтым шмат: і для вывучэння сучаснай беларускай літаратуры, і для выхаваўчага працэсу — таксама.

Васіль СУШЧЭНЯ

# ПРА ЧАЛАВЕКА СВЕТУ — ДЗЕЦЯМ




***Алесь Суша. ФРАНЦЫСК СКАРЫНА.** У 3 частках. Ч. І. Чалавек-энцыклапедыя. Для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту. Мн.: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2016.*




***Алесь Суша. ФРАНЦЫСК СКАРЫНА.** У 3 частках. Ч. 2. Чалавек свету. Для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту. Мн.: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2016.*

Францыск Скарына ўвагай не абыдзены. Пацвярджае цікавасць да здзейсненага ім і тое, што ёсць нават энцыклапедычны даведнік «Францыск Скарына і яго час». Такога гонару на Беларусі ўдастоены толькі Янка Купала і Максім Багдановіч. Дый з кожным годам павялічваецца колькасць даследаванняў, асобных публікацый, прысвечаных беларускаму першадрукару. Асабліва шмат іх з'яўляецца ў юбілейныя гады, звязаныя як з ягоным жыццём, так і з выхадам пэўных Скарынавых кніг. Наступны, 2017 год, як вядома, таксама з шэрагу такіх. 6 жніўня 1517 года ў Празе пабачыла свет першая датаваная кніга Скарыны, якой наканавана было стаць увогуле першай беларускай кнігай.

Зразумела, што 500-годдзе з'яўлення Скарынавага першынца не можа застацца незаўважаным. Таму выдавецтвы краіны старанна рыхтуюцца да гэтага важнага юбілею не толькі ў культурным, а і ў грамадскім жыцці. Не застаецца ў баку і выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». У шэрагу юбілейных выданняў і трохтомнік «Францыск Скарына», аўтар якога — намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі па навуковай рабоце і выдавецкай дзейнасці, кандыдат культуралогіі Алесь Суша. Ужо выйшлі першыя два тамы гэтай цікавай даследчыцкай працы. Паколькі яна найперш адрасавана дзецям сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту, то выпушчана ў серыі «Беларуская дзіцячая энцыклапедыя», заснаванай у 2015 годзе.

Безумоўна, пішучы пра Скарыну, А. Суша, не мог не прымаць пад увагу гэтыя дзве акалічнасці. Канкрэтная чытацкая аўдыторыя вымагала ад яго такога падыходу да асэнсавання багатага фактычнага матэрыялу, пры якім ён падаваўся б не ўскладнёна, а даходліва, зразумела юным чытачам. Разам з тым А. Суша ў асноўным прытрымліваецца звестак вывераных, апрабаваных. Што ж тычыцца пэўных спрэчных момантаў з жыцця Скарыны, яго шматграннай дзейнасці, дык мэтазгодней не ўступаць у дыскусію, высвятляючы, на чыім баку праўда, а прыводзіць толькі тое, што найбольш верагодна, бліжэй да ісціны.

З гэтым А. Суша паспяхова справіўся. Па першых дзвюх кнігах добра відаць, наколькі дасканала аўтар валодае матэрыялам, як удаецца яму падаць яго так, каб гэта ў аднолькавай ступені было і цікава, і пазнавальна, дый, нарэшце, каб у тых чытачоў, якія пра Скарыну ведаюць не так і шмат, з’явілася сапраўдная зацікаўленасць ягонай асобай. Не толькі, аднак, як кнігавыдаўца, першадрукара, а менавіта на гэтых баках ягонай дзейнасці найчасцей, асабліва ў папулярных выданнях, засяроджваецца ўвага. Тым самым, няхай і падсвядома, прыніжаецца роля Скарыны як увогуле тытана нацыянальнага Адраджэння. Дый не толькі беларускага. Да месца такое меркаванне А. Сушы: «Францыска Скарыну — найбольш вядомага дзеяча беларускай культуры — у поўнай меры можна назваць чалавекам свету. Яго дзейнасць не ведала межаў: як у сэнсе разнастайнасці творчых заняткаў і талентаў беларускага асветніка, так і паводле геаграфіі яго падарожжаў і сувязей з рознымі краінамі і прадстаўнікамі розных народаў». І далей: «Фактычна ўвесь цывілізаваны свет таго часу быў добра вядомы Францыску Скарыну, а ў многіх дзяржавах цудоўна ведалі яго. Кіраўнікі некалькіх еўрапейскіх краін называлі яго выбітным дзеячам, слаўным вучоным, надзвычай адораным і таленавітым мужам. Яго здольнасці здзіўлялі многіх педагогаў, арыстакратаў і гараджан у розных куточках Еўропы».

Зыходзячы з вышэйсказанага, А. Суша і даў першым дзвюм сваім кнігам адпаведныя назвы — «Чалавек-энцыклапедыя» і «Чалавек свету». Адразу відавочна, пра што канкрэтна пойдзе гаворка ў кожнай з іх. Аднак прытрымліваючыся, калі можна так сказаць, звышзадачы, даследчык разам з тым не ўпусціў моманты, якія дазваляюць лепш зразумець фарміраванне характару Скарыны, ягонага светапогляду. Нарэшце, адчуць, як і з чаго Скарына пачынаўся менавіта як СКАРЫНА. Пра гэта гаворыцца, канешне, і ў раздзелах, звязаных з пэўнымі аспектамі яго дзейнасці. Але не толькі.

У пэўнай ступені такое назіраецца і тады, калі А. Суша зазірае ў вытокі, згадвае, наколькі гэта магчыма, пра юныя гады першадрукара (звестак жа захавалася не так і шмат), вучобу (тут таксама не ўсё вядома). Але часам дастаткова толькі невялікага факта, меркавання наконт таго, як усё магло быць, каб гэта спрацоўвала на ажыццяўленне аўтарскай задумы. Паступова Скарына паўстае каларытнай фігурай у сваім часе, а прастора, у якой ён жыве, вучыцца, дзейнічае, пашыраецца. Яна становіцца светам дапытлівага і таленавітага юнака, потым маладога, а затым і сталага чалавека. Пазней гэты свет ператворыцца ў сусвет таго, каму так шмат дадзена і хто, разумеючы гэта, пастараецца як мага лепш выкарыстаць свае здольнасці. І дзеля ўласнага самасцвярджэння, але ў большай ступені ў імя таго, каб тым самым прынесці карысць свайму народу: «Францыск Скарына першым з усходніх славян выдаў кнігу друкарскім спосабам і зрабіў кніжнае слова (а праз яго і ўсе веды чалавецтва) даступным для «люду паспалітага», гэта значыць, для ўсіх і для кожнага. Менавіта таму беларускага першадрукара называюць сапраўдным волатам Адраджэння».

Не ўсё вядома пра тое, як адбывалася ягонае станаўленне, затое відавочна, якія вынікі гэта дало. Раздзелы «Доктар у навуках», «Каралеўскі садоўнік», «Сакратар трох каралёў», «Сакратар віленскага біскупа» — толькі асобныя,

але разам з тым на дзіва важныя штрыхі да біяграфіі гэтага «сапраўднага волата Адраджэння». Але чым больш А. Суша заглыбляецца ў сферы дзейнасці Скарыны, тым відавочней, наколькі неардынарны ён. Тое, чым займаўся, што рабіў, хапіла б на многіх, а тут — адзін чалавек. Так і напрошваецца параўнанне — цэлы ўніверсітэт у адной асобе: «Перакладчык», «Стваральнік літаратурнай мовы», «Духоўны пісьменнік»... А яшчэ…

Канешне ж, эрудзіраванаму чытачу ўсё гэта знаёма, але ж не будзем забываць, каму ў першую чаргу кнігі «Францыск Скарына» адрасаваны. Далёка не кожны школьнік ведае, што Скарына быў яшчэ і паэтам. Прачытае ж першую частку «Чалавек-энцыклапедыя» і даведаецца, што «Францыска Скарыну можна абгрунтавана лічыць першым беларускім паэтам, аўтарам першых вершаў на беларускай (старабеларускай) мове. Яго папярэднікі часоў Сярэдневякоўя, нават такія вядомыя і таленавітыя творцы, як Кірыла Тураўскі, не пісалі па-беларуску і не стваралі вершаваныя творы ў сучасным разуменні гэтага паняцця».

Даведаецца зацікаўлены чытач і пра іншыя аспекты дзейнасці Скарыны: «Багаслоў», «Асветнік», «Філосаф», «Правазнавец»… Зразумела, у кнізе ёсць і асобныя раздзелы «Кнігавыдавец» і «Першадрукар». Праўда, пра гэтыя, бадай, асноўныя аспекты яго дзейнасці юныя чытачы больш-менш ведаюць. Аднак, пазнаёміўшыся з развагамі А. Сушы, яны, па сутнасці, па-новаму ўбачаць і Скарыну-кнігавыдаўца, і Скарыну-першадрукара. Затое адкрыццём нават для шмат каго з тых, хто добра знаёмы з яго біяграфіяй, стане тое, што «ў сваёй дзейнасці Францыск Скарына паўстае як энергічны прадпрымальнік, які пастаянна займаўся самаўдасканаленнем, шукаў новыя шляхі і новыя сферы дзейнасці. Ён імкнуўся не толькі даць людзям святло ведаў, але і шукаў магчымасці для матэрыяльнага самазабеспячэння і заробку».

Важна такая выснова А. Сушы: «Скарына не лётаў у высокіх аблоках, а грунтоўна стаяў на зямлі. Яго залішне ідэалізаваны вобраз стварае ў сучаснікаў адчуванне, што наш вялікі продак быў ледзь не міфічнай асобай, якая не жыла і не кахала, не ела і не спала, і, безумоўна, не клапацілася пра матэрыяльнае забеспячэнне сваёй дзейнасці. А гэта ніяк не адпавядае рэчаіснасці». Тым і важная гэтая выснова, што, няхай і не напрамую, але даследчык закранае праблему, з якой сутыкаюцца тыя, хто піша пра выдатных дзеячаў. Стараючыся падаць іх у як мага больш выгадным святле, яны нярэдка страчваюць пачуццё меры. Гэта і прыводзіць да празмернай ідэалізацыі. Тое, што напісанае А. Сушам выклікае роздум, таксама вельмі істотна. Яно не пакідае дасведчанага чытача абыякавым, актывізуе яго думку, выклікае жаданне праводзіць паралелі. Але і школьнікам ёсць над чым задумацца. Гэта для даследчыка вельмі добрая якасць: не толькі падаваць пэўную інфармацыю, а актывізаваць пазіцыю таго, хто з гэтым знаёміцца.

Другая частка «Чалавек сусвету» — развагі пра тое, як «праз асобу Францыска Скарыны Беларусь была ўключана ў агульнаеўрапейскую і сусветную культурную прастору». Прымаючы пад увагу, хто найперш яго патэнцыяльны чытач, А. Суша да месца дае такое ўдакладненне: «[…] уласна Беларусі ў тыя часы не існавала, як і не існуе сёння ні адной краіны, дзе некалі жыў і працаваў наш асветнік. Хаця лёс беларускага першадрукара быў зніταваны з многімі дзяржавамі XVI стагоддзя, родным яму было Вялікае Княства Літоўскае. Гады яго вучобы звязаны з Польскім Каралеўствам і Венецыянскай Рэспублікай. У Чэшскім Каралеўстве ён ажыццяўляў сваю выдавецкую дзейнасць і праявіўся ў якасці таленавітага батаніка. Як вучоны і дыпламат ён быў вядомы ў Прускім Герцагстве. Асобныя крыніцы сведчаць пра магчымае знаходжанне і працу Францыска Скарыны ў Дацкім Каралеўстве, Папскай Вобласці, Вялікім Княстве Маскоўскім, Саксонскім Курфюрстве і Аўстрыйскай Манархіі».

Ва ўсе гэтыя былыя краіны, дзякуючы кнізе «Чалавек свету», чытач і «трапіць». Даведаецца пра іхнюю гісторыю, пазнаёміцца з найбольш выдатнымі месцамі, якія «прапісаліся» ў Скарынавым лёсе. У адным выпадку наконт гэтага прыводзяцца канкрэтныя факты, у іншых, як для прыкладу, адносна Масковіі, выказваюцца меркаванні наконт магчымасці знаходжання там першадрукара: «Многія даследчыкі лічаць, што ў 1520-х гадах Францыск Скарына наведваў Маскву. Гістарычныя крыніцы кажуць, што ў гэты час нейкі выдавец «рускіх кніг» наведаў Маскву з мэтай распаўсюджання там сваіх выданняў. Верагодна, гаворка ідзе пра Скарыну, бо іншых выдаўцоў «рускіх кніг» тады яшчэ проста не было. Некаторыя спецыялісты выказваюць меркаванне, што ў Маскву накіроўваўся не сам першадрукар, а яго віленскі апякун і мецэнат Багдан Онкаў, аднак гэта версія выглядае менш верагоднай».

Адметнасць кнігі «Францыск Скарына» і ў тым, што яна выдатна ілюстравана. Выкарыстаны гравюры з выданняў Скарыны, фотаздымкі самога А. Сушы і матэрыялы з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Усё разам узятае дапамагае зрабіць гэтае свайго роду падарожжа ў часе і прасторы яшчэ больш уражлівым, пераканаўчым. Дазваляе на свае вочы пабачыць шмат з таго, пра што расказваецца. Дый ўвогуле — гэта яшчэ лепшая магчымасць адчуць, зразумець, усвядоміць, наколькі ўсе мы шчаслівыя, што сам Усявышні паклапаціўся, каб менавіта на Беларусі нарадзіўся чалавек, які, дзякуючы свайму тытанічнаму таленту, так шмат зрабіў не толькі на карысць роднай зямлі, а і ўсяго чалавецтва.

Не сумняваюся, што і заключная, трэцяя частка кнігі «Францыск Скарына» будзе гэткай цікавай, як і першыя дзве. Няма сумнення і ў іхняй запатрабаванасці. Вельмі добра было б, каб яны трапілі ў школьныя бібліятэкі. Самому ж А. Сушу хацелася б пажадаць далейшых творчых поспехаў. На маю думку, ён бы мог годна працягнуць серыю «Беларуская дзіцячая энцыклапедыя». Бяру на сябе смеласць падказаць і чарговага выдатнага дзеяча, які б мог стаць яе героем. Гэта зямляк Скарыны — Сімяон Полацкі. Таксама творца энцыклапедычных ведаў, шматграннай дзейнасці. Пра яго школьнікі павінны ведаць як мага больш.

**Галіна БАГДАНАВА**

# КРОК У XXI СТАГОДДЗЕ




*Міхась БАРАЗНА*

**ГІСТОРЫЯ ВЫЯЎЛЕНЧАГА МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ XX СТАГОДДЗЯ.**

*Мн.: Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў, 2016.*

Ісці наперад, не асэнсаваўшы мінулае, не мае сэнсу. XX стагоддзе было ў нашай гісторыі першым, калі свет загаварыў пра літаратуру, выяўленчае, тэатральнае, кіна-мастацтва Беларусі. Але, як высветлілася, усвядоміць усю значнасць гэтага можна толькі пераступіўшы мяжу новага часу. І выдатна ілюстраваная кніга нашага вядомага даследчыка, кандыдата мастацтвазнаўства, рэктара Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхася Баразны «Гісторыя выяўленчага мастацтва Беларусі XX стагоддзя» — выдатны таму прыклад.

Беларускае выяўленчае мастацтва XX стагоддзя знайшло адлюстраванне ў энцыклапедычных выданнях, у шасцітомнай «Гісторыі беларускага мастацтва», у манаграфіях Б. Лазукі, В. Жука, С. Харэўскага, М. Баразны і іншых даследчыкаў. Але цэласнае ўяўленне пра гэты перыяд паводле названых выданняў скласці няпроста. Гэтым жа разам аўтар меў шчаслівую магчымасць не толькі падсумаваць і прааналізаваць творчыя дасягненні стагоддзя дваццатага, але і выявіць тыя тэндэнцыі, што займелі сваё развіццё ў стагоддзі дваццаць першым, і такім чынам пазначыць сувязь не толькі з мінулым, але і будучыняй.

Выданне прэзентуецца як вучэбны дапаможнік, і той, хто набывае мастацкую, мастацтвазнаўчую адукацыю, можа сістэматызаваць свае веды, супаставіць уласнае ўспрыманне творчасці таго ці іншага мастака з меркаваннем высакакласнага спецыяліста — М. Баразна, да слова, выдатны мастацтвазнаўца, гісторык мастацтва, фотамастак, літаратар. Але манаграфія «Гісторыя выяўленчага мастацтва Беларусі XX стагоддзя» — гэта не толькі вучэбны дапаможнік, а ўнікальнае энцыклапедычнае выданне, створанае, нагадаю, не акадэмічным інстытутам, а ўсяго адным чалавекам, гэта цікава, дасціпна напісаная кніга пра сучаснае мастацтва (дастаткова паглядзець ілюстрацыі, каб пераканацца, што практычна ўсе творчыя адкрыцці XX стагоддзя займелі арыгінальны працяг у творчасці сучасных мастакоў).

Хто б ведаў, якою займальнай можа быць нават нядаўняя гісторыя беларускага выяўленчага мастацтва! Літаральна ў кожным раздзеле ёсць свая інтры-

га, новыя факты, нечаканы, свежы погляд на вядомыя творы. Аўтар не толькі дасведчаны, але і дзёрзкі, арыгінальны даследчык.

«Адны вядуць адлік пачатку эпохі сучаснага мастацтва ад нараджэння Марка Шагала, другія шукаюць вытокі актуальнасці ў глыбокай старажытнасці, трэція імкнуцца даказаць, што вызначальная роля ў гэтым пытанні належыць мінскаму творчаму асяроддзю сярэдзіны 1980-х, — піша М. Баразна ва ўступе. — Пры гэтым многія забываюць пра тое, што тэарэтычныя аспекты развіцця нацыянальнага беларускага выяўленчага мастацтва распрацоўваліся яшчэ ў 1910—1920-я гады, і гэты вопыт таксама патрабуе свайго асэнсавання».

Ці ведаеце вы, што першым увёў у навуковы ўжытак тэрміны «беларускае мастацтва» і «беларуская школа малярства» нямецкі мастацтвазнаўца А. Іпель? І пры гэтым (цяпер, дзякуючы выстаўкам апошніх гадоў гэта добра вядома), мастакі — выхадцы з Беларусі істотна паўплывалі на развіццё не толькі еўрапейскага, але і ўсяго сусветнага мастацтва. У манаграфіі ўпершыню творы тых, хто па розных прычынах эмігрыраваў за межы Беларусі, і тых, хто працаваў на радзіме, разглядаюцца ў адзіным гістарычным кантэксце. Гэта, з аднаго боку, выяўляе еднасць еўрапейскага, сусветнага мастацкага працэсу, з іншага, дазваляе больш ясна ўбачыць той самы непаўторны беларускі след у творчасці сусветна вядомых творцаў.

Далікатна і дакладна выкарыстоўваючы цытаты сведкаў бурлівага пачатку ХХ стагоддзя, аўтар перакідвае масток са стагоддзя ХІХ у стагоддзе ХХ, дае ўяўленне пра «мадэрн/сэцэсію», сімвалізм у мастацтве Беларусі, пра пачатак айчыннай мастацкай фатаграфіі… І пры гэтым грунтоўны аповед пра агульны мастацкі працэс з'яўляецца толькі фонам для выяўлення той або іншай асобы. Так, пачатак ХХ стагоддзя — гэта час, калі ў нас заззялі зоркі сусветнага маштабу, унікальныя мастакі, роўных якім у ХХ стагоддзі не было.

Фердынанд Рушчыц, Язэп Драздовіч, Міхась Сяўрук, Вітольд Бялыніцкі-Біруля… Кожнаму з іх у кнізе прысвечаны асобны падраздзел.

Вельмі важна тое, што аўтар канцэптуальна падыходзіць да адлюстравання гісторыі мастацтва. Так, апавядаючы пра мадэрнізм у выяўленчым мастацтве Беларусі 1920—1930-х гадоў, М. Баразна піша: «Своеасаблівасць мастацкага жыцця Беларусі 1920—1930-х гадоў заключалася ў тым, што ва Усходняй (савецкай) частцы Беларусі мастацтва абапіралася на эксперыменты паводле ідэй рускага авангарда, на канцэптуальныя погляды кубістаў, абстракцыяністаў і інш. У заходняй жа частцы Беларусі яшчэ панавалі мастацкія ідэі сэцэсіі, сімвалізму». Асобны падраздзел прысвечаны мастацкаму жыццю Віцебска, горада, які ў даваенны час быў адным з цэнтраў новай культуры.

Канцэптуальным падаецца і падыход да адлюстравання мастацтва 1920—1930-х гадоў. Аўтар разглядае творчасць самых вядомых беларускіх жывапісцаў, графікаў, скульптараў, архітэктараў таго часу ў кантэксце гісторыі, пакідаючы за чытачом права даваць ацэнку творам, якія прадстаўлены ў рэпрадукцыях. Бадай, упершыню ў беларускім мастацтвазнаўстве выразна сфармулявана, што паслярэвалюцыйнае мастацкае жыццё было значна багацейшае за ідэалагічную ўстаноўку (падраздзел «Плыні і мастацкія кірункі да пачатку зацвярджэння метаду сацыялістычнага рэалізму ў беларускім мастацтве. Сацыялістычны рэалізм»). Разглядаючы мастацтва перыяду Вялікай Айчыннай вайны, аўтар піша не толькі пра творы графікі, жывапісу, скульптуры, але і пра работы фотамастакоў, якія сёння набываюць усё большую не толькі гістарычную, але і мастацкую каштоўнасць.

Беларускае выяўленчае мастацтва другой паловы ХХ стагоддзя разглядаецца па дзесяцігоддзях. Пры гэтым аўтар акцэнтуе, асобна прэзентуе мастацкія цэнтры (Мінск), асобныя віды мастацтва (напрыклад, «стан-

ковая і кніжная графіка 1960-х»), напрамкі («мастацтва эксперымента і неафіцыйныя плыні»). І што самае каштоўнае, вылучае, асобна прадстаўляе найбольш яркія, знакавыя асобы кожнага дзесяцігоддзя. Першаадкрыццём уяўляецца падраздзел, у якім прааналізаванае «Мастацтва сучаснага беларускага замежжа». І зроблена гэта, зноў жа, у агульным гістарычным кантэксце, побач з творамі тых, хто жыў і жыве на Беларусі. Упершыню асобна з пункту гледжання гісторыі мастацтва разглядаюцца артдызайн, медыя-дызайн і выяўленчае мастацтва Беларусі пачатку XXI стагодддзя. М. Баразна шмат гадоў выкладае ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, мае штодзённыя стасункі з творчай моладдзю, таму выдатна ведае, хто з творцаў розных пакаленняў уяўляе на сёння цікавасць. Ён актыўна ўдзельнічае ў арганізацыі рэспубліканскіх і міжнародных выставак, рэалізацыі сучасных праектаў (у прыватнасці, ён быў куратарам і аўтарам ідэі праекта KODEX, які Беларусь прэзентавала на 54-й Біенале мастацтваў у Венецыі (2011 год)). І гэта дазваляе яму ацэньваць беларускае мастацтва ў кантэксце еўрапейскага, сусветнага.

Хто будзе спрачацца, што сам дух пасляваеннага дзесяцігоддзя сфакусаваны ў творах Валянціна Волкава, Андрэя Бембеля, Заіра Азгура? А 1960-я гады не спазнаеш без творчасці Віталя Цвіркі, Міхаіла Савіцкага, Уладзіміра Стэльмашонка, Арлена Кашкурэвіча…У 1970-я гучна заявілі пра сябе беларускае манументальнае мастацтва і такія на сёння класікі, як Леанід Шчамялёў, Аляксандр Кішчанка, Гаўрыла Вашчанка, Анатоль Анікейчык, Васіль Шаранговіч… І зноў інтрыга. Побач са стала замацаванымі ў гэтым перыядзе імёнамі абсалютна натуральна з'яўляюцца Міхаіл Рагалевіч, творчасць якога была, па сутнасці, адкрытая і па заслугах ацэненая толькі ў сярэдзіне 1980-х, і Барыс Забораў, імя якога пасля яго эміграцыі доўгі час папросту не згадвалася.

Праглядаеш імёны тых, хто вызначаў выяўленчае мастацтва ў канцы 1970-х — 1980-я гады, і ўсведамляеш, што перабудову і галоснасць на Беларусі пачыналі не палітыкі, а мастакі і пісьменнікі. М. Баразна дае ацэнку шматлікім мастацкім выстаўкам, што ладзіліся на той час, згадвае пра выхад у 1983 годзе першага нумара часопіса «Мастацтва Беларусі» (з 1992 года — «Мастацтва»), на старонках якога, дарэчы, друкаваліся і друкуюцца і творы, і вельмі цікавыя, вострыя артыкулы і самога аўтара манаграфіі.

І яшчэ адна вельмі важная для нас канстатацыя: пераломнаю для беларускай культуры была Чарнобыльская катастрофа 1986 года. «Трагічныя падзеі змянілі грамадскае месца чалавека, — піша М. Баразна, — абумовілі неабходнасць новай канцэпцыі асобы ў мастацтве, аказалі значны ўплыў на змест агульнакультурных працэсаў, абумовілі іх беззваротнасць да ідэалагічных догмаў у мастацтве». Можа таму нават у самых крэатыўных творах і самых дзёрзкіх эксперыментах беларускіх мастакоў, у параўнанні з творамі нашых суседзяў, практычна ніколі не сустрэнеш распушчанасці, цынізму, пустазвоннага штукарства…

Дух свабоды, незалежнасці, творчай разняволенасці ў беларускім мастацтве адтуль, з 1980-х. Мікола Селяшчук, Зоя Літвінава, Уладзімір Зінкевіч, Уладзімір Тоўсцік, Уладзімір Савіч… І напэўна, ёсць сэнс засведчыць, што ў нашай культуры, і ў прыватнасці ў выяўленчым мастацтве, у XX стагоддзі пакаленне «васьмідзясятнікаў» заявіла пра сябе гэтаксама ярка, як пакаленне «шасцідзясятнікаў». Сёння, дарэчы, яшчэ ўпэўнена гучаць галасы тых, хто прыйшоў у мастацтва ў другой палове XX стагоддзя. І, як сведчаць сабраныя ў кнізе ілюстрацыі, чаго-чаго, а дзёрзкасці, смеласці, шчырасці нашаму мастацтву нават падчас, здавалася б, суцэльнага ідэалагічнага ўціску было не займаць.

Што ж датычыць новых мастацкіх напрамкаў канца XX стагоддзя, «мінскага андэграўнда», канцэпталь-

нага мастацтва, мастацтва сучаснага беларускага замежжа, тут аўтар робіць спробу сістэматызаваць мастацкі працэс, вызначыць найбольш выразныя стылістычныя напрамкі і зноў жа даць звесткі пра мастацкія суполкі, асобныя творы і тых, чыя творчасць дасюль выклікае спрэчкі. «6-я лінія», Людміла Русава, Адам Глобус, Ігар Кашкурэвіч, Аляксандр Ісачоў, серыя «Яйкаквадраты» В. Маркаўца і А. Разанава, асобна прэзентуюцца прадстаўнікі арт-дызайну, медыя-дызайну, творы С. Войчанкі і У. Цэслера і іншых…

1990-я гады — пачатак XXI стагоддзя на сёння практычна не асэнсаваныя. Ні сур’ёзных комплексных (па ўсіх відах мастацтваў) энцыклапедычных даведнікаў, ні тым больш падручнікаў па выяўленчым мастацтве нашага часу няма. Так што, М. Баразну можна лічыць адным з першапраходцаў. Застаючыся суб’ектыўным, ён, няхай не падасца гэта парадаксальным, імкнецца да аб’ектыўнасці, не навязвае сваё меркаванне, але дае чытачу ключ да разумення самых розных паводле стылістыкі твораў мастацтва. Сёння ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў вядзецца вельмі сур’ёзная падрыхтоўка не толькі мастакоў, але і мастацтвазнаўцаў, мастацкіх крытыкаў. І, мяркуючы па публікацыях у перыядычным друку, гэта ўжо дае свой плён.

Кніга будзе незаменным дапаможнікам не толькі для выкладчыкаў і студэнтаў ВНУ, сярэдніх спецыяльных мастацкіх навучальных устаноў, але і для школьных настаўнікаў, асабліва тых, хто выкладае літаратуру, гісторыю, курс «Айчынная і сусветная мастацкая культура», што зноў вяртаецца ў школьныя праграмы. Яшчэ раз пераглядаючы змешчаныя ў кнізе рэпрадукцыі, ловіш сябе на думцы, што беларускае мастацтва нават у эпоху рэвалюцый і войнаў заставалася суцэльнаю, жывою, пульсуючай плынню, у якой люстравалася душа нашага народа. Так сталася, што першаю змешчана рэпрадукцыя карціны Ф. Рушчыца «Каля касцёла» (1899), дзе дыхае апошняя вясна XIX стагоддзя, дзе людзі малітоўна ўкленчылі перад храмам, перад Богам. А напрыканцы — «Подых восені» У. Зінкевіча. Метафарычны, таемны партрэт, дзе дзявочы твар, дзявочая постаць нараджаюцца з туманнае касмічнае бездані. Гэты твор быў напісаны роўна праз 100 гадоў, у 1999 годзе, на парозе новага стагоддзя, на парозе новага тысячагоддзя, крок у якое ўжо зроблены. Цяпер не толькі ў мастацтве, але і ў мастацтвазнаўстве.

**Андрэй ГУД**

# САГА АБ АЛЕЛЬКАВІЧАХ




*Анастасія СКЕП'ЯН*

**КНЯЗІ СЛУЦКІЯ.**
***Серыя «Беларуская гісторыя».***
*Мн.: Беларусь, 2012.*

Калі для асабістай бібліятэкі купляеш шмат кніг, нярэдка асобныя іх, з цікавасцю перагартаўшы, адкладваеш на пасля, каб, калі з'явіцца вольны час, уважліва прачытаць. Так атрымалася ў мяне і з даследаваннем Анастасіі Скеп'ян «Князі Слуцкія». Магчыма, яшчэ і таму, што пра жыццё іх ведаю даволі шмат, а выдавецкая анатацыя, не сказаць, каб надта прыцягвала ўвагу: «Праз пераломныя моманты гісторыі Беларусі паказаны лёс славутых дзеячаў мінулых стагоддзяў. Для студэнтаў, выкладчыкаў, прафесійных гісторыкаў і ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі». Па сутнасці, анатацыя гэтая — універсальныя. Пра гісторыю якога б княжацкага роду ні напішаш, падыдзе. Ды, перафразіруючы вядомае выказванне, да месца сказаць: па анатацыі кнігу сустракаюць, а праводзяць… Пра гэта і хачу пагаварыць падрабязней, бо «Князі Слуцкія» — з выданняў, якія аднолькава цікавыя як гісторыкам, так і тым, хто толькі збіраецца сябе прысвяціць гісторыі. Дый увогуле чытачам, якія хочуць больш і лепш ведаць нацыянальную даўніну. Яе ж, безумоўна, нельга ўявіць без гэтага княжацкага роду.

Калі коратка вызначыць ролю Алелькавічаў у беларускай гісторыі, дык гэта будзе выглядаць так, як засведчыла А. Скеп'ян у першым жа абзацы «Уводзін»: «Князі Алелькавічы належаць да тых гістарычных асоб, чые імёны сталі своеасаблівымі сімваламі нацыянальнай гісторыі, больш таго, гісторыі ўсіх зямель, якія ўваходзілі ў склад Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Прыклад слуцкіх князёў тым больш паказальны, паколькі князі Алелькавічы трывалы час знаходзіліся ў эпіцэнтры знакавых падзей, што адлюстроўвае іх ролю ў акцыях дзяржаўнага, мясцовага і прыватнага ўзроўняў». Праўда, нельга не прымаць пад увагу і тое, чым гэтае сведчанне заканчваецца: «Аднак ужо іх блізкія нашчадкі не мелі адэкватных партрэтаў сваіх продкаў, забываліся пра падзеі і даты з іх жыцця, блыталі імёны князёў».

Атрымліваецца, што праўдзівае знакамітае сцвярджэнне Францішка Багушэвіча: «… няроўна дзеліць Бог». Не згадваючы яго, А. Скеп'ян, тым не менш, бадай, адштурхоўваецца ад яго: «Адзін з самых славутых родаў у гісторыі Беларусі XIV—XVI стст., князі крыві, уладальнікі велізарных абшараў,

пакінуў пра сябе не так і шмат помнікаў. Але і большасць з іх, звязаная з імёнамі прадстаўнікоў розных пакаленняў князёў Алелькавічаў-Слуцкіх, аказалася загубленай з-за людской нядбайнасці. Былі страчаны нават пахаванні князёў (як надмагіллі, так і самі рэшткі)».

У кнізе і прыводзяцца прыклады, як нядбайнасць, час і абставіны сціралі памяць Алелькавічаў з зямлі. Як вядома, іх родавая пахавальня знаходзілася ў Кіева-Пячэрскай лаўры. Калі больш канкрэтна — гэта ў крыптах Успенскага сабора. У Другую сусветную вайну гэты храм быў разбураны, разам з ім загінулі і крыпты. Знікла і пахаванне Юрыя III Алелькавіча. Таксама разам з саборам, замкавым, у Слуцку. Гэта — не адзінкавыя прыклады. Прынамсі, «лёс партрэтаў (Алелькавічаў. — *А. Г.*), вядомых нам па фотаздымках пачатку XX ст., дагэтуль да канца не высветлены».

Гэтыя і іншыя прыклады аўтар кнігі «Князі Слуцкія» прыводзіць з адзінай мэтай — пераканаць, наколькі памяць несправядлівая ў дачыненні да Алелькавічаў. Таму неабходна наша ўдзячнае стаўленнне да ўсяго, што звязана з імі, каб далей даследаваць жыццё і дзейнасць гэтага знакамітага роду. Падобнай мэце падначалены і развагі А. Скеп'ян пра тое, як у розны час навукоўцы падступаліся да такой важнай работы. Гаворыць даследчыца і пра тыя цяжкасці, з якімі яна сутыкнулася ў час сваёй працы. Такая гаворка — прынцыповая, адкрытая, зацікаўленая — адразу настройвае на давер. Апошняе вельмі істотна для чытачоў-не навукоўцаў — тых, хто проста цікавіцца гісторыяй. Для іх важна атрымаць як мага больш інфармацыі, якая б пашырыла кругагляд, давала б звесткі, якія паглыбляюць веды па пэўным пытанні. Навукоўцы ж, канешне, найперш звернуць увагу на тое, наколькі глыбока аўтар кнігі пранікае ў сутнасць тых ці іншых праблем. Заўважаць, дзе ёй удаецца выступаць першапраходцам, а дзе шырэй развіваць тое, пра што ўжо гаварылі іншыя. Хоць А. Скеп'ян у цэлым усё ж часцей ідзе яшчэ непратоптанай дарогай, а гэта, зразумела, яшчэ больш павялічвае значнасць яе даследчыцкай працы.

Гісторыя роду Алелькавічаў разглядаецца ў храналагічнай паслядоўнасці. Адпаведна першы раздзел (сама А. Скеп'ян раздзелы называе главамі) называецца «Пачатак роду. На вяршыні магутнасці». Заснавальнікам роду князёў Слуцкіх, як ведае дасведчаны чытач, быў Аляксандр — сын кіеўскага князя Уладзіміра, унук вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага Альгерда, праўнук Гедзіміна. Яго яшчэ называлі Оля, Алелька, адсюль і з'явіўся назоў Алелькавічы.

Князь Алелька — постаць каларытная ў гісторыі. Першая згадка пра яго ў крыніцах датавана 1417 годам, калі Алі Аляксандр Уладзіміравіч вянчаўся з вялікай князёўнай маскоўскай Анастасіяй Васільеўнай, дачкой Васіля I Цёмнага і Соф'і Вітаўны. Сам вялікі князь літоўскі ладзіў вяселле сваёй ўнучцы, а доўжылася яно цэлы тыдзень. Дый першынца маладой сям'і, названага Сямёнам, хрысціў не абы-хто, а сам мітрапаліт Фоцій, які ў гэты час знаходзіўся ў Слуцку па дарозе з Наваградка ў Кіеў. Разам з іншымі князямі Алелька ўваходзіў у вялікакняжацкую раду. Значыць, удзельнічаў у прыняцці самых важных дзяржаўных актаў. Пасля смерці Вітаўта яго кандыдатура нават вылучалася на вялікакняжацкі пасад.

З першага раздзела, а таксама з наступных «У віры перамен», «Браты Алелькавічы», «Апошняя з князёў Слуцкіх» і паўстае гісторыя яго роду, а таксама ў пэўнай ступені і гісторыя Беларусі. Але не толькі Беларусі. Алелькавічы пэўны час знаходзіліся ў цэнтры жыцця, як Вялікага Княства Літоўскага, так і Рэчы Паспалітай. У кнізе не абыдзены ўвагай некаторыя важныя падзеі, звязаныя з імі, у тым ліку і драматычныя, а то і трагічныя моманты. Напрыклад, Міхал Алелькавіч, жадаючы стаць вялікім князем літоўскім, стварыў групоўку княжацкіх і магнацкіх родаў, каб скінуць Ягелонаў. На выпадак няўдачы змоўшчыкі мелі запасны варыянт. Ён прадугледжваў аддзяленне ад Вялікага Княства Літоўскага ўсходніх земляў Беларусі і

Украіны з Кіевам. Далейшае прызнанне над імі вялікага князя маскоўскага. Вялікі князь літоўскі Казімір IV пакараў Міхала Алелькавіча смерцю.

Алелькавічы мелі дачыненне і да Клецкай бітвы, калі былі разгромлены татары, і да бітвы Аршанскай з перамогай Канстанціна Астрожскага. З родам Алелькавічаў, як вядома, параднілася дачка князя Івана Мсціслаўскага, якая ўвайшла ў гісторыю як Настасся Слуцкая. Разам са сваім сынам Юрыем абараняла Слуцк ад нападу Міхаіла Глінскага. Ніяк нельга прайсці і міма такога факта: «На працягу ўсёй гісторыі свайго роду Алелькавічы карысталіся нязменным гербам «Пагоня» ў яго класічным варыянце — вершнік у рыштунку з узнесеным над галавой мячом у правай руцэ і тарчай у левай руцэ, нягледзячы на тое, што і Уладзімір Альгердавіч, і яго ўнукі, у прыватнасці, Міхаіл, карысталіся выявай перакрэсленай стралы з паўмесяцам як на пячатках, так і на адчаканеных манетах Алелькавічаў».

На прыкладзе роду Алелькавічаў добра відаць, што лёсы княжацкіх родаў у Вялікім Княстве Літоўскім складваліся неаднолькава. Гэтым і можна вытлумачыць тое, што адны з іх, дасягнуўшы вялікага росквіту, хутка згасалі. Іншыя ж, не адразу набраўшы моц і сілу, паступова станавіліся магутнымі і знакамітымі. Што тычыцца Алелькавічаў, дык гэты род адметны і тым, што многага дасягнуў дзякуючы толькі ўласным намаганням: «Іх (Алелькавічаў. — *А. Г.*) значэнне ў грамадстве таго часу было не вынікам гаспадарскай ласкі, як для большасці родаў, якія на слыху ў чытача, — Радзівілаў, Сапегаў, Хадкевічаў. Свае землі яны атрымалі яшчэ ў часы існавання ўдзельных княстваў і здолелі іх захаваць. У пашырэнні ўладанняў яны разлічвалі на ўласныя сілы — куплю маёнткаў, заключэнне шлюбаў з багатымі нявестамі і, канешне, добрае гаспадаранне, У выніку іх дзейнасці Слуцк на працягу некалькіх стагоддзяў з'яўляўся буйнейшым прыватным горадам ВКЛ». Уражваюць прыведзеныя А. Скеп'ян лічбы. У Слуцку жыло каля 7 тысяч чалавек і было каля 1100 дамоў. Не здагадваецеся калі? Ды яшчэ ў 1593 годзе. Такой колькасцю насельніцтва не маглі пахваліцца і некаторыя гарады, якія тады лічыліся вялікімі.

Сімптаматычны і такі факт. Як вядома, Слуцк увесь час, калі ім валодалі Алелькавічы, «з'яўляўся адным з найбольш значных цэнтраў праваслаўя на зямлі Рэчы Паспалітай». Гэта належным чынам ацэньвалі ў Ватыкане. Калі ў 1584 годзе меркавалася вызваліць канстанцінопальскага патрыярха Ерымію II з-пад улады туркаў, Слуцк разам з Астрогам, Львовам і Кіевам разглядаўся ў якасці магчымай рэзідэнцыі патрыярха. Нягледзячы на тое, што два з трох апошніх прадстаўнікоў роду Алелькавічаў прынялі каталіцтва.

Аднак над Алелькавічамі быццам вісела нейкае злое наканаванне лёсу. Канешне, у тыя часы людзі жылі ўвогуле куды меней, чым цяпер. Але зямны шлях слуцкіх князёў і таго быў карацейшым. Ніводзін з іх так і не пабачыў унукаў. Большасць не дажыла да 50—55 гадоў. Сказвалася і позняе ўступленне ў шлюб, і цяжкія хваробы. Што ў рэшце рэшт і прывяло да згасання роду.

У сувязі з гэтым асаблівую цікавасць уяўляе чацвёрты раздзел кнігі — «Апошняя з князёў Слуцкіх». Такі лёс выпаў Соф'і Алелькавіч. Яна з'яўлялася найбагацейшай нявестай канца XVI стагоддзя. Пра яе, дарэчы, расказаў Ю. Крашэўскі ў сваім рамане, які так і назваў — «Апошняя са слуцкіх князёў» (з ім можна пазнаёміцца і ў перакладзе на беларускую мову Міхася Кенькі). Ва У. Сыракомлі ж ёсць гістарычная драма «Магнаты і сірата, Або Соф'я, князёўна слуцкая» (яе па-беларуску пераўвасобіла Ірына Багдановіч). Праўда, А. Скеп'ян не высокай думкі пра гэтую драму: «Нягледзячы на тое, што апошні (У. Сыракомля. — *А. Г.*), працуючы архіварыусам у Нясвіжы меў доступ да гістарычных дакументаў, вельмі спрошчана паказаў абставіны жыцця князёўны. Аўтар не проста літаратурна апрацаў ход падзей, але і пераблытаў дзеючых асоб, дадаў тых, якія наогул у іх не ўдзельнічалі».

Ды гэта наконт мастацкіх вартасцяў твора, але «сенсацыйныя падзеі, сварка паміж двума найбольш уплывовымі

родамі ў Вялікім Княстве Літоўскім (Радзівіламі і Хадкевічамі. — *А. Г.*)» ускалыхнула тагачаснае грамадства. Не засталася ў баку і Праваслаўная царква. Ёй Соф'я Алелькавіч патрэбна была для таго, каб «падкрэсліць вернасць мясцовай шляхты праваслаўю, стварыць супрацьвагу польскай нацыянальнай ідэі». А. Скеп'ян стараецца расставіць усе кропкі над «і», імкнецца аддзяліць зерне ад шалупіння. Па меры магчымасці, стварае аб'ектыўны партрэт гэтай, несумненна, яркай гістарычнай асобы. Аднак разумее, што ўсё не так і проста: «Сёння вельмі цяжка аднавіць падрабязна, дзень за днём жыццё чалавека, які памёр больш за 400 гадоў таму. Даўным-даўно няма людзей, якія былі сведкамі тых падзей, загінула значная частка дакументаў».

Што-колечы, аднак, дайшло. На падставе гэтых матэрыялаў А. Скеп'ян і перагортвае старонкі лёсу Соф'і Алелькавіч, а разам з гэтым і старонкі палітычнага, рэлігійнага жыцця таго часу. Дый зазірае ў дзень сённяшні, выказваючы сваё стаўленне да гераіні гэтага аповеду. Магчыма, часам у меркаваннях і катэгарычная, але гэта права кожнага даследчыка думаць, як ён лічыць мэтазгодным. Дый як і кожнага чалавека — права заставацца самастойным у ацэнках. Калі навязваць каму-небудзь «адзінаправільныя» погляды, то можна лёгка перайсці да таго, што ўжо назіралася ў сумныя часы, калі панаваў ідэалагічны дыктат.

У А. Скеп'ян атрымалася свайго роду сага аб Алелькавічах. Праўда, сёй-той можа запярэчыць, што сага, калі прытрымлівацца традыцыйнага разумення яе, — нешта іншае, чым навуковае даследаванне. Сапраўды, старажытна-скандынаўскае паняцце saga ці segia, што ў перакладзе азначае «казаць», «гаварыць» — гэта старажытна-ісландскія апавяданні, якія захаваліся ў запісах другой паловы XII—XIV стагоддзяў. У аснове іх — легенды, паэзія скальдаў, расказ сведкаў падзей, пэўныя дакументы. Ды гэта, калі мець на ўвазе жанравае вызначэнне паняцця «сага». Адштурхоўваючыся ж ад зместу, творы гэтыя называюць і «сагамі аб ісландцах». У такім разе кніга «Князі Слуцкія» — і ёсць «сага аб Алелькавічах». Аб іх асабістым жыцці, а таксама аб жыцці палітычным, грамадстве. Развагі аб тым, што далі яны Беларусі, дзякуючы чаму засталіся ў нацыянальнай гісторыі. Адначасова і вяртанне памяці аб адным са знакамітых у свой час родаў, які цягам часу, хоць і не поўнасцю забыты, ды яго роля, на жаль, нярэдка незаслужана прыніжаецца.

Асабліва важна, што гэта не ў апошнюю чаргу і вяртанне памяці для маладзейшага пакалення. У сувязі з гэтым у мяне з'явілася такая думка. Нашы маладыя літаратары, найперш празаікі, паэты, часам стаяць перад выбарам — пра што пісаць. То пішыце не толькі пра сучаснасць. Смялей заглыбляйцеся і ў сівую даўніну, у якой для сябе абавязкова знойдзеце шмат пазнавальнага, захапляльнага. У гэтым, несумненна, дапаможа і кніга А. Скеп'ян «Князі Слуцкія». Прачытайце яе ўважліва. Перакананы: шмат для некага з вас яна стане свайго роду крыніцай, з якой нямала пачэрпнеце для сябе. Тады і з'явяцца ў вас творы пра Соф'ю Алелькавіч, Настассю Слуцкую. Дый пра каго заўгодна з Алелькавічаў можа пісаць. Быў бы талент, жаданне, натхненне.




*Михаил ПОЗДНЯКОВ*

**ТЕПЛО РОМАШКОВОЙ МЕТЕЛИ.**

**Стихи.**

*Мн.: Издатель А. Н. Вараксин, 2016.*

Дзяніс ЛЯШЧЭНЯ

## КАЛІ ЖЫЦЬ, ДЫК З ЛЮБОЎЮ

Новая кніга Міхася Пазнякова «Тепло ромашковой метели» прасякнута пачуццямі: любоўю да зямлі маленства, любоўю да Беларусі; да таго, каго кахаеш ці кахаў, напоўнена жаданнем разабрацца ў гэтым тлумным свеце самому і падказаць іншым, як лепш зрабіць гэта. Напоўнена ўсім, чым і жыве сапраўдная паэзія, што хвалюе паэтаў, якія сваімі думкамі знітаваны з тым, што адбываецца наўкола. Паколькі гэты зборнік вершаў — рускамоўны, дык у ім змешчаны пераўвасабленні па-руску твораў, якія чытачу ўжо знаёмы, а таксама вершы, напісаныя самім М. Пазняковым па-руску. Перакладалі ж яго Анатоль Аўруцін, Валерый Грышкавец, Ізяслаў Катляроў, Георгій Кісялёў, Валянціна Паліканіна, Лізавета Палеес, Браніслаў Спрынчан, Андрэй Цяўлоўскі, Мікола Шабовіч і іншыя. Дзякуючы ім можна атрымаць даволі поўнае ўяўленне аб творчасці аднаго з самых цікавых сучасных беларускіх паэтаў

Крытыкі ўжо неаднаразова адзначалі, што, бадай, ніхто з іх не прысвяціў столькі вершаў сваёй малой радзіме, роднай вёсцы, маці, бацьку, землякам, як М. Пазнякоў. Ягоны лірычны герой пастаянна імкнецца туды, «Дзе Лахва струменіць і Дняпро, // Дзе маленства Грэзаю сплыло». А гэта — Быхаўшчына, вёска Заброддзе, у якой паэт нарадзіўся, і тая ж рэчка Грэза, што люляла ягоныя дзіцячыя сны і мары, пра якую ён згадвае шмат у якіх сваіх вершах. Апошнім часам Міхась Паўлавіч праводзіць у Заброддзі свой водпуск. Кліча яго туды не толькі памяць маленства і юнацтва. Едзе яшчэ і таму, што ў Заброддзі хораша і плённа пішацца. Пра тое, што радзіма з'яўляецца для яго свайго роду магнітам, прызнаецца шмат у якіх сваіх творах. Гэтымі матывамі напоўнены і верш «Родина», які пераклала Л. Палеес:

Сюда ведут дороги,
Покуда силы есть.
Мечты мои, тревоги
Соединились здесь.

Сюда, где речка Греза
Течет среди лугов,
Где я мечтал и грезил,
Где всё — моя любовь.

У кнізе і прадстаўлены асобныя творы, напісаныя паэтам у яго родных мясцінах, але, безумоўна, кніга імі не

абмяжоўваецца. Ёсць у ёй і публіцыстычныя вершы на тэмы сучаснасці, і навеяныя паездкамі паэта за межы Беларусі. Аднак якраз пераважаюць тыя творы, у якіх духоўны свет лірычнага героя раскрываецца непасрэдна праз ягоную повязь з усім тым, што звязана і навеяна малой радзімай, кожная сустрэча з якой і радасць ад таго, што не парваліся сувязі з зямлёй маленства, і тужлівы, настальгічны настрой, бо многае страчана незваротна, пра што М. Пазнякоў гаворыць у шмат якіх сваіх вершах,

Адкрываецца кніга раздзелам «Мамина хата», а ён, у сваю чаргу, вершам, «Родина». Дарэчы, «хата» — не адзінкавы прыклад, калі на рускую мову беларускае слова не перакладаецца. І ў некаторых іншых выпадках перакладчыкі таксама пайшлі такім шляхам. Думаецца, зрабілі правільна, бо тым самым яшчэ лепш падкрэсліваецца, наколькі М. Пазнякоў у сваёй паэзіі ўросся ў нацыянальную глебу, як дарага яму ўсё тое, што звязана з зямлёй маленства і юнацтва. Назву ж раздзелу даў аднайменны верш, які пераўвасобілі па-руску Л. Палеес і В. Паліканіна. Прыведзены абодва варыянты. Дарэчы, прапануюцца два рускамоўныя варыянты верша «Бацькоўская хата». У арыгінале дзве першыя ягоныя страфы гучаць так:

Старая родная хаціна —
Маленства незабыўны кут…
Ніхто мне дзверы не адчыніць,
Тады каго я клічу тут?..

Пчаліным роем — успаміны,
Туга пякучая скубе.
Заходжу ў змоўклую хаціну
І сустракаю сам сябе.

Пераўвасобіўшы гэты твор, Б. Спрынчан падаў яго, як безназоўны. Адразу заўважаецца, наколькі перакладчык змог адчуць той душэўны настрой аўтара, які апанаваў яго, калі ён выкладаў на паперу свае думкі. У пераўвасабленні ўсё перададзена настолькі дакладна, што не застаецца ніякага сумнення: верш напісаў менавіта М. Пазнякоў. Гэта ўсё тое, што ён пеpажыў (дый паранейшаму перажывае, наведваючыся ў роднае Заброддзе) там, дзё ўсё менее слядоў, якія напамінаюць аб даўніх уражаннях. Басаногая памяць ненарокам губляецца на знаёмых сцяжынах, бо яны, хоць па-ранейшаму і твае, але пазарасталі ўжо, а сям-там і зусім згубіліся. Самае ж балючае ўсведамленне ад таго, што ніхто не чакае цябе ў хаце, у якой некалі жыў з бацькамі і сёстрамі:

Отцовский домик старый, серый
Передо мною — наяву…
Никто мне не откроет двери,
Тогда кого же я зову?..

Воспоминаний рой клубится,
Тоскую душу теребя.
В родную я вхожу светлицу
И в ней встречаю сам себя.

Безназоўны верш «Бацькоўская хата» і ў пераўвасабленні А. Аўруціна. Але ён, зразумела, пайшоў сваім шляхам. Захацеў узмацніць уражанне пакінутасці некалі абжытай хаты. У такім жаданні, вядома, нічога благога, але пры ўмове, што захоўваецца пачуццё меры. Аднак А. Аўруцін, перакладаючы гэтыя дзве страфы, значна адышоў ад арыгінала. Сам па сабе малюнак, канешне, атрымаўся пераканаўчым. За адной бязлюднай хатай паўстаюць і іншыя з гэткім жа незайздросным лёсам. Але такое было б да месца, калі б М. Пазнякоў, пішучы гэты верш, як і іншыя творы, навеяныя ўспамінамі, а таксама згадкамі ад наведвання роднай вёскі, не прытрымліваўся б таго, што ёсць у сапраўднасці. Ён жа — на дзіва канкрэтны, ні ў чым не дае волі фантазіі. Яна і не да месца, бо за ўсім расказаным і паказаным стаіць уласна пражытае. У перакладзе ж усё выглядае крыху інакш, а таму праўдзівасць знікае:

Родная хата… Ветер воет…
**Упали ставни на траву.**
Никто мне двери не откроет…
Кого, кого я здесь зову?

Всё пусто… Тут и по соседству,
**Где был веселый тарарам.**
Я в дом вхожу, как будто в детство,
И сам себя встречаю там.

Радкі, выдзеленыя мною, усё ж выглядаюць крыху не натуральна. Пер-

шае сцвярджэнне было б да месца, калі б М. Пазнякоў у гэтым вершы расказваў увогуле пра хату, што адзінока дажывае свой век, у яе ніколі не ступае чалавечая нага. Але ж гэта вясковы дамок, у які прыязджаюць, у якіх, няхай і нядоўгі час, жывуць. Тым самым стаўні, якія ўпалі на траву, успрымаюцца сведчаннем абыякавасці, безгаспадарчасці. Той жа, хто знаёмы з кнігамі М. Пазнякова, у якім ёсць здымкі, мог пераканацца, што ягоная бацькоўская хата дагледжаная. Дый «веселый тарарам», па-мойму, не надта стасуецца з жыццём у сялянскай хаце, у якой быў свой парадак.

Разам з тым А. Аўруцін, як тонкі знаўца паэзіі, дый сапраўдны майстра яе, у лепшых сваіх перакладах адчувае ўсю адметнасць творчай манеры М. Пазнякова, у якой цесна спалучаны праніклівы лірызм і адначасова ўменне праз, здавалася б, звычайнае, многімі апетае, даць сваё разуменне чалавека ў часе, раскрыць усю шматграннасць ягоных пачуццяў, без паўнаты якіх жыццё ператвараецца ў звычайнае існаванне, страчвае сваю вартасць і непаўторнасць. Мне вельмі падабаецца гэты верш, які ў пераўвасабленні А. Аўруціна набыў па сутнасці другое дыханне, а сам аўтар і ягоны перакладчык загаварылі ў адзін голас, выказваючы тое, у чым яны, адчуваецца, аднадумцы:

Неужто вправду отгорят
Мильоны звезд на росных травах —
Они о юности звонят,
Да так, что шепчешь: «Боже правый!»

Неужто смолкнут навсегда
Мелодий дерзостные звуки
И не останется следа
Ни от любви, ни от разлуки?

Неужто могут отцвести,
Завянуть, лепестки роняя,
Все те цветы, что на пути
Цвели от ада и до рая?

Неужто может отпустить
Та боль, что помыслы неволит,
И я смогу на свете жить
Без муки… Без любви… Без боли?..

А. Аўруцін хораша перадаў і паяднанасць лірычнага героя М. Пазнякова з прыродай, а ўжо ў іншым вершы праз прыроду — любоў да той, каторая ўспрымаецца адзінай на зямлі:

В деревне тихо… Месяц ранний
Плывут… Умолкли соловьи.
Березки — будто после бани,
Всё сушат локоны свои.

А за тропинкой васильковой
О чем-то шепчет, шепчет рожь…
И жизнь не кажется суровой,
Когда ты рядышком идешь.

Ты бросишь взгляд… Я боль отрину…
И эта тропка не спеша
Нас уведет за луговину,
Где ночь…
И вечность…
И душа…

Аднак М. Пазнякоў не адмаўляе і той складанасці, што часам з'яўляецца ва ўзаемаадносінах паміж Ім і Ёю. Ад гэтага нікуды не дзенешся: тут усё так, як і ў самім жыцці ўвогуле. Нічога адназначнага няма. Ёсць над чым задумацца, ёсць пра што паразважаць. Што і робіць М. Пазнякоў, прамаўляючы ў гэтай паэтычнай мініяцюры па-руску і дасягаючы афарыстычнай, у пэўнай ступені нават філасофскай напоўненасці радка:

Это кто так
над нами смеется?
Это кто
все запутать горазд? —
Та, которую предал,
дождется,
Та, которую любишь, —
предаст…

Прадстаўлена ў кнізе «Тепло ромашковой метели» і грамадзянская лірыка. Лірычнага героя М. Пазнякова цікавяць не толькі падзеі ў нашай краіне, а і за мяжой. З болем ён піша і пра тое, што адбываецца на Украіне. Услаўляе дружбу беларускага і рускага народаў. Адчуваецца, што ўсё гэта ўнутрана блізка яму, таму і не можа не абараняць дабро, справядлівасць, адначасова асуджаючы подласць і здраду. Дарэчы, творы гэтай праблематыкі змешчаны ў раздзеле «Творите, люди, на земле добро». Назву яму даў адзін з лепшых твораў М. Пазнякова — безназоўны

верш. Першы радок яго і ўзяты як назва раздзела. У арыгінале пачатак гэтага твора гучыць так:

Тварыце, людзі, на зямлі дабро,
Жыццё красой штодня мацуйце.
Не золата, брыльянты, серабро,
А сэрца чысціню шануйце.

Маліцеся жывільнай дабрыні
І злом душы не ачарніце,
Каб не смылець на праведным агні,
Адкрыта, шчыра, сонечна жывіце.

Сам заклік: «Тварыце, людзі, на зямлі дабро», праўда, не пазбаўлены пэўнага дыдактызму, але яго не адчуваеш, бо гэта не, скажам так, нейкая ўстаноўка, хай і сабе і выказаная паэтычнай мовай, а тое, што прамаўляецца ад сэрца, узнікла з упэўненасці, што гэта павінна быць менавіта так, а не інакш. Гэта свайго роду маральная ўстаноўка лірычнага, а найперш самога паэта — чалавека шчырага, адкрытага, які і ўклаў у ягоныя вусны тое, над чым пастаянна думае ён сам. Дый не толькі думае, а і імкнецца да таго, каб гэтаксама жыць і самому, дый іншым паказваць прыклад. Згаданы верш пераўвасобілі па-беларуску Б. Спрынчан і В. Паліканіна. Нават не ведаю, каму з іх аддаць перавагу. Бадай, кожны стараецца заставацца як мага больш блізкім да арыгінала.

Гэта той выпадак, калі толькі падобны падыход правільны. Няма неабходнасці штосьці дадумваць, нешта вышукваць, бо самае галоўнае ёсць у самога П. Пазнякова. Застаецца толькі «дапамагчы» яму загаварыць па-руску. Канешне, і сам ён, пры жаданні, мог бы перакласці гэты верш, бо, як неаднойчы ўпэўваешся, чытаючы кнігу, аднолькава па-майстэрску валодае словам і па-беларуску, і па-руску. Аднак, пагадзіцеся, усё ж правільна зрабіў, што, прадстаўляючы свае беларускамоўныя творы, адмовіўся ад уласнага пераўвасаблення іх. Як бы там ні было, але кожны перакладчык стараецца ўнесці ў вобразную структуру і нешта сваё, нават тады, калі прытрымліваецца самога арыгінала. Гэта добра відаць, калі параўнаць пераўвасабленне першай страфы.

У Б. Спрынчана:

Творите, люди, на земле добро,
Жизнь ежедневно красотой крепите.
Не золото, брильянты, серебро,
А нравственную чистоту храните.

У В. Паліканінай:

Творите, люди, на земле добро,
Жизнь красотой всегда крепите.
Не золото, брильянты, серебро,
А сердца чистоту храните.

Як быццам, пераўвасабленні вельмі блізкія паміж сабой. Калі што і заўважаецца адразу, дык толькі гучанне апошняга радка. Думаецца, усё ж лепш атрымалася ў В. Паліканінай. Яна ніколькі не адышла ад арыгінала. І правільна зрабіла, бо «паляпшаць» гэтым разам М. Пазнякова нават з самых лепшых намераў не было ніякай неабходнасці. Па-мойму «сердца чистота» ўсё ж гучыць лепш, чым «нравственная чистота», хоць, на першы погляд, быццам асаблівай розніцы няма. У чымсьці «нравственная чистота» нават успрымаецца шырэй, чым «сердца чистота». Але гэта толькі на першы погляд. Усё тое, што ідзе ад сэрца — гэта ідзе і з глыбіні душы. Значыць, такая чысціня — больш высокага кшталту. Адначасова яна ўбірае ў сябе і «нравственную чистоту».

Вось як шмат думак выклікаў толькі адзін верш М. Пазнякова, перакладзены на рускую мову не адным перакладчыкам, а двума. Такіх прыкладаў у кнізе нямала, калі розным паэтам спадабаўся пэўны верш свайго калегі па пяры. Таму і атрымаліся творчыя тандэмы А. Аўруцін і В. Грышкавец, А. Аўруцін і М. Шабовіч, Б. Спрынчан і І. Катляроў, а таксама іншыя. Кожным разам, чытаючы той ці іншы верш у такім, умоўна кажучы паралельным пераўвасабленні, атрымліваеш для сябе не проста задавальненне, а задавальненне нават трайное. Чаму менавіта трайное?

Ды спачатку міжвольна ажываюць у памяці радкі арыгінала. Калі ж дакладна іх не памятаеш, шукаеш кнігу, у якой гэты твор змешчаны, далучаешся да непаўторага свету паэзіі. Інакшым ён і быць не можа, бо для перакладу ўзята

самае лепшае. Пасля гэтага ўжо знаёмішся з адным перакладам, потым — з другім. Абавязкова адкрываеш для сябе нешта такое, што ўзнімае твой настрой: ускалыхвае душу, радуе сэрца. Прымушае лішні раз пераканацца ў тым, наколькі па-ранейшаму вялікія магчымасці ў традыцыйнай паэзіі.

Міхась Пазнякоў, як вядома, — прыхільнік менавіта такой паэзіі. Хоць, бадай, правільней і дакладней сказаць крыху інакш. Ён — сапраўдны майстар менавіта паэзіі зямной, таму ніколі не здраджвае ёй, дый здрадзіць не зможа. Іначай гэта будзе зусім іншы паэт, а не той, чыю творчасць чытачы паспелі палюбіць і даўно ўважліва сочаць за ёй, стараючыся не прапускаць ніводнай ягонай кніжкі. Несумненна, ягоным прыхільнікам прынясе радасць і гэтая, ужо ад самой назвы якой — «Тепло ромашковой метели» — вее чымсьці такім блізкім, знаёмым, што неадлучна ад чалавека, улюбёнага ў свой край, у зямлю, на якой узгадаваўся і з якой ніколі не хочацца расставацца.

Міжволі прыгадваецца сказанае неяк Уладзімірам Караткевічам: «Галоўнае ва ўсіх адно: любоў». Гэтай любоўю ў самым шырокім яе выяўленні і праяўленні — да роднай зямлі, да чалавека, якога кахаеш, да ўсіх добрых людзей і напоўнена творчасць М. Пазнякова, у тым ліку і яго новая кніга. Яе з задавальненнем не толькі чытаеш, але і бярэш ў рукі. Думаецца, гэта той прыклад, як трэба выдаваць паэтычныя зборнікі. Не адмаўляючы аб'ёмных тамоў, у якіх прадстаўляецца выбранае таго ці іншага паэта, усё ж нельга не сказаць, што куды лепш чытаюцца, дый глядзяцца кніжкі, у якіх не так і шмат твораў, але цвёрдая вокладка, ненавязлівае афармленне. Менавіта так і выдадзена «Тепло ромашковой метели».

Заўвага ў мяне толькі адна. Відаць, творы, перакладзеныя двума аўтарамі, усё ж трэба было змясціць у асобным раздзеле, а не так, калі яны «параскіданы» па ўсёй кнізе. Адзін жа з вершаў у перакладзе А. Аўруціна і В. Паліканінай увогуле змешчаны так, што гэтыя пераклады «разбіваюць» ажно пяць вершаў. Дый калі некалькі перакладаў, бадай, не лішне было б змясціць і арыгінал, каб чытач мог упэўніцца, якое пераўвасабленне па-руску лепшае. Але гэта ўсё прыватнасці. Змест гэтай кнігі зводзіцца да наступнага: «Калі жыць, дык з любоўю». Сам жа М. Пазнякоў сказаў больш дакладна:

Нам истина с годами открывается.
Ты ежечасно помни человек:
С любви все в этой жизни начинается.
Устал любить —
и твой окончен век.

Словы гэтыя нават вынес на чацвёртую старонку вокладкі. Як напамінак, пра які нельга забываць. Што ж, будзем памятаць. І чытаць кнігу «Тепло ромашковой метели».

# ЛЕПШЫЯ ЎЗОРЫ СЕРБСКАЙ САТЫРЫЧНАЙ АФАРЫСТЫКІ

## Улад Булатавіч ВІБ (1931 г. н.)

❍ Каб спальвалі шыбеніцы, на зямлі б адбылося пацяпленне.

❍ Гаротная тая праўда, якая вымушана апраўдвацца.

❍ Інструкцыя палявання на грэшнікаў: наладзь грэх і чакай, калі нехта ў яго трапіць.

❍ Горшыя лягчэй ідуць угару.

❍ Калі сялянам не забараняюць трымаць чорных авечак, чаго інтэлектуалам забараняюць чорныя думкі.

❍ Маладыя людзі заўсёды маюць вялікія шанцы... састарэць.

❍ Не пажадай, каб у суседа здохла карова. Тады твая застанецца адна і будзе намнога больш кідацца ў вочы.

❍ Чалавеканенавіснік штоночы сніць малюсенькага Ахілеса з вялізнаю пятою.

❍ У здаровым яблыку і чарвяк здаровы.

❍ Часам добрая справа — толькі памылка дрэннага чалавека.

❍ Ласкавае цялятка дзвюх матак ссе, а трэцяй расказвае, што яно сіраціна.

❍ Нішто чужое мне не чужое.

❍ Нікому не паверу, што ён добра плавае, калі не ўтапіў хоць двух настаўнікаў.

❍ Людзі, ці бачылі вы хоць раз, каб конь у скачках падставіў нагу другому каню?

❍ Цудоўнае ў вас футра! Каго вы абдзёрлі?

❍ Надышоў час, калі мэбля мае стыль, а яе ўласнікі гэтага не маюць.

❍ Панюхала ружа свой корань і кажа: «Ну й смярдзіць!»

❍ Не зайздрошчу ім з-за жырандолі. Яна ж вісіць над іхнімі галовамі.

❍ Свет дзеліцца на тых людзей, якія думаюць, і на тых, якія маюць думку.

❍ Апраўдваючы вала, кажуць: гэта ж наш вол. А капуста — не наша?

❍ Можаце ўявіць сабе, як няпроста словам, калі яны, азірнуўшыся, бачаць, што прамоўцы за імі няма.

❍ Не радуйцеся мядзведзю каля чужой хаты. Мядзведзь блукае.

❍ Калі кожны момант гістарычны, нашто нам гісторыя?! Дастаткова календара.

❍ Спачатку ты чалавек у цені, потым — чалавек з ценем, у рэшце рэшт — цень ад чалавека.

❍ За свае грахі мы спавядаемся служыцелям багоў, тыя — багам, багі — аблокам. Аблокі плачуць.

❍ Найлягчэй запускаць руку ў кішэню рабочага. У таго рукі занятыя.

❍ — На якой ніве працуеш цяпер? — пытаецца пудзіла ў другога такога ж. — На культурнай.

❍ Як на небе, так і на зямлі: Вялікая Мядзведзіца — сінонім Вялікага Воза.

❍ Гэта, мабыць, прыемна — мець аднадумцаў нават тады, калі і не думаеш.

***Укладанне і пераклад з сербскай Івана ЧАРОТЫ.***

**У МІНСКУ «ПОЛЫМЯ» МОЖНА НАБЫЦЬ:**
- **магазін № 13, плошча Перамогі, падземны пераход;**
- **магазін № 18, плошча Перамогі, падземны пераход;**
- **магазін «Глобус», вул. Валадарскага, 16.**

АДРАС РЭДАКЦЫІ
Юрыдычны адрас:
Рэспубліка Беларусь, 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
info@zvyazda.minsk.by

Паштовы адрас: Рэспубліка Беларусь, 220034, Мінск, Захарава, 19.
Тэл.: галоўнага рэдактара — 284-84-61,
намесніка галоўнага рэдактара — 284-80-12,
аддзелаў прозы, навукі,
крытыкі і літаратуразнаўства — 284-66-74,
аддзела паэзіі — 284-80-12.
polymya@bk.ru

*Падпісныя індэксы:*

*00471 — індывідуальны льготны*
*для настаўнікаў*

*74985 — індывідуальны*

*749852 — ведамасны*

*00727 — ведамасны льготны*
*для ўстаноў Міністэрства культуры*
*і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь*

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі
№ 9 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выдавец
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»
Дырэктар – галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка
*С. І. СТАРАВЕРАВА*

Стыльрэдактары
*М. М. ГІЛЕВІЧ, А. А. КАРП*

Падпісана да друку 13.09.2016 г. Фармат 70×108 $^1/_{16}$. Папера газетная.
Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,8. Ул.-выд. арк. 17,28. Тыраж 1473 экз. Заказ

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «БудМедыяПраект».
ЛП № 02330/71 ад 23.01.2014,
вул. В. Харужай, 13/61, 220123, Мінск, Рэспубліка Беларусь.